

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

## №6

1928

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК




# ПОЛЫМЯ



**БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,**
**ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ**

**(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)**




## № 6

## ЖНІВЕНЬ
## 1928

**Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**
**МЕНСК — 1928**



# АДЗІНАЯ СПРАВЯДЛІВАЯ ВАЙНА[1])

$(CHCL{=}CH)_3As$ (Люізыт)

*Роман*

**Іоганэс Бэхэр**

## Восьмы разьдзел

## Насустрэчу Савецкай Эўропе!

Прынцыповыя ўвагі да апошняга разьдзелу.—Колёніяльны хаос.—Хмара газавай вайны на кругавідзе.—Рабочыя ўзбройваюцца.—Што абазначае $(CHCL{=}CH)_3As$?—Паўстаньне рабочых хэмічных фабрык.—Склад хэмічных баявых матэрыялаў П. А. З. Ш. у Эджвудзе.—Бура пачынаецца!—Праўдзівая сутнасьць здарэньняў.—Перахопленае радыё з Амэрыкі.—Весткі з усяго сьвету.—Працоўныя масы Японіі скідаюць свае ланцугі.—Савецкая Расія выступае.—Няўмірушчыя афяры.—Насустрэчу Савецкай Эўропе!

„Адзін прускі монарх у канцы 18-га сталецьця выказаў разумную думку: „калі-б нашы салдаты разумелі, за што яны вядуць вайну, дык нельга было-б весьці аніводнай вайны“. Стары прускі кароль быў нядурны чалавек. Але мы можам цяпер сказаць, раўнуючы наша становішча са становішчам таго прускага караля: „мы можам змагацца, бо масы ведаюць, за што яны змагаюцца і хочуць змагацца, ня гледзячы на нячуваныя афяры, бо яны ведаюць, што нязвычайна цяжкія афяры яны прыносяць, каб абараняць сваю соцыялістычную справу, у барацьбе поруч з тымі рабочымі з іншых краін, што пачалі ўжо разумець наша становішча“.

Ленін.

I

Яшчэ раз апошні заклік перад атакай, маніфэст да ўсіх тых, хто жадае заслужыць імя чалавека, перад генэральнай атакай!

Таварышы!

Прыводныя пасы трашчаць, шліхавальныя колы сыплюць іскры, 10000-коннасільныя маторы бурчаць... Гэта фабрыка: ля мільёну падваж-нікаў мігацяць мільёны рук. Яны як-бы адарваны ад цела, але ў іх б'ецца яшчэ сэрца, дыхае яшчэ адно лёгкае, мазгі хочуць думаць: чала-

[1]) Гл. „Полымя“ № 5.

век ня зусім яшчэ няжывы, хоць мала ўжо таго, што змагаецца за жывое існаваньне... А дугавыя электрычныя лямпы запальваюцца, люксэкспрэсы злучаюць адну краіну сьвету з другой, волаты-параходы ўпэўнена праразаюць акіян: адна частка чалавецтва працягвае свае члены на тысячы кілёмэтраў у даўжыню, у другой яны сьцінаюцца і адміраюць... Фантастычна асьветлены крышталёвымі люстрамі палац над мізэрным цёмным існаваньнем падзёншчыка ў чатырох сьценах будкі. Хіба-ж ня мастворны палацы з поту ды крыві сэрца гэтага падзёншчыка? А машыны, сьвятло, жыцьцёвае паветра, цяплыня: хіба гэта не яго творы? А калі гэта так, дык ці ня маюць права гэтыя бязыменныя творцы ўсіх жыцьцёвых сіл, ці не зьяўляецца іх сьвятым абавязкам, павіннасьцю вялізнай большасьці чалавецтва ўжыць усе меры, усе спосабы перасьцярогі для забесьпячэньня і няўхільнай катастрофы згаленьня і нямінучай пагібелі, калі нямногія, якіх гісторыя ўжо запляміла імем грамадзкіх злачынцаў, захочуць ухіліцца ад катастрофы!

Гэта было-б вельмі натуральна, само сабой зразумела з пункту погляду чалавецтва...

А трэсты, картэлі, сындыкаты выступаюць адзін супроць аднаго. Кожны рух іх робіць крызісы, выклікае супярэчнасьць, рые магілы для соцень тысяч рабочых. А ці ня чуеце вы хору ваўкалакаў чалавецтва, пакуль толькі консьпірацыйны шопат іх:

„О, сьвятая пацыфісцкая эра!
Увесь сьвет поўны да краёў звонамі супакою!
Крыкі „алілюя“ і „спакой на зямлі“ коцяцца праз акіян з жаралаў гармат на дрэдноутах.
Ах, толькі ў ціхіх каморках
Нашых дзяржаўных ляболаторый
Фабрыкуем мы добры атрутны газ.
Глядзеце: мы пабудавалі дзяржаву,
Я нашу найлепшую зброю—
І калі зноў што пачнецца,
Дык барацьба за першынство павядзецца,
Як хэмічная вайна...
(Без рэальных шкод).
Фосфарныя бомбы, лётныя міны, электрычныя хвалі—
Пяць хвілін—
І (з прамякнутымі атрутай сітавінкамі)
Ляжыць няжывы такі волат,
Як, напрыклад, Чыкаго...
А хто аплаціць рахунак!?
Мы згодны з тым,
Што на зямлі надта многа людзей...
Тымчасам дасьледуйце глебу:

Дзе пахне нафтай?!
Шкода толькі,
Што Марс пакуль нельга колёнізаваць!"

Як у зданьнёвым полёнэзе ідуць праз сусьветны прастор мільённыя колёны фізычна і духоўна згаладаваўшых мужчын, жанчын, дзяцей... Чаму!?. Ці здаволіцеся вось калі на гэта пытаньне адкажуць вам пацісканьнем плеч? Хіба не застаўся яшчэ для вас галоўны закон грамадзтва таемна-містычным шыфрам бяз ключа?! Няўжо-ж вы ўсё яшчэ да крыві абіваеце сабе калені перад наймізарнейшымі грамадзкімі забабонамі: „так заўсёды было, так заўсёды будзе..."

*

Пяцісэкундавы прагляд газэтных кіёскаў, тэатраў, выданьняў: гэта да... Гэта падобна да скоку цераз папяровае пекла. Усё, што калісь было вялікім, сапраўдным, трывалым, жывым, усё гэта зараз продаецца, разводзіцца вадой, абясцэньваецца, яго зраджваюць... Усё, што ў аснове сваёй шляхэтна, праўдзіва, героічна ды прыгожа, топіцца ў зацягваючую твань распусты. Кожны чысты гук засьцілаецца агідным скогатам...

Разьдзьмутыя да гістэрычнага эксцэсу, агідна размалёваныя, асьвятляныя да нуды бэнгальскім агнём: выступаюць перад публікай сучасныя новыя агляды і карыстаюцца тым большым посьпехам, чым больш яны бяз сэнсу ды зьместу, чым больш нікчэмная ды пустая балбатня іх мізэрных актораў: бліскуча замаскаваная чума...

Зборы, часопісы, бульварная літаратура, тыраж да 300.000... І хто яны, няшчасныя афяры гэтых тыповых сьмяцьцёвых ям!? У кафэ, у прыймовых пакоях урача—там яны распаўсюджваюць сваю чумную заразу і смурод.

Кіно, якое хавае ў сабе нечаканыя магчымасьці, сьціснута ў рамкі буржуазнага грамадзтва!? Пра гэта, думаем мы, няма чаго і гаварыць. Кіно, радыё, друк, тэатр, літаратура: гэта ўсё спружыны магутнага ўсё больш ды больш амэрыканізуемага інстытуту пропаганды для далейшых насаджэньняў чалавечага глупства. Тут ёсьць уладай дазволеныя бюро фальшывак і фабрыкі духовай бацылі, яны працуюць цудоўна, быццам пад наглядам самога бога, ім не патрэбна паліцыя. Яны выпрабляюць сваю продукцыю з такім праклятым посьпехам зусім блізка ад урадовых кварталаў, а не ў пролетарскіх сутарэньнях.

*

Пры бесстароньнім ды цьвярозым выўчэньні гісторыі чалавецтва і природы вы павінны ўрэшце дайсьці да вываду—прымеце пад увагу практыку апошніх дзесяцілецьцяў і вашы перажываньні—вываду што сучаснае буржуазнае грамадзтва са сваёй так званай культурай дайшло да цывілізацыйнага барбарства і ня можа быць заклікана да сапраўды творчага

разьвязаньня экономічных і духоўных сусьветных проблем; ня можа пабудаваць цытадэлю супроць фазы найноўшых хэмічных сусьветных воен, якая ўсё набліжаецца: плянава организаваны сусьветны саюз усіх працоўных.

А тымчасам шматмільённыя чалавечыя масы круцяцца ў вялізным капіталістычным віру крызісаў... Барацьбу чалавека за вызваленьне ад свайго зданьнёвага існаваньня, за вызваленьне ад усіх экономічных форм прымусу, вайну супроць вайны, а з тым і барацьбу за ваша, рабочыя разумовай працы, вызваленьне з ланцугоў духоўнай няволі вядзе зараз кляса прыгнечаных і пролетарыят. Яго гістарычная місія, паколькі ён зьяўляецца адзіным зацікаўленым у існаваньні сучаснага становішча грамадзтва, у тым, каб зразумець нясталасьць і барбарскую хлусьлівасьць яшчэ сёньня пануючай сыстэмы і паставіць наўпроці яе організаваны адпор: адзіны суцэльны фронт усіх эксплёатаваных супроць эксплёататараў ды іхных памочнікаў, масавы тэрор усіх працоўных, клясавую вайну на жыцьцё і сьмерць.

Дыктатура буржуазіі. Дыктатура пролетарыяту... Сярэдзіны няма, як-бы вам гэтага і не хацелася.

Таварышы! Да якога фронту далучаецеся вы?

Але не рабеце пры гэтым памылкі, думаючы, што вы самастойныя, незалежныя, кіруеце самі сабой, нікому не абавязаныя, не павінны нікому даваць справаздачы, ні плаціць даніны; памылкі, якая залежыць ад роду і месца вашай службы, якую вы і зараз робіце ў працэсе вашай продукцыі... Вы выабражаеце, быццам дзейнічаеце, але сапраўды вас цесна атулілі аблудай волі, вамі гандлююць, вас продаюць... Вашы духовыя позыцыі матэрыяльна добра замацаваны цэмантам, лепш, чымся вы звычайна дапушчаеце: дзеля гэтага падумайце і паглядзеце, якія будуць вынікі вашых учынкаў, калі глядзець на іх з гістарычнага пункту погляду! Абараніце сябе ад ідэалістычнай прыхамаці, веры ў „тамтэйшы сьвет“ і ад розных іншых цікавых спроб містычнага характару, ад улады нэрваў і духовай распусты, бо ўсе асноўныя законы грамадзкага строю, а разам з тым і вучэньне аб яго скасаваньні—рэволюцыйную тэорыю—можна ўцяміць толькі розумам. „Трэба закрываць вочы народу“—прапакаюць гіены чалавецтва і надта добра ведаюць чаму... Зьвярнеце ўвагу на афіцыяльную фабрыкацыю апаратаў, якія цемняць сьвядомасьць і шырока распаўсюджваюць выраб містычнага туману!

Дапамажэце сарваць маску з пацыфісцкай балбатні а будучых быццам людзкіх мэтодах разьвязваньня міжнародных конфліктаў, сарваць маску з сьмердзячай крывёй і лаянкай „пацыфісцкай эры“ і дапамажэце выявіць, што пад гэтым хаваецца нішто іншае, як агідны адцягваючы манэўр, як сьвядомая спроба ашуканства, спроба вызначыць паняцьці „перапынак“, „адпачынак“, як штось ідэолёгічна спрадвечнае... Пазнайце розьніцу паміж фразэолёгіяй рэчы і зьместам яе! Зьвяртайце ўвагу не

на тое, што гаворуць вусны, але на тое, як рухаюцца кулакі! Ня прымаючы паважна словы, паперы, параграфы конституцый, кідайцеся, калі вы наважылі скончыць справу, на разуменьне значэньня ўчынкаў ды фактаў!

Хай пройдзе перад вамі з збраёўняў гадавых статыстых статыстычны матэрыял: мільённыя арміі самагубцаў, галадуючых, тубэркулёзных, залатушных, мільёны тых, хто зусім пазбаўлены праў пры панаваньні сучаснага грамадзкага ладу, афяры колёніяльных воен і тысячы гадоў вастрогу, да якіх засуджаны палітычныя злачынцы, і вы здолееце без пярэчаньня пераканацца ў тым, што прадстаўляе сабой цынічная заява валадароў усіх краін з парляманцкіх трыбун: „Спакой на зямлі!“

*

Паглядзеце на комуністычную партыю, якая ёсьць значна большая, чымся партыя, якая зьяўляецца авангардам новага будучага сусьветнага ладу, новай ажыцьцёўленай сусьветнай сьвядомасьцю, перадавым аддзелам будучыні! Члены гэтай партыі ўсюль люта і з брахнёй перасьледуюцца дбайнымі вартаўнікамі чалавечага распаду ва ўсіх краінах сьвету. Тысячамі тысяч забіваюць комуністых, ці прысуджаюць да дажыватнай катаргі, але, ня гледзячы на тое, ня зьнікае самаафяраваньне, жыцьцяздольнасьць, дысцыпліна, дух барацьбы!..

Прачнецеся ад сваёй няволі, ад згубных ланцугоў сьмяротнага сну, ад сваёй нярухавасьці, ад свайго тупога, неадказнага мармытаньня! Выходзьце з сваіх адцягненых габінэтаў ды студый: заклінаем вас! Пазнайце, урэшце, усё конкрэтнае на сьвеце, што перад вамі адбываецца! Ідзеце за нашымі лёзунгамі: „Марш на ворага! Далоў фантомы і здані! Далоў з тронаў жывыя трупы каранаваных і некаранаваных! Чалавек павінен, урэшце, мець адвагу ў самым сабе! Заваёўвайце сабе рачаіснасьць!..“

Змагайцеся проці сусьветнага шалу, проці сусьветнага вар'яцтва, проці гандлю людзьмі, проці вастрогаў ды чалавечай разьніцы! Змагайцеся проці чалавечай дурасьці, якая штучна культывуецца дзеля атрыманьня большага прыбытку, змагайцеся за волю чалавека! Змагайцеся за адраджэньне чалавека з чалавечай суполкі!

*

„Мой абавязак—гаварыць, я не хачу быць удзельнікам!“ На гэтыя гордыя словы Золя забылася наша афіцыяльная інтэлігенцыя. Складаецца яна з кумэднікаў, гнуткіх як гума, якія думаюць, што грамадзянская адвага ў наш цяжкі час зьяўляецца часта вельмі няпрыемнай справай. Або наша афіцыяльная інтэлігенцыя так перайначыла адважныя словы француского соцыялістага, што пра іх наогул ня варта гаварыць.

Аднак, існуе яшчэ і жыцьцёвая стратэгія і асноўныя палажэньні гэтай жыцьцёвай стратэгіі. Асновы кожнага посьпеху залежаць, як вядома,

ад здольнасьці знайсьці слабыя месцы супраціўніка і ў канчатковы момант кінуцца на яго з дасканалымі сіламі. Але ўладаньне гэтымі дасканалымі сіламі патрабуе таго, каб кожны аддаў усё сваё жыцьцё. Слабае месца варожай позыцыі, куды мы павінны накіраваць усе нашы сілы—проблема эксплёатацыі. („Хто хоча абараніць усё, той нічога не абараняе“. Гэта для тых, хто глядзіць у сутнасьць, і чыстых душ!)

Але чым займаецца об'ектыўна наша інтэлігенцыя?! Яны займаюцца „гульнёй у хаванкі“ (ці „камуфляж“, як яна завецца ў Амэрыцы, там ужо стварылі з яе цэлую навуку... Пашырайце гэтае паняцьце!) А што гэта за штука? Гэта мастацтва—зацямніць і схаваць ад супраціўніка свае сапраўдныя намеры: напрыклад—пучок травы на сталёвым шаломе кулямётніка ці імпэрыялістычны спакой, як працяг політыкі імпэрыялістычнай вайны пры дапамозе асобных сродкаў, а ў часы пацыфісцкай эры: фабрыкацыя цэлых сэрый ідэолёгій ды аблуд (парлямант, дэмократыя, ліга нацый, адмаўленьне клясавага характару дзяржавы, юстыцыі, войска, паліцыі і г. д. і г. д.), якія прыстасованы да таго, каб зацямніць сьвядомасьць супраціўніка, клясавага супраціўніка, пролетарыяту наконт сапраўдных намераў народных злачынцаў і масавых забойцаў, і распусьціць, дзе толькі магчыма, ідэолёгічна ды псыхолёгічна вярхі руху клясавай барацьбы і такім чынам забясьпечыць сабе найбольшы прыбытак...

Само сабой зразумела, думаюць гіены гвалту інстынктыўна, трэба абвіць спрухнелы труп капіталізму, колькі-б гэта ні каштавала, кветкамі, бо хто-ж будзе адкрыта насіць па вуліцах свой смуродны чэрап! Ідэолёгічныя фабрыкі парфумаў канечна патрэбны пры агульным смуродзе ад распаду: трэба зрабіць распад хоць-бы пахнючым! Кулісы сюды! Немагчыма-ж паказвацца гэткім мізэрным, які ты сапраўды ёсьць! Так, справа паважная: мобілізуйце ўсе сілы для канчатковай барацьбы, хай галадуюць, хай іх эксплёатуюць! Толькі-б не дапусьціць, каб масы сталі рэволюцыйнымі, толькі-б ня страціць самаўпэўненасьці. Толькі-б не цяпер!.. Праклён! для міжнароднага сусьветнага капіталу застаецца цяпер толькі Кітай; усё зьмяншаюцца старыя запасы; а што, калі нельга будзе больш змагацца за рынкі збыту? што тады? Як далей рэалізаваць дадатковую вартасьць!?. Сьвет падзелены: хутка трэ' будзе зьнішчыць вытворны апарат конкурэнта...

І словы ў гэткія часы існуюць больш не дзеля таго, каб казаць праўду, але каб хаваць яе...

Ну, добра! Мы перашкодзім праклятаму рамяству. Мы будзем гаварыць не дзеля таго, каб хаваць супярэчнасьці, але каб выкрываць іх. Мы асьветлім аголеную і строгую рачаіснасьць яркім сьвятлом, каб усе маглі яе бачыць...

Ваша справа і абавязак, інтэлігенты, гаварыць, каб прывесьці ў рух клясавыя сілы, каб пусьціць у хаду мотор на машыне для барацьбы

з клясавымі супярэчнасьцямі, каб набраць пабольш гаручага матэрыялу, каб трымаць напагатове сьвечку. Ваш абавязак разьвіваць клясавую энэргію пролетарыяту. Ваш абавязак выступаць, каб ня стаць віннымі ў пагібелі, якая пагражае цэлым народам у „абсолютнай вайне", гэта значыць,—у газавым балоце.

Ваш абавязак ня толькі гаварыць, каб ня стаць удзельнікамі тых злачынстваў, што кожны дзень учыняюцца проці чалавецтва, але нават — — —

Калі-б гэта каштавала вам галоў!

*

Але і ў тым выпадку, калі вы абярэце рэволюцыю, і тады вам трэ' будзе грунтоўна скончыць з вашымі закаранелымі забабонамі.

Таму што быць рэволюцыянэрам абазначае ня толькі шчыра і адухоўлена аддацца рэволюцыйнаму ідэалу. Гэта далёка ня ўсё. Рэволюцыя ёсьць ня толькі ўзброенае паўстаньне, ня толькі стадыя запаленьня абураных мас, рэволюцыя ёсьць яшчэ і нябачная зьнясіляючая праца. Рэволюцыя ёсьць таксама і колёна з наклеенымі плякатамі, рэволюцыя—пустыя сходы, ёсьць рэволюцыя легальная і падпольная, а рэволюцыйная машына барацьбы карыстае з вялізных мас людзей і чалавечай сілы. Рэволюцыя—найгрунтоўнейшыя і найдасканалейшыя веды, яна ёсьць найстражэйшая, найадважнейшая, найстрашнейшая трэніроўка гэтага сьвету. Яна патрабуе ад цябе дысцыпліны, вытрыманасьці, бярэ цябе ўсяго да апошняе нэрвовае валакніны, патрабуе цябе цалкам. Але ня цяжка, як кажа Ленін, быць рэволюцыянэрам, калі рэволюцыя ўжо загарэлася і стаіць у полымі.

„Ня той рэволюцыянэр, хто робіцца ім пры выбуху рэволюцыі, але той, хто ў самыя лютыя часы рэакцыі абараняе яе палажэньні і лёзунгі"...

Мы хацелі-б пажадаць вам, таварышы, хацелі-б ад шчырага сэрца ў вашых-жа інтарэсах пажадаць: навучайцеся зноў героізму, самаафяраваньню, таварыскай згодзе. Навучыцеся зноў глядзець на чалавека не як на тавар, не як на мізэрны об'ект эксплёатацыі ды спэкуляцыі, а найперш як на істоту, маючую сэрца, якое хоча біцца, мазгі, якія хочуць думаць, мяса і кроў. Калі вашы ідэалы разьбіваюцца адзін за адным, навучэцеся зноў адчуваць прыналежнасьць да руху, якому належыць будучыня, перамога якога абазначае перамогу чалавечай годнасьці і чалавечай волі. Тут, пераступіўшы цераз усе дзіцячыя формулы і патэнтаваныя спэкуляцыі, знойдзеце вы здаровы сэнс жыцьця. Жыцьцё наша мае істотны зьмест, які хавае ў сабе зачаткі будучыні. Зьмест, з-за якога варта і жыць і змагацца, а калі трэба, дык і памерці. Няма нічога больш прыгожага, пышнага, моцнага, што чалавек можа адваяваць ад жыцьця...

Змагайцеся разам з намі, калі вы сапраўды жадаеце поўнага канца гэтым зьвяром катаваньня ў форме, змагайцеся разам з намі, калі вы сапраўды хочаце, каб урэшце прышоў канец гіенам дадатковай вартасьці ў аблічны чалавека (іх меншасьць!), якія штодня, не—штогадзіну, маюць на сваім сумленьні шчасьце, радасьць, жыцьцё, здароўе мільёнаў мільёнаў людзей! Змагайцеся, таварышы, разам з намі, калі вы жадаеце адраджэньня чалавека ў комунізьме. Змагайцеся з намі поруч з клясавасьвядомай часткай пролетарыяту, поруч з комуністычнай партыяй: за палажэньні ды лёзунгі рэволюцыі"...

*

Гэткія і падобныя адозвы зьявіліся тады па ўсіх унівэрсытэтах і вышэйшых школах... Ідэальна настроеныя і больш актыўныя элемэнты буржуазнага грамадзтва сталі пад чырвоныя сьцягі. Траплялася, што хэмік, тэхнік, мастак, вучоны, урач раптам, нібы прачнуўшыся ад жыцьцёвага сну, праціраў сабе вочы і дзівіўся: „комуністыя, сапраўды, зусім не такія, як... я прадстаўляў сабе іх зусім іншымі!" І з неправўдападобнай сілай пераконаньня ды фанатызму шоў на небясьпечную барацьбу.

Лік і сілы абодвух франтоў зьмяняліся штодня.

На іншых мясцох часта здараліся выпадкі перабежак...

Прамежныя ступені, групоўкі, рэдкія комбінацыі, пераходы: увесь сьвет знаходзіўся ў становішчы бурнага кіпеньня і сьвяціўся фосфарам.

## II

Кароткая раптоўная агульная забастоўка была толькі прэлюдыяй да ўзброенага паўстаньня. Баі пачаліся ня ўсюль адначасна, як і аб агульным становішчы нельга было меркаваць схэматычна. Над некаторымі часткамі краіны лягла жудасная ціша: заціш перад бурай, ці спакой сьмерці!? Гэта была заціш перад бурай, як хутка выявілася. Ізноў выявілася, што ня мелі рацыі тыя правадыры рабочага руху, якія казалі, што пролетарыят змарыўся ад барацьбы і што яго энэргія паралізавана. Хоць ня ўсюль і ня ўсе адразу пашлі за лёзунгам агульнай забастоўкі, аднак, на заклік да ўзброенага паўстаньня толькі мала хто яшчэ раздумваў...

У гэты час памёр раптам ад удару стары прэзыдэнт рэспублікі.

„Забойца па нахілу!" „Узнагароджаны ордэнам кат чалавечых мас", з праклёнам правадзілі яго да магілы адны.

„Апошняе апірышча Нямеччыны!" „Наша апошняя надзея!"—галасілі другія.

„Deutschland über alles"—чулі тады ў апошні раз. Нямеччына на працягу апошніх гадоў усё больш ды больш зьніжалася да другараднага становішча васальнай дзяржавы, індустрыяльнай колёніі. Нацыяналістычныя колы, якія пачалі кіраваць з лёзунгам „непадлегласьць", сталі ў

момант прыняцьця ўлады растратчыкамі нямецкага нацыянальнага дабра. Вынаходзіліся ўсё больш удасканаленыя мэтады ашуканьня народных мас, спосабы, якія пасьля перайшлі ў адкрытае, афіцыяльнае ашуканства. Тады штучна быў падагрэты да найвышэйшай меры патрыётычны шаг, раздавалася, як заўсёды, „Deutschland über alles", калі трэ' было пусьціць у ходу якуюсь спэкуляцыйную махінацыю...

Калі-ні-калі протэсты, якія паднімаліся пры выбуху агульнага абурэньня супраць гвалту над Нямеччынай, таксама, як і пустая балбатня аб выпраўленьні памылкі наконт даўгоў і г. д., былі толькі часткамі вялізнага пляну, каб у вачох прававерных буржуяў ня сьцёрліся нацыянальныя фарбы ўраду. Так яны—гэтыя члены ўраду, так добра і дакладна праводзілі гэтую політыку, што ліга нацый дала ім мандат на іх ранейшыя колёніі.

Як удары молату ў дамавіну галавы дзяржавы, грозна грымелі цяпер стрэлы гармат з прадмесьцяў у цэнтральныя раёны гораду, дзе ішоў бой паміж войскам і ўзброенымі рабочымі.

Акружоная завалам драцяной загарожы, шла жалобная процэсія да катэдры, дзе адбылося пахаваньне. Ад пышнасьці ды параду адмовіліся з прычыны, як афіцыяльна было агалошана, сумнага становішча нямецкага народу.

Перад катэдрай пачала працаваць група провокатараў, кінулі бомбу ў публіку; яна, праўда, не разарвалася, але выклікала вялікую паніку, пры якой шмат хто загінуў і сотні былі паранены, а праз чвэрць гадзіны ўрад распаўсюдзіў весткі аб комуністычным замаху. Комуністых абвясьцілі па-за межамі закону. Чорнабелачырвоныя пачалі паляваньне на комуністых.

А ў рабочым квартале на вялікім пляцы ставілі на катафалкі ў чырвоных дамавінах першыя афяры рэволюцыі.

Крокі войска КПН раздаваліся цьвёрда, мерна, рашуча, як мэталёвыя траскучыя ўдары.

Рэволюцыйнае пяяньне гучэла бадзёра, моцна, рытмічна, як прызнаньне клясавай барацьбы, як клятва, як фанфара грамадзянскай вайны, як бязьлітасны выклік.

Жалобны марш быў баявым маршам.

Таварыш гаварыў прамову.

Ён казаў аб крывавай чырвонай сьцяне комунараў:

„Сьцяна комунараў на могілках Pére Lachaise, дзе тады было наладжана масавае забойства, стаіць яшчэ і сёньня, як нямая сьведка таго, на якое вар'яцтва здольна пануючая кляса, як толькі пролетарыят адважваецца заступіцца за свае правы. Потым пачаліся масавыя арышты, калі расстрэл усіх зьявіўся немагчымым, расстрэл афяр, адвольна выбраных з шэрагаў палонных, і рэшту адводзілі ў вялікія лягеры, дзе яны і чакалі вайсковага суду..." І таварыш абмаляваў далей, як гэта сьцяна

цягнецца праз усе краіны ды моры, як яна прапітана струменямі крыві пролетарыяту і як яна і сёньня стаіць яшчэ высока пабудаванай, як вежа, як стаіць каля яе ўвесь пролетарыят, які прывялі сюды белыя людзі-зьвеpы, каб забіць яго без супраціўленьня... Але як пролетарыят гэты сам робіцца сьцяной, кожныя грудзі—камяні, кожная група пролетарыяў—вострая каменная камлыга, і як раптам парушыцца гэтая сьцяна ды пакоціцца па целах сваіх забойцаў... і пралітая кроў пачне сьвіціцца ў сьцяне—чырвоная кроў перамогі і афяр зьліюцца ў адзін барвяны агонь...

І скончыў словамі Леніна:

„На сотню нашых памылак, аб якіх крычыць буржазія ды яе падлугачы, прыпадаюць дзесяткі тысяч героічных учынкаў, тым большых і значнейшых, чым больш яны простыя ды няпрыкметныя; яны разыгрываюцца ў штодзеннасьці рабочага кварталу ды вёскі і выконваюцца людзьмі, якія не прызвычаіліся ці ня мелі магчымасьці трубіць па сьвеце аб сваіх посьпехах“...

...Няўмірушчыя афяры...

*

Барацьба цягнулася далей.

Пралятаўшыя нізка над дахамі самалёты трашчэлі і засыпалі горад агнём знарадаў. А пролетарскія стралкі расстрэльвалі ў адным рабочым квартале з вышак і з-за комінаў па дахах цэлую эскадрыльлю. Мэтоды барацьбы, якія ўжывалі рабочыя ў часе ўзброеных сутычак, былі вельмі рознастайныя. Змагаліся невялікімі, рухавымі, лёгка манэўруючымі аддзеламі, якія то разьдзяляліся, то зноў хутка злучаліся і амаль без каманды ішлі ў наступ. Паліцэйскія вучасткі штурмаваліся, але ня было ранейшых памылак: іх не забіралі і не расстрэльвалі іх варожых баявых часьцей. Кожная заваяваная позыцыя зараз абчышчалася і зручна маскавалася. Такім чынам вораг аблягаў часамі цэлыя дні такія замаскаваныя месцы з вялікімі для сябе стратамі. Баявы дух „белых“ праз гэта слабнуў. З вялікімі натугамі падвозіліся цяжкія гарматы, агнякідальнікі, знарады, якія пырскалі гаручы фосфар, бо белыя адважваліся на штурм толькі пасьля грунтоўнай гарматнай падрыхтоўкі. З прычыны вялікіх страт і таго, што на кожную атаку вораг адказваў атакай, сярод белых разьвіліся непаслушэнства ды ўцёкі, і толькі тэхнічная перавага перашкаджала ў гэты момант працэсу поўнага распаду...

Колёна танкаў накіравалася ў цэнтр рабочага кварталу на выведку.

Танкі былі няпрыступны для газаў і забясьпечаны тленнымі апаратамі.

Горача было ў сярэдзіне бранявіка. Пяць чалавек каманды абліваліся потам і жалезнае страшыдла з грукатам каціласа па вывараченых каменьнях бруку. Лейтэнант стаіць ля ваценца, голасна камандуе. Як падводная лодка, расьсякае танк ясныя хвалі дня.

Нічога ня відаць. Толькі каротка і цьвёрда стукаюцца аб сталёвы панцыр пулі нябачных стралкоў.

„Гром з градам з яснага неба“.

Але пяць чалавек каманды нэрвуюцца, робіцца горача і ўсё гарачэй да ўдушша, салдаты стаяць напоўголыя і страляюць бесьперастанку. Танк поўным ходам абмінае рагі вуліц, ухіляецца ад завулкаў, робіць крутыя завароты і зноў рушыць зігзагамі вуліц. За ўсімі вокнамі каманда адчувае вочы, вочы што, як палкія праменьні, пранікаюць у сярэдзіну танка і паляць з усіх бакоў: сьпераду, ззаду, згары, зьнізу: усюль пільнуе вораг. А антэна ўжо зьбіта. Сувязі няма... Толькі мотор шуміць да гудзіць.

Зноў заварот за рог.

Дзьверы дамоў шырока раскрыты... Заглядваюць... Лейтэнант аглядаецца; чацьвёра салдат, сялянскія хлопцы, ядавіта глядзяць на яго. Ярасна бяруцца за падважнікі, рушаць, але з захаваным абурэньнем: вось, вось піхнуць ці вытнуць...

Труп ляжыць сярод вуліцы.

„Поўны ход!“

Па трупу... і далей.

Ці быў гэта труп!?

Ці не варушылася нешта пад акрыцьцём!?

А тут лейтэнант яшчэ крычыць.

„Цяпер, хлопцы, разумней:—яшчэ адзін залп! Увага!..“ І раптам у адзін момант чацьвера салдат кідаюцца на яго, душаць: адзін б'е нажом у рэбры; левальвэр валіцца з рук лейтэнанта. Агнёвая хваля ўліваецца ў танк: два, тры кароткія выбухы... і пяцёра чалавек падаюць на падлогу, скорчыўшыся, як абвугленыя ствалы дрэваў.

І чатыры другіх бранявікі былі захоплены. Каманда іх адразу здалася.

Папсаваньні можна было лёгка паправіць.

Таварыш Макс Гэрзэ належаў да каманды танка „Чырвоная Маланка“, які выехаў на выведку...

*

Здараліся дзіўныя рэчы.

Вось набліжаецца па вуліцы да машыны, махаючы насавой хустачкай, добра адзеты чалавек і голасам, які перапыняецца ад сьлёз, гаворыць: „Дапамажэце мне! Я хачу зноў зрабіцца чалавекам. Я быў ім толькі адзін раз у маім жыцьці, тры дні... З гэтага часу, ах“... Дзіўнага перабежчыка ўзялі ў бранявік; ён змагаецца пасьля пры аднэй чырвонай штурмавой колёне і, цяжка паранены, перад сьмерцю кажа апошнія словы: „Я не магу вам выказаць, як я зараз шчасьлівы... цяпер усё добра...“—

Баявы вучастак усё больш ды больш адсоўваецца ад рабочых кварталаў на заходнія часткі гораду, дзе знаходзіліся вілы і пышныя магазыны.

Разам з чырвонымі партызанамі дзейнічаюць і чырвоныя бранявікі.

„Не барыкадаваць!“ загадваюць пастаянна.

Вось ідуць весткі:

„Радыёстанцыя забрана“.

„Пачынаецца агульная забастоўка!“

„Па ўсёй Нямеччыне!“

„Расія мобілізуецца. Расія выступае“.

„Над польскай граніцай навісла ўжо чырвоная навальніца“.

Весткі гэтыя зрабілі такі моцны ўплыў, што яшчэ дзьве часткі гораду ў тую-ж ноч былі забраны рабочымі. Рабочыя ўпэўнены ў сваёй справе і перамозе.

„Сьвет будзе наш!“ „Даволі доўга мы толькі пялі гэта“.

Калі хапаюць кагось з „чорнабелачырвоных“, дык яго караюць розгамі і адпушчаюць на волю...

Але вось аднойчы зьявіўся „чырвоны“, якому ўдалося ўцячы ад „белых“: цела пакрыта ранамі ад бізуноў ды шабляў, больш дваццаці штыхавых ран, вока выдрана... і апавядае: на ліхтаровых слупох... нечалавечыя пакуты... шпіцрутэны... згвалтаваньне жонак рабочых... забойства політычных палонных у вастрогах... газы, атрутны газ... падрыхтоўка скончылася... Будзьце на пагатове!.. паветра цяжкае... галоўнае яшчэ сьпераду...“

Гэта пацьвярджалася шмат кім з усіх бакоў.

Пролетарыят мацней сьціскае зубы:

„Ну, што-ж, калі яны таго жадаюць... цяпер расправа будзе кароткая!..“

III

Макса паслалі з асобным даручэньнем углыб краіны. Станцыі былі пакуль што яшчэ ў руках урадавых войск. Хадзілі толькі цягнікі для перавозкі баявога ўзброеньня і войск. Шмат мастоў былі зруйнаваны, рэйкі на вялікія адлегласьці разабраны, цягнікі штодня ляцелі ў паветра.

Макс ехаў на мотоцыклетцы.

Шэрагі краін праносіліся міма яго, як у калейдоскопе, як кінокарціна.

Даручэньні, якія былі яму даны, ён добра схаваў у пустых частках машыны. Ён меў розныя дакуманты і паміж іншымі і „чорнабелачырвоны“...

Так ляцеў ён міма цёмназялёных лугоў, на якіх мірна пасьвіліся каровы, міма палёў, падобных да хвалістых градак ад складзенага ў стажкі сена, па вёсках, дзе яму траплялісяся насустрач друзлыя процэсіі

з пяяньнем пацер. Гэткія вёскі нярухома стаялі, як стаячыя балоты, сярод магутнага віхру, які даўно ўжо ахапіў прамысловыя раёны.

Ён праяжджаў міма пышна пабудаваных у амэрыканскім стылі готэляў, перад якімі стаяў доўгі шэраг самаходаў: тут хаваліся багатыры-эмігранты, як пацукі ў часе пажару ў лаз. Загарадныя дамы, вілы з крытымі алеямі ды пышнымі прысадамі знаходзіліся на берагу мора: колькі тысяч людзей будуць калісь адпачываць тут і цешыцца жыцьцём! Цяжка і паважна адбудаваныя кляштары стаялі прысадзіста на вяршынях гор: і тут уся зямля ў гэтай краіне ляжала ў глыбокім ціхім спакоі.

А вось і колёніі: „вольных немцаў", „хрыстусаў", „вандроўных птушак": усе яны самі сабой сталіся нібы выміраючымі, усе блукаюцца ў неймаверных мэтафізычна заблытаных лябірынтах думак, парабіліся вэгетарыянцамі ды жуюць карэньне. Гэта няпрыгодныя да жыцьця людзі самі выключылі сябе з грамадзкага жыцьця. Гэткае становішча замяняе дамы для вар'ятаў у выпадках ціхага вар'яцтва.

Паблізу знаходзіліся шырокія концэнтрацыйныя лягеры, дзе фармаваліся новыя арміі; амаль у кожнай грамадзе было бюро для набору ахвотнікаў, папы старанна агітавалі за гэтыя саюзы ў спавядальнях і з амбонаў.

Макс ехаў далей.

Дзе-ні-дзе ўрад ужо страціў сымпатыі сялян, якія, згодна з чуткамі, пакідалі свае вёскі ды зьбіраліся дзесь у вялікую армію. Часам паказваліся ўжо на небе заравы і слупы дыму: то гарэлі панскія сядзібы і царквы. Сялянства паўстала і выгнала сваіх катаў. Нярухома, як выразаныя з дрэва фігуры, стаялі на раздарожжах сялянскія патрулі з чырвонымі павязкамі на руках, і часта, калі глянеш у лес, дык можна было бачыць маршыраваўшыя па вілаватых сьцежках аддзелы. У адным месьце дайшло да сутычкі. Максу трэ' было збочыць: усе шляхі былі пад цяжкім гарматным абстрэлам.

Праяжджаў Макс і міма вядомага вастрогу, дзе паўтысячы палітычных зьняволеных цягнулі сваё мізэрнае жыцьцё, атрымаўшы больш як дзьве тысячы гадоў зьняволеньня. А там у кутку мура, каля вялікай ліпы, знаходзілася месца кары сьмерцю. Аніводнага зьняволенага ня было відаць за кратамі. Што гэта? Ці сьпяць яны яшчэ, ці ўжо пакінулі свае клеткі?

Першы сустрэчны на сяле мог яму гэта растлумачыць:

Два дні таму назад зьняволеныя нібы ўзбунтаваліся, сталі неспакойныя, шум даносіўся аж да сяла. Тады вастрожная адміністрацыя загадала абкласьці адзіночныя каморы сяньнікамі і атруціла паветра, паставіўшы ў кожную каморку па бутэльцы з атрутным газам...

На працягу трох хвілін шум, які быў падобны тады да рыку шалёных, сьціх.

Прыдзе час, скрыгатаў зубамі Макс, калі зноў на пляцох будуць будаваць публічна шыбельніцы, будуць караць сьмерцю на забаву народу і бязьлітасна катаваць. Цэлыя шэрагі пакутнікаў будуць стаяць на сталох пад вяроўкай, на іх будуць накінуты белыя каптуры, а на шыі паперка з прысудам... з-пад ног выцягнуць сталы, туга нацягваецца вяроўка, некалькі катаў яшчэ павесяцца ўсім цяжарам на целах пакараных... і справа скончана. Людзей будуць захінаць з ног да галавы ватай, абліваць алеем, запальваць і пушчаць. Мы знаходзімся зараз перад часам лютасьцяй, барбарства, жахаў, якому няма роўнага, і пры ўсім гэтым людзі па сваёй хлусьлівасьці, нібы палюдзку настроеныя, з пагардай будуць глядзець на гістарычную эпоху інквізыцыі ды судовыя процэсы ведзьмаў... Нашы суды—фабрыкі, нішто іншае, як фабрыкі, дзе па вызначанай схэме, якая завецца закон, фабрыкуюцца цэлымі сэрыямі прысуды. А хто ўладар гэтых фабрык!? Ну, а мы павінны будзем паклапаціцца, каб як найхутчэй спыніць працу гэтай вытворчасьці!..

Такім чынам прыехаў Макс у Рурскую краіну.

Жоўтая паласа туману вісела ў паветры. Было ціха, як у сьвята. Макс успомніў катастрофу ў рудні, якая тады дала першы штуршок для абуджэньня яго пролетарскай сьвядомасьці і паказала шлях да новага жыцьця. Што робіць цяпер яго таварыш, трамвайны служачы!?.. А Вільгельм!? Кожны з іх стаяў на сваім пасту, кожны меў на гэтым вялікім полі бітвы сваё вызначанае месца.

А Лена... Яна з пачатку ўзброенага паўстаньня працавала санітаркай у чырвонай арміі, якая фармавалася ва Ўсходняй Прусіі...

Уся Рурская краіна прадстаўляла сабой адзін вялізны чырвоны бастыён.

Праца ішла напружна.

Усюды патрулі, загарожы, аддзелы мотоцыклістых...

Зямля дала шчыліны: не адна армія, але тры, чатыры чырвоныя арміі падняліся з гэтых шчылін, багата ўгноеных пролетарскай крывёю.

Пасьля лютых і крывавых для абодвух бакоў боек белая армія была разьбіта і пры адступленьні зусім растала, а чырвоная армія распрацоўвала шырокі плян наступу на поўнач, цераз Гановэр на Бэрлін. Тут Макс упяршыню ўбачыў чырвоны панцырны цягнік. Са сьвістам і пыхканьнем пад песьню „Народы, слухайце сыгналы“—каціўся ён па зялёных лугох.

„Добра організавана“,—мусіў Макс прызнаць. „І якая дысцыпліна!“

„Ніводнага выпадку рабунку ці эксцэсаў ня было ў нас, у нас рэволюцыйныя традыцыі... Шмат боек папярэдняга часу было не дарма...“ Гэта гаварылі яму ў галоўным штабе. А аб героічных учынках расказвалі, не называючы імён: кожны быў героем і ўсе разам былі імі...

Тут даведаўся Макс далей:

Агульная забастоўка ў ПАЗШ. Узброеная дэманстрацыя проці імпэрыялістычнай вайны ў ПАЗШ. Паўстаньне нэграў у колёніях... пашыраецца па Афрыцы, Эгіпту ды Індыі. Забастоўка кітайскіх рабочых на японскіх прадзільнях у Цынгтаў. Забастоўка спачуцьця японскага пролетарыяту. Узброеныя сутычкі. Выступленьні працоўных мас Японіі; масавая мобілізацыя; яны скідаюць ланцугі няволі...

Да вестак з Амэрыкі аднёсься Макс спачатку скэптычна.

Партыя яшчэ слабая. І гэта можа загубіць рэволюцыйны рух. Колькі сьмяцьця выкідае рэволюцыя: ашуканцаў, афэрыстых, газардоўных спэкулянтаў! Шпегаў ды правакатараў... Толькі адна моцная організацыя выратуе становішча, а то справа будзе страчана з вялікім разьліцьцём крыві... Усе няўдалыя паўстаньні тлумачацца тым, што партыя ня мела здавальняючай кіраўнічай ролі...

1919 год таму прыклад.

Ад Ролянда да Вікторыі стаялі масы народу галава з галавой, далёка аж да Тыргартэна. Яны прынесьлі з сабой сваю зброю, разьвінулі свае чырвоныя сьцягі. Яны гатовы былі на ўсё, нават аддаць сваё жыцьцё. Гэта была армія ў 200.000 чалавек. І вось здарылася нячуванае. Масы стаялі ад 9 гадзін раніцы ў холадзе ды тумане. А дзесь сядзелі правадыры і раіліся. Туман падняўся, а масы ўсё стаялі, а правадыры раіліся. Надышоў поўдзень, а з ім холад і голад, а правадыры раіліся.

Масы трэсьліся ад узрушэньня, як у трасцы: яны чакалі якогась учынку ці слова, якое супакоіла-б іх узрушэньне. Але ніхто ня ведаў гэтага слова, бо правадыры ўсё раіліся. Зноў надыйшоў туман, а з ім змрок. Сумна пайшлі масы дамоў: яны жадалі вялікага і нічога не зрабілі, бо правадыры раіліся. Спачатку раіліся ў манежы, потым пайшлі далей у прэфэктуру і там зноў раіліся. А знадворку—пролетарыят на пустым Аляксандраўскім пляцы са стрэльбамі ў руках, з цяжкімі ды лёгкімі кулямётамі. А ўнутры раіліся правадыры. У прэзыдыуме падлічылі гарматы, матросы стаялі на кожным рагу калідораў, у перадпакоі натоўп: салдаты, матросы, рабочыя. А ўнутры сядзелі правадыры і раіліся. Яны сядзелі цэлы вечар, сядзелі цэлую ноч і раіліся, сядзелі наступнай раніцай, калі надышоў дзень і ўсё раіліся. І зноў пацягнуліся масы па „Алеі перамогі“, а правадыры яшчэ сядзелі ды раіліся...

Справа была не ў паасобных правадырох, але ў агульным кіраўніцтве, ня было партыі.

А тымчасам контррэволюцыя працавала паводле адзінага пляну. Яна лічылася ня толькі з Бэрлінам, але і з усёй краінай. Усюль організаваліся наборныя бюро, на грузавікох падвозіліся гарматы. Самаходы з кашараў і гаражоў, цэлы парк іх, былі згрупаваны ў Далеме, куды тымчасам уцяклі з Бэрліну Носкэ і палкоўнік Рэйнгорд. Праз тры дні ўвесь раён быў падобны да ваеннага лягеру. Працавалі з казачнай стараннасьцю і вялікай хуткасьцю. Стралковая, гвардзейская, кавалерыйская дывізіі

былі папоўнены, набраны невялічкія баявыя аддзелы па вёсках, яшчэ адно апошняе меркаваньне, і пасьля хуткай організацыі грамадзянскай абароны ў буржуазных раёнах Бэрліну—атака на занятыя рабочымі будынкі... і праз пяць дзён Бэрлін, наймацнейшая цытадэля нямецкай рэволюцыі, паў.

*

„Ну, шчасьлівай дарогі, Макс; як надзвычайна важна тое, што табе трэба правезьці, ты сам ведаеш...“

І ўжо Рурская краіна ззаду яго. Ён едзе далей.

Макс не даваў веры ўласным вачам:

Па вуліцах провінцыяльнага гарадка ішла вялікая ўрачыстая процэсія з вайсковымі організацыямі ды аркестрамі. Яе „аздаблялі“ розныя гістарычныя групы. На двух падводах ехалі прыгародныя сяляне са сваімі хатамі. За імі ішоў Хэруск Гэрман з узброенай чэлядзьдзю. Пакazаліся немцы, адзетыя ў зьвярыныя скуры. Крыжакі, вядомы граф Эбэргард з барадой, пешыя і конныя ланцкнэхты. Горда маршыраваў Тэодор Кёрнэр, зусім як сапраўдны, за ім ехалі на конях шыльскія афіцэры. Незабытнае ўражаньне рабілі колёніяльныя войскі, за якімі на калёсах, запрэжаных восьма валамі, ехалі чорныя і белыя жыхары колёній...

Што гэта!?

Макс сьмяяўся з усіх сіл.

Было мясцовае вайсковае сьвята.

Гэта процэсія была трагікомічным малюнкам таго, як доўга паняцьці ды ідэі людзей зьвязаны з мінулым, якое страціла даўно ўжо сваё значэньне, дзякуючы матэрыялістычнаму разьвіцьцю гісторыі...

І ўжо запялі здаровымі галасамі сапраўды-нямецкія шматгалосыя хары з чульлівымі ноткамі на вярхох: сапраўднае выпярэдніцтва сьпевакоў у чыста-арыйскім стылі...

„Варта на Рэйне“. „Слава табе ўвянчанаму“. „Хто цябе, прыгожы лес!“...

Здалёк уздыхаў жалобнымі бляшанымі гукамі старамодны грамофон, а рухавыя коткі курняўкалі за вокнамі, зарослымі геранiяй...

А публіка ў сьвяточных адзеньнях ды цыліндрах з гафтаванымі сьцягамі стаяла шпалерамі па абодвух баках вуліцы, як чорна-адлякіраваныя лялькі.

А гаспадыня дому распусты, Сусанна, стаяла таксама тут, запісвала ў памяці заказы на піва, аблізвала языком губы, складала рукі і ўсьміхалася...

А потым далей...

Скрыпка, віолёнчэля, піаніно...

„Пры гэтым так прыемна было марыць, мякка, як растопленае масла, капацца ў душы, лашчыць, лапатаць, круціць хвастом і, калі ўдасца, зрабіцца „добрым чалавекам“... Больш нічога. Урэшце канец гэтаму!“

Макс даў поўны ход, трасучыся ад сьмеху, і ўцёк ад гэтай зданьнёвай ідыліі.

Ён праяжджаў яшчэ міма больніцы і вар'яцкага дому, пабудаванага па павільённай сыстэме. Шалёныя з нязграбнымі, нягнуткімі рухамі, цяжка ступаючы, праходзілі ўсьцяж платоў, ківалі галовамі і бяз сэнсу сьмяяліся. Некаторыя бесьперастанку роўнамерна ўсё хадзілі ўзад ды ўперад, другія стаялі нярухома, як слупы. Аддзяленьне, дзе зьмяшчаліся дзеці-ёлупы, зьяўлялася чымсьці найагіднейшым: грудныя дзеці, дзеці алькоголікаў, з бясформенымі мяжджулымі галовамі ляжалі ў пялёнках і нібы абвінавачвалі моўчкі сваімі змроклымі запалымі вачыма...

Аднойчы прышлося Максу, як члену бальнічнай камісіі, абыйсьці гарадзкую бальніцу. Напэўна, усё было чыста, гігіенічна: калідоры і шэраг ложкаў блішчэлі, урачы, сёстры ў белых халатах ды пярэдніках— супроць нельга было пярэчыць. А тут якая процілежнасьць: чыстата, дагляд, міласьлівасьць пачынаюцца толькі тады, калі ён з прычыны скандальных неахайных умоў, грубасьці, хцівасьці, подласьці ляжыць нявыгойны на сьмяротным ложку! Шмат хворых на агнёвіцу, гнойны плеўрыт, унутраныя пашкоджаньні маглі-б зусім быць здаровымі пры нормальных умовах працы. Ад дзевяці дзесятых усіх гэтых хвароб можна было б усьцерагчыся: гэтыя прамочаныя гноем павязкі, гэтыя начыньні з смуродным гноем, гэтыя чалавечыя пакалечаныя трупы ў мярцьвецкіх скляпох. Будучы тэхнічна лепш наладжаны грамадзкі лад у бегу часу зьмяце гэтую дарага каштуючую, злучаную са страшэннымі пакутамі, чалавечую праказу... А сёньня; большасьць людзей падлягае спрадвечнаму перасьледваньню, не памірае, але здыхае...

Яшчэ ўвечары прыехаў Макс да вызначанага пункту.

*

Магутная група фабрык фарбы раскінулася на плошчы ў шмат квадратовых кілёмэтраў.

Макс знайшоў прытулак у аднаго таварыша.

У старым адзеньні зьявіўся ён другой раніцай на фабрыку, паказаў свае паперы і на падставе свайго чорна-бела-чырвонага пасьведчаньня быў зараз прыняты.

На другі дзень павінна была пачацца работа па вырабу атруты.

Ад таварышоў даведаўся ён, што яго, як новага, напэўна паставяць на выраб атруты...

Макс пабадзяўся троху па ваколіцы.

Некалькі фабрык па вырабу дрэва баставалі. Групамі стаялі людзі каля тэлеграфнага бюро.

Фабрыкі фарбавай індустрыі, дзякуючы надзейнай ахове, працавалі, як раней, з поўнай нагрузкай.

У гэтай краіне было сконцэнтравана асабліва шмат войска. Да сутычак справа пакуль не даходзіла. Усюль распаўсюджвалася вестка: паўстаньне ў Бэрліне прыдушана. Спакой і парадак наладжаны.

Рабочых фарбовай індустрыі зараз можна было пазнаць па жаўтавата-шэрай афарбоўцы скуры. Зьвярталі на сябе ўвагу папсаваныя зубы, дзясны былі ў гнойных больках. Вочы ва ўсіх былі ятрыстыя.

Многа рабочых хварэлі ад унутраных болек у носе, на хваробу, якая завецца „смуродны нос“.

Большасьць рабочых хэмічнай індустрыі жылі на фабрычнай зямлі ў невялічкіх цагляных хатках з невялічкімі агароджамі перад імі. У даны момант яны мелі права пакідаць абшар фабрыкі толькі з асобнага дазволу фабрычнай адміністрацыі...

Макс завёў доўгую гутарку са старым, ласкавым таварышом.

Больш трох месяцаў ніхто ня можа тут вытрымаць, дзядзька. Калі табе давядзецца працаваць ля катлоў з вадкім газам, ці папаўняць бутэлькі... не пазьней, як у тры месяцы ты зробішся трупам...

Тут хутка зробіш кар'еру, ці... Тут усе хварэюць на рак лёгкіх гэта, так сказаць, наша профэсыянальная хвароба... А шмат выпадкаў апёкаў і сьлепаты.

... Усе мы дохнем... Асабліва цяпер: штодня прыходзяць каля пяці, дзесяці новых і ўрэшце пяцьдзесят чалавек трацяць сваю працаздольнасьць! Глянь на гэтыя баракі: там безнадзейныя, наш сьмяротны салён.

... Наша вытворчасьць самая небясьпечная... І якраз цяпер: павышаны выраб, сэзон, высокая кон'юнктура... Павышэньне заработнай платы... Звышвызначаныя гавораць пра буйныя заказы з Амэрыкі, заказы на мэдыкамэнты. Носяцца розныя чуткі. Але ўсё няясна. Ніхто ня ведае дакладна...

Макс прымусіў нічога не падазраваўшага таварыша паўтарыць:

„Заказы з Амэрыкі... Мэдыкамэнты...“

І паглядзеў на яго пільна.

„Няўжо-ж ты верыш у тое, што кажаш?..“

„Так, мы будзем і баставаць, але ўсё, здаецца, ужо прыдушана і справа безнадзейная...“

„Вы усе—падкупленая і распушчаная банда!“—сказаў Макс. „Найперш за ўсё кінемо гаварыць аб тым, што вы вырабляеце!..“

І Макс інформаваў таварыша аб тым, што адбываецца ў Бэрліне.

У рабочага выступілі пры гэтым сьлёзы на вачох.

„Не, што ты гаворыш... Гэткія ашуканцы... гэткая нізкасьць...“

„Будзь упэўнены.—Тут яны таксама пачынаюць. Мы выведзем на чыстую ваду. Усё залежыць цяпер ад вас.

У вашых руках лёс усяго руху. Цяпер ці ніколі! Заўтра возьмемся за справу!.. Лёзунг наш: поўная праца па ўсяму фронту!“

## IV

Наступнай раніцай Макса, сапраўды, адразу паставілі сярод самай атруты.

Ён ужо загадзя падрыхтаваўся, пагутарыў з прадстаўнікамі чырвоных ячэек, яшчэ да пачатку працы атрымаў дакладныя адказы наконт ліку на фабрыцы соцыял-дэмакратаў, чорнабелачырвоных, кожнага рабочага паасобку і г. д. Ён абгаварыў каротка з таварышамі становішча на ўсёй зямлі і асабліва ў буйных прамысловых гарадох, аб якім пролетары, дзякуючы таму, што ўрад меў даведачны апарат, ня былі інфармаваны. Потым ён ясна і дакладна растлумачыў ім сутнасьць ды значэньне іх дзейнасьці, раздаў ім некалькі проклямацый. Іх, праўду кажучы, было мала, асабліва па пытаньнях аб тэхніцы будучай вайны і тое, што было, было слаба дапасавана да пролетарскага пункту погляду. Даў ён ім і артыкулы амэрыканскіх таварышоў, іх рэзолюцыі, а таксама артыкулы з рэволюцыйных газэт. З аднэй пропагандай мала можна было зрабіць, што-ж да практыкі, дык таварышы, занятыя ў хэмічнай індустрыі, вельмі дорага плацілі за яе.

Пачалі прыходзіць рабочыя да Макса са сваімі довадамі і тое, што ты кажаш, няправільна: квасы, пра якія ты гаварыў, ідуць на выраб мыла і парфумы. У гэтым нельга быць няпэўным: сапраўды існуе контроль. Пачытай вось кнігу вядомай хэмічкі-швайцаркі, якая зьяўляецца аўторытэтам у навуковым сьвеце. Яна апрача таго і пацыфістка і ня дасьць сябе ашукаць. Яе прапановы наконт контролю былі прыняты Лігай Нацый. А ўся офіцыяльная думка наконт газавай вайны—яна-ж супроць гэткай вайны! А потым... газавая вайна забаронена і ўсе нацыі шчыра і ўрачыста пакляліся ня ўжываць яе.

„... Вось бачыш, таварыш, ты мо' і маеш добрыя намеры, але мы, якія тут гадамі сядзім, мы, урэшце, таксама можам у тым-сім разьбірацца: што мы, напрыклад, у апошні час вырабляем?—найпраўнейшыя мэдыкамэнты, сальварсан па вялікаму, як ты ўжо чуў, заказу Амэрыкі... што, няпраўда?.. Вось чаму і павялічана нам плата“.

Да Макса адносіліся пагардна, як да чужака.

„Прапанова, таварыш Макс! Усё, што ты гаворыш нам, ня мае пад сабой падставы. Заходзь да нас на наша прадпрыемства, прыглядзься добра да ўсяго і пазнай бліжэй нашу справу!.. Мы ахвотна дапаможам табе...“.

„Добра!“ згадзіўся Макс.

„Дзіўныя прадстаўленьні! Зьмястоўныя дурныя фантазіі, усё пахабнае ашуканства, калі бліжэй разгледзець гэта. Пужала для дзяцей, старых баб і плакуноў. Паглядзі сюды, Макс-баечнік!“ І ўсеківалі недаверна галавамі. Яны валаклі яму розныя буржуазныя ілюстраваныя газэты з апісаньнем мэханічных полісмэнаў, на якіх страшна было гля-

дзець, праменьняў сьмерці, якія згубна лёталі каля лётнікаў ды іх машын у паветры, і з другой падобнай лухтой.

А пасьля некаторыя таварышы пачалі пачытваць і амэрыканскія артыкулы, павольна і цяжка, нібы па складох.

Адзін ужо пачаў думаць.

Доўга глядзеў у далеч.

Ківаў галавой, зноў чытаў.

„Дык ты думаеш, таварыш Гэрзэ, што ўся гэтая пышная справа з этычнай і гуманнай забаронай газавай вайны з боку Лігі Нацый была толькі мізэрная камэдыя...

... Каб нас, пролетараў, супакоіць, а самім тымчасам без перашкоды падрыхтаваць масавую крывавую лазьню“.

„Я упэўнены ў гэтым“,—пярэчыў Макс.

І далей:

„І нядоўга ўжо чакаць пацьвярджэньня маёй думкі. Але мы павінны выперадзіць нашага супраціўніка. Мы ня можам чакаць, пакуль за надта позна будзе“...

Зноў прыбег другі:

„Урэшце, каб мы, мы, рабочыя фарбовай індустрыі“...

Не, гэта ня можа быць... гэта было-б...

І ён як-бы скорчыўся.

Павольна і ўпарта, з вялікім цярпеньнем працаваў Макс над іх мазгамі: не адступаючы, трымаў ён рабочых у коле іх думак, як у жалезных кляшчох, біўся над імі напружна і стараўся пазбавіць іх ад аблуд.

„На тое і існуюць цяжары, каб перамагаць іх. Яны нібы чакаюць, каб іх перамаглі“.—Гэта стала яго дэвізам.

Усё больш задумёнымі рабіліся рабочыя.

Макс падносіў ім няпрыбраную праўду. Гэтым ён набыў іх давер'е. Ён тлумачыў ім, што рэволюцыя ёсьць доўгі процэс, поўны афяр, пакуты крыві ды ран, і што няма чаго і думаць аб тым, каб становішча рабочых пасьля захопу ўлады адразу палепшылася... „Мы, комуністыя, не ашукваем вас. Хто ня можа цярпець праўды, калі ласка... Але для вас, пролетары, другога выбару няма. Ці—ці! Вам трэба ці змагацца, ці згінуць“.

„Не, мы ня хочам згінуць. Напэўна не... І калі браты нашы, як ты кажаш, змагаюцца зараз, дык і мы...“

Макс заўважыў: яны глядзелі ўжо на ўсё з большай пільнасьцю, сачылі за ўсім на прадпрыемстве. Часта зьнікаў то адзін, то другі на хвіліну, пакуль аднойчы раптам адзін прадстаўнік ячэйкі ня прыбег, зялёны ад жаху, і ціха шапянуў Максу на вуха:

„Макс, я пераканаўся, усё праўда, што ты казаў... Вось дакладны сьпіс... Цэлы сьпіс... Урэшце вызначана: ужо тры месяцы, як мы нічога іншага не фабрыкуем, як атрутны газ“.

*

Макс уважна выўчаў мэтоды вырабу.

Тут на фабрыках рабочыя рабілі толькі падрыхтоўчую работу. Толькі ў апошняй стадыі адбывалася ператварэньне матэрыялаў у хэмічную вайсковую зброю.

Праца гэта рабілася ў асобным памяшканьні, куды ніхто ня меў прыступу. Усе рабочыя там былі зьвязаны контрактам ня менш як на 12 год. Да гэтага часу ніхто з іх ня кідаў месца працы. Яны і жылі там. Прыймаліся толькі не жанатыя. Гэта частка фабрыкі фарбаў называлася „пасткай“, ці цытадэляй. Большасьць рабочых глядзелі на „пастку“, як на род добраахвотнага карантыну з прычыны таго, што праца тут была зьвязана з небясьпекай заражэньня. Сюды прымаліся толькі асабліва надзейныя людзі, найахватней з „патрыётычных саюзаў“. Аддавалі перавагу ранейшым вайскоўцам, адстаўным унтэр-афіцэрам, салдатам. Па ўсіх кірунках „пастка“ была адгароджана мурам ад іншага сьвету, а над мурам на вышыні каля двух мэтраў—сталёвы дрот, з, як падазравалі, электрычным токам. Усюль былі пастаўлены дошкі з перасьцярогай: „спробы пранікнуць у ізоляваны вучастак зьвязаны з, небясьпекай для жыцьця“. Гэты містычна-таемны куток фабрыкі фарбовых матэрыялаў быў непасрэдна злучаны з дзяржаўнай чыгункай двохкаляёвымі рэйкамі. Уначы бязупынна каціліся туды і назад таварныя цягнікі.

Што там рабілася, пра гэта ніхто з рабочых другіх аддзяленьняў нічога ня ведаў.

А рабочыя мала цікавіліся „пасткай“.

Яна была абвіта легендай і таемным маўчаньнем.

Адзін толькі раз яно была парушана: калі адзін з рабочых гэтага аддзяленьня ў прыпадку вар'яцтва, з прычыны, як тлумачылі, няўмелага абыходжаньня з хэмічнымі прэпаратамі, выкінуўся з вакна.

У майстэрнях гутарылі тады аб гэтым здарэньні і ставілі ў сувязь з паведамленьнем з Амэрыкі аб новым так званым „газу шалу“.

Гутарылі аб гэтым, мусіць, каля тыдню.

Але нічога з таго ня вышла.

Спачатку хацелі організаваць камісію для расьсьледваньня гэтай справы.

Але, як сказана, прайшоў тыдзень, і абураныя душы супакоіліся.

*

Памяшканьне, дзе Макс працаваў, было скарыстана да найвышэйшай меры. Было дакладна вылічана колькі месца трэба кожнаму рабочаму, кожны працоўны рух быў кінэматографічна дакладна азначаны. Электрычны рухавы пас бязупынна падкочваў рабочаму патрэбныя яму матэрыялы, над якімі ён рабіў адзін толькі рух рукой. Час хуткасьці

працы быў вылічаны да сэкунды. А тэхнікі-спэцыялістыя, прыстаўленыя для гэтага, усё шукалі новых мэтодаў павышэньня напружнасьці працы.

Усе рабочыя для абароны ад атрутных параў насілі маскі, падобныя да каптуроў, шкло ў адтулінах для вачэй было змазана асобнай тлустасьцю для забясьпекі ад разьядаючых квасаў.

А забясьпека ад машын, якія шалёна круціліся хуткім ходам, была вельмі слабая.

Найлепшым месцам адпачынку быў урэшце „тленны пакой“, дзе дазваляўся рабочым трохxвілінны перапынак пасьля трохгадзіннай працы.

Хмурнае сычэньне і шыпеньне насілася ў паветры, як грымячы прыдушаны гураган. Суставы жалезных рук круціліся і выгіналіся. Бутлі, напоўненыя якойсь густой кляючай масай, качаліся ўгары пад дахам. Якісь смалісты састаў ліўся сам сабой з куба ў куб. Складаныя сумесі ўтвараліся пры дапамозе найдакладнейшых дзіўных апаратаў. У другіх памяшканьнях, вялікіх гмахах, стаялі катлы каля катлоў, катлы на катлох, двох, трохпавярховыя, так сказаць, катлы, каля якіх працавалі рабочыя на доўгіх лесьвіцах. Некалькі пляцформаў, якія былі пабудаваны паміж катлоў, рабілі на Макса ўражаньне готычных цэркваў.

Сярод працы паказалася Максу зданьнё:

Усюль газ, пара, пырскі; і ўсё поўна квасаў—яны лётаюць, пырскаюць; на падлогах нешта трашчыць і гарыць, як фосфар, падлогі парасьлі травамі і валасамі, паміж, як каменныя крошкі, касьцяныя чарапы. Усё гарыць, як пад зваротнікам, палкім агнём. Імшарысты краявід. Пячэ так, што скура робіцца нячулай, а вочы цякуць з акружын, як круглыя, падобныя да пэрлаў, белаватыя болькі. У пакрытых цэмантам закутках ды магілах, як у бліндажох, жывуць нейкія істоты. Адзеты яны ў цяжкія гумовыя шынэлі, у шаломах-масках, праз якія словы вырываюцца, як глухое булькатаньне і хрыпеньне. „Новы чалавек!“—наўчаў нехта, і усё гусьцей, ды гусьцей рабіўся атрутны газ. „Вось урэшце яно!“ Закрычаў патэтычна і здаволена нейчы голас: „сконцэнтраваная газавая хмара, якая дае магчымасьць зьнянацку навесьці на ворага сон і мае ўласьцівасьць зусім не залежаць ад топографічных ды мэтэоролёгічных уплываў.

... Разьвязаць гэту проблему было сапраўды ня так проста...“ У гэтым зданьнёвым кругавідзе асабліва дзіўна было тое, што ён быў правільна і дакладна падзелены геомэтрычнымі лініямі, што нязьлічоныя асобныя часткі ды фігуры былі вельмі тонка і дакладна выраблены і з'організованы, а цэлае прадстаўляла якісь хаос і было падобна да сярэднявяковага зданьня ды шабашу ведзьмаў. Усё парывалася распусьціцца, плыло бяздоньне ў віру, які круціўся, бяздоньне, поўнае багавіньня, сьлімакоў.

Болькі,ператвораныя ў жывыя істоты, гнойныя хадзілі тут разам з чарвякамі і колкімі дзядкамі: усё фабрыкуе, сьсе, удыхае газ, зьмяняе

фарбу і вобраз штохвілю. Угару паднімаюцца чарапашыны і молюскі, цэлыя хмары экзотычных з жывымі мацаламі расьлін, якія ядуць мяса. А над усім гэтым якоесь палкае сьвятло, што магічна пераліваецца, і ўсё ціха. Газавае пекла бяз паху ды гуку, а сонца ў гэтым сучасным пекле пыхае жалезам, нярухомае, кідае палкія праменьні, запаляе паветра, павялічвае гарачыню, як вялікае атмосфэрычнае запальнае шкло. А ўнізе паветра шчыльнейшае, робіцца як малако і плыве паволі, распушчаючы сьлізкія ніткі, над земным балотам, як вялізная хмара сыроваткі... Усе народы, усе земныя істоты прайшлі праз газавы патоп: зьяўляецца новая пустэча: усё ў бледных плямах і пакрыта касьцяной карой.

*

Макс выўчаў табліцы найважнейшых хэмічных вайсковых матэрыялаў. Відавочна, што найноўшых вынаходак там яшчэ ня было. Хэмічную назву, хэмічную формулю, вайсковую назву, вайскова-тэхнічнае займеньне, фізыолёгічнае дзеяньне, фізычную ўласьцівасьць, пункт кіпеньня, лёткасьць, пругкасьць—усё гэта трэ' было грунтоўна апрацаваць і дасьледваць.

Тут даведаўся ён, як у гісторыі разьвіцьця газавай вайны зьмяняліся і самыя газы. Хлёр аддзялялі ад фосгена, газу з большай удушаючай і атручваючай уласьцівасьцю. Пры тэмпэратуры ў восем градусаў фосген рабіўся вадкасьцю, і з пункту погляду фізыкаў яго ледзь можна была назваць газам. І амаль што ўсе матэрыі, якія ўжываліся ў газавай вайне, пры звычайнай тэмпэратуры ды ціску былі ці вадкія, ці цьвёрдыя целы. Засталася толькі назва „газ“ з прычыны таго, што гэтыя матэрыі ў момант дзеяньня знаходзіліся ў становішчы пары ці пыла, як туман або дым. Цьвёрдыя целы, як, напрыклад, паасобныя арсыны, распадаліся ў часе выбуху ў найдрабнейшыя часьцінкі і доўга насіліся ў паветры...

Хэмічныя формулі спачатку мільгалі перад яго вачыма, у яго галаве доўгімі адцягненымі радкамі, якія то разыходзіліся, то зноў злучаліся. Нарэшце ён дасягнуў яснага конкрэтна-жывога, об'ектыўнацьвярозага прадстаўленьня.

Што значыць, напрыклад:




Гэта была формуля хлёровініль-дзі-хлёрарсыну, аднаго аршэньнікавага злучэньня, і ўжывалася для назвы аднаго з трох гатункаў славутага амэрыканскага люізыту.

Спосаб вырабу яго быў вельмі складаны, але, ня гледзячы на гэта, яго магчыма было вырабіць, дзякуючы тэхнічным прыладам, на любой фабрыцы фарбавальных матэрыялаў.

Таксама было ясна, што на гэтым нельга было супакоіцца. Наадварот: усё гаварыла за тое, што і гэта ня было апошнім дасягненьнем,

але гэта формуля была праграмай, сыгналам перасьцярогі, заклікам, пролетарскім загадам: „Уставай, прокляцьцем катаваны“...

Гэта было, так сказаць, сымболем пункту замярзаньня, да якога дайшла буржуазная культура.

Пры гэтым Макс зьвярнуў увагу на нязвычайнае значэньне нормаваньня працы.

Сучасная індустрыя, прыстасаваная да нормы ды масавага вырабу, давала магчымасьць у параўнальна хуткі тэрмін часу пераводзіць пачатковыя экспэрыментаў на масавы выраб. Такім чынам, з прычыны магчымасьці пашырэньня вырабу да колёсальных разьмераў, якая дапамагае далейшаму чыста мэханічнаму працягу ўдалых экспэрымэнтаў, можа ў мірныя часы скараціць выдаткі без небясьпекі для вайсковай магутнасьці.

Дзеля гэтага ўжо даўно амаль усе дзяржавы надаюць вялікае значэньне, таксама і з вайсковых меркаваньняў, ажыцьцяўленьню найстражэйшай нормізацыі ў розных галінах як вайсковай індустрыі, так і агульнай.

Нямецкая індустрыя яшчэ перад вайной 1914—1918 г.г., у працілежнасьць усім другім дзяржавам, мела добра разьвітую нормізацыю. Ня гледзячы на гэта, і тады, у пачатку вайны, у Нямеччыне ў розных галінах панавала вялікая блытаніна з модэлямі. Кожны вайсковы аддзел меў, напрыклад, рыдлёўкі ды іншую акопную прыладу, але ледзь два аддзелы мелі аднолькавыя прылады. Былі нязьлічоныя падводы, часткі да іх, абшыўкі, спраты, оптычныя ды тэлефонныя прылады і яшчэ шмат што другое, што павінна было-б быць аднолькавым ва ўсіх гатунках узброеньня, але ня было. Гэтая стракатасьць яшчэ пагаршалася з-за стану індустрыі. Кожная фабрыка мела свае ўласьцівасьці сваіх фабрыкатаў, часта нязначыя, але абмен імі паміж рознымі фабрыкамі быў немагчымы. Каб падрыхтаваць вайсковую індустрыю і другія да масавай продукцыі вайсковых матэрыялаў, былі організаваны ў розных дзяржавах, як даўно ўжо ў Нямеччыне, нормовачныя камітэты, цесна зьвязаныя з генэральнымі штабамі.

Трэба толькі ўмець слухаць, як „трава расьце!..“—

*

Цяпер мае выступіць Макс перад рабочымі з конкрэтным матэрыялам.

„Корань рэчаў!?—

„Корань рэчаў ёсьць уладаньне сродкамі вырабу!..

„Рабочыя фарбавальнай індустрыі! Вашы браты, вашы таварышы па працы, па клясе змагаюцца па гарадох, а вы: заўтра, пасьлязаўтра ваша продукцыя вырашыць барацьбу. Ваша продукцыя, хэмічныя баявыя матэрыі, скідаюцца з самалётаў на рабочыя кварталы. Рабочыя! Да вашага пролетарскага пачуцьця згоднасьці зьвяртаюся. Рабочыя, станьце нашымі

хаўрусьнікамі па барацьбе! Прэч руйнуючую людзей працу, працу, якую вы, нічога не падазраючы, выконвалі тут у гэтым складзе атруты. Агульная забастоўка! Штурмуйце „чалавечую пастку!“

Сход рабочых фабрыкі быў адзіны крык абурэньня.

„Вон з складу атруты!“

„Штурм на „чалавечую пастку!“

А ў канторы дырэкцыі ўжо трашчэлі тэлефонныя апараты.

Але і ў бліжэйшых мясцовасьцях ужо выклікалі па трывозе аддзелы рабочых ды сялян.

„Ну, цяпер мы выб'ем свалату з „чалавечай пасткі“:

І як стаялі, пусьціліся бегчы, закасваючы рукавы, некаторыя і з нажамі; іх нельга было стрымаць.

Нядоўга выплёўвала „пастка“ кулямётны агонь.

Пачуўся доўгі, сычачы, булькаючы шум:

„Газ!“

„Газ!“

„Газ!“

З вялізнымі стратамі для рабочых штурм быў адбіты.

Пры гэтым здарылася, што нехта прынёс у памяшканьне, можа, невялічкую кроплю газавай вадкасьці на рукаве: кропля выпарылася і ён сам ды пяцьдзесят таварышоў былі атручаны на сьмерць.

Засталося яшчэ і на долю апошняга, які ніяк не даваў веры гэтаму.

Прыйшлося абчысьціць усю фабрыку фарбавальных матэрыялаў.

Навокал на вышынях на кілёмэтр ад фабрыкі заляглі рабочыя. Падвезьлі гарматы і пры пятым стрэле высока паднялося полымя, як агнёвыя гэйзар, з трэскам, сычэньнем, і расьсеялася па ўсяму кругавіду віхорам, як палкі дождж.

„Пастка“ ўзарвалася ў паветра.

Тры дні дзьмуў моцны вецер.

Пары газу прайшлі.

Рабочыя зноў маглі пераехаць у свае памяшканьні.—

## V

Чырвоныя батальёны рабочых ды сялян, якія на сотнях грузавікоў сьпяшаліся раніцою цэлымі колёнамі па розных вуліцах да газавай збраёўні амэрыканскага гораду Эджвўду, раптам убачылі перад сабой у праменьнях усходзячага сонца за белай бліскучай роўнядзьдзю вялізнае поле маку.

Кветкі маку калыхаліся па ветру, разьляталіся, распускаліся і сьвяціліся...

На адну хвіліну колёны спыніліся, аглядаючы пры дапамозе бінокляў і падзорных труб кругавід. Крык радасьці, крык, які перайшоў у магутнае масавае пяяньне: у далячыні над бясконцымі белымі баракамі і на

вяршынях ды дахах ураду, контролю і электрычнай станцыі разьвіваліся сотні чырвоных сьцягоў. На громаадводах кожнага фабрычнага коміна разьвіваўся чырвоны сьцяг.

Эджвуд паў. Эджвуд, наймагутнейшая вайсковая збраёўня на сьвеце, у руках „чырвоных!"

Ура! Ура! Ура!

Як радасныя залпы, вырвалася яно з сотні тысяч грудзей...

У гэты момант пачалі паднімацца: эскадра за эскадрай, баявыя самалёты, выведчыя самалёты, бомбакідальнікі: усё з даўгімі чырвонымі сьцягамі-істужкамі на бартох. Уся лагчына пакрылася пластом чырвоных сьцягоў і шумам мотораў: паветраныя эскадрыльлі плылі спакойна адна за аднэй, пакручаста ныралі ўгару ды ўніз у шкляным паветраным моры і спусьціліся на розных аэродромах пры адначасным радасным рыку соцень фабрычных сырэн...

*

Чырвоная вайсковая рада фарбавальнага трэсту, да якога належалі рабочыя, матросы, афіцэры рэволюцыйнага саюзу афіцэраў, аднагалосна пастанавіла: пачаць непасрэдна наступ на варожыя позыцыі, ангары ды апорныя пункты флёты. Опэрацыйнай базай зьяўляліся прамысловы раён і заваяваныя вайсковыя склады. Мэта: бязьлітаснае зруйнаваньне варожай вайсковай магутнасьці. Адначасна організуецца магутны апарат пропаганды, апрацоўваецца правільны плян кампаніі для моральнага і матэрыяльнага раскладу варожых баявых сіл і пункты гэтага пляну праводзяцца ўжо на вызначаных мясцох. Само сабой зразумела, што пры тэй лютасьці, з якой любяць белыя весьці грамадзянскую вайну, прыдзецца ўжываць і газавую і хэмічную зброю. Пытаньне аб мэтазгоднасьці павінна быць пастаўлена ў цэнтры пры кожным тактычным меркаваньні, а сантымэнты зусім адкінуты...

Неадкладна трэба наладзіць контакт з рэволюцыйнымі організацыямі Японіі, Эўропы, Расіі... Што да народаў, яшчэ нерэволюцыянізаваных, дык апавясьціць іх, што пераможны пролетарыят ня можа ашчасьлівіць праз гвалт другія народы, не рызыкуючы ўласнай перамогай.

Ужо былі вядомы выпадкі, калі эскадрыльлі ўрадовых самалётаў пускалі атрутны газ у раёны рэволюцыйных горных рабочых, затаплялі вугляныя шахты, дзе падазравалі паўстаўшых рэволюцыянэраў. Пры дапамозе перакінчыкаў і перахопленых радыё даведаліся, што ідзе напружная падрыхтоўка, каб шляхам моцнай паветранай бомбардыроўкі зрабіць з Эджвуду цэлае газавае балота... Урэшце: хай самі пакаштуюць таго, што рыхтавалі для нас... Гэта зразумела само сабой...

Зноў загучэлі фабрычныя сырэны.

Чырвоныя сьцягі былі зьняты: Эджвуд ляжаў шэры і халодны.

Самалёты рыхтаваліся да адлёту.

Па невялічкай электрычнай чыгунцы падвозіліся вялізныя цяжкія бомбы на аэродром: яны былі шэрыя, як мышы, тоўстагаловыя і круглыя, падобныя да кітоў.

Каманда.

Звоняць звоны. Мільгаюць сьветлавыя сыгналы.

Гудзе гучнагаварыльнік.

Увага!

Марш!

Першы баявы эшалён, коўзаючыся, хутка паднімаецца ўгару.

Другі...

Унізе махаюць шапкамі.

Зноў: „ура! ура! ура!“

І лётнікі выкідаюць чырвоныя сьцягі...

„Таварышы! Да пабачэньня!“

———

Камандзірам трэцяга эшалёну таварыш Томас.

„Ну, мой хлопчык, дай яшчэ раз руку... Трымайся добра... Мы кінем гэта... У гэтым я цьвёрда ўпэўнены... Шчасьлівай дарогі... Спадзяюся: пасьлязаўтра!..“ І таварыш Франк абняў таварыша Томаса.

Сябры пацалаваліся.

Сьвісток...

І трэці эшалён падняўся...

———

Франк агледзеў газавыя склады. Пастаяннае паступленьне газу было забясьпечана.

„Тут столькі што можна некалькі разоў атруціць газам увесь сьвет...“ А рабочыя розных прадпрыемстваў сабраліся на сход і абмяркоўвалі новы вытворчы плян.

Далейшы выраб атрутных газаў пры вялікай колькасьці хэмічных вайсковых матэрыялаў мог быць адразу прыстасаваны. Для гэтага чырвоная вайсковая рада дала значны лік самалётаў (тыпу „Голіаф“) і панцырнікаў. Таксама аднагалосна выказалі рабочыя гатоўнасьць усё дастаць і ніяк не абмяжоўваць рабочага часу. „Для капіталістычнай гаспадаркі нам шкода было кожнай костачкі... а для сябе, для дыктатуры пролетарыяту... з радасьцю аддамо ўсе мускулы сэрца, мазгі мяса, усе косьці...“

Таксама і вялікая колькасьць хэмікаў, тэхнікаў, інжынэраў, якіх у момант пераходу ўлады прышлося адхіліць, зьявіліся гатовымі далучыцца да „чырвоных“.

„Зусім ясна: капіталістычныя мэтоды вырабу надта нерацыянальныя; у далейшым пры больш продукцыйным гаспадараньні мы зможам лёгка здабыць у пяцьдзесят раз больш, як цяпер... Вы, чырвоныя, зьяўляецеся прадстаўнікамі сучасных тэхнічна-конструкцыйных організацыйных

форм... Занадта кепска, што гэта прыходзіцца цаной крыві вырываць у капіталістых...“

— — —

І ў гэты самы час разьвілася першая фаза тых страшэнных паветраных боек, што павінны былі мець рашучы ўплыў на далейшы поступ здарэньняў у гісторыі Амэрыкі. Паветраныя эскадрыльлі белай і чырвонай флёты рынуліся ў бой, моцна шчапіліся адна з аднэй, як-бы зубамі, і зблытаным сталёвым клубком зваліліся ўніз.

Другія эскадрыльлі затуліліся ў туман, зьяўляліся раптам зусім нечакана з-за туманнай заслоны ці напаўнялі ўсё паветра перад варожымі самалётамі густой заслонай атрутнага газу.

А ўнізе на зямлі маршыравалі мэханічныя арміі: танкі, панцырныя цягнікі, бранявікі... хвалі дыму плылі па краіне, сьвечкі з атрутным газам чадзілі на працягу соцень квадратовых кілёмэтраў... Цэлыя гарады затапляліся ў непраходна-глыбокія і таемныя газавыя балоты... Расьліны, лясы, лугі афарбаваліся ў зялёную, блакітную, лілёвую фарбу. Дзіўныя і рэдкія злучэньні фарбаў выклікалі з зямлі газы. Бясшумна зацягваліся цэлыя краіны, як пасьцілам, сьмяртэльным сном...

А морскія эскадры выходзілі з партоў: крэйсэры, дрэдноўты, падводныя лодкі, гідроплянныя базы...

У морскай флёце бунтавалі: на адным судне паднялі чырвоны сьцяг, потым яшчэ ды яшчэ. Пасьля чырвоныя сьцягі паказаліся па фартох Гаваяў і берагох Панамскага каналу... Гэта быў пачатак вялізнага морскага бою. „Японцы ідуць!..“ разьнеслася вестка. Але, ня гледзячы на тое, што колькасьць абедзьвюх флёт павялічылася, відаць былі толькі чырвоныя і белыя сьцягі: нацыянальныя фарбы ня мелі больш значэньня.

У паветры на зямлі, над вадой і пад вадой змагаюцца, б'юцца на сьмерць, літасьці няма.

Вялікія неапісоўныя ўчынкі, пакута бяз меры, сударгі і схваткі, якіх зямля ня бачыла з пачатку свайго існаваньня, крыкі болю, заклікі аб дапамозе, перадсьмяротны рык...

Кожная жывая істота была ўжо адзначана зданьнёвым знакам, выпаленым газавым лугам...

Крывавае лета віруе...

*

„Таварыш Томас Бутлер забіты ў паветраным баю над Гаваямі.“

Вестка даходзіць да Эджвуду.

Таварыш Мораў ускаквае на самалёт.

Зашпіляецца моцна.

На галаве баявы шалом і газавая маска.

Уперад! Марш!

„Тварыш Франк Мораў забіты ў паветраным баю над Вялікім акіянам!“

Вестка прыходзіць у Эджвуд.

Другі, трэці, чацьверты паўскаквалі на самалёты. Зашпіляюцца моцна.

На галовах баявыя шаломы і газавыя маскі.

Наперад! Марш!

„Другі, трэці, чацьверты забіты ў паветраным баю над Панамай...“

Вестка прыходзіць у Эджвуд.

Сотні людзей тоўпяцца каля гатовых да адлёту самалётаў.

Прыходзяць у ярасьць, калі нельга ляцець.

Кожны чакае аднаго:

„Калі-ж дойдзе чарга да мяне...“

І толькі сьцеражлівасьць, адна баязьнь:

„А, мо' да таго часу і вайне канец!“

Усюды Бутлеры, Моравы і як іх там называюць!..

„Расія выступае! Нямецкі пролетарыят змагаецца!“

Вестка даходзіць да Эджвуду.

„Ура нямецкаму пролетарыяту!“

„Хай жыве Савецкая Расія!“

„І мы, браты, змагаемся, амэрыканскія таварышы, вітаем вас!“

„Рабочыя масы Японіі перашкаджаюць вайне, Іокагама паўстала“.

І гэта вестка прыходзіць у Эджвуд.

„Віват, японскія таварышы!“

„Колёніяльныя народы, Індыя, Кітай, Афрыка...“

„Ура! Наша справа стаіць добра!“

„Вечная памяць правадырцы нашай, забітай на электрычным крэсьле, Мэры Грын, вялікім настаўнікам нашым таварышом Леніну, Розе Люксэмбург і Каролю Лібкнэхту і тысячам зрадна і люта забітым афярам белых бандытаў—

„Наперад!“—

„Баявы шалом і маску!“

„Уперад! Марш!“—

А мільярдэры сядзяць дзесь у гарах і мармычуць:

„Надта шкода, што з проектам засяленьня палярных краін нічога ня вышла... А геолёгі сьцьвярджаюць, што там ёсьць магутныя нетравыя паклады вугля, эксплёатацыя якога вельмі простая і ня зьвязана з буйнымі выдаткамі, а жывёльнае царства... усё гэта зьнікла для чалавецтва... О, які прыбытак!.. А дарагія экспэдыцыі, якія фінансавалі ўсё-ж такі мы, як мы ўсё гэта разьлічым... Здаецца, што сьвет хоча новай сыстэмы разьліку... Так, здаецца, праўду кажучы, пагражала духавенства і прарачалі сьпірыты: пачынаецца тысячалецьце панаваньня простага народу. Гэта патоп. Колькі часу працягнецца ён, каб ачысьціць чалавецтва ад грахоў?! Пэўна тое, што мы заўсёды жадалі толькі найлепшага...“

„Ня бойцеся, паважаныя панове буржуі!“—нясецца радыё з Эджвуду. „Мы не папсуем заходу вашага жыцьця. Бедная порцыя райскага дабра вам забясьпечана. Будзе добра і танна. На высьпе „дзесь“: з какосавымі арэхамі, паляваньнем на малп, хлебнымі дрэвамі, рыбнымі ловамі, рубкай лесу... Выпаўзайце спакойна з вашых горных пячор... Мы не хапаем трупаў, нават калі яны яшчэ і дыхаюць і пахнуць жыцьцём..“

А старыя цэдзяць хорам, праз штучныя залатыя зубы:

„Мы не здамося!“

„Помста!“

І —

Бушуе крывавае лета...

VI

„Бомбы і тлен!“—праклінаў Макс.

„Толькі ня страціць розуму!“ пераконваў яго Вільгельм, а ў самога цяклі сьлёзы па шчоках.

Многа таварышоў скрыгаталі зубамі.

Вестка, атрыманая зараз з Амэрыкі, была сапраўды дзіўная.

Усе позыцыі, заваёваныя пры першым наступе, аж да Эджвуду, трэ' было пакінуць. У самым Эджвудзе ўжо тры дні гарэлі газы, якія запаліліся, амаль што адна трэцяя часьціна яго была атручана газам, аб далейшым адпоры пры гэтых умовах ня было чаго і думаць.

Адным словам: рэволюцыйнае паўстаньне, якое спачатку нечакана пераможна пайшло ўперад, было прыдушана. Прымаючы пад увагу вялікія страты людзьмі, з якімі абавязкова трэ' было лічыцца, здавалася, што магчымасьць новага выбуху ўзброенага паўстаньня была выключана.

Так, амэрыканскі ўрад зноў атрымаў магчымасьць пачаць вайсковыя дзеяньні супроць Японіі.

Калі яшчэ ўявіць сабе, які ўплыў зробіць гэтая вестка на шырокія масы пролетарыяту, дык можна прысьці да роспачы. Ужо зараз кожны дзень прыносіць усё новы цяжар, усё больш чутны галасы тых, хто гатоў на даволі добрых умовах ліквідаваць усё паўстаньне... ужо часьцей балбатаньне аб цьвёрдай, 99 процантавай забясьпецы перамогі... Цяпер трэба: сабраць усе сілы, не распушчацца, з жалезнай бязьлітаснай энэргіяй спыняць усе спробы ворагаў зьменшыць нашу здольнасьць і, у якой форме яны ні выяўляліся-б, рашуча і люта зьнішчаць. Толькі не паддавацца ніякім чынам слабасьці ды кволасьці, не ствараць пераможных настрояў, асабліва ў даны момант. Падобныя становішчы заўсёды парадкалі і кармілі, як у цяпліцы, зраду, вырачэньне, засады пад вельмі радыкальнымі, але хлусьлівымі фразамі. Вар'яты-анархістыя прыгожа гаварылі і балбаталі нешта: яны жадалі-б якраз у гэты момант, як самі

настойна падкрэсьлівалі, узарваць у паветра ўсю „краму“ (так называлі яны сьвет). Падрыхтоўку і выкананьне гэтага нігілістычна-псэўдагероічнага пляну зьнішчэньня аддалі яны, як заўсёды, вялікадушна і ахвотна другім. Самі яны зачыніліся за таемнай дзьверкай, каб у выпадку катастрофы выбуху хутчэй выбрацца з пылу...

І ўсё-ж ткі:

Вялікая, прыгожая, значная надзея гасла.

Падняты чырвоны сьцяг—толькі інтэрмэдыя! Па ёй трэ' вучыцца...

І наступ расійскай Чырвонай арміі спыніўся. Тымчасам сама Нямеччына стала арэнай вайсковых дзеяньняў.

Ангельскія паветраныя эскадрыльлі ўжо зьніжаліся на нямецкай зямлі. За апошнія гады тут пабудаваны вялізныя склады спажыткаў, цэлыя збраёўні і майстэрні для вырабу ды замены часьцей лётных апаратаў..

Пачаўся голад.

Эпідэміі ды хваробы пачалі буйна расьці.

Пролетарыят, які змагаўся, ня меў яшчэ ніякіх вынікаў.

Хоць распачатае тымчасам паўстаньне нямецкіх фабрык фарбавальнага матэрыялу мела посьпех, але надзвычай цяжка і толькі абыяк удалося пусьціць у ход продукцыю, каб забясьпечыць рабочыя масы самымі неабходнымі баявымі сродкамі.

Працы шкодзілі пастаянныя налёты ўрадавых самалётаў, якія дакладна былі дасьведчаны і дакладна ведалі кожнае небясьпечнае месца вялізнага прадпрыемства на падставе зробленых яшчэ ў мірны час навуковых вылічэньняў ды плянаў і з фантастычнай вышыні трапна скідалі свае бомбы.

Гэты руйнавальны агонь скідаўся згары бесьперастанку днём і ўначы; вытворчасьць, урэшце, была зьменшана да мінімуму...

„Газавы вал пасоўваецца!“—чуваць было кожны момант у раёнах Бэрліну, занятых яшчэ рабочымі.

„Цяпер! На гэты раз напэўна! Я ўжо адчуваю...“

Зьявіліся ўжо некалькі вымерных апаратаў, якія зараз выяўлялі кожную домесь газу ў паветры, аналізавалі склад і давалі магчымасьць ўжываць, праўда мізэрныя, меры асьцярожнасьці. Як кожная газавая абарона, так і пролетарская, мела шмат недахватаў. Спроба пабудаваць колектыўныя памяшканьні для абароны ад газаў была няўдалай. Такія рэчы ня робяцца адразу, быццам з зямлі. Усюль быў недахват аб'яднаных сіл, таварышоў, якія мелі-б хоць прымітыўныя веды ў тэхніцы барацьбы з газамі. Спробы ды экспэрымэнты 1915—18 гадоў з прычыны радыкальна зьмененых умоў, нельга была скарыстаць. Усё павялічаліся галасы і гутаркі: „мы бясконца многа празявалі і адсталі ў гэтай галіне і горка плацім за гэта... Гэта каштуе нам калі не перамогі, дык вялікіх чалавечых афяр“.

Распаўсюджваўся настрой лёгкага перапалоху.

І зноў:

„Газавы вал насоўваецца!“

Лютавалі самыя неймаверныя прадстаўленьні аб газавай атацы, бязупынна вялі асьветную ў гэтым кірунку працу найбольш здольныя таварышы...

А газавы вал зноў ня прыходзіў.

Усё яшчэ не...

І ўсё-ж ткі амаль кожны прыслухаўся да першых сымптомаў атручэньня.

Але хутка пролетары зноў магутна аб'ядналіся, узялі ў рукі свае нэрвы і зноў справа пайшла крыху ўперад...

„А няма такі,—жартаваў Макс,—высокіх даведзін з неба! Шкода: тройца прайшла, а то можна было-б казаць: выліў сьвятога духа...“

Гэта і растлумачылася хутка:

Чырвоная хваля натуральна і ў гэты раз яшчэ не затапіла ўсяго сьвету: ёй былі захоплены толькі некаторыя нацыі. І ў канцы гэтага вайсковага пэрыоду прыдзецца стаць перад фактам існаваньня магутнага, цесна скутага блёку савецкіх рэспублік і, як процівагу яму, яшчэ значнага ліку капіталістычных дзяржаў.

*

Як зьмянілася тут усё з таго часу, калі Макс пакінуў Бэрлін!

Поўдня прайшло як ён вярнуўся, але досыць часу, каб адразу пра ўсё даведацца: увесь тэмп барацьбы значна зьмяніўся, таксама нават і рытм паўстаньня.

Для імпэту і размаху месца было мала: цяпер канечна патрэбны былі для барацьбы другія ўласьцівасьці ды здольнасьці. Нястала, марудна, два крокі ўперад, паўтара назад і кожны крок зьвязаны з крывёю, шалёным напружаньнем, калецтвам, нявыгойнымі ранамі—так вялася цяпер барацьба і ў кожным жыла зараз крышталёва чыстае прызнаньне: гэта яшчэ далёка не апошняе, вораг яшчэ і не пачынаў сваіх рэзэрваў, далёка ня вычарпаў сваіх апошніх, самых небясьпечных сродкаў...

Быў зноў цёплы летні вечар.

Нідзе ня відаць было „белых.“

Усюль спакой і цішыня.

„Белыя“ адступілі на свае галоўныя позыцыі.

У першы раз пасьля доўгага тэрміну часу пачуў Макс, што пяюць птушкі.

Ці пялі яны сапраўды!?

Так, яны пялі...

Максу прышлося вельмі стрымацца, каб не зарыдаць.

Было сапраўды дзіўна прыгожа.

І Макс падумаў хвілінку над сьветам, як ён зьявіцца пасьля ўсіх гэтых жахаў ды разаніны...

Палка жадаў ён гэтага.

Зноў запялі птушкі; але дзе-ж яны пялі?

Дрэвы на вуліцах ды бульварах даўно ўжо ўсе былі зьнішчаны, стаялі яшчэ толькі кавалкі іх, абвугленыя ствалы.

А мо' ў дамох?!

Ці не пяюць яны з вашых вачэй, вы, таемныя істоты—муры!?

Некаторыя дамы былі быццам сякерай расьсечаны па сярэдзіне: быў відаць пакой з ложкам ды крэслам, у кутку памыйніца; матрац з трэцяга паверху вісеў на другім, як вялікі выдраны язык, а столь першага паверху ляжала на більярдзе ў памяшканьні сподняга паверху—было быццам на сцэне: не рачаісна і ня зьвязана ўжо ні з чым жывым: быццам людзі і ня жылі ў гэтых цагляных дзірках: нявыабражальнае выабражэньне...

Весткі, якія паступілі за ноч, былі цалкам памысныя.

Націск рускай арміі быў ужо значна прыметны. Варожы фронт на ўсходзе ўжо быў добра памяты: ня сёньня—заўтра будзе прарыў. Чырвоная дзірка на ўсходзе цяпер ужо факт. Урэшце! Тымчасам адбыўся і паветраны бой, таксама з посьпехам для „чырвоных", і не пазьней заўтрашняга вечара можна чакаць першых чырвоных расійскіх самалётаў над Бэрлінам...

З некалькімі таварышамі сядзеў Макс да самага золку ў сутарэньні.

У Лены ўсё было добра. Яна ўсё яшчэ была ва Ўсходняй Прусіі, дзе справа ішла ўперад. Наогул: краіна рыхтавалася...

Таварышы прыпаміналі дробязь барацьбы, называлі то аднаго, то другога, але часу не хапала пералічыць усіх тых, хто зрабіў штось асаблівае: усе трымаліся дасканала.

Кожны з іх і ніхто з іх ня быў героем. „Герой" зрабілася колектыўным паняцьцем. Героем быў пролетарыят.

Некаторыя... але гэта было вядома і раней... што яны адступяцца і адыйдуць, гэта прадбачылі, і гэта ня выклікала асаблівага расчараваньня.

„Яны яшчэ далёка ня робяць перамогі"...

„І калі мы ўсе, кажу я, што тут сядзім, у момант згінем, дык рух пойдзе далей, рух ня спыняецца і ня гіне з-за лёсу адзінак. Кожнага з нас ён можа пагнаць, сёньня аднаго, заўтра другога, але рух... рух застанецца. А комуністычны рух—гэта матэрыяльнае ды ідэолёгічнае скарыстаньне і колектыўнае атаксаваньне клясавых супярэчнасьцяй. Гэты рух будзе, пакуль адзін жыве на сродкі другога, пакуль адзін сыты і здаволена пацірае сабе рукі, а другі блізкі пакутуе і галадуе..."

Потым гутарка перайшла да палонных.

Таварышы гутарылі ўцішку.

Язык адмаўляўся сказаць аб усіх тых лютасьцях і зьвярыных подласьцях, якія ўжывалі „белыя" супроць зусім безабаронных і амаль што паміраўшых. Што дзіўнага: даўно ўжо нікога не абурала, што палонных прывязвалі тоўстымі ланцугамі да дрэў і ліхтаровых слупоў ды кары-

сталіся імі, як мішэняй пры вясёлай стральбе ў цэль з пісталетаў... Прывязваньне было вядома яшчэ з часу вайны... А вось, што трупам адразалі галовы і натыкалі іх на штых—гэтага нават не дапушчалі. Лічылі гэта абсолютна немагчымым і абвінавачвалі апавядальнікаў у гістэрычным пераўвялічэньні...

„Да зброі!“

Таварышы ўсталі.

„Сёньня ці заўтра лёс будзе вырашаны! Сёньня адзін, Макс, заўтра другі. Рабі добра! Бывай здароў!..“

Макс і Вільгельм разьвіталіся.

Моўчкі заняў кожны сваё месца.

Макс з пяцьма ручнымі гранатамі за поясам, са стрэльбай на прыцэл стаяў на каленах за комінам на даху кашараў і напружна глядзеў на вуліцу.

Было палова на чацьвертую раніцы.

Поўная цішыня.

Часамі даносіліся то тут, то там далёкія стрэлы.

Як лапы павука, падніmаліся цяпер праменьні сонца па кругавідзе. Вялізныя воблакі афарбоўваліся ў сьвежую яркую багру, падобныя да сьвежых крывавых кавалкаў мяса.

## VII

Бомбардыроўка цягнулася ня больш як тры хвіліны.

Пяць газавых бомб было скінута адначасна.

Атручаны газам быў другі вучастак. Газамі былі захоплены таксама і сумежныя паркі і будынкі электрычнай станцыі на галоўнай вуліцы.

Зьявілася газавае балота.

Хоць Макс пры зьяўленьні самалётаў-бомбакідальнікаў зараз-жа кінуўся ўцякаць, але ўсё-ж ткі яму прыйшлося газу глынуць добра.

Нават і цяпер, калі ён з усіх сіл бяжыць па вуліцы, яму ўсё здаецца, нібы ён у самай гушчыні газаў.

Нікога ня відаць.

Такім чынам ён ніяк ня можа ўцяміць, дзе ён: у межах ці па-за межамі атручанай зоны.

„Дрэнная справа“,—думае ён, „процігазавых аддзелаў няма ў нас, хлёрнай вапны толькі невялічкая колькасьць...“

Шкуматам хусткі затыкае ён сабе рот і нос. Вочы сьвярбяць, як дзьве выпаленыя раны. Аўтоматычна пачынае ён рыкаць. У вушох нешта цікае. Ён хістаецца, спатыкаецца. Траціць роўнавагу...

Апошнім напружаньнем болі, нібы пад уплывам нэрвовага ўзбуджэньня, робіць ён спробу выпрастацца.

„Энэргіі! Энэргіі! Макс!“—кажа ён сабе. Хістаючыся і спатыкаючыся, робіць яшчэ колькі крокаў.

„Трэба абавязкова ўзяць у іх закладнікаў і застрашыць: дажывотнае „да сьценкі...“, як мера ўціску супраць барбарскага, нялюдзкага вядзеньня вайны. Ну, добра-ж: гэтым яны самі вырылі сабе яму.

...Якіх непраўдападобных афяр ні каштавала-б гэта нам...

Вось ён званітаваў.

Доўгае кровацячэньне.

Нудзіць: кішкі высока паднімаюцца.

„Млосьць і на душы. Што з табой, Макс!? Няўжо-ж на гэты раз сур'ёзна!? Не блазнуй! Гэта ня можа, не павінна здарыцца... Сёньня ці заўтра будзе канец.

...Толькі-б ня зараз“.

Уся паверхня скуры быццам спалена, сьвярбіць, і знадворку, і глыбока ў душы, і нейк жудасна. Паднябеньне пакрываецца тоўстым налётам, з кожным удыханьнем быццам уцягваеш вадкі агонь.

„Ці заражоны я?.. Ці магу я да таварышоў, ці не заражу я і іх“, як было гэта пры штурме „пасткі“!?.

Ці няма якой дэзынфэкцыі...“

„Не, годзе, я не памру!“ Запэўняе ён сябе і дрыжыць у корчах. „Мне толькі троху млосна!“ Паддае ён сабе духу.

„Дрэнная трава ня гіне. Са мной нічога ня здарыцца.

Усё добра будзе“.

І цяжка, марудна на каленках засоўваецца ён за рог.

Дотык і здольнасьць разьбірацца ня дзеюць. Найбліжэйшыя рэчы разам адсоўваюцца далёка, як ува сьне.

Поле зроку звужаецца, адсоўваецца ў бок.

Фронт дамоў то зьяўляецца перад ім, то зьнікае на заднім пляне: вострыя куткі завінуты ў нутро...

Цяжка, як мяшок, валіцца ён, падпіраючыся наперад рукамі.

Яму здаецца, быццам ён валіцца шмат тысяч мэтраў у глыбіню.

Гэта цягнецца нібы цэлае жыцьцё...

Пераварачваецца на бок. Качаецца па зямлі.

Пачуцьця важкасьці няма...

Нібы на крылах нясецца ён над зямлёй.

Ляжыць усё...

Як доўга?—

Зноў прачынаецца...

Гадзіньнік на вежы б'е зараз пяць.

Ён ня ведае: ці гэта пяць раніцы, ці вечару.

Паўтарае быццам з ранейшага жыцьця:

„Толькі не цяпер... Сёньня ці заўтра вырашыцца...

Ах, як прыгожа, дзіўна, добра... Чырвоныя самалёты над Бэрлінам“.

Маска са штыком раптам вырастае перад ім.

„Рукі ўгору!“

Макс мэханічна робіць рукамі рух угору...

Штык прыстаўлены да яго грудзей.

Падыходзіць, цяжка ступаючы, другі, трэці, яшчэ адзін: усе яны адзеты ў чорна-бліскучую гумовую форму, падобную да вопраткі нырца. Адзіная адзнака, якую яны мелі: па два невялічкія белабляшаныя гузікі з чарапамі на абодвух канцох каўняра.

„Толькі не марудзіць!.. Марш! Паварот! Марш! Да сьценкі...“

Галасы, заглушаныя маскамі, даходзяць нібы з глыбіні.

Макса проста прыпіраюць да сьцяны.

Ён стаіць ужо тварам да сьцяны.

Кароткая тоўстая зьлітая сьцяна знаходзілася паміж двух дамоў— гастраномічным магазынам Андрэя Грэйліха і фабрыкай дамавін Грынэйзэна, заснаванай у 1860 годзе.

Макс заўважае:

Цагляная сьцяна толькі абы як замазана: усюль шчыліны, адтуліны, дзюркі з кулак.

„Бедная дзіця, усё ў восьпінах...“

„Ага“,—дапаўняе і тлумачыць ён сабе: „шал“.

Як цяжкае волава, уціскае яго газ.

Зямля на гэтым месцы зноў нібы бяздоньне і сьлізкая. Унізе плёскат, як-бы хваляй на акіяне...

У апошні момант ён баіцца пасьлізнуцца.

Раптам адчувае ён у глотцы, што мусіць крычаць.

Гэта быў доўгі, сьціскаючы, востра рэжучы боль горла.

Крычаць, толькі крычаць.

І ён крычыць:

„Насустрэчу Савецкай Нямеччыне!“

Пот коціцца з яго.

Выгінаецца троху наперад.

Зьлёгку датыкаецца лобам да сьцяны.

Траціць зрок. Зрок расплываецца.

Зямля пад ім коціцца, як хвалі...

І —

Хуткім рухам раптам азіраецца кругом...

Раздаўся залп.

*

Толькі праз колькі месяцаў чырвоным процівагазавым камандам удалося абсушыць газавае балота, у якое тварылі былі сталіцу ўрадавыя лётнікі.

*Канец.*

Пераклаў з нямецкай мовы **Ю. Э. Зэмель.**

# ВІХОР НА БАЛОЦЕ

*П'еса ў 4 дзеях*

**Міхась Зарэцкі**

Прысьвячаю—
Л. Мазалеўскай

## АСОБЫ:

1. Даніла Загорскі.
2. Надзея—яго жонка.
3. Ганна—дзяўчына работніца.
4. Барбара—гандлярка.
5. Волька—яе дачка.
6. Мяркулавіч—быўшы чыноўнік.
7. Юзік—яго сын, піонэр.
8. Санька-шавец—малады хлопец, п'янчужка.
9. Васька Дудзін—хлюст.
10. Бабка Пілаціха—кульгавая пляткарка.
11. Люся } мяшчаначкі.
12. Нюся }
13. Мешчанін у падзьдзёўцы.
14. Мешчанін у фрэнчы.
15. Старэйшы міліцыянэр.

Рабочыя, камсамольцы, піонэры, мяшчане, мяшчанкі, міліцыя і г. д.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Першамайскае сьвята за горадам. На сцэне—чыстая вясёлая палянка, за якой пачынаецца лес. Ясны сонечны дзень. Навокал—перамяшаныя гукі натоўпу. Чуваць здалёку музыка, песьні, бой піонэрскага барабана. Па сцэне купкамі туды-сюды пераходзяць людзі, галоўным чынам—моладзь. Усе па сьвяточнаму апрануты, ува ўсіх узьняты настрой.

Адначасна на сцэну ўваходзяць з левага боку Барбара з вялізным кошам, з правага—Мяркулавіч, трымаючы за руку Юзіка.

Барбара. Каму булачак, пернікаў, плюшак! Сьвежанькія, цёпленькія. Каму булачак, плюшак!.. Каму пернікаў!..

Мяркулавіч. Як пачнуць раздаваць падарункі, тады пушчу... Тады—пабяжыш. А цяпер няма чаго лахаць там, дзе ня трэба. (Убачыў Барбару). Барбара Карпаўна, маё шанаваньне! Вам дык і сьвята няма—

усё гандлюеце, усё багацееце. (Вітаецца). Хе-хе... А вы сёньня, Карпаўна, як макаў цьвет. Хе-хе... Сонейка грэе, кроў гуляе... Комплекцыя...

Барбара. А што вы, Мяркулавіч, дзе ўжо там! Ня тая пара... Вы можа дачку маю бачылі?

Мяркулавіч. Не, я толькі-толькі прышоў. Заманулася вось і мне, старому, падзівіцца на іхнае майскае сьвята... Ня тое, Карпаўна, ой не, ня тое. Бывала, калі табельны дзень, дык гэта-ж—ого!.. Служэніе архірэйскае, крэсны ход... пратэсы, рызы, званы... саборныя пеўчыя... Ясната, благалепіе...

Барбара. Кажуць, будзе ў іх курнавал нейкі сёньня... Ды гэтая-ж будзе—Ганна, што ў Шулейкі жыве, ведаеце? Яна будзе самая першая, быццам княгіня якая. Уборы спэцыяльныя ладзіла... Песьні нейкія будзе сьпяваць...

Мяркулавіч. Барбара Карпаўна, я-ж яе ведаю, як аблупленую. За прабачэньнем,—круцёлка, распусьніца... (Таемна). Гаспадара майго Данілу як завілаводзіла, чулі? Хаты роднае выракся. Жонка хворая ляжыць, дык—і ня ў той бок. Калі толькі вольная хвіліна, дык і пашоў, пацягнуўся. (Яшчэ больш таемна). Надовечы я натрапіў у садзе на іх... позна ўвечары. Сядзяць сабе—нібы-та што... Удвух... Я прайшоў каля іх—сядзяць. Вярнуўся—сядзяць. Кажу—добры вечар, Даніла! Дык яна яшчэ раней за яго, ды спакойна так, быццам і нічога такога:—хадзіце, Мяркулавіч, пасядзім, пагаворым!.. Чулі вы гэта, га?.. Чулі?.. (У захапленьні выпусьціў сынаву руку. Той уцёк).

Барбара (зацікавіўшыся). Цалаваліся?

Мяркулавіч. Ня бачыў я. Напэўна, цалаваліся, бо зусім ужо цёмна было. А жонка хворая, ляжыць адна-адзінютка.

Барбара. Памрэ, мусіць, Надзея.

Мяркулавіч. Напэўна, памрэ. Дый лепш памерці, чымся так жыць. Вось гэтая шлюха і мацае ўжо сабе месца. Мужчына малады, здаровы, хата свая—усё, што трэба.

Барбара (пад'юджваючы). А вас, Мяркулавіч, яна напэўна тады з кватэры згоніць за тое, што цяпер так пра яе гаворыце.

Мяркулавіч (палахліва азіраецца). Мяне? Хе-хе... Я вам так адкрыта ўсё гавару, Барбара Карпаўна, як свайму чалавеку. Я ведаю, што вы нікому ня скажаце.

Барбара (самаздаволена рагоча).

Мяркулавіч (хапіўся сына). А ўцёк-жа, каб на яго ліха. Ня ўпільнуеш. Юзік! Ю-зік! (кінуўся за сынам).

Барбара. Ха-ха-ха... Яшчэ паглядзім, Данілка, як што куды павернецца... Каму булачак, пернікаў, плюшак! Сьвежанькія, цёпленькія...(Ідзе ў правы бок. Цераз сцэну праходзіць Люся і Нюся).

Люся. Натуральна, спазьнілася. Устала з пасьцелі, канечна, а дзесятай гадзіне, зрабіла мініяцюр, а потым, наўпроціў, прычоску, выпіла шклянку какавы і зьела буцярброду... А што тут, Нюсечка, ёсьць цікавага?

Нюся. Фі, Люсечка, ірунда. Няма нават ні аднаго алігантнага кавалера. Я з нуды зьела ўжо пяць порцый сахарнага марожана.

Люся. А Дудзін тут?

Нюся. Фі, ірунда. Я абсолютна яго ня шукала. Не намерана...

Люся. Ён аднак алігантны кавалер, Нюсечка. Ён казаў, што будзе сёньня за мной ухаджваць і паставіць, канечна, угашчэньне.

Нюся. А памойму, Люсечка, ён, напроціў, за Барбарынай дачкой ухаджвае.

Люся. Я, Нюся, зусім не чакала ад цябе нічога падобнага. Калі табе сімпацічная гэта Волька, дык і гуляй з ёй, а не ў маім обчасьцьве.

Нюся. Фі, ірунда. Ты такая, Люся, нэрвозная, што заўсёды злуешся... (Углядаецца ў лес). Ай, ідзе сюды... І з ёй, з Волькай, яй-права...

Люся. Я не ў распалажэньні з ім сустракацца. Хадзем, Нюся, трошку пройдземся з табой падручку. (Выходзяць. Праз хвіліну з лесу на сцэну ўваходзяць Дудзін і Волька).

Дудзін. Ты цяпер ідзі ўжо дахаты, Волечка. Мне трэба сустрэць тут аднаго знаёмага таварыша і пагутарыць з ім аб пільнай справе, а ўвечары мы зноў убачымся. Прыходзь да мяне—я куплю табе цукерак, арэхаў...

Волька. Васілёк... што ты? Мне цукерак ня трэба. Хіба я за цукеркамі да цябе прыходжу? Ты заўсёды гаворыш са мной, як з маленькай, быццам зусім не кахаеш мяне, а забаўляешся толькі, як з дзіцянём.

Дудзін. Я пажартаваў, Волечка. Я сур'ёзна цябе кахаю—ты-ж сама бачыш—сустракаюся з табой, цалуюся, жалею цябе. Я нават не гляджу, што гэта мне можа прынесьці розныя няпрыемнасьці ў сэнсе маёй рэпутацыі, бо ты—непрацоўны элемэнт і дачка гандляркі. А мне знаёмы таварыш абяцаў знайсьці адказную службу на семдзесят рублёў пэнсіі.

Волька. Ай, Васілёк, не кажы ты пра гэта. Ты заўсёды неяк сярдзіта гаворыш са мной, быццам злуешся на мяне за наша каханьне. Ведаеш што, Васілёк? Мы можам зрабіць так, што ніхто-ніхто пра гэта ведаць ня будзе. Нават гэта будзе цікавей... сапраўды... Мы з табой будзем сустракацца там, дзе ніхто нас ня ўбачыць. Ты скажы толькі, куды мне прысьці, дык я і пайду. Я зраблю ўсё, што ты захочаш, толькі ты жалей мяне, ня злуйся...

Дудзін. Што-ж, я на цябе ня злуюся. Ты не вінавата... Прыдзі сягоньня ўвечары—у мяне нікога ня будзе, і мы з табой, натуральна, будзем адны.

Волька. Я прыду, Васілёк. Як сьцямнее ўжо... добра? Я скажу мамцы, што пайду на спэктакль—яна пусьціць. Толькі ты не кажы нікому, а то сорамна будзе.

Дудзін. Са мной—ня бойся нічога. Ну, дык ідзі цяпер. Вунь твая матка булкі прадае—скажы ёй загадзя, што ўвечары на спэктакль пойдзеш.

Волька. А ты Васілёк?

Дудзін (важна). Я павінен убачыць тут адказнага таварыша... разумееш?

Волька (туліцца да яго). Ты, Васілёк, сапраўды кахаеш мяне?

Дудзін. Кахаю, вядома. Ну ідзі, ідзі... Прыходзь увечары... (Волька пашла).

Дудзін (адзін). Яна павінна тут быць з гэтым карнавалам. Добра, што Вольку выправіў, а то замінала-б толькі. Санька казаў, што бачыў сёньня яе там, у горадзе. (З захапленьнем). У белай сукенцы, у кветках, у чырвоных стужках... Вастораг... Усе хлопцы за ёй, як шалёныя. (Прымае позу). Што-ж, можам і мы зьвярнуць сваю ўвагу, вядома. (Чапурыцца). Мне што—я ў гэтай справе мастак... хе-хе... Бабы да мяне, як мухі да мёду... Натуральна... (Млосна). Эх, салодкая гэта Волька. Толькі нудная крыху. Няма ў ёй таго абыходжаньня... У іншай, дык гэта—шык, вастораг, далікатнасьць. А Волька—простая. Мяшчанка... Ну-с, паспрабуем узяцца за Ганначку. Казалі—баба ня гордая... Раз, два, дый у дамкі... хе-хе... (Нездалёк чуваць гукі гармоні. Углядаецца). Санька прэцца. Санька! Санька!.. Хадзі сюды, шкет. (Зьяўляецца Санька-шавец з гармоняй і з ім некалькі хлопцаў).

Санька (п'янаваты. Грае на гармоні і пяе. Хлопцы бязладна падпяваюць).

Сьвеціць сонца, сьвеціць ярка—
Мая любка—пролетарка.

---

Мяне, мілы, не чапай—
Заплаці—тады кахай!

---

А я хлопчык-піонэр—
Ды каха с напавер.

Весела мне, Васька Дудзін. Здаецца, ну што там такога? Ну—май, май... сонца сьвеціць, птушачкі... музыка... піонэры сьпяваюць... А ў мяне ў грудзёх—вось тут, у сэрцы, так нешта і круціць і круціць, быццам хто вальца танцуе. Радасна так, што хочацца закрычаць. (Крычыць і з усіх сіл рэжа на гармоні). Га-а-а-а!.. Во як... І каб-жа выпіў, а то—ані-ні...

Дудзін. Брэшаш.

Санька (зьбіты з панталыку). Я? Ага, правільна... Крышку выпіў. Ты, Васька, праўду кажаш. Але-ж мала, зусім мала. (Раптам мяняе тон, у захапленьні). А якая-ж прыгожая, а якая-ж харошая, ай-яй-я!.. Кветкі, стужкі... Вочы такія... бровы... вусны... Я кажу:—Ганулька! Не магу ўстрымацца, павінен цябе пацалаваць... Пацалаваў раз, другі, трэці...

Дудзін. Брэшаш!

Санька. Я? Ага, так-так... Крышку зbрахаў. Гэта я толькі хацеў яе пацалаваць. (Зноў у захапленьні). А фігурка, а грудкі... а тут... а тут... Ну, не раўнуючы, як... як... (заўважыў Барбару, якая набліжаецца), як цётка Барбара. (Кідаецца да яе). Цётка Барбара! Сэрца маё! Птушанятка маё,

зязюлечка, канарэечка, галачка... Каханка мая нясуверная! (Памыкаецца абняць яе, яна адбіваецца).

Барбара. Адчапіся, назола! Не раўня я табе—жарцікі строіць... Паглядзі, вунь ідуць ужо курнавалы. Вунь—дзевак, як маку. (Да гэтага часу на сцэне сабралася ўжо крыху народу. Падыходзяць яшчэ. Зьявіўся Мяркулавіч з Юзікам, прыплылі Люся і Нюся).

Мяркулавіч (уваходзячы)... званы звоняць, служэніе архірэйскае... ясната кругом, благалепіе...

Юзік. Татка, пусьці, там атрад наш сабраўся.

Мяркулавіч. Ня можна, сынок, ня можна. Як пачнуць раздаваць падарункі, тады пабяжыш.

Юзік. Дык я зноў уцяку. (Уліваюцца ў натоўп).

Люся. Я, Нюся, абсолютна не абажаю карнавалаў.

Нюся. Фі,ірунда. Ніякай алігантнасьці няма ў комсамолак. Прылічны кавалер ніколі з імі ня будзе вадзіць кумпанію.

Люся. Ай, Нюсечка, Дудзін тут. Вунь ён стаіць! Я зусім не ў распалажэньні з ім сустракацца. (Гаворыць так, каб пачуў Дудзін). Як горача сёньня! У мяне нават у галаве кружэньне можа быць. Ух! (Дудзін абарачваецца). Добры дзень, Васіль Пятровіч! А вам дык і сорамна крыху—не пазнаваць сваіх добрых знаёмых. Мы зусім ад вас гэтага не чакалі. (Падыходзяць да Дудзіна, заводзяць з ім гутарку. На сцэне ўжо поўна народу. Гутарка, сьмех, асобныя галасы:—Ідуць! Вунь! Завярнуліся! Як прыгожа!.. Чуваць здалёку музыка, якая з кожнай хвілінай расьце. Да музыкі далучаецца вясёлая харавая песьня. На сцэну з правага боку зьяўляецца першамайскі карнавал. Сьпераду ідуць дзеці ў белым адзеньні—нясуць кветкі, чырвоныя сьцягі, лёзунгі і г. д. За імі ў прыгожых яскравых вопратках розныя сымболічныя фігуры і групы, жывыя карціны і інш. У цэнтры карнавала—Ганна, якая выяўляе сабой фігуру Свабоды. На сцэне карнавал спыняецца).

Ганна (пяе).

У зорных прасторах, у далях крыштальных
Нам сьвецяцца шчасьця жывыя агні—
Вясёлым прыветам і радасьцю дружнай
Сустрэнем мы новыя ясныя дні.

Хор: Красуй, сьпявай,
Вясёлы май!
Нясі у сьвет
Ты наш прывет.
Хто ў грозны бой
Ідзе сьцяной,
Таго вітай,
Вясёлы май!

Мы злучаны воляй магутнай мільёнаў,
Адзіным агнём паланее наш зрок,
Адзіная бура ўзьвіхрыла нам грудзі
І сілу ўліла ў наш напружаны крок.

Хор: Красуй, сьпявай і г. д.

Скрозь шэрую слоту марудлівых будняў
Нясём мы нязгасны чырвоны пажар—
У бурах сусьвету, у стогнах віхуры
Мы пышна засьвецім свабоды аўтар.
Х о р: Красуй, сьпявай і г. д.

(Апошнюю прыпеўку сьпявае большасьць прысутных. Сьмелы бадзёры напеў захапляе ўсіх, узьнімае настрой, даводзіць да экстазу. Як скончылася песьня,—крык шум, мітусьня. Сам сабой наладжваецца мітынг. Сярод натоўпу на ўзвышшы Ганна. Яна рухам рукі спыняе гоман народу і пачынае гаварыць звонкім чыстым голасам. Каля яе мітусіцца калматая галава Санькі-шаўца).

Г а н н а. Таварышы! Гэта сонечнае сьвята вясны, сьвята вольнае майскае радасьці хай будзе кожнаму з нас яскравай адзнакай таго, што наша вясна надыйшла, што зацьвіла, закрасавала наша агульная радасьць. Прад вачмі кожнага з нас сёньня павінны паўстаць бязьмежныя прасторы сусьвету, дзе яшчэ носяцца чорныя цені, дзе яшчэ чутны стогны і енкі нашых братоў. Наша вясна забуяе ў гэтых прасторах, яна апаўе ўсю зямлю новай радасьцю, новым шчасьцем—мы верым у гэта... Верым, таварышы!.. Майскае сьвята—сымболь нашай сусьветнай лучнасьці! Майскае сьвята—сымболь нашае неперыможнае сілы. Хай жыве наша рабочае першае мая!

(Яе словы пакрываюцца магутным крыкам „гура“, музыка грае міжнародны гімн. То там, то сям над натоўпам узьнімаюцца фігуры рабочых, якія выкрыкваюць розныя рэволюцыйныя лёзунгі. Натоўп пакрывае іх крыкамі радаснага захапленьня. Удзельнікі карнавалу перамяшаліся з іншым народам. Увесь натоўп паступова пасуваецца налева, куды потым і зьнікае З яго асяродку на пярэдні плян вырываецца Санька-шавец, вядучы за руку Ганну. Ганна бясьсільна яму паддаецца—яна, відаць, страшэнна змарылася. Яе твар распален прыгожай здаровай чырваньню, а ў млявых ад зморы вачох пераліваецца цэлае мора шчасьця і радасьці).

Г а н н а. Пачакай, Санька, куды ты вядзеш! Я так змарылася. Ух, як добра сёньня, як весела. Сама прырода зрабіла ўсё, што магла, каб аздобіць нашае сьвята. Якая пагода сёньня! Гэта-ж, Санька, здаецца, першы такі дзень сёлета, га?..

С а н ь к а. Першы, вядома. Птушачкі пяюць...

Г а н н а (сьмяючыся). Ну, кінь ты глупства казаць—дзе ты птушак пачуў?

С а н ь к а. Ну, піонэры... Слухай, Ганна, і мне-ж таксама весела. Я адчуваю, што сэрца ў мяне паўнютка наліта нечым такім... салодкім такім... салодкім-салодкім... шыпучым...

Г а н н а (з дакорам). П'еш ты ўсё, Санька. У цябе ніколі і радасьці свае ня бывае, а ўсё чужая, невядомая—прыходзіць невядома адкуль і невядома куды рассыпаецца. Пакуль у крыві гарэлка, патуль і радасьць у сэрцы, а тады—пуста-пусьценька. І нудна тады, і сум на душы, і нос павесіўшы ходзіш. Праўда, Санька?

С а н ь к а. У мяне, значыць, радасьць хэмічная, алькогольная... А хіба ня ўсё роўна, Ганулька? Ты вось вясёлая, радая, што першае

мая. А я—што выпіў. Але-ж нам абоім весела, праўда? (Раптам хапае яе за рукі і крычыць з жартлівай афэктацыяй). Ганулька, прыгожая ты мая, залатая! Дай я цябе з радасьці пацалую. Адзін разочак, толькі адзін, далі-бог.

Ганна (сьмяючыся). Ну, цалуй, калі так ужо хочацца.

Санька (парыўчата абымае яе, цалуе некалькі раз і крычыць). Васька! Васька! Глядзі... Хадзі сюды, шкет параны! (Падыходзіць Дудзін). Што, бачыў, га? А ты казаў, што брашу. Дазвольце пазнаёміць: мой прыяцель, малады чалавек і кавалер...

Дудзін. Васіль Пятровіч Дудзін. Прыемна з вамі пазнаёміцца. Мы ўжо некалькі раз бачылі вас і, натуральна, цікавіліся вашай асобай. Вы так цудоўна сьпяваеце, што я гатоў цэлы дзень слухаць вашыя песьні. Як вам падабаецца сёнешняя пагода?

Ганна (з цікавасьцю яго разглядае). Пагода сёньня добрая. Мне здаецца, што вы таксама здаволены ёй? У вас на твары такі бліскучы выраз.

Дудзін (прымае гэта за комплімэнт). Што вы... Куды нам з нашым выразам. Самы звычайны... Перад вашым цудоўным вобразам усе іншыя вобразы, натуральна, бляднеюць.

Ганна. Ваш вобраз ня можа збляднець. Ён усёроўна зьзяе, як сонца.

Дудзін (здаволены пачаткам гутаркі). Хе-хе... Дазвольце прайціцца... Пры такім гарачым надвор'і, натуральна, ня шкодзіць зьесьці порцыю марожанага і выпіць куфлю халоднага піва.

Ганна. О не, я баюся, каб не прастудзіцца. Яшчэ, чаго добрага, захварэю.

Дудзін. Што вы! Хіба можа хвароба напасьці на такую цудоўную красуню, як вы?

Ганна. О, яшчэ як! (Ёй ужо пачынае дакучаць гэта гутарка). Вы ідзіце без мяне, калі хочаце. Вунь прадаюць марожанае, а вунь, бачыце, піва цэлая бочка.

Дудзін. Бяз вас—ні за што. Мы не з такіх, дазвольце сказаць, кавалераў, каб шкадаваць для барышні на ўгашчэньне. Тым больш, калі гэта барышня закранула наша сэрца вострай стралой амураў...

Ганна (няўважна). Ужо закранула? Што вы кажаце?

Дудзін (зусім пэўны ў сваёй удачы). З першага погляду, як я меў шчасьце зірнуць на ваша цудоўнае хараство, я навекі загінуў у сетках каханьня. Маё гарачае сэрца і палкая душа трапілі ў вашы бажэсьцьвеныя ручкі, як райская птушка ў залатую клетку. (Нахіляецца да яе). Хе-хе... Вы ня можаце сабе прыставіць, як мне вельмі прыемна завесьці з вашай асобай блізкае знаёмства. Дазвольце ручку...

(У гэты момант на сцэне зьяўляецца Даніла. Убачыўшы яго, Ганна бесцарамонна кідае Дудзіна і йдзе яму насустрэчу. Дудзін стаіць асалапелы, Санька і іншыя хлопцы, якія падыйшлі да яго, сьмяюцца. Потым Дудзін кідае ў бок Ганны злосны погляд і, сярдзіта махаючы рукамі, сыходзіць са сцэны).

Ганна. А, Даніла! І ты прышоў на маёўку? Добры дзень!

Даніла. Я хаджу ўжо тут гадзіны чатыры. Мне хацелася ўбачыць цябе, але ў гэткім натоўпе ня дужа лёгка знайсьці патрэбнага чалавека. Што гэта за дзіўнае ўбраньне ў цябе?

Ганна. Я прымала ўдзел у карнавале. Дык ты мяне шукаў? Справу якую маеш, ці што?

Даніла. Мы ўжо цэлых два дні ня бачыліся. А мне ня бачыць цябе гэта значыць—ня бачыць жывога чалавека. Ты сама ведаеш.

Ганна. О, вядома! Людзей многа, а чалавек адзін. Ты-ж як той самотны падарожнік у дзікіх нетрах: цемра, жудасьць навокал, зьвяры выюць, зубамі ляскаюць...

Даніла. Якая ты, Ганна, вясёлая сёньня!

Ганна. Я заўсёды такая. Давай сядзем, Даніла, пагутарым. Я страшэнна змарылася—так многа ўражаньняў, адчуваньняў! Шкода, што ты ня бачыў нашага карнавалу. (Сядаюць на дол). Ну, падарожнік, кажы, якое ліха цябе напаткала? У цябе зноў у вачох журба сусьветная.

Даніла (з усьмешкай). Цяпер усё добра. Мне-ж досыць толькі сустрэцца з табой, як адразу разьвеецца ўсякая журба. Я загадзя адчуваю што вось зараз ты скажаш мне нешта такое простае, жыцьцёвае—і ўсё стане ясна наперадзе, усё знойдзе свой сэнс. І мне ўжо адразу спакойна робіцца.

Ганна. Дык, выходзіць, нам і гаварыць зусім ня трэба. Сустрэліся, паглядзелі адзін на аднаго і пашлі заспакоеныя. Праўда? Ну, гавары, Даніла, дакладвай аб усім падрабязна.

Даніла. Заўтра я зноў станаўлюся на працу. Нарэшце кончыцца маё беспрасьветнае мадзеньне. Будзе паўней у жыцьці, ня будзе гэтай нуды, пустэчы. Тады і хатнія няпрыемнасьці лягчэй будзе зносіць—уцякаць можна будзе ад іх, заглушаць іх напружанай працай.

Ганна. Як жонка?

Даніла. Ляжыць. Самая цяжкая пара для сухотных мінула, і яна магла-б яшчэ паздаравець, але ёй трэба поўны спакой. (Злосна). Гэтыя ведзьмы, што круцяцца ўвесь час каля яе, атручваюць ёй кожную хвіліну жыцьця. Яна зусім стала слабая—страшна зірнуць на яе.

Ганна. Даніла! Я гаварыла з некаторымі нашымі. Здаецца, што мы знойдзем магчымасьць пасласць яе на курорт.

Даніла. Ведаеш, Ганна, мне дужа цяжка было гэтыя апошнія дні. Яна ўсё больш і больш ад мяне адыходзіць—яна пачынае глядзець на мяне, як на свайго злосьніка. Балота гэта зусім зацягнула яе—і мяне цягне, засмоктвае, аплятае сваймі гнілымі карэньнямі. Нагаворы, плёткі, розная прыкрая драбяза... Часам ня ведаеш, што рабіць, як жыць, як выбрацца з гэтае атрутнае багны.

Ганна. Трудна цяпер, Даніла. У гэтых драбніцах лёгка можна заблытацца, згубіць пэрспэктыву, згубіць свой асноўны кірунак. Раней

было ўсё ясна і проста—бачылі ворага перад сабой і пёрлі на яго, білі яго чым пападзя. А цяпер складнейшае стала жыцьцё. І барацьба складнейшая. Цяпер іншы жыве, працуе—шчыра, аддана, з поўнай энэргіяй, як мае быць, а потым зірк—і стаў мешчанінам, ня прымеціў, як падкраўся вораг. І б'ецца тады, як мухіна ў павучыньні.

Даніла. Я гэта ведаю, Ганна. Я-ж быў на фронце і на справе пазнаў, што такое барацьба. Добра тады ваяваць, калі бачыш ворага, ведаеш, хто ён такі. Таму-ж і цяжка мне, Ганна. Чую нейкую небясьпеку, чую нейкага ворага, а дзе ён, адкуль падступае—ня бачу.

Ганна. Гэты твой вораг—мяшчанства. Яно вылазіць цяпер з сваіх брудных шчылін і наступае. Старое мяшчанства—цьвілае, абскубанае завірухай, злучаецца з новым, што вырасла з пазадзьдзяў рэволюцыі. Мяшчанства ня любіць пэрспэктывы, яно баіцца яе, хаваецца ад яе ў драбніцах, стараецца затуліць яе брудным туманам абыдзеншчыны. Трэба змагацца, Даніла! Трэба больш сьмеласьці, больш запалу, энэргіі... І менш вось гэтай тваёй журбы, сумненьняў—гэта табе зусім не да твару. Сапраўды... Даніла, помніш, як мы сядзелі з табой цэлы вечар і гаварылі аб нашым вялікім падарожжы ў будучыню. Мы лятуцелі, як малыя дзеці, будавалі такія прыгожыя сьмелыя пляны.

Даніла. Я помню. Гэта крыху сьмешна было, наіўна.

Ганна. Але затое ў цябе ня было тады ніякіх сумненьняў, ты быў такі бадзёры, радасны. Я помню—у цябе вочы тады гарэлі зусім памаладому—ты ўвесь быў, як малады задорны юнак. О, тады ў цябе была ясная пэрспэктыва. Праўда, Даніла?

Даніла (крыху падумаўшы). Мяне зьвязвае хворая жонка. Я-ж яе некалі так моцна кахаў. А цяпер... я ня ведаю, ці кахаю... мне шкода яе, да болю шкода. Я часам ледзь стрымаюся, каб не заплакаць, калі гляджу, як на маіх вачох з трагічнай паступовасьцю гіне яе маладое жыцьцё... І гэты нясьцерпны жаль сьціснуў усяго мяне нейкімі жалезнымі абцугамі, не дае мне жыць, не дае нават думаць аб чым-небудзь прыгожым, цікавым, што я мог-бы знайсьці ў жыцьці, на што я маю сілу і здольнасьць. Я адчуваю сябе заўсёды злачынцам, мне здаецца, быццам усё, што я бяру ад жыцьця, я краду ў яе, у свае хворае жонкі. (У некаторым замяшаньні). Ведаеш, Ганна, мне часам здаецца, што нават гэтыя нашы сустрэчы з табой таксама крадзеныя, што я ня маю права на іх... Гэта так няпрыемна, балюча.

Ганна (цьвёрда). Нашы адносіны з табой ня выходзяць з рамак звычайнага таварыства.

Даніла (з усьмешкай). Кожны раз, калі я прыходжу дахаты, жонка пытаецца, ці сустракаўся я з сваёй палюбоўніцай. Зараз-жа пачынаюцца сьлёзы, страшэнны прыпадак кашлю і г. д. Гэта справа нашых спрытных суседак.

Ганна (узрушана). Даніла! Гэтага-ж нельга дапускаць. Трэба перараканаць яе, што нашы адносіны ня могуць прывесьці да чаго-небудзь... Ну, звыш простага сяброўскага пачуцьця...

Даніла (загадкава глядзіць на яе). Я, Ганна, не магу яе ў гэтым пераканаць...

Барбара (праходзіць ззаду). Каму булачак, пернікаў, плюшак!.. (Яны схапянуліся ад нечаканасьці). Брукуйце, брукуйце, галубочкі! Я вам не перашкоджу. Мілуйцеся на здароўечка... Дзе-ж вам пацешыцца, як ня тут, на цёплым сонейку.

Даніла (устае крыху зьбянтэжаны і раззлаваны). Лезеш ты, куды ня трэба, вось што... Пойдзем, Ганна!

Барбара. Ой, можа і лезе хто, ды толькі ня я.

Ганна (таксама ўстала. Перш моўчкі глядзіць на Барбару, потым памалу ідзе проста да яе. Барбара прымае ваяўнічую паставу. Ганна падыходзіць і бярэ з кошу плюшку). Па чым гэтыя плюшкі?

Барбара (злосна). Па пяць капеек!

Ганна. Дайце дзьве штукі. (Плоціць, забірае плюшкі і ідзе з Данілам па дарожцы ў лес).

Барбара (глядзіць ім усьлед). Пашлі. Закруціла, распусьніца. Ой, Даніла, ня будзе дабра з гэтага, ня будзе. Забыўся ты на Барбару, ды мусіць рана забыўся, мой даражэнькі! (Уваходзіць Дудзін, Санька і яшчэ колькі хлопцаў. Санька зусім п'яны).

Дудзін. Пляваць... Яшчэ сама будзеш прасіцца, ды адштурхну, як сабаку якую. Ня гэткіх мелі і ня гэткіх мець будзем. Шчасьце якое, думай ты гэта.

Барбара. Не з таго боку пад'ехаў.

Дудзін (задзірліва). Цётка Барбара! Папрашу вас—бяз гіроніі. Я зусім не жадаю слухаць вашых заўваг. Натуральна...

Барбара. А ты дужа ня пырскай, а лепш паслухай, во як. Хадзітку сюды. (Бярэ яго падпашку і адводзіць у бок). Вольку маю... што, спажыў ды на сьметнік, га?..

Дудзін. Барбара Карпаўна, што вы?.. Я і ў думцы нічога ня меў. Паўхаджваць проста... гэта-ж не забараняецца?

Барбара. Глядзі... Я дачку загубіць не дазволю. Алімэнты высуджу... чуеш? Ад мяне не схаваешся. (Мяняя тон). А з гэтай ты не з таго канца пачаў, во што... з гэтымі шалахвостымі трэба іначай, пасур'ёзнаму. Пра сіцылізму ёй завярні, пра камунію. А тады і пашло... Ды гэтага трэба адшыць, Данілку—ён табе ўпоперак дарогі стаў... Разумееш?

Дудзін. Мне што, Барбара Карпаўна, я—раз, два, дый у дамкі.

Барбара. То-то. Пашлі-ж у лес яны. Саньку трэба падбіць, каб на сьмех узяў, ха-ха... Санька! А Санька! Хадзі сюды! (Падыходзіць Санька). Ты Ганну бачыў?

Санька (пяе пьяным голасам).

Ганулька мая, журавіначка,
Пацалуй ты мяне, сіраціначку.

Барбара. Цябе цалавала, а з Данілам у лес пашла, пад кусты, ха-ха!.. А ты толькі глядзіш на яе, як баран на новыя вароты.

Санька. Цётка Барбара! Птушачка мае шызакрылая!.. Дай я... абніму, пацалую. (Хоча яе абняць).

Барбара (баронячыся). Адыйдзі, я-ж табе ня Ганна, што буду з кожным цалавацца ды па лесе шалацца.

Санька. Ганна? Па лесе?.. Ганулька? Якое яна мае права?

Барбара. У цябе ня пыталася. Ты ёй дужа ў модзе...

Санька (пачынае злавацца). Ня можа быць... Брэшаш... Барбара, брэшаш...

Барбара. Схадзі, пашукай, можа натрапіш... Ды нашто ісьці— вунь яны ўжо назад ідуць, нацешыліся, ха-ха-ха!.. (З лесу паказваюцца Даніла з Ганнай. Санька абарачваецца і ўпіраецца ў іх тупым няпэўным поглядам. Потым, хістаючыся, ідзе насустрэчу. Усе напружана чакаюць нечага дужа сьмешнага. Санька становіцца перад Ганнай і робіць патугі нешта запець).

Санька. А ў лесе... пад кусто-ом... (Падбірае словы, але ня выходзіць нічога. Тады ў п'янай злосьці крычыць рэзкім вісклівым голасам). Шлюха!.. Па кустох цягаешся... Распусьніца!.. Шкура!.. (Усе рагочуць... Даніла памыкаецца кінуцца на яго, але Ганна спыняе. Яна са спакойнай усьмешкай падыходзіць да Санькі зьлёгку абнімае яго аднэй рукой, а другой гладзіць па раскудлычанай галаве).

Ганна. Не сваёй ты злосьцю, Санька, злуешся. Чужая яна, не твая... Няма ў цябе ні сваёй радасьці, ні сваёй злосьці. Я дарую табе гэту абразу, я на цябе ня злуюся... П'еш ты ўсё, Санька, гарэлкай жывеш, а не сабой... (У гэты час за сцэнай чуваць шум натоўпу. Нехта гукае: Ганна! Ганна! Дзе Ганна?) Ну, мяне клічуць. Бывай, Даніла! (Пашла. На сцэне прыкрае замяшаньне).

Санька (ледзь ня плачучы). Радасьць не свая... Злосьць не свая... Ганулька! Пачакай!.. (Бяжыць за ёй усьлед).

*Заслона*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Прыгожы месячны вечар. На сцэне—ускрайная вуліца гораду. На заднім пляне—плот, які злучае два двары. З правага боку ён прылягае да ганкаў звычайнага мяшчанскага доміка, з левага—канчаецца варотамі і форткай, за якімі таксама відаць дом. Каля форткі невялічкая прытульная лавачка. У правым доме ідзе вечарына,—адтуль далятаюць прыглушаныя гукі гармоні і бязладны тупат ног. У левым доме—кватэра работніцы Ганны. На ганках правага доміку сядзяць Люся і Нюся, распараныя танцамі, шумна аддыхваюцца, абмахваючыся насоўкамі, і вядуць „далікатную“ гутарку.

Люся. Ах, Нюсечка, якая цудоўная ноч! У такую ноч можна ўсёй душой аддацца толькі каханьню. Я-б жадала пайсьці куды-небудзь далёка-далёка, на сквер, ці ў губарнатарскі сад. Ах! „В тиши ночной луна светила, в саду со мной гуляла ты“...

Нюся. А мяне, Люсечка, пойдзе праваджаць Бондзікаў, дык мы, бязумоўна, пройдземся з ім па садзе. Я так абажаю гуляць ноччу ў садзе.

Люся. А мяне сёньня праваджае Дудзін. Ён увесь вечар са мной танцуе і, канечна, пачаставаў ужо шакаладам. Ён такі, Нюсечка, алігантны!

Нюся. А я, Люсечка, наўпроціў, чула, што ў Дудзіна з Ганнай-комуністкай роман сур'ёзны пачаўся.

Люся. Фі, ірунда. Яна, канечна, лезла к яму. Натуральна, хацела завілаводзіць сабе кавалера. А яму яна зусім без анцірэсу. Фі! Ёсьць можа і больш алігантныя барышні, а не такія распусьніцы. Ты чула, Нюсечка, што на першае мая было! (Таемна). У лесе знайшлі яе з Данілам Загорскім. Яй-права! Санька-шавец успароў...

Нюся. Фі, паскудзтва. Я ніколі не чакала нічога падобнага ад комуністкі.

Люся. І з Санькам-шаўцом таксама... На ўсіхных вачох абнімаліся ды цалаваліся.

Нюся. І нічога ў ёй няма цікавага. Абсолютна ніякае далікатнасьці. Мяшчанка...

Люся. Тады Санька як злавіў яе з гэтым Данілам, як пачаў лаяць, як пачаў зьневажаць—і так і гэтак, самымі апошнімі словамі. Дык яна стаіць, як нежывая, утупілася, пачырванела—няма куды дзецца. Хоць ты воч пазычай у сабакі. А сьмеху было! Ай-права... (Па вуліцы борзьдзенька клыпае бабка Пілаціха). Бабка Пілаціха! Куды вы экстранна сьпяшаецеся?

Нюся. Просім пасядзець хвіліначку ў нашым обчасьцьве.

Пілаціха. Ай, мае дзетухны, некалі... У Петрыкавых з хлопчыкам нешта, яй-богу-ж, праўда... Казалі, гарыць увесь і ценпература. (Сядае паміж дзяўчат і пачынае свае плёткі). Дактары ўсе чыста былі—рады ня далі, яй-богу-ж, праўда... Дык Марта Сёмчыкава, што ў адным двары жывець, казала, што сама матка хваробу наклікала. Ведама, з такога жыцьця, дык і дзетак родных паклянеш... Мужык-жа яе—ці чулі?—ужо другі месяц, як з сальнікавай Настай круціцца. Дома не начуе, яй-богу-ж, праўда... А ў Кубарскіх, чулі, што ўчора было? А мае-ж вы дзетухны, сорам казаць... Бацька з сынам з-за аднае шлюхі пабіліся, яй-богу-ж, праўда... Ды каб было за каго, а то-ж—ведаеце?—гэта дурная, што байструка летась радзіла — Арына даўганосая. Сын нават жаніцца меціў на ёй, а пакуль сёе-тое, дык бацька... яй-богу-ж, праўда... Дык цяпер сын і ў хату ня ідзець—сядзіць у Філонавых. А Філоніха-ж крыху да яго нешта мае. Летась, як хадзіў мужык на два месяцы ў войска, дык— і ў кіно, і ў ціятры, яй-богу-ж, праўда... Мужык у яе нешта, кажуць, нездатны... а баба маладая, здаровая...

Люся, А ці чулі вы, бабка Пілаціха, што на першае мая Данілу ў лесе з Ганнай-комуністкай злавілі?

Пілаціха. Дык пра гэта-ж увесь горад ведае, мае вы дзетухны. Якое, Даніла ўжо з жонкай разводзіцца, яй-богу-ж, праўда... Такі закон ёсьць бальшавіцкі, што калі жонка сухотніца, дык мужык мае поўнае права кінуць яе, каб, значыць, заразы ня было. А яе тады ў забес. (Таемна). Я-ж сама, дзевачкі, чула, як ён гаварыў ёй... я тады сядзела ў іх, чай з варэньнем піла... Дык кажа...

Санька (неўзаметку падыйшоў збоку). Га-а-а, сарокі-шчабятухі! Язычкі чэшаце, костачкі добрых людзей перабіраеце, байкі складаеце ды на вецер пушчаеце... Брысь, куды каторая!

Пілаціха. А божачка мілы! Во напалохаў, яй-богу-ж, праўда!..

Люся. Ох, маё сэрца зусім спынілася.

Нюся. Фі, нахал!

Санька (пільна прыглядаецца да Пілаціхі). А-а-а, бабка Пілаціха, ту-ту-ту... Дазвольце вас... дазвольце вас... (Пілаціха, пачуўшы небясьпеку, прыціскае нешта да грудзей і памыкаецца ўцячы, але Санька ловіць яе і пасьля нядоўгае тузаніны адбірае ў яе пляшку гарэлкі). Ну і нюх у цябе, Санька, да гэтага зельля.

Пілаціха. Гэта—хвораму, хвораму... ад ценпературы, яй-богу-ж, праўда...

Санька. Брысь! А то і другую адбяру.

Пілаціха. Паскуднік які, баламут, яй-богу-ж, праўда... (Пашла).

Люся. І ня сорамна вам крыўдзіць старую жанчыну? А яшчэ кавалер...

Санька. Брысь!

Нюся. Фі, нахал! (Абедзьве ідуць у хату, Санька ідзе налева і сядае на лаўцы ля форткі).

Санька (разглядаючы пляшку). Пагляджу я на цябе, мая каханая, ды падумаю. Я цябе п'ю і ты мяне п'еш, я цябе зьністажаю і ты мяне зьністажаеш... Ці зьністожу я цябе, ці не—невядома, а ты мяне, сьцерва, напэўна зьністожыш. Вазьму вось цябе, сукіну дачку, за горла, ды як дам пад гэта самае... (Адбівае). Дзе той і корак падзеўся! (Думае). Выпіць хіба, ці што? (Прыладжваецца піць. У гэты момант адчыняецца фортка і на парозе яе зьяўляецца Ганна. У руках у яе некалькі кніжак. Санька пасьпешна хавае гарэлку і бярэ ў рукі гармонь.)

Ганна. Што ты тут робіш, Санька?

Санька. Я, Ганулька, гляджу вось на месяц і думаю: што гэта ён сабе думае?

Ганна. П'яны?

Санька. Ані ў зуб. Я-ж даў табе слова, што п'яны ніколі ня буду з табой гаварыць. А бачыш—гавару, значыць—цьвярозы. Я, Ганулька, зусім думаю кінуць гарэлку. Я-б кінуў ужо, дык вось яна не дае.

Ганна. Хто не дае?

Санька. Гармонь. Трохрадная, з меднымі галасамі—верная мая спадарожніца. Пагляджу я на яе—вісіць смутная, невясёлая, няма каму і палашчыць яе, ажывіць галасы яе звонкія... Вось шкода стане—і вып'еш...

Ганна. А цьвярозы хіба ня можаш іграць?

Санька. Ня выходзіць. Няма таго спрыту, і душы няма. Вось бачыш: пісь-пісь, а толку ніякага.

Ганна (з усьмешкай). Глупства ты гаворыш, Санька. Гэта-ж прычэпка адна, ты сам добра ведаеш. Ня было-б гармоні, дык яшчэ нешта знайшлося-б. І піць ты ня кінеш, бо жыцьцё ў цябе пустое. А раз нечым жыць, дык хоць гарэлкай жывеш.

Санька. Шаўцы ўсе п'юць. Такі ўжо звычай наш шавецкі. Праца такая.

Ганна. Паспрабуй, Санька, паступіць на фабрыку. Там гэта самая праца зусім інакшай здасца. У кампаніі, гуртам—восем гадзін і не заўважыш, як праляцяць. А тады—клюб, кніжкі, газэты... Новыя людзі, новыя таварышы, далей ад гэтага мяшчанскага балота. Сапраўды, Санька, паспрабуй. Ты такі здольны і шчыры... Ты зусім нядрэнны чалавек. Чаму ты ня знойдзеш сабе якой-небудзь сур'ёзнай мэты, каб захапіцца ёй, імкнуцца да яе, будаваць адпаведна ёй сваё жыцьцё. Гэта-ж так добра, так прыемна, калі ведаеш цьвёрда, куды ты ідзеш, чаго дамагаешся, што стаіць перад табой наперадзе. (Рашуча). Я заўтра сама пагавару, Санька, каб цябе прынялі на фабрыку. Добра? Прыдзецца пачакаць, вядома, але нішто... свайго даб'емся.

Санька. Слухай, Ганулька. Чаго ты такая нейкая добрая? Вось лаюць цябе, абгаварваюць, а мне здаецца, што лепш за цябе няма нікога ў сьвеце... Я сам ня помню, што я тады гаварыў... мне расказалі... дык я цэлы дзень хадзіў, як няпрытомны... дужа мне балюча было, што я цябе так абразіў... А ты-ж даравала мне, праўда?

Ганна. Ну, вядома. Наогул, ня варта таго ўспамінаць...

Санька. Ты—добрая, дужа добрая. І прыгожая такая. Я першы раз бачу такую прыгожую дзяўчыну. Ведаеш што, Ганулька, я буду кахаць цябе, добра? Ты—усё роўна... ты не зважай... Я мажа і піць кіну дзеля цябе, далі-бог... (Бярэ яе за руку). Можна табе ў руку пацалаваць? Я пацалую, Ганулька. (Цалуе). Ты такая добрая...

Ганна. А ты—сьмешны. Ты зусім, як малы хлопчык. Ну, годзе! Мне трэба йсьці. Хочаш, Санька, сходзім разам у бібліотэку?

Санька. Вядома! (У замяшаньні). А з гэтай, што рабіць... куды яе...

Ганна. Каго?

Санька. Тут поўкварты ў мяне... у Пілаціхі адабраў. (Ганна сьмяецца). Што-ж тут рабіць? (З раптоўнай рашучасьцю). Эх, згінь ты, прападзі! (Кідае вобземлю і сам нібы палохаецца свайго ўчынку. З хвіліну няўцямна глядзіць на шкляныя чарапкі, потым адыходзіць на некалькі крокаў і азіраецца). Сьцерва! (Ганна вясёла сьмяецца. Абое ідуць у правы бок).

(Некаторы час сцэна пустая. Выяўна даносіцца гук гармоні і тупат ног з таго дому, дзе вечарына. Потым чуваць голас Волькі:—Юзік, пачакай! Юзік! Праз момант з таго боку, куды пашла Ганна, уваходзяць Юзік і Волька).

Волька. Тут вечарына сёньня. Чуеш, музыка. Ты дзе быў, у атрадзе?

Юзік (важна). На зьвяне. Мяне выбралі сёньня памочнікам правадыра.

Волька. Давай, Юзік, пасядзім крышку тут на лавачцы. Ты не сьпяшаешся дахаты? Мне трэба пачакаць тут аднаго чалавека.

Юзік. Можна. (Сядаюць. Некаторы час сядзяць моўчкі. Волька лятуценна глядзіць на месяц).

Волька. Паглядзі, Юзік, які сёньня чысьценькі месячык. Здаецца, што ўсьміхаецца... ласкава-ласкава... бачыш?

Юзік. Месяц ня можа ўсьміхацца, бо гэта—такая самая тэрыторыя, як і зямля.

Волька. А мне дык заўсёды здаецца, што і месяц жыве і зорачкі таксама. Месяц усьміхаецца, а зорачкі плачуць заўсёды... Паглядзі, вунь, як плюскаюць вочкамі...

Юзік. Забабоны. (Ізноў хвіліну маўчаць).

Волька. Скажы, Юзік, чаму вас вучаць у піонэрах?

Юзік. Усяму. Напрыклад... (Шыбка і аднатонна). Піонэр верны справе рабочае клясы—наказам Ільліча. Піонэр імкнецца да ведаў. Веды і ўменьне—сіла ў змаганьні за справу працоўных...

Волька. Я не пра тое, Юзік. Вось я думаю часам, што жыцьцё наша зусім нейкае не такое, як трэба. Многа нядобрага ёсьць, злосьці многа ўсюды, грызьні. Каб вось навучыў хто-небудзь, як гэта жыць па інакшаму, па добраму...

Юзік. Дык гэта ўжо будзе пра соцыялістычнае будаўніцтва. Соцыялістычнае будаўніцтва магчыма і ў аднэй краіне на аснове разьвіцьця прамысловасьці і змычкі з сельскай гаспадаркай...

Волька. Каб неяк дагаварыліся адзін з адным, ці што... Усім-жа дрэнна—кожны баіцца, дрыжыць за жыцьцё. Усе—злыя адзін на аднаго, як ваўкі. (Памаўчаўшы). Юзік, ці б'е цябе татка?

Юзік. Раней біў, а цяпер устрымліваецца. Мой бацька—політычна несьвядомы чалавек, але ў гэтых адносінах стаіць на савецкай пляцформе.

Волька (ціха). А мяне мамка і цяпер яшчэ б'е. Калі якая няўдача ці што, дык заўсёды на мне спаганяе. І сягоньня біла...

Юзік. Каб ты была ў піонэрах, дык магла-б пажаліцца ў атрад. Я-б цябе абавязкова падтрымаў. (Са спагадай). Ты ў піонэры ўжо старая, дык паспрабуй у комсамол паступіць. Там абароняць таксама. (Волька маўчыць). Ну, я пашоў. Мне яшчэ сёньня трэба тэзісы напісаць к дакладу на тэму „Ахова чыстаты ў клясных памяшканьнях". Ты не бядуй, Волька, гэта ўсё глупства. Бывай! (Пашоў налева).

Волька (у задуменьні). Каб паляцець куды-небудзь у іншы край, у прыгожы, сьветлы. Далёка-далёка, туды вунь, дзе зорачкі сьвецяць... А можа і там дрэнна? Плачуць-жа нечага зорачкі, вочкамі плюскаюць так жаласна-жаласна. (Пауза). Сумна мне нешта... страшна... сэрца баліць, быццам чуе нешта нядобрае. (Пауза). Тры дні ня бачыліся. Ён наўмысьля ад мяне ўцякае, ня хоча са мной сустракацца. Мусіць, не кахае... Што я яму? Ён такі прыгожы, усе дзяўчаты рады з ім пагуляць. А я— няздара нейкая... Мамка сукенку ня хоча новую справіць... чаравікі сабе шаўровыя справіла, а ў мяне ўжо зусім-зусім падраліся, няма як у людзі выйсьці... А каралі ўжо цэлы год абяцае купіць... Хай-бы хоць шкляныя... ёсьць такія бліскучыя-бліскучыя, як срэбра... Або—сіненькія, як васілёчкі... Прыгожыя!.. (Задумляецца. З ганкаў правага дому выходзіць, высьвістваючы вясёлую песеньку, Дудзін. Волька яго заўважвае і радасна кідаецца яму насустрэчу). Васіль!

Дудзін. А, Волька, добры вечар, добры вечар!

Волька. Я цябе даўно шукаю. Мы-ж ужо тры дні ня бачыліся. Ты, Васілёк, наўмысьля ад мяне ўцякаеш, я ведаю.

Дудзін. Нічога падобнага. Атрымаўшы спэцыяльнае запрашэньне на сямейны вечар, я тут гуляю ў свайго прыяцеля. Ну, як жывеш?

Волька. Як я жыву? Дрэнна, Васілёк. Па табе я ўсё сумавала Як няма цябе, дык усё мне здаецца, што ты а ні-ні мяне не кахаеш. І так мне сумна-сумненька тады робіцца. (Яны сядаюць на ганках).

Дудзін. Чаму я цябе не кахаю? Я цябе кахаю, натуральна. Гэтыя дні я быў страшэнна заняты—я меў экстраную нараду з адным таварышом, які абяцае ўстроіць мяне на адказную службу... Ну, хадзі да мяне Волька! (Бярэ яе к сабе на калены, пачынае груба лашчыць). Кацянёначак мой! Гурочак зялёненькі! Ты сумавала па мне, сумавала?.. М-м-м... цукерачка...

Волька. Ня трэба так, Васілёк... Пусьці! Давай лепш пагутарым, мы-ж столькі часу ня бачыліся.

Дудзін. Ну што-ж, давай гутарыць. Я згодзен на ўсё...

Волька (пяшчотна туліцца да яго). Як мне добра з табой! Мне ўжо здаецца цяпер, што ў жыцьці адно толькі шчасьце і зусім няма нічога дрэннага...

Дудзін. Натуральна. Усе дзяўчаты кажуць, што са мной прыемна гуляць. Галоўнае тут—абыходжаньне, далікатнасьць.

Волька (любуючыся ім). Ты такі прыгожы, моцны. У тваіх вачох ёсьць нешта асабліваe, неяк цягнуць яны да сябе... аж страшна мне, сапраўды. (Хавае галаву яму на грудзі).

Дудзін. Гэта праўда. Калі я служыў у крымінальным вышуку, дык, бывала, зловіш якога злодзея, пачнеш допыт яму рабіць. Паглядзіш на яго сур'ёзна так, злосна, дык адразу выкажа ўсё. Натуральна...

Волька. Ты, Васілёк, ня кінеш мяне, не? Я дык проста ня веру, што ты кахаеш. Ня звыкла я да гэткай радасьці. А калі кінеш, тады

што... тады-ж ня будзе нічога ў мяне... зусім-зусім... Як я тады буду жыць?.. (Пауза). Страшна мне нешта, Васілёк...

Дудзін (дзелавым тонам, у якім, аднак, чуваць прагнае дрыжэньне). Волька! Ці матка ў хаце?

Волька. Не, у горадзе.

Дудзін. Сходзім да цябе, га? Сходзім, кацянёначак! (Зноў пачынае груба лашчыць яе). Пойдзем, добра?

Волька (пакорна). Добра. Яшчэ пасядзім трошачку. Ноч такая чыстая... (Пауза). Я цябе, Васілёк, сьніла сягоньня. Здаецца, была я ў нейкім густым-густым лесе... дрэвы таўстыя такія, чорныя, паспляталіся вецьцем—ня можна пралезьці. Ноч, здаецца, нікога няма, адна я—і ня ведаю, як выбрацца з гэтага лесу. І вось бачу я, што нешта, быццам, гарыць, два агоньчыкі нейкія. І нехта гукае мяне. Голас добра знаёмы, а пазнаць ніяк не магу. Гляджу, аж агоньчыкі тыя на мяне насуваюцца. І ўжо не агоньчыкі, здаецца, а вочы твае. І сам ты страшны нейкі, нязвычайны. Падыйшоў, бярэш мяне за руку... (У гэты момант за сцэнай чуваць галасы і жаночы сьмех. Дудзін адразу ўскаквае і цягне за руку Вольку).

Дудзін. Хадзем, Волька, я правяду цябе крыху, а потым на хвілінку вярнуся—мне трэба сказаць нешта хлопцам. Ты ідзі дахаты і чакай—я зараз прыду. (Яны ідуць абодва налева. З правага боку ўваходзяць Ганна і Санька, спыняюцца супроць ганкаў).

Ганна. Дык ты пойдзеш на вечарынку? Глядзі-ж, трымайся, а то і гаварыць з табой пасьля гэтага перастану.

Санька. Хай яна згарыць, пакуль я хоць адну расіначку ў рот вазьму. Да-душы!

Ганна. Ну, Санька, бывай! Заўтра возьмемся за тваю справу. (Разьвітваюцца. Санька ідзе на вечарынку. а Ганна да свайго дому. Каля форткі яе сустракае Дудзін).

Дудзін. Добры вечар, таварыш Ганна!

Ганна. Добры вечар!

Дудзін. У горадзе былі? Па справе, ці проста так, на прахадку хадзілі?

Ганна. Хадзіла кніжкі мяняць у бібліотэку.

Дудзін. Кніжкі чытаеце? Мусіць, усё палітычныя? Я дык страшэнна люблю чытаць пра соцыялізм і пра комуну. Проста не магу адарвацца—так цікава пішацца.

Ганна. Гэта добра. Ну, бывайце!

Дудзін. Куды-ж вы? Ня хочаце са мной і хвілінкі пагутарыць?

Ганна. А вы хочаце гутарыць? Я ня ведала. Давайце... (Сядае на лаўку).

Дудзін. За што вы на мяне, таварыш Ганна, узлаваліся?

Ганна Я? На вас? Першы раз чую.

Дудзін. Я тады рознае глупства гаварыў. Я гаварыў зусім ня тое, што звычайна гавару. З сур'ёзнымі барышнямі я магу гаварыць і пра сур'ёзнае.

Ганна. Пра што гэта пра сур'ёзнае?

Дудзін. Пра ўсякія політычныя рэчы.

Ганна. Так... А скажыце, калі ласка, што вам усё-ткі ад мяне трэба?

Дудзін. Таварыш Ганна...

Ганна. Кажыце проста.

Дудзін. Я маю жаданьне за вамі ўхаджваць, бо вы мне страшэнна ўпадабаліся.

Ганна. Я ня хворая—за мной ня трэба ўхаджваць.

Дудзін. Жартуеце, таварыш Ганна, хе-хе!.. А я нават зусім сур'ёзна вам гавару. Я так закахаўся, што нават магу ўпасьледзтві жаніцца...

Ганна. Якое шчасьце, ха-ха-ха!..

Дудзін (крыху раззлавана). Пасьмяяцца можна, вядома. Гэта дазваляецца. Але і я кавалер, можна сказаць, ня самы горшы.

Ганна. Ну і добра. Ваша шчасьце. (Устае і хоча ісьці).

Дудзін (загароджвае ёй дарогу, памыкаючыся абняць). Пачакайце!

Ганна (сярдзіта). Грамадзянін Дудзін!..

Дудзін (нахабна). Якая гордая! Чыстая каралева, ха-ха!.. Дзе ўжо нашаму брату з вамі кумпанства вадзіць! Такая красуня толькі з начальнікамі ды камісарамі знаецца, ха-ха... Інцілігентка!..

Ганна. Пусьціце, я вас прашу.

Дудзін (груба). Ну ідзі, ідзі. Шчасьце вялікае! Круціся з сваім Данілам, адбівай мужыка ў жывой жонкі, ха-ха!.. (Ганна пашла. Дудзін грозіць ёй усьлед). Пачакай, сьцерва, пазнаеш яшчэ Ваську Дудзіна! (Хвіліну стаіць, злосна ўтупіўшыся ў зямлю). Ах ты, гадзюка! Ну, пачакай! (Хоча ісьці, але ў гэты момант да яго падыходзіць Волька).

Волька. Васіль, я бачыла ўсё, што тут было.

Дудзін (груба). Ідзі ты к чорту! Цябе тут яшчэ не ставала.

Волька (ашаломленая). Васілёк, што... што ты кажаш?..

Дудзін. Ай, ня лезь ты ка мне! Абрыдла, як горкая рэдзька.

Волька (усё яшчэ ня верыць, што гэта ён сур'ёзна). Ты злосны такі... Што ты гаворыш?...

Дудзін. Нічога я ня злосны, я кажу проста: пагулялі ды і годзе. Ну, што-ж я з табой буду рабіць... жаніцца, можа, ці што?

Волька. Мне нічога ня трэба. Ты-ж казаў, што кахаеш... я верыла... мне так добра было... Няўжо ты няпраўду казаў, няўжо хлусіў?

Дудзін. Мала чаго кажа хлопец дзяўчыне—ці гэта ўсё запомніш...

Волька (з надзеяй усё такі затрымаць яго, забавіць). Ну, хадзі, Васілёк, да нас... Мамкі дома няма... Ты-ж хацеў... Хадзем, любенькі... Я буду сёньня такая слухмяная... (Туліцца да яго, каб распаліць жаданьне. Відаць, робіць гэта супроць свае волі, з мукай бязвыхаднай роспачы). Ты-ж — помніш? — казаў, што са мной лепш, як з усімі дзяўчатамі, з якімі ты знаўся... Праўда?

Дудзін. Ат, усе вы на адзін капыл кроены. Абрыдла ты мне. (Хоча ісьці).

Волька (хапае яго за руку). Пачакай! (Хоча нешта сказаць ды не знаходзіць слоў). Як-жа гэта... ну вось... цяпер... Як-жа я буду жыць?.. Ты-ж... кахаў мяне?.. А цяпер... нікога няма, нікога...

Дудзін. На алімэнты намякаеш? Ня выйдзе. З Санькам у губарнатарскі сад ноччу хадзіла? З Міколам за горадам шляліся? Ха-ха!.. Не на таго, брат, напалі!

Волька (з жахам). Васіль! Што ты гаворыш! Ты злосны, як зьвер... Нашто ты такі!.. Ты не такі... Я ня хочу... (Просячы). Васілёк, мне нічога, нічога ня трэба...

Дудзін. А калі ня трэба, дык чаго лезеш! (Зноў хоча ісьці).

Волька (кідаецца за ім). Пашкадуй! (Ён адпіхае яе і ідзе на правы бок сцэны. Яна плача. У гэты час з левага боку ўваходзіць Даніла).

Даніла. Што ты, Волька? Чаго ты плачаш?

Волька (у роспачы). Усе вы... усе... (Бяжыць налева).

Даніла (падыходзіць да Дудзіна). Што з ёй такое?

Дудзін (задзірліва). А можа вас гэта, таварыш, абсолютна і ня тычыцца... Натуральна...

Даніла. Дурань! (У часе іхнае гаворкі чуваць за сцэнай голас Барбары: Шляешся ўсюды... Пашла дахаты! Я табе пакажу!..)

Дудзін. Як вы сказалі?

Даніла. Дурань.

Дудзін. Гэта мы яшчэ паглядзім упасьледзтві, хто дурань, а хто разумны. (Ідзе ў хату, дзе вечарына. Даніла накіроўваецца да Ганны, але ля самае форткі яму загараджвае дарогу Барбара).

Барбара. Куды гэта разагнаўся, Даніла?

Даніла. Цябе гэта дужа цікавіць?

Барбара. Ня пыталася-б, каб ня цікавіла. Нешта ты дужа злосны стаў, неўкавырны. І слова сказаць ня хочаш.

Даніла (нервова). Што да мяне маеш, Барбара? Чаго ты, як чорны цень, ходзіш за мною, спакою мне не даеш? Калі гэта кончыцца ўжо?

Барбара. А хто-ж яго ведае, калі яно кончыцца. Скоры ты, Даніла, на ўсё—табе каб сягоньня адно, а заўтра другое... А я не такая—у мяне гэта доўга жыве... На леташняе ты ўжо забыўся? У Чорных Ліпках—помніш, як ночкі караталі, як мілаваліся, пацяшаліся? Даўно ўжо было, забыўся...

Даніла (рэзка). Я ня хочу гэтага ўспамінаць. Гэта быў нейкі тлум, недарэчнасьць нейкая. Ты спайвала мяне. У мяне было гора, а ня было... грошай... Я піў... Я п'яны, няпрытомны рабіў гэта... разумееш? Ніколі я да цябе нічога ня меў—чуеш?—ніколі.

Барбара (ціха, нахіліўшыся да яго). А помніш, як ты казаў, што скора жонка памрэ, дык ты са мной ажэнішся... помніш?

Даніла (узрушаны). Брэшаш! Гэтага ня было... гэтага не магло быць... Я ня мог так сказаць, бо я любіў Надзею больш за ўсё на сьвеце. Я ня помню гэтага... ня помню... Гэтага ня было!

Барбара (ласкава). Даніла! Жонка-ж твая ўсё роўна памрэ. Колькі ўжо ёй, гаротніцы, асталося пражыць! Хто-ж прылашчыць цябе тады, прыгалубіць? Хто дагледзіць цябе адзінотнага?..

Даніла (з пагрозай). Не кажы мне пра жонку. Чуеш? Ты труціш яе, адбіраеш у яе апошнія дні. Ты, як злы дух, сташ над ёй і шэпчаш ёй рознае глупства, каб толькі раструіць ёй сэрца, каб папсаваць жыцьцё і ёй і мне. (Зьмяніўшы тон). Слухай, Барбара! Пакінь ты нас, адчапіся. Дай нам спакойна пажыць. (Зноў павышае голас). Помні, што я ня сьцерплю нарэшце... Я... ты давядзеш мяне да чаго-небудзь...

Барбара. Ня тое ты кажаш, Даніла. Я-ж бачу цябе навылёт. Вунь куды цябе цягне. (Паказвае на Ганьніну кватэру). Вунь хто ў цябе ў галаве. Дык-жа не, ня выйдзе нічога... Ня дам! На ўсё пайду, ня спынюся ні перад чым, а ўсё-такі ня будзеш з гэтай кахацца.

Даніла (злосна). Ведзьма!

Барбара. Ня злуй, Даніла, ня трэба, Пажывем—убачым. (У фортцы зьяўляецца Ганна). Вунь і каханка твая. Пайду, пайду, ня буду мяшаць. (Ідучы, у бок). Я вам зараз састрою кумэдыю, ха-ха-ха!..

Ганна. Што тут было, Даніла?

Даніла. Глупства. Гэтая гандлярка чэпіцца ўсё. Чорт яе ведае, што ёй трэба...

Ганна. Ты да мяне? Давай лепш тут пасядзім—у хаце горача. Я нядаўна толькі прышла—у бібліотэку хадзіла... Сьмешны гэты Санька! Добры хлопец—шчыры такі і нядурны, а вось жыве неяк бяз ладу. Пуста ў жыцьці, дык ён п'е і думае, што ў гэтым знайшоў нейкі ратунак. А потым мардуецца, месца сабе не знаходзіць... Ну, як ты?

Даніла. А ну яго к ліху ўсё чыста. Я не магу больш—моцы маёй няма ўжо. Атачылі, апанавалі, п'яўкамі проста ўпіваюцца з ўсіх бакоў. Яны выбралі самае балючае месца—маю хворую жонку, і коляць і мучаць, сэрца на часткі рвуць. Пойдзеш на працу—забудзешся на ўсё... Весела стане, бадзёрасьць зьявіцца, чуеш сілу, здароўе—жыць хочаш, бясконца хочаш жыць, хочаш рабіць нешта вялізнае, сьмелае. А потым прыдзеш дахаты... як у зьмяінае кодла ўступіш... Апаўюць цябе чорнай сеткай розныя плёткі, нагаворы, байкі—і б'ешся ў іх, як муха ў павуцыньні, б'ешся, пакуль ня страціш сілу, прытомнасьць. Тады бяжыш, уцякаеш куды-небудзь. (Пауза). Яе шкода, жонкі. Яна сама ня ведае, каму верыць. Яна хоча паверыць мне, я гэта бачу, і верыць часам. Тады заспакоіцца, ціхая стане, ласкавая. Тады і лепш сябе адчувае. Ну, а потым усё роўна яны перамогуць. Моцна зьвязана яна з імі—каранямі ўрасла ў гэта балота...

Ганна. Я разумею цябе, Даніла. Дрэнна табе. Але нашто рабіць такую трагэдыю? Быццам ты нейкая выключная ахвяра, адзіны пакутнік на ўсёй зямлі. Гэты разлом, гэтае падваеньне ў жыцьці—хіба-ж гэта рэдкае зьявішча ў нашыя дні? У кожнага, хто хоць у малай меры за-

хоплен магутным рухам сучаснасьці, хто мае хоць невялічкія імкненьніісьці наперад,—у кожнага ў асабістым жыцьці будуць шчыліны. І вось тут вызначаецца моц чалавека. Адзін адразу правaліцца ў гэтую шчыліну, загіне; другі стане над краем яе ды будзе гвалту крычаць, вось як ты, а трэці заўважыць шчыліну і, ня спыняючы ходу, паспрабуе зьнішчыць яе, запоўніць чым-небудзь. Калі-ж ня ўдасца—махане рукой і пойдзе далей да свае мэты...

Даніла (з усьмешкай). Трэба быць асабліва моцным, каб зрабіць так, як гэты трэці.

Ганна. Трэба мець веру ў тое, да чаго ідзеш. Трэба мець у сэрцы хоць маленькі, але ясны і гарачы агоньчык.

Даніла (падумаўшы). Ёсьць, Ганна, яшчэ адна шчыліна, яшчэ адзін разлом. Яго ня зьнішчыш, не запоўніш ніяк. Гэта—самае цяжкое, самае балючае. Гэта—у самым нутры, у самай глыбі істоты... Слухай, Ганна, я табе раскажу... Я скажу табе усё, усё чысьценька... як таварышу, як другу... (Падумаўшы, з націскам). Мне хочацца жыць. Разумееш?—жыць хочацца... як усе жывуць, як кожны чалавек. Я зусім здаровы мужчына. Я і не стары яшчэ, Ганна, мне ўсяго толькі трыццаць чатыры гады. Я-ж маю права ўзяць ад жыцьця тое, што зусім законна, нормальна патрабуе мая істота? Я-ж маю права гуляць, весяліцца, кахаць нарэшце?.. (З націскам). І я не магу, мне забаронена. Я ня ведаю, што гэта: абавязак, звычай, этыка ці яшчэ што, але заўсёды я чую на сабе нейкую цяжкую руку, якая прыціскае мяне, спыняе кожны мой крок, пагражае нейкай невядомай карай. І вось—слухай, Ганна!— (ціха). Я пачынаю яе ненавідзець. Я баюся яе, як вучань сярдзітага настаўніка, і за гэта ненавіжу... Так не заўсёды бывае... толькі часамі. А потым вернецца звычайнае пачуцьцё, шкода стане яе— і вось пачынаецца самая пакута. Я тады ўжо сябе ненавіджу... Я не магу даравать сабе гэтага агіднага зьвярынага пачуцьця, я праклінаю сябе, я гатоў тады нешта зрабіць над сабой. Я плачу тады... гэта сьмешна... плачу ад злосьці, ці мо' ад жаласьці... (Пауза). А потым ізноў тое дзікае пачуцьцё... зноў, як вучань, баюся, зноў ненавіджу... (Ціха). Хачу, каб памерла... (Задумляецца).

Ганна (ласкава). Даніла! Ня трэба так удавацца ў адчай. Трэба неяк прасьцей на гэта глядзець, менш думаць аб гэтым... і больш працаваць. (Жартліва). Як добра заморышся, дык і грэшныя думкі ня будуць лезьці ў розум... Праўда, Даніла?

Даніла. Ня тое гэта, ня тое... Ты вось жартам абыйсьціся хочаш. А параіць нічога ня можаш, бо сама ня ведаеш, і ніхто ў сьвеце ня ведае, дзе мера пачуцьцю чалавека і дзе мера яго абавязку.

Ганна. Гэта павінен кожны сам сабе вызначыць. Кодэксу такога няма і ня можа быць.

Даніла. Ну, слухай, Ганна. Вось каб ты, скажам, мела якое-небудзь здаровае нормальнае пачуцьцё... ну, скажам, кахала каго-небудзь... і

ведала, што гэтае тваё пачуцьцё няпрыемна другому чалавеку, хоць-бы і блізкаму табе. Што-б ты рабіла тады?

Ганна (крыху замяшалася). Я? Ня ведаю... (Падумаўшы, цьвёрда і з пачуцьцём). Каб я ведала, што маё каханьне можа прынесьці гора таму, каго я кахаю, я-б ні адным словам, ні адным поглядам не паказала свайго пачуцьця... хоць-бы мне было ад гэтага цяжка...

Даніла (дапытліва глядзіць на яе, чуючы ў яе словах нешта большае, чымся звычайнае разважваньне. Потым устае ў задуменьні ходзіць па сцэне). Дзіўна ўсё неяк робіцца... Жыцьцё блытаецца, завязваецца вузёл за вузлом, сьціскаецца ў адзін неразьвязны клубок... а хто калі будзе разьвязваць? (Паўза). Слухай, Ганна, колькі часу, як мы спазналіся?

Ганна. Ужо скора поўгода. А што?

Даніла (гаворыць з лёгкай усьмешкай, ласкава). Я думаю аб нашых адносінах з табой. Яны склаліся зусім неяк дзіўна, нечакана. Помніш, як мы сустрэліся першы раз у Грынкевіча? Мы з табой паспрачаліся былі— помніш?—нават палаяліся. Я толькі затым і шукаў потым сустрэчы з табой, каб давесьці, што ўсё-ткі праўда мая была, а не твая... А тады сустрэліся і сталі прыяцелямі. Потым—усё бліжэй і бліжэй... пачалі адкрываць адзін аднаму ўсе свае таямніцы... Цяпер, дык мне, Ганна, здаецца, што мы ўжо знаёмы многа гадоў, што ты мне свая, родная, сапраўды... Я так прывык да цябе, што кожную хвіліну аб табе думаю і ўвесь час шукаю якога спосабу, каб сустрэцца з табой. Я нават пачынаю баяцца...

Ганна (пасьпешна перапыняе яго). Нашы адносіны чыста таварыскія і інакшымі ня могуць быць. Разумееш?

Даніла (з усьмешкай). Інакш забаронена?

Ганна (цьвёрда). Інакш ня будзе.

Даніла (сядае каля Ганны і глядзіць на яе з пяшчотай). Значыць, мне трэба забыцца зусім, што ты такая прыгожая, што ў цябе вочы сінія-сінія, як васількі, і чыстыя, як лясная крынічка, што ласкавыя вусны твае могуць ня толькі гаварыць, а яшчэ і цалавацца...

Ганна. Даніла! Сьціхні!

Даніла. А ці-ж мне забароніць хто-небудзь глядзець вось так на цябе, любавацца табой... Ці-ж гэта будзе злачынства, калі я вось у гэтых сіненькіх вочках убачу нешта крышачку большае, чымся сяброўскае пачуцьцё?..

Ганна. Даніла! Ня трэба... Не гавары так...

Даніла (абнімае яе). Родная, дарагая... Таварыш ты мой любы... Сястрыца...

Ганна. Ну ня трэба так... Я ня хочу... Даніла... любы... ня трэба...

Даніла. Хай гарыць яно ўсё!.. Я маю права кахаць... Я буду кахаць... Добрая мая, залатая... (Цалуе яе. У гэты момант за сцэнай чуваць надрыўны жудасны стогн. Даніла ўскаквае перапалоханы). Што гэта? Дзе? (Азіраецца).

Хто тут? Надзея!.. (Кідаецца налева. Адтуль чуваць голас Надзеі:—Пусьці мяне!.. Пусьці, Даніла!.. Ня руш мяне... Пусьці!— Даніла варочаецца на сцэну, нясучы сваю жонку, якую кладзе на лаўку. Яна ўпінаецца і хоча вырвацца ад яго).

Надзея. Божа мілы! Пусьці ты мяне, адыйдзі... мучыцель, зьвер!.. Я баюся цябе... Пусьці, я сама... я пайду, пусьці мяне... Даніла!.. (Закашлялася).

Даніла. О, гэта ведзьма тая, я ведаю... Яна прывяла яе. (Стараецца суняць жонку). Супакойся, Надзея. Ну, ціху, супакойся... Потым я ўсё растлумачу... пагаворым потым. Ну, супакойся, родная!.. (На ганках правага дому паказваецца Дудзін. Убачыўшы гэтую сцэну, ён прасоўвае назад у дзьверы галаву і крычыць:—Гэй, хлопцы! Данілу Загорскага жонка з Ганнай злавіла! Хадзіце хутчэй!— З дому шумлівай гурмай выбягаюць хлопцы, дзяўчаты, сярод іх Люся і Нюся).

Надзея. Людцы добрыя! Зьлітуйцеся... Адбярыце мяне ад яго... Ён заб'е мяне, даканае... О, зьвер, мучыцель... Пусьці!.. (Зноў кашаль).

Ганна (з моцным пачуцьцём). Даніла! Гэтага больш ніколі ня будзе! (Ідзе ў фортку).

Люся. Якая забаўная праісшэсьцьвія!

Нюся. Я абажаю, калі скандал.

Барбара (уваходзіць з левага боку). Што гэта тут за спэктаклі такія?

Даніла (убачыўшы яе). А, ты тут! Ведзьма праклятая! (Хоча кінуцца на яе, але яго стрымлівае Дудзін).

Дудзін. Памалу, прашу вас... Скандаліць не палагаецца...

Галасы з натоўпу.
Ня кідайся дужа!
Іш ты, пррыткі які!
Загубіў чалавека!
Распусьнік!

Даніла (кідаецца да жонкі). Надзея! Даруй! Надзея!.. (У натоўпе ўзрушаны гоман. У гэты час за сцэнай чуваць істэрычныя крыкі: Барбара! Дзе Барбара?- Гукніце Барбару! Барбара! Публіка пачынае прыслухвацца, крыху сьціхае. На сцэну ўбягае перапалоханая, зьбянтэжаная Пілаціха).

Пілаціха. Божа мой! Што гэта робіцца!.. Дзе Барбара? Барбара, хадзі хутчэй! З Волькай нядобра... Хадзі-ж, Барбара... родная... Там, у хаце... Волька павесілася...

*Заслона*

(Працяг будзе)

# НАД АБРЫВАМ [1])

*Аповесьць*

**Я. Лімаؤскі**

Арцюхін, ляснуўшы моцна дзьвярыма, увайшоў у габінэт Батурскага. Той падняў схіленую над паперамі галаву, зірнуў на яго нездаволена, апусьціў ізноў вочы, не жадаючы спытацца, чаго ён прышоў.

— Слухай, Батурскі. Я табе дзесяткі раз званіў аб тым, што трэба зрабіць рэвізію, праверку матэрыялу, паміж кім разьмяркоўваецца быдла і маемасьць, конфіскаваная ад бандытаў, ні то спытаўся, ні то паставіў у дакор Батурскаму Арцюхін.

— А ты мне начальства, ці што, каб загадваць па тэлефону,— адказаў Батурскі па магчымасьці спакойна, ня гледзячы на Арцюхіна.

— Калі я табе не начальства, дык выканком начальства. Ці ты забыўся на пастанову аб тым, каб маемасьць разьмяркоўвалася з маім удзелам? А я нічога дагэтуль ня ведаю. У мяне ўжо дзесяткі скаргаў ёсьць. Дык і раздаеце маемасьць чорт ведае каму,—беднаце не пападае.

— Ведаем, каму разьмяркоўваем. А ты ня строй з сябе начальніка, бо я цябе выганю,—адказаў ужо са злосьцю Батурскі.

— Ты мяне выганіш?—запаліўся Арцюхін, ты будзеш корчыць з сябе пана, які ні перад кім ня робіць справаздачы аб сваёй працы? Ды я твае анархічныя выхадкі выб'ю з цябе.

— Пашоў вон адгэтуль! Ідзі пакажы сваю адвагу са злодзеямі і спэкулянтамі, а тут табе няма чаго рабіць. Пашоў вон! — крычаў Батурскі так, што аж трасьліся яго доўгія вусы.

Першым ня сьцерпеў і кінуўся Арцюхін. Але Батурскі быў дужэйшы, схапіў Арцюхіна за каўнер і, штурхаючы ў сьпіну, выпхнуў яго ў калідор, потым схапіў, ня гледзячы на барацьбу Арцюхіна, аберуч, выкінуў за дзьверы і зачыніў дзьверы на кручок. Арцюхін спачатку пёрся ў дзьверы, выхапіў наган, пагражаў страляць, але, убачыўшы, што нічога з гэтага ня выйдзе, вылаяўся, пагразіў кулаком у кірунку зачыненых дзьвярэй і пабег скардзіцца на Батурскага ў партыйны камітэт.

Штэйнмана ня было ў парткоме, сядзеў толькі Зімін, загадчык юрыдычнага аддзелу і аддзелу аховы здароўя. Зімін загадваў гэтымі двума аддзеламі таму, што па адукацыі ён быў і мэдык і юрыст. Спачатку

[1]) Гл. „Полымя“ № 5.

вучыўся на мэдыцынскім факультэце і ўжо скончыў-бы яго, каб не здарэньне, якое яго варожа настроіла да мэдыцыны. Зімін у той час жаніўся, кахаў вельмі сваю жонку і лічыў, што мае ўсё, каб лічыць сябе шчасьлівым. Скончыць унівэрсытэт, будзе доктарам, будзе жыць з каханай жанчынай. У той час жонка яго моцна захварэла. Лепшыя хірургі унівэрсытэту параілі зрабіць ёй опэрацыю і зрабілі дрэнна. Ад няўдалай опэрацыі яна памерла. Зімін зьненавідзеў мэдыцыну, адчуваў да яе нейкую непераканаваную агіду і варожасьць, якая асталася да апошняга часу. Паспрабаваў пайсьці на юрыдычны факультэт. Выпадкова зблізіўся з рэволюцыйнымі студэнтамі, удзельнічаў у рэволюцыйным гуртку. Гурток праваліўся і Зіміна саслалі на два гады. Пасьля гэтага ён страціў ахвоту да далейшай рэволюцыйнай працы і, зразумела, ня мог ужо скончыць юрыдычны факультэт, як выключаны з унівэрсытэту. Пасьля рэволюцыі ён прыстаў да бальшавікоў. Цягнула ўсё-ткі яго да рэволюцыйнай працы, але ня мог ёй так захапіцца, як іншыя, балюча рэагаваў на ўсе недахопы і недарэчнасьці, што сустракаліся ў працы, і вельмі неахвотна выконваў даручэньні камітэту, асабліва, калі яго пасылалі куды-небудзь за горад.

Арцюхін пачаў яму апавядаць пра сутычку з Батурскім.

— Ды гэта-ж ненормальны чалавек,—скэптычна адазваўся Зімін і, кінуўшы погляд на Арцюхіна, як-бы жадаючы дадаць „добрая і ты цаца“, сказаў,—дзіва, як толькі ў нас такіх садзяць на адказныя пасады. Ня толькі адзін Батурскі такі, ёсьць яшчэ шмат і ў іншых установах.

— Не, я да яго абавязкова дакапаюся, я яшчэ яго правучу,— адгражаўся Арцюхін.

— Ты на каго гэта?—спытаўся ўвайшоўшы Штэйнман.

— Ды на гэтага анархічнага бандыта, што сядзіць у Земаддзеле. Калі вы ня прымеце супроць яго мер, дык я сам вазьмуся за яго. Я напішу ў цэнтр. Як можна, каб ён сабе дазваляў такія штукі. У мяне ёсьць матэрыял, і я ўпэўнены, што ў справе разьмеркаваньня конфіскаванай у бандытаў маемасьці ня ўсё ў парадку.

— Калі будзе матэрыял, дык ня трэба будзе табе ў цэнтр скардзіцца. Самі прымем меры, зьнімем, калі трэба будзе. Я думаю, што нам прыдзецца назначыць камісію і зрэвізаваць справы. Каб у нас Рыбакоў быў-бы хлопец байчэйшы, справа інакш пайшла. А то выносім пастановы на парткоме, на выканкоме, а тымчасам пастановы так і застаюцца пастановамі.

— Дык навошта вы вызначалі Рыбакова на старшыню выканкому,— зазначыў Зімін.

— А каго-ж ты іншага назначыш, калі ў нас так мала людзей,— адказаў Штэйнман, зморшчыўшы лоб, як-бы сапраўды хацеў прыпомніць, каго гэта можна было-б назначыць.

— Карпіцкі або Глебаў ужо куды лепшымі былі-б — падказаў Арцюхін.—Праца ў іх аддзелах пастаўлена куды лепш, як у іншых.

Адчуваецца парадак і дысцыпліна. У іншых установах супрацоўнікі амаль нічога ня робяць, толькі паёк атрымліваюць. Тут старшыня выканкому павінен узяцца раней за загадчыкаў аддзеламі. Нарэшце, гэта не мая справа. Мне што загадаюць, то і буду рабіць. Толькі з такімі вар'ятамі, як Батурскі, ведама, цяжка.

— Ты, мне здаецца, занадта ўжо ўзьеўся на Батурскага. Я згаджаюся з табой, што трэба будзе зрабіць рэвізію. Пагутарым на прэзыдыуме выканкому, вылучым камісію і, як будзе вальнейшы час, правядзем рэвізію. Цяпер усе занятыя і ніяк ня могуць адарвацца.

— Ужо шмат разоў станавілі рабіць рэвізію і ўсё адкладвалі,— налягаў на сваім Арцюхін з нейкай упартай настойлівасьцю.—Ты мне скажы зараз-жа—калі і каго пашлеш.

Штэйнман хацеў супярэчыць, але, як было заўсёды, калі хто ўпарта дабіваўся свайго, уступіў Арцюхіну, згадзіўся, што трэба зараз каго-небудзь паслаць, толькі не находзіў здавальняючага кандыдата.

— Пашлі Карпіцкага ці Глебава,—параіў Арцюхін.

— Карпіцкі выяжджае з атрадам на фронт.

— А навошта вы яго адпусьцілі, з кім тут астанецеся,—перабіў Арцюхін.

— Чакай, слухай да канца, тады будзеш ведаць. Карпіцкі хацеў зусім паехаць на фронт, але мы яго ня пусьцілі. Дазволілі толькі зьезьдзіць на фронт, пакінуць там сфармаваны атрад і вярнуцца. Вось і прабудзе ён два-тры тыдні. Глебаў камандыруецца на некалькі дзён у бліжэйшую Слабодзкую воласьць для правядзеньня там харчразьвёрсткі. Ну, а калі паслаць яшчэ каго-небудзь, дык Батурскі прагоніць так, як цябе.

— Добра, пачакаем да прыезду Глебава,—згадзіўся Арцюхін,— але тады ўжо пашліце яго без усялякага адкладаньня.

Зімін сядзеў каля расчыненага вакна, павольна, як-бы забаўляючыся, дзьмуў у вакно папяросным дымам і бязудзельна слухаў гутарку. Толькі як гутарка скончылася, Зімін уставіў:

— Ён і вас, таварыш Штэйнман, прагоніць,—пры нашай культурнасьці далёка не пасунешся—і, не чакаючы адказу, вышаў.

## III

Пасьля дажджу ў каляінах дарогі яшчэ ня высахла вада, толькі там, дзе яе было ня шмат, блішчэла яшчэ вільготная, шэра-жоўтаватая, гладкая, як з дробнае мукі, скарынка. Жыта пачынала красавацца і шыза-зялёнымі хвалямі калыхалася ад павеву ветру. Часам моцны подых ветру схіляў нізка яшчэ пустыя каласкі, прыгінаў іх да самай зямлі, але яны, як-бы не жадаючы абмакнуцца ў каламутную ваду на дарозе, хутка выпростваліся, а потым ізноў згіналіся. Зьвіваліся вірам вакол

і ціха, нездаволена шумелі. Дзе-ні-дзе ўжо сьвіціліся сінія васілёчкі, вабілі сваім хараством,—то паказваліся блізка каля дарогі, то задорна падзіцячаму хаваліся далей у густым жыце. Пчолкі, нездаволеныя, што вецер перашкаджае іх працы, мітусіліся над кветкамі на межах, над віхравым жытам.

Колы абляпляліся гразьзю ў нізінах, абсыхалі і абціраліся на пяшчаных мясьцінах. Размочаная дарога ня лёгкая для язды, але парка коняй саўгасу лёгка kaцілі старую, з аблезлай фарбай, брычку.

Карпіцкі глядзеў задуменна на ўсхваляванае жыта. А думкі яго былі розныя. Ды што можна думаць на адзіноце ў дарозе? Успомнілася гэтая самая дарога вясной, калі яны пераяжджалі ў павятовы горад. Цяпер выгляд ваколіцы зьмяніўся. Тады амывалася шэрань зімы, зямля набіралася жыцьцёвых сокаў, якія зараз ператварыліся ў цёмна-зялёны колер расьлін: і дрэвы, і кусты, і жыта, і сенажаць зьліваліся ў адно суцэльнае, зялёнае.

Тады і цяпер,—мала, параўнаўча, прайшло часу, а настрой зусім другі. Успомнілася Таіса. Яна, пэўне, думае, што Карпіцкі назусім паехаў на фронт. У дзень ад'езду на фронт была на провадах атраду, у часе кароткага адвітальнага мітынгу каля парткому, стаяла на сваім улюбёным месцы: на бярвеньнях каля паркану. Потым пашла за мост на станцыю. Адвіталася з несхаваным сумам і спачуваньнем.

Можа гэта толькі здалося Карпіцкаму. Так мала яе ведае. Пасьля спатканьня на мосьце ня было выпадку, каб зыйсьціся даўжэй пагутарыць. Прывітае з воддалі, скажа некалькі слоў пры спатканьні. Супярэчнасьць нейкая данімала Карпіцкага. Мімавольная стрыманасьць, быццам ухіленьне спатканца з Таісай, сумненьне і прыкрасьць пры ўспаміне аб яе знаёмстве са Шпідэльскім. І ў той самы час каханьне, якое ўсё больш узрастала, захапляла ўсю яго істоту, хвалявала і з нявымоўным імпэтам прыцягвала да Таісы. Часам злаваўся на сябе за сваю стрыманасьць, афіцыяльнасьць і нейкую паважнасьць. Хацелася падыйсьці да яе, прызнацца ў сваім каханьні, схапіць у абдымкі і моцна і доўга абсыпаць яе твар пацалункамі. Зрабіць так, як дзесяткі іншых, не зьвяртаючы ўвагі ні на якое сумненьне, разважаньні і г. д.

Ці-ж ня можна яму кахаць і быць каханым, калі захапіла яго істоту гэтае новае пачуцьцё? Ужо цьвёрда, здаецца, рашыў пайсьці за голасам пачуцьця, скінуць з сябе маску.

Прыглядзеўся да вакольных зьяў, спрабаваў уцяміць іх сэнс праз прызму свайго пачуцьця, свайго асабістага, інтымнага. Не знаходзіў, быццам, побач з імі месца для гэткага пачуцьця, ня мог пагадзіць. Суровы час, важныя, жорсткія зьявы, думкі і настроі людзей захоплены падзеямі, чаканьнем разьвязкі. Каханьне адышло, быццам, на другі плян, страціла сваю захапляючую моц, нейкім дзяцінствам здаюцца яго пяшчоты. Кахаюцца цяпер неяк па іншаму, ня так, як у тых раманах, што

чытаў Карпіцкі, калі быў падросткам. Жыцьцё стала больш адказным, больш вымагальным,—каханьне страціла сваю актуальнасьць, уступіла сваё пяршынства іншым патрабаваньням жыцьця.

Да такіх вынікаў прыходзіў Карпіцкі пасьля разважаньня над вакольнымі зьявамі. Значыцца, уяўленьне аб каханьні ён меў чыста тэорэтычнае і пры тым з даўно мінулага часу. Шпідэльскі, Забалотны і іншыя ня дбаюць аб каханьні такім, якім яго ўяўляў Карпіцкі. Аставалася адно: перамагчы сваё пачуцьцё, тым больш, што няведама, як на яго адкажа Таіса.

Фронт наблізіўся да павету. Карпіцкі рашыў паехаць на фронт з першым сформаваным ім атрадам. Адказны час выклікаў у ім уздым рэволюцыйнага настрою. Падмешвалася сюды і жаданьне заглушыць супярэчнасьці, выкліканыя каханьнем да Таісы. Партыйны камітэт не згадзіўся адпусьціць Карпіцкага на фронт, бо і тут цяпер была больш важная праца, для падтрыманьня фронту. Трэба было формаваць узброеныя атрады для фронта, правесьці мобілізацыю, выкараняць „зялёных“ і г. п.

Цяпер, пасьля двухтыднёвай пабыўкі на фронце, Карпіцкі вяртаўся ў горад. Фронт і горад быццам па чарзе занімалі думкі.

— Карпіцкі! Ты што-ж так ваенізаваўся, што не пазнаеш сваіх?—паклікаў знаёмы голас.

Карпіцкі глянуў назад. Па дарозе ішоў Глебаў, і Карпіцкі, захоплены сваімі думкамі, не заўважыў як абмінуў яго.

— Ты адкуль узяўся,—спытаўся радасна зьдзіўлены, — як з-пад зямлі вырас, дзе вандраваў пехатою?

— Вось бачыш, што і пехатою можна вандраваць,—адказаў Глебаў, лезучы ў брычку.—Быў у Слабодзкай воласьці, на харчовым фронце ваяваў. Прышлося дадому ехаць, няма нідзе фурманкі, усе заняты на палявой працы. Ат, думаю, клопату больш нажывеш з фурманкай. Сабраўся і паехаў на ўласнай парцы. Ну, што чуваць на фронце, як нашы хлопцы, усе жывы, здаровы?—пачаў распытваць Глебаў.

— Жывы і здаровы амаль усе, толькі комсамолец Зайцаў забіты.

— Так хутка, толькі паехалі на фронт і ўжо ёсьць забітыя,—зьдзівіўся Глебаў,—раскажы, як гэта сталася.

— Як заўсёды—нечаканае здарэньне. Нашаму атраду даручылі абараняць мост праз раку. Направа ад мосту вярсты са дзьве ў вёсцы на тым баку ракі стаяла суседняя наша застава. Перад намі за ракой старыя пакінутыя акопы. Вярсты са тры-чатыры ад мосту — лес. На ўскрайку яго палякі. У нас шчыльнага фронту няма, толькі на пэўнай адлегласьці адна ад другой усьцяж ракі стаяць заставы.

Дык вось, я, Зайцаў і міліцыянэр Пятроў выехалі конна за мост. Выехалі за мост, каб аб'ехаць рачную луку і бліжэйшым шляхам дабрацца да суседняй вёскі, дзе стаяла свая застава. Раптам са старых пакінутых акопаў пачаліся стрэлы. Звычайна так блізка палякаў ня было, бо стаялі палякі на ўскрайку лесу. А тут апынуліся зусім недалёка.

Мы сьпешыліся, забраліся ў акоп, пачалі адстрэльвацца і адступаць да сваіх. Палякі насядаюць. Перабягаем з акопа ў акоп. Свае не маглі пасьпець на падмогу, таму што палякі абстрэльвалі і мост. Адступаць праз раку таксама нельга было. А палякі робяць перабежку з аднэй лініі акопаў у другую, усё бліжэй. Зусім наблізіліся, так што нам вылезьці з акопаў, каб адступіць у тыл, немагчыма: пакуль дабяжыш да тыльнага акопу перастраляюць. Так мусіць усе і загінулі-б. Толькі сваячасова заўважылі свае, выцягнулі на ўзгорак кулямёт і пачалі абстрэльваць палякаў. Прыстраляліся з кулямёту так, што палякам да нас дабрацца ўжо было ня так лёгка. Уся мясцовасьць паміж палякамі і намі абсыпалася кулямі. Мы рашылі адступаць у тыльны акоп. Па адным выпаўзьлі з акопаў і пабеглі ў тыл. Беглі схіліўшыся, цадалі на зямлю, паўзьлі. Я з Пятровым дабраліся да акопу. Азірнуліся назад, аж Зайцаў застаўся ляжаць якраз недалёка ад першага акопу. Праз нейкі час свае прарваліся праз мост, пашлі ў наступ і адагналі палякаў. Зайцава знашлі ўжо мёртвым. Цяжка ранены, ён, мусіць, хацеў нешта пісаць. Побач з ім ляжала кніжка і недалёчка ад яе валяўся аловак. У кніжцы нявыразнымі літарамі напісана: „дарагая мама... я“ і больш нічога. Відаць, небарака хацеў напісаць да сваёй мацеры ліст, але не хапіла сіл. Успамінаецца мне, закончыў Карпіцкі, як маці Зайцава плакала на станцыі, калі мы ад'яжджалі з атрадам.

Калі Карпіцкі пад'яжджаў да гораду, дык яго ахапляла радасьць ад спатканьня з Таісай, жаданьне пабачыць яе. Здавалася, што не паўтара тыдні мінула, а цэлы год. То ізноў агортваў яго прыкры сум і расчараваньне да Таісы, хацелася забыць яе, перастаць думаць аб ёй.

З такім супярэчным настроем Карпіцкі ехаў у горад.

— Цяпер ты мне раскажы,—узнавіў гутарку Карпіцкі, што ў вас тут робіцца. Я чытаў, праяжджаючы, у воласьці адозву выканкому адносна забойства Нарутовіча. Нічога не зразумеў у гэтай адозьве. Там пішацца, што віноўнікі будуць выкрыты і пакараны, а між тым насельніцтва ўсё гаворыць, што забойца Нарутовіча вядомы выканкому, што выканком ня думае пакараць забойцу, што гэта проста хтосьці з выканкому забіў яго. Не разумею, у чым тут справа.

— Справа то тут зусім простая,—адказаў Глебаў,—я табе зараз раскажу ўсё па парадку.—Батурскі ўзяў старшага міліцыянэра Вінаградава і пашоў да Нарутовіча нібы-та рабіць вобыск.

— Якая справа,—перабіў яго Карпіцкі,—Батурскаму займацца вобыскамі. І чаму гэта старшы міліцыянэр слухае не начальніка міліцыі, а Батурскага?

— Ты-ж ведаеш, што Вінаградаў такі чалавек: яму толькі скажы хто-небудзь з выканкому, ён і ў ваду і ў агонь палезе.

— Дык Вінаградаў забіў Нарутовіча?

— Не. Зараз я табе раскажу па парадку. Прыходзіць Батурскі з Вінаградавым на вобыск да Нарутовіча. Той пачынае супярэчыць і лаяцца. Вядома, чалавек вышаў з розуму, больш 80 гадоў мае, зьдзіцянеў ужо. Ён ужо таго не разумее, што ён цяпер ня пан, што ён ня мае ўлады такой, як калісьці, што хочаш ня хочаш, а трэба скарыцца савецкай уладзе. Слова за слова, Батурскі счапіўся з Нарутовічам.

Батурскі разьюшыўся: „Годзе табе, кажа, нашай крыві смактаць. Ты, кажа, майго бацьку калісьці аграстам лупцаваў, а цяпер думаеш і нам бунтаваць, думаеш, дачакаешся старога ладу". Аб гэтым усё расказваў Вінаградаў. Батурскі арыштаваў Нарутовіча. Той спачатку не хацеў ісьці, потым паддаўся, але ўсё лаяўся. Вышлі на вуліцу, Батурскі выхапіў рэвольвэр, выстраліў Нарутовічу проста ў скронь і забіў яго напавал.

— Ад Батурскага гэтага можна было і чакаць, так ён і разумее рэволюцыю,—прамовіў Карпіцкі.—А вы Батурскага і Вінаградава арыштавалі?

— Не, не арыштавалі, Рыбакоў проста ня ведаў, што рабіць, я быў у воласьці.

— Дык навошта тады пісаць такое глупства ў адозьве да насельніцтва: „вінавайцы выкрываюцца і будуць сурова пакараны. Насельніцтва заклікаецца захоўваць спакой і парадак". Хто пасьля гэтага паверыць, калі ўвесь павет ведае пра забойцу, які гуляе на волі.

— Я таксама лічу, што трэба нешта рабіць, нават пісаў Рыбакову аб гэтым, але не паслухалі мяне.

— Так пакінуць нельга,—сказаў рашуча Карпіцкі. Выклікай у выканком Штэймана і прыходзь сам, я зараз там буду.

Глебаў зьлез каля парткому, а Карпіцкі паехаў у выканком. Пасьля паездкі на фронт, горад здаваўся Карпіцкаму яшчэ больш ціхім і лянівасонным, дзе здарэньні робяцца ад нуды і дзе самае маленькае здарэньне зьяўляецца вялікай зьявай, аб якой гавораць тыдні, прынамсі да новага здарэньня.

Калі брычка з Карпіцкім пад'ехала да параднага ганку старога палацу ў парку, дзе зьмяшчаўся выканаўчы камітэт, у вокнах паказалася некалькі твараў. Пакуль Карпіцкі зьлез з брычкі павыбягалі яго спатыкаць. Карпіцкага зьдзівіла, што першай на ганак выбегла Таіса. На твары ў яе адбівалася ні то вясёласьць, ні то ўзрадаваньне. Яна падбегла на сходкі ганку і, прывітаўшыся першай з Карпіцкім, сказала:

— Як добра, што вы прыехалі. Сумна неяк было бяз вас. Можаце мяне павіншаваць, я паступіла на службу.

— Як? вы ўжо на службе, у якім аддзеле?—спытаўся, падзяляючы яе радасьць, Карпіцкі.

— У харчовым аддзеле, пішу ўсялякія чэкі, талёны, ордэры. Я вельмі рада, што паступіла на службу. Нудна без заняткаў, няма чаго рабіць. Прыкра глядзець, калі ўсе працуюць, а ты ня ведаеш, куды дзецца.

— Я таксама лічу, што без заняткаў надта нудна. Здаецца, бацька ваш таксама на службе?

— А так, ён служыць у адміністрацыйным аддзеле выканкому, загадвае грашовай часткай.

Карпіцкага абступілі супрацоўнікі ваенкамату. Засыпалі яго пытаньнямі аб фронце. Пагутарыць асобна з Таісай нельга было, ды і ня было часу.

— Я пайду да старшыні выканкому—сказаў Карпіцкі, зьвяртаючыся да ўсіх,—вы мяне выбачайце, але я ня маю часу, вельмі пільныя справы. Пра фронт раскажу потым.

Рыбакоў, калі ўвайшоў Карпіцкі, хадзіў па пакоі і курыў папіроску Уваход Карпіцкага таксама не зьмяніў яго спакою і бязрупатлівасьці. Толькі сеў на крэсла каля столу і спытаўся.

— Ну, як там справы на фронце?

— Калі фронт будзе апірацца на такі тыл, які вось вы ствараеце, дык добрага нічога чакаць ня прыдзецца—адказаў Карпіцкі тонам нездаваленьня.

— У чым справа?—спытаўся, як-бы неразумеючы, Рыбакоў.

— Ня прыкідайцеся такім наіўным. Хаваеце голаву пад скрыдла, як той страус, і думаеце, што ўжо схаваліся. А тымчасам настроі насельніцтва ў павеце такія, што самая нязначная прычына можа выклікаць непажаданыя вынікі. Што вы гуляеце ў схованкі з Батурскім?

— Дык ты ўжо ведаеш?—спытаўся Рыбакоў.

— Ня толькі я, але ўсе ўжо ведаюць, а вы як быццам хочаце канцы ў ваду схаваць.

Пры апошніх словах Карпіцкага ў пакой увайшлі Глебаў са Штэйманам.

— І я скажу,—умяшаўся ў размову Глебаў,—што так нельга, трэба было адразу паведаміць, хто забіў Нарутовіча і якая чакае яго кара. Няма чаго цырымоніцца з забойцам, хоць-бы ён і меў пэўныя заслугі.

— Так то яно так, толькі неяк шкода Батурскага,—адказаў Рыбакоў, згаджаючыся з Глебавым, бачучы, відаць, што большасьць прысутных будзе нездаволена выданай адозвай выканкому.

— Нельга пакідаць справу так,—прамовіў Карпіцкі,—бо кожны пакваліцца думаць, што рэволюцыя яму надала права рабіць усё—і суд і расправу. Калі кожны будзе так безадказна арудаваць, дык будзе не рэволюцыйны парадак, а нейкае бязьладзьдзе. Трэба выклікаць Батурскага, запатрабаваць тлумачэньня яго ўчынку і арыштаваць, дадаў расшуча Карпіцкі.

— Я ўжо пазваніў Батурскаму і Арцюхіну, каб ішлі сюды,—адказаў Штэйман.—Але я хачу вам паведаміць яшчэ цікавую справу. Другі наш герой таксама паказаў сябе. Я кажу пра Шатура. Паехаў ён у Крынкава са сваёй „трупай“, каб паставіць спэктакль. Дык вось, у суботу, у рабочы дзень, калі ўсё сялянства занята на полі,—цяпер якраз ідзе

ворыва папару,—ён загадаў, каб крынкаўцы прыслалі яму аж 6 фурманак. Набраў усялякага, выбачайце, зброду, як Ніну Лапко і інш. „артыстых“, і паехаў рабіць культуру на вёсцы. Мне толькі што прыслалі з валаснай ячэйкі паведамленьне аб тым, як ён там рабіў культуру. Перш за ўсё загадаў сабраць больш капы яек, сала, масла для сваёй трупы. Потым дасталі дзесьці самагону і пачалі частавацца. Кажуць, што быццам Шатур ня прымаў удзелу ў расьпіваньні самагону. Але рэшта трупы так папілася, што пачалі хадзіць, сьпяваючы, цалуючыся, па вуліцы, выраблялць нямаведама што на вачох сялян. Усё гэта ўжо досыць раззлавала сялян. „Прыехалі, кажуць, гультаі з гораду, адрываюць ад працы і распусьнічаюць“

Назаўтра, у нядзелю склікалі мітынг у мястэчку (а ўвечары мелі паставіць спэктакль). На мітынгу першы выступіў Шатур. З першых слоў яго ўжо пачалі перабіваць. Ён пачаў адгрызвацца, казаць: „ах вы цемната някультурная“. Яму пачалі кідаць рэплікі: „а ты каго прывез з гораду—п'янчушак ды распусьніц“. Мітынг быў хутчэй ня мітынг, а лаянка. Калі Шатур перайшоў на сваю антырэлігійную тэму і пачаў пракатвацца наконт бога і лаяць духоўнікаў, дык тут сварка крыха-па-крысе перашла ў сапраўдны бунт. Знайшлося ў натоўпе некалькі больш храбрых крыкуноў, якія ўзбурылі рэшту. Натоўп кінуўся на Шатура і пачаў яго біць. Хацелі пабіць і іншых яго падарожнікаў, але тыя пасьпелі схавацца.

— Няма такога паскудзтва, у якім-бы ня быў замешаны Шатур,—перабіў нездаволена Глебаў.—Асабліва выяўляецца ён на сваім антырэлігійным фронце. Памятаеце, зімой, у часе хрышчэнскага кірмашу, наладзілі мы мітынг на рынку. Усё ішло добра. Як толькі выступіў Шатур на сваю ўлюбёную антырэлігійную тэму, дык сяляне таксама накінуліся на яго, ён наўцекі, сяляне наўздагон. Выпадкова я натрапіў на гэта, затрымаў сялян, угаварыў,—разышліся. А каб ня я, дык, мусіць, добра жэбры палічылі-б.

— Ну ды што цяпер у воласьці, дзе Шатур знаходзіцца,—спытаўся Карпіцкі.

— Шатура прывезьлі ў горад і адправілі ў больніцу. Яго моцна такі пабілі. У воласьці як быццам усё спакойна, толькі просяць на ўсялякі выпадак паслаць ім атрад.

— Глупства, ніякага атраду ня трэба пасылаць. А Шатуру гэта будзе навука на іншы раз, будзе больш асьцярожны,—адказаў Глебаў і, спыніўшыся дзеля таго, што ў пакой увайшоў Батурскі, дадаў:—трэба будзе паслаць каго-небудзь з нас, склікаць мітынг, растлумачыць, як рэагавалі мы на геройствы,—тут Глебаў падкрэсьліў,—Батурскага і Шатура, і ўсё будзе добра.

Батурскі азірнуўся неяк спадылба на прысутных, падышоў бліжэй і маўкліва чакаў, пакуль яго спытаюцца. Ведаў, мусіць, аб чым ідзе гутарка і, сумна-панурым поглядам акінуўшы прысутных, рыхтаваўся да адказу.

— Прыдзецца вас арыштаваць,—лагодна, але рашуча, прыжмурыўшы вочы пры гэтым, пачаў першы гутарку Штэйнман.

— Завошта вы мяне будзеце арыштоўваць,—пакорліва-ціха, дрыготкім голасам запытаўся Батурскі.

— Мы лічым,—уставіў Карпіцкі,—што беспасрэдна караць ворагаў народу справа не загадчыка зямельнага аддзелу, а рэволюцыйнага трыбуналу, ЧК, міліцыі нават.

— Я ня мог больш сьцярпець, ня мог больш вытрымаць крыўды. Я-бы мог ня прызнацца да забойства, Вінаградаў мог-бы мяне ня выдаць,—гаварыў надарваным голасам Батурскі.—Я рашыў сам прызнацца вам, бо спадзяюся, што вы мяне зразумееце. Калі вам адразу будзе не зразумела, дык дазвольце мне вам расказаць усё.

— Тут няма чаго разумець,—перабіў Глебаў,—усё нам зразумела. Толькі вось ты ніяк ня можаш зразумець, што сваім пастункам зрабіў больш шкоды, чымся карысьці.

— Не, вы ўсё-такі выслухайце мяне, вам будзе больш зразумела. Ну і рабіце ўжо тады са мной, што хочаце. Я раскажу. Мой бацька яшчэ памятае прыгон. Ён служыў у Нарутовіча. З малых лет ён бачыў толькі зьдзек і крыўду. Тады яшчэ Нарутовіч быў дваццацігадовым панічом, але сэрца ў яго было лютае, як у сапраўднага ката. Майго дзеда залупцавалі розгамі да поўсьмерці. Памёр пасьля катаваньня. Бацька таксама ня раз каштаваў гэтага смаку, і яго ня раз адлупцавалі агрэстам. Раз асабліва моцна яго адлупцавалі. Бацька пакахаў адну дзяўчыну, таксама прыгонную. Нарутовіч ня меў да яго ласкі, аддаў за другога, згвалціўшы яе перад гэтым. Калі бацька выказаў непакорлівасьць, дык яго адлупцавалі розгамі.

Скасавалі прыгон. Таксама жыць было не лягчэй. Зямлі бацьку далі толькі кавалачак. Ён быў яшчэ малады. Была воля, але ня было хлеба. Бацька і маці хадзілі ў падзёншчыкі да Нарутовіча, бацька служыў парабкам у дварох, або ў багатых сялян. Маці хадзіла жаць, палоць грады, хадзіла на іншую працу. Мяне з малых дзён аддалі ў пастушкі, потым пашоў у парабкі. Нарэшце, як падрос, пашоў у горад. Крыўдна было за людзей, за іх сьлёзы і цярпеньне. Зьвязаўся з падпольшчыкамі, рэволюцыянэрамі. Мяне судзілі, саслалі на катаргу. Будучы ў горадзе, сяк-так памагаў бацьком. Ну, а потым, калі трапіў на катаргу, ня мог ужо памагаць. Бацькоў замучыла нэндза,—сіл ужо не хапала працаваць, пастарэлі. Падмогі ня было, зірнуў такі бывалы госьць, як голад. Перабіваліся ў нэндзы і ў голадзе. Маці памерла раней. Бацьку яшчэ знайшоў жывым, калі вярнуўся з катаргі. Праз пару год і ён памёр.

Крыўда прыціскала цяжкім каменем. Грудзі гарэлі жаданьнем помсты. Хацелася помсьціць, забіваць, зьнішчаць крывасмокаў. Зьвязаўся з анархістымі, бо лічыў, што гэта самая рашучая організацыя, што яна больш іншых ахоплена ненавісьцю да крывасмокаў. Жаніўся, пачаў ляпей

зарабляць. Жыць стала, здаецца, ляпей. Дачушка была маленькая. Жонка захварэла на тыфус, памерла. Аднэй спацехай асталася дачушка. Надышла рэволюцыя, агарнула надзея, што дачакаемся лепшай будучыні, што надыйшоў час помсты за адвечную крыўду. Радасна стала, што пасьля стольких цярпеньняў дачакаўся жаданай хвіліны. Голад, сьцюжа, частыя пераезды. Пахаваў дачку: прастудзілася ў нятопленым вагоне, захварэла на запаленьне лёгкіх і памерла.

І пасьля стольких пакут, пасьля таго, як вылілася так многа ня толькі сьлёз у мінуўшчыне, але і крыві ў часы рэволюцыі. Пасьля таго, як дасталася нам такой крывавай цаной перамога, калі яшчэ з усіх бакоў на нас насядаюць гады, цягнуцца крывавыя рукі да нашага горла, дык вось у гэты самы час, Нарутовіч, той самы Нарутовіч, які лупцаваў аграстам майго бацьку і ня толькі лупцаваў, але і прымусіў усё жыцьцё пражыць у голадзе і нэндзы, той самы Нарутовіч, ад якога так нацярпеліся вакольныя сяляне,—ходзіць сабе вольна, агітуе проці савецкае ўлады, прадракае яе хуткую загубу і рыхтуецца яшчэ сесьці ў свой маёнтак, каб паказаць сваю прыгоньніцкую лютасьць... Не, ня вытрымаў я гэтага, не сьцярпеў, перапоўнілася цярпеньне. Ці лічыце вы мой учынак злачынствам, ці не, але я толькі помсьціўся за людзкую крыўду і нэндзу.

Голас Батурскага ўсё больш сьціхаў. Унутраны боль націскаў на яго, і ён шчыра, па-дзіцячаму зьмякчэў і маляваў аповесьць свайго жыцьця. У гэтую хвіліну ён зусім быў не падобен да ранейшага Батурскага. Нешта хілае, кволае, бязвольнае, прыціснутае жыцьцём, нейкае ўвасабленьне пакуты было ў яго прыгорбленай фігуры. Нават Арцюхін, які ўвайшоў пад канец прамовы Батурскага, зьдзіўлена пагледаў на яго.

— Цярпеў шмат хто, ня ты адзін,—пачаў першы Глебаў,—толькі цярпеньне і крыўда выкула з людзей такіх барацьбітоў, якія ўмеюць свае пачуцьці, сваю волю і думку падпарадкаваць колектыўнай волі, якія навучыліся змагацца колектыўна. Патугамі адзінак, хоць-бы і выкліканымі добрымі парываньнямі, сьвет не перабудуеш, ворагаў не пераможаш. Вось і ты цяпер робіш шкоду той самай рэволюцыі, якая мае мэтай зьнішчыць стары лад, устанавіць новы, лепшы. А ты ня можаш падпарадкавацца колектыўнай волі і сваімі ўчынкамі робіш шкоду рэволюцыі.

— Ня мог выцерпець, ня мог больш бачыць, каб ворагі нават цяпер насьміхаліся над намі,—адказаў Батурскі, як-бы згаджаючыся з Глебавым і як-бы заклікаючы лічыцца з яго пачуцьцямі і перажываньнямі.

— Вось, значыць, жыцьцё і ня выкула патрэбнага барацьбіта, нават такое жыцьцё, як тваё,—адазваўся Карпіцкі.—Ты нават ня ўмееш распазнаць сілы ворага. Які з Нарутовіча, гэтага зьдзіцянеўшага васьмідзесяцігадовага старыка можа быць вораг. Хто можа яго паслухаць, згадзіцца з ім, паверыць у яго здольнасьць змагацца з намі? Нарэшце, калі было-б патрэбна яго пакараць, дык мы маглі-б гэта зрабіць не падпольна,

не з-за кута, як ты зрабіў, а адкрыта, афіцыяльна, праз адпаведныя нашыя органы, каб і іншыя ворагі ведалі, што не на жарт баронім заваёвы рэволюцыі.

— Праўду вы кажаце, я з вамі згаджаюся,—прамовіў Рыбакоў,— калі яму ўжо нічога іншага і не аставалася, як згадзіцца. Прыдзецца цябе арыштаваць і аддаць пад суд.

— Хоць і шкода цябе, але прыдзецца гэта зрабіць,—дадаў Штэйнман.—Думкі ў цябе добрыя, але ўчынкі кепскія. Ты яшчэ ніяк ня ўсвоіў, што значыць быць бальшавіком. Я табе ня раз ужо ў шмат якіх выпадках гэта гаварыў, а ты ўсё-такі ня выправіўся.

— Ты, Арцюхін, адвядзі Батурскага ў вастрог, загадаў Рыбакоў. Пастанову аб арышце зараз напішам. Арыштуй таксама і Вінаградава.

— Я ўжо Вінаградава арыштаваў, тав. старшыня,—адказаў Арцюхін, выцягнуўшыся павайсковаму.

— Вы, таварышы, калі ўжо рашылі мяне арыштаваць, дык воля ваша. Толькі можа дазволіце мне знаходзіцца пад арыштам ня ў турме, а на кватэры.

— А гэта, як згодзіцца Арцюхін. Калі ён дасьць гарантыю, што ты не ўцячэш, дык можаш сабе і на кватэры быць,—адказаў Рыбакоў.

— Не, не, я гарантыі ня дам,—пасьпяшыў адказаць Арцюхін.—У мяне няма і так міліцыянэраў на варту ставіць. А я сам ці што буду цябе вартаваць,—дадаў, зьвярнуўшыся да Батурскага.

— Ну, дык вядзі тады ў вастрог.

— Слухаю, таварыш старшыня.—Арцюхін дастаў з кабуры наган і падышоў да Батурскага,—хадзем, нарэшце ты павінен будзеш паслухаць мяне—прамовіў не бяз пэўнага здавальненьня, і павёў Батурскага перад сабой.

— А ты, Рыбакоў, я табе проста скажу ў вочы,—сказаў Глебаў, калі Батурскі з Арцюхіным выйшлі. Трэба ў такіх выпадках, ды і ў шмат якіх, ведаць, што рабіць, бо іначай увесь павет зялёным зробіцца.

— Дык што-ж цяпер з Шатуром рабіць,—спытаўся нерашуча Рыбакоў, каб ня мець потым нападкаў на няправільны загад.

— Шатура не арыштуеш, калі ляжыць у больніцы,—адказаў яму Штэйнман.—Выздаравее, дык і яму трэба будзе нахлабучку даць. Толькі тут справа зусім іншая. Гэты герой з іншае байкі. Зараз трэба падумаць, каго пасьлаць загадваць аддзелам асьветы. Там поўная неразьбярыха. Настаўнікамі панабіраў каго папала, як яны вучаць і чаму вучаць, сам алах ведае.

— Затое маем дасягненьні на антырэлігійным фронце,—пажартаваў Глебаў.

— Ну, дык каго вы раіце паслаць?—запытаўся Рыбакоў.

— Я прапаную,—сказаўГлебаў,—паслаць, пакуль што, Карпіцкага загадваць аддзелам народнае асьветы.

— І даць яму заданьне зрабіць належную чыстку, бо інакш будзе не асьвета, а зацямненьне,—дадаў Штэйнман.

— У мяне і сваіх спраў не абабраць. Вы ведаеце, што яшчэ цяпер з прыбліжэньнем фронту на ваенкамат ускладаецца самая важная задача.

— Ды там трэба толькі наладзіць працу і наглядаць за ёю,—настайваў Глебаў,—яна ў цябе ня займе шмат часу. Іншага мы ня маем каго пасланць. Я думаю, што мы доўга спрачацца ня будзем і згодзімся на кандыдатуру Карпіцкага.

— Я таксама згаджаюся з вамі,—сказаў Рыбакоў.—Паслаць каго іншага, дык там-жа трэба чалавека граматнага і палітычна надзейнага. Кац, напрыклад, палітычна надзейны, але няграматны, а Лібман граматны, затое бундавец.

* * *

У аддзеле народнай асьветы Карпіцкага больш усяго цікавіла школьная справа. Загадчыцу школьнага пададдзелу, настаўніцу Казінец, высокую, мажную, ужо ў дарослым веку дзяўчыну, ён затрымаў больш іншых, распытваючы пра становішча школ. Азнаёміўся яшчэ больш падрабязна са становішчам дашкольнага пададдзелу, асабліва з дзіцячымі прытулкамі. Азнаямленьне з іншымі пададдзеламі адклаў на другі дзень, бо сьпяшаўся ў ваенкамат.

— Трэба будзе, таварыш Карпіцкі, харчовае пытаньне палепшыць у дзіцячых прытулках,—гаварыў загадчык дашкольнага пададдзелу, настаўнік Арэхаў, з сівізнай ужо ў валасох, няголены, у касаваротцы крэмавага колеру, падпяразанай круглым паскам. Сёньня, напрыклад, зусім ня было хлеба. Ды калі і бывае хлеб, ён ня здатны для дзяцей, адна мякіна, і таго не хапае. Дзеці бедныя, праўда, ядуць, голад ня цётка, але толькі марнеюць ад такой ежы.

— Добра, я пастаўлю пытаньне на прэзыдыуме выканкому, вынесем пастанову, дадзім загад харчоваму аддзелу, каб дзіцячыя прытулкі ў першы чарод забясьпечыць хлебам.

Арэхаў сабраў паперы, ведамасьці, усялякія рахункі, якія былі раскладзены перад Карпіцкім, паклаў акуратненька іх у папку і вышаў.

Карпіцкі хацеў ужо ісьці ў ваенкамат, як у пакой увайшла Казінец.

— Таварыш Карпіцкі,—прамовіла яна,—з вамі хоча пагутарыць адна дзяўчына. Яна, здаецца, хоча прасіць пасаду настаўніцы.

— Добра, хай зайдзе, хоць часу я зусім ня маю.

Стаяў, абапёршыся на стол, і акінуў позіркам прышоўшую.—Невялікага росту, хударлявая, досыць рухлівая, з бойкімі цёмнымі, колеру вільготнай смародзіны, вачыма, з востранькім носікам.

— Я прышла да вас,—пачала тая, не чакаючы запытаньня,—прасіць працы,—настаўніцай у школе. Скончыла я гімназію і вучылася два гады на вышэйшых жаночых курсах у Пецярбурзе,—і, калі Карпіцкі нічога не адказаў, дадала,—прозьвішча маё Замкоўская.

— Замкоўская? — стараючыся прыпомніць, прамовіў Карпіцкі, — дзесьці чуў гэта прозьвішча. Ці не з Беразоўскай воласьці вы будзеце?

— Так, з Беразоўскай,—адказала.

— Там, здаецца, ёсьць памешчык Замкоўскі?

— Так, ёсьць Замкоўскі ў Беразоўскай воласьці і я дачка яго.

Карпіцкі нічога не адказаў, толькі больш пільна прыглядзеўся да Замкоўскай.

— Не,—адказаў рашуча Карпіцкі,—не магу вам даць гэтай пасады.

— Чаму, таму што я дачка памешчыка?

— Так, таму што вы дачка памешчыка, і я не магу даручыць вам выхаваньне нашых мужыцкіх дзяцей.

— Вы зусім памыляецеся, калі думаеце, што я такая, як і іншыя дочкі памешчыкаў. Мой бацька жыве з сялянамі ў самых лепшых адносінах. Большасьць сваіх земляў і сенажацяй ён проста раздаў сялянам. Калі надышла рэволюцыя, дык мы нікуды не выяжджалі, бо ўсе сяляне за нас. Яны кажуць, што не дапусьцяць, каб нам зрабілі якую-небудзь крыўду. Бацька сам пашоў у воласьць і сказаў, што ён ня мае нічога супроць таго, што забяруць усю яго зямлю.

— А каб ён што-небудзь меў супроць, дык вы думаеце гэта зьмяніла-б справу?

— Не, ня думаю. Я толькі гэтым хацела сказаць, што мой бацька і ўся наша сям'я з даўных часоў жывем мірна з народам. Нядаўна ў нашым доме па нашай ініцыятыве адкрылі нардом. З вакольных вёсак зьбіраюцца сюды сяляне, праводзяцца сходкі, наладжваюцца спэктаклі, у якіх, між іншым, мы прымаем удзел.

— Магчыма вы і добрыя памешчыкі, але ўсё-такі вы памешчыкі. Дапусьцім, ваш бацька раздаў усю або большасьць зямлі сялянам. Зусім іншая справа, калі сяляне самі забралі памешчыцкую зямлю, ня з ласкі пана. Тады яны лічаць сябе, а ня пана, гаспадаром гэтай зямлі. Не магу вам даць пасаду настаўніцы. Не па-нашаму вы будзеце навучаць. Можа вы і любіце народ і хочаце дапамагаць яму, але нам трэба навучаць так, што селянін, што рабочы сам зьяўляецца гаспадаром над зямлёю і над фабрыкамі, што гэта ўсё яго, што ён не патрабуе панскай ласкі. Вы вось шкадуеце народ і гатовы памагчы яму. А ў той самы час вы як быццам не разумееце, што вы самі і зьяўляецеся віноўнікамі народнай крыўды. Ня трэба крыўдзіць народ, і тады ня будзе патрэбы шкадаваць яго і дапамагаць яму. Ён сабе сам дапаможа.

— Мой бацька служыць-жа ў вас, у лясным аддзеле. Чаму-ж вы мне ня можаце даць службу, калі я маю вялікае жаданьне працаваць і быць карыснай для вас?

— Там зусім іншая справа. Ваш бацька, відаць, лясны спэцыяліст, ён нам карысны, і ён нам патрэбны. А для працы, якую вы просіце, патрэбны іншыя людзі. Пры шчырым нават жаданьні працаваць

для народу, ня можа быць выказана народу праўдзівая думка аб яго правох, аб яго мэтах, калі гэта будзе рабіць чалавек, які ня вышаў з народу і які лічыць сябе неяк вышэйшым.

— Вы кажаце так зусім ня ведаючы мяне. Дайце мне крыху папрацаваць, каб вы пераканаліся, што я зусім ня хочу выказваць маладому пакаленьню думку аб чорнай і белай косьці. Я вас вельмі прашу даць мне магчымасьць быць вам карыснай.

— Не, не магу. Можа на іншай працы мы патрапім выкарыстаць вашы веды і жаданьні.

— Дык іншую працу я ня здолею так праводзіць.

Карпіцкі падумаў, потым разьвярнуў перад сабой справаздачу аддзелу народнай асьветы, адшукаў месца, дзе гаворыцца пра школьны пададдзел і пачаў яшчэ раз пераглядаць.

Замкоўская стаяла моўчкі і ня ведала, ці ўжо яе Карпіцкі ня хоча слухаць і ці ня трэба ёй адыходзіць. Не дачакаўшыся праз хвілінкі паўтары адказу, яна ўстала і намерылася пайсьці.

— Чакайце хвілінку,—спыніў яе Карпіцкі.—Вы музыку добра ведаеце?

— Я змалку граю. У нас быў спэцыяльны настаўнік музыкі, які мяне досыць доўгі час вучыў. Вучылася таксама, калі была ў Пецярбурзе.

— Я магу згадзіцца даць вам пасаду настаўніцы музыкі ў аднэй гарадзкой школе, але не настаўніцы іншых прадметаў.

— Я з прыемнасьцю і падзякай прыму і гэтую пасаду і пераканаю вас адносна майго шчырага жаданьня працаваць.

— Заўтра я з таварыш Казінец вырашу гэта пытаньне канчаткова.

* * *

Крыху далей ад галоўнай вуліцы, дзе паміж больш рэдкімі дамамі зелянелі сады, гародчыкі, гароды, а па пыльным завілістым завулку бязрупатна бадзяліся сьвіньні і шчыпалі траву козы,—месьцілася адзіная ў горадзе сталоўка. Карысталіся сталоўкай пераважна супрацоўнікі аддзелу выканкому, ды і то ня ўсе, а галоўным чынам тыя, што прыехалі ў горад з іншых месц. Ім усё роўна ня было дзе карміцца, і мізэрны паёк, які атрымлівалі, ня мог пракарміць іх. Мясцовыя супрацоўнікі якнебудзь харчаваліся ў сваіх сем'ях. Праўда, здаволіцца абедамі сталоўкі ніяк нельга было. Рэдзенькая, забалтаная мукой, або крупамі, амаль посная зупа, маленечкі пласьцік мяса з лыжкай кашы ці кусок селядца, адна чвэрць фунта хлеба,—вось і весь абед.

Цяністы, ціхі садок каля сталоўкі, шырокая, з прагніўшай страхой і падлогай, тэраса, разложыстыя кусты язьміну і бэзу каля дому з боку гароду, стракатая зеляніна гародніны вабілі сюды і ў гарачы, і ў пахмурны дзень, бо заўсёды можна ўтульна пасядзець, далей ад гарадзкога пылу.

У сталоўцы таму было заўсёды шумна. Туды проста прыходзілі пагутарыць. У загадчыцы сталоўкі Марты Баханскай, маладой прыгожай дзяўчыны, заўсёды былі госьці. Асабліва частым госьцем у сталоўцы быў Шпідэльскі, бо і друкарня была тут блізенька. Прыходзілі яшчэ: Прытульскі—супрацоўнік аддзелу нарасьветы, Забалотны — намесьнік Батурскага, Зося Некруш, Лапко Ніна, Рагульскі, Казінец Марыя і інш. Адна групка сядзіць на тэрасе старога дому ці ў садзіку каля сталоўкі, хто-небудзь шукае ў градках агуркоў, другая зьбярэцца ў маленькім пакоіку загадчыцы сталоўкі. Самы цесны гурток гэтак званай „залатой моладзі“ складаўся з Шпідэльскага, Прытульскага, Забалотнага, Зосі Некруш, Ніны Лапко. Баханская і Казінец неяк адчувалі сябе больш сталымі і неахвотна далучаліся да гуртка. У прадсьвяточныя дні Шпідэльскі са сваёй кампаніяй арганізоўваў тут вячоркі. Вынясуць сталы і лаўкі, запросяць музыку і скачуць да раніцы. Дом стаіць у завулку, паасобна ад іншых дамоў, ніхто не перашкаджае. Рагульскі хоць ня любіў усёй гэтай кампаніі, але прыходзіў сюды таму, што яму спадабалася Баханская. Праўда, ён тут меў конкурэнта ў асобе Шпідэльскага. Той лічыў сваім абавязкам на ўсіх вячорках і наогул пры спатканьні ўвіхацца „ухаживать“ за больш прыгожай і вартай дзяўчынай. Проста— каб яму зайздросьцілі.

Карпіцкі хадзіў абедаць у сталоўку ня кожны дзень. Абед быў ня сытны, а кампанія яго ня цікавіла. Хіба калі разам са Шпідэльскім зойдзе пасядзець да Баганскай. Іншы раз тут знаходзілі яны і Казінец, асабліва пасьля таго, як Карпіцкі стаў загадчыкам аддзелу народнае асьветы. Таісы ў часе абеду тут ніколі ня было, хоць казалі, пару раз яна заходзіла падвечар і раз была на вечарынцы ў сталоўцы. Карпіцкі пачаў яе пакрысе забываць, пагадзіўся ўжо з думкай, што больш блізка яны не пазнаёмяцца.

Адно толькі выпадковае, нечаканае спатканьне павярнула справу ў другі бок.

Казінец, спаткаўшыся ў сталоўцы з Карпіцкім, пачала яго настойліва прасіць зайсьці калі-небудзь да яе на кватэру, каб пагутарыць даўжэй аб справах, бо ў аддзеле ён мала бывае. Карпіцкі згадзіўся і праз пару дзён пасьля гэтага зайшоў да Казінец.

— Добра, што вы прышлі,—казала Казінец, спаткаўшы Карпіцкага,— вы так мала бываеце ў аддзеле асьветы, што не пасьпееш вас пабачыць, як вы ўжо зьнікаеце. А спраў ёсьць шмат і няма часу аб іх пагаварыць.

— Па ваенкамату ў мяне, бязумоўна, больш спраў, асабліва за апошні час, калі фронт прыблізіўся,—адказаў Карпіцкі, сядаючы на лаўцы каля стала разам з Казінец. Вось праз нейкі час пасылаю яшчэ адзін атрад на фронт. А цяпер можна пагутарыць аб школах. Замкоўскай вы здаволены, як настаўніцай музыкі ў сямігодцы?

— Так, яна вельмі добрая настаўніца музыкі. Старанна займаецца. Хоча ў самы хуткі тэрмін навучыць дзяцей музыцы.

Гутарка паміж Карпіцкім і Казінец завязалася досыць жвавая.

Гутарылі аб практычных пытаньнях у школьнай галіне, потым перайшлі да мэтодаў працы, кірунку школы, проблем выхаваньня і г д. У пакоі настаў змрок, але Казінец не сьпяшалася запальваць лямпу.

Толькі калі ўжо зусім сьцямнела і калі зайшлі ў пакой Рагульскі з Баханскай, Казінец устала і запаліла вісячую лямпу з бляшаным абажурам, аклееным карункамі з папяроснай паперы. Праз нейкі час яшчэ зайшлі Некруш Зося, Камкоўская, Прытульскі, Кабалотны, і што больш зьдзівіла Карпіцкага, зайшла Таіса Мірская. Карпіцкі не пакідаў свайго месца ў канцы стала, абапёрся на стол і гутарыў з Казінец. Госьці заняліся сабой, расьсеўшыся маленькімі групкамі, гутарылі, жартавалі, сьмяяліся. Нарэшце выдумалі нейкую гульню.

— Хадзеце да нас,—цягнула Карпіцкага Зося Некруш,—годзе вам сядзець тут у куце, як старыкі.

— Хвілінку пачакайце, мы яшчэ пагутарым,—адмаўляўся Карпіцкі. Пільныя справы ўсё.

— На справы будзе дзень. А вы цэлыя суткі займаецеся імі, спрабавала пераканаць яго Зося Некруш, але, убачыўшы, што нічога ня будзе, адыйшла і прыняла ўдзел у гульні.

Цяпер у пакоі быў гучны гоман і сьмех. Героем выпадковай вечарынкі быў Прытульскі. Ён апавядаў анэкдоты, сыпаў не заўсёды дасьціпнымі жартамі, прыставаў да дзяўчат, прымушаў іх уцякаць. Наогул, адчуваў сябе ляпей за ўсіх. Шкадаваў толькі, што няма Шпідэльскага, без якога не абыходзілася ні адна вечарынка.

Карпіцкі, калі гутарка з Казінец спынілася, прыгледзеўся, што робіць Таіса. Яна неяк ня выказвала асаблівай цікавасьці да гульні, бяздзельна выконвала тое, што выпадала на яе долю, як-бы прымушана ўсьміхалася. Час-ад-часу кідала зірк у бок Карпіцкага і Казінец. „Можа сумуе, што няма Шпідэльскага?“—падумаў Карпіцкі, і адчуў пры гэтым выразную няпрыемнасьць і разам з тым нейкае шкадаваньне да Таісы. Колькі часу прайшло з моманту іх спатканьня, колькі часу яго мучае нявыразнае і моцная каханьне да Таісы, і за ўвесь гэты час яна астаецца для яго загадкай. Магчыма і не загадка, магчыма яна кахае Шпідэльскага. Тады лепш нічога ня ведаць і ствараць ілюзію, што гэта ня так.

— Чаму вы змоўклі, як-бы пасмутнелі?—заўважыла Казінец.—Можа сапраўды прымеце ўдзел у гульні,—весялей будзе.

— Не, проста выпадкова абарваліся думкі,—адказаў Карпіцкі, стараючыся не выдаваць сябе.

— Таварыш Карпіцкі, зараз вы ўжо не адмовіцеся прыняць удзел у гульні,—умяшалася ў іх гутарку нечакана Баханская.—Вам прышла пошта, ідзеце, калі ласка, атрымайце яе. Хадзем, хадзем, ніякіх адмоў,—

настайвала Баханская, калі Карпіцкі спрабаваў адмаўляцца.—Таварыш Рагульскі, памажэце мне.

Рагульскі, падбегшы, схапіў за рукі Карпіцкага і выцягнуў з-за стала.

— Нашу дысцыпліну таксама трэба выконваць,—раз прышоў твой чарод, дык ідзі, браце, бяз ніякіх.

— Я-ж ня ведаю гэтай гульні, ня ведаю, што мне трэба рабіць,—спрабаваў яшчэ ўпірацца Карпіцкі.

— Я вам зараз растлумачу,—ня ўнімалася Баханская.—Вось за гэтымі дзьвярыма знаходзіцца паштальён. ён прынёс да вас лісты. Трэба пайсьці туды да яго і атрымаць гэтыя лісты пад расьпіску. А расьпіска ў нас—пацалаваць паштальёна. Зразумелая гульня?—спыталася, задорна ўсьміхаючыся.

І ня пыталіся ўжо больш пра згоду Карпіцкага, адчынілі дзьверы і проста выпхнулі яго ў другі пакой. Карпіцкі ня ведаў, хто быў паштальёнам і спаткаў нечаканасьць. У пустым пакоі, куды высылалі „паштальёнаў“ пры слабым сьвеце газулькі стаяла Таіса. Гэта яна, аказваецца, выклікала Карпіцкага „атрымаць“ лісты. На колькі можна было прыгледзецца, на слаба асьветленым ад газулькі яе твары адбівалася нейкае чаканьне, ні то сполах, ні то шкадаваньне за свой учынак. Глядзела адкрыта на Карпіцкага і пытліва чакала, што ён скажа. Часам куткі губ дрыжэлі, як-бы жадаючы расплыцца ўхмылкай, але ізноў нешта іх спыняла. Карпіцкі хвілінку стаяў нярухома, ня ведаючы, што рабіць. Можа абразіцца? Хвілінка нярухомасьці ў абодвух выклікала сумненьне. У яе, відаць, запанавала шкадаваньне за свой учынак. Але яе наіўна-палахлівы выраз твару і гарэзьліва-праніклівы погляд вачэй пацягнулі з магнэтычнай сілай. Карпіцкі неяк бяз сувязі прамовіў „ну, дык дазвольце атрымаць“, прабуючы надаць жартаўлівы тон свайму голасу, сьмела ўзяў яе за плечы, прыцягнуў бліжэй да сябе, схіліўся і пацалаваў у губы моцным доўгім пацалункам.

Таіса не баранілася, не супярэчыла і даверліва аддалася яго ласцы. Потым глянула неяк дакорліва вымоўна і хутка выбегла ў пакой да рэшты гуляючых.

Карпіцкага надта ўсхваляваў і зачараваў сваёй моцай гэты ўчынак Таісы. Часам толькі сумненьне зноў ахапляла яго „гэта-ж толькі жарт, ня можа лічыцца ўсур'ёз. Мала што ў гульні прыдзецца, як казаў гэта Рагульскі, у парадку „дысцыпліны“ рабіць. Проста дзяўчына жартуе і хацела нібы праверыць мяне. Не, гэта ня жарт. У яе вачох сьвіцілася нешта большае. Яе сполах і сумненьне, яе жаданьне пашкадаваць за свой учынак, магчыма, выкліканы тым, што яна ня хоча і ня можа браць пачыну“. „А Шпідэльскі?“ узьбегла на думку Карпіцкага „Можа яна проста такая натура. З кожным будзе цалавацца, калі трэба і калі ня трэба“.

Жарты і выхадкі Прытульскага, сьмех і вясёласьць усіх прысутных адрывалі Карпіцкага ад ахапіўшых яго думак. Цяпер ён ужо прымаў

удзел у гульні. Стараўся сам быць вясёлым, аднак увесь вечар няўцямкі прыглядаўся і сачыў за кожным рухам Таісы. Часам яму здавалася, што Таіса тым або іншым стараецца паказаць яму ўвагу. Потым прыглядаўся да іншых, знаходзіў, што яны таксама ўважлівы да яго, асабліва Бахан-ская, ня гледзячы на тое, што неадступным асыстэнтам каля яе быў Рагульскі.

Пасьля дванаццатай ужо гадзіны пачалі разыходзіцца. Таіса не сьпяшалася, быццам чакала, калі разойдуцца ўсе. Адвітваючыся з прысутнымі, Карпіцкі падышоў адвітацца да Таісы.

— Нам, здаецца, у адным кірунку ісьці. Можа дазволіце праводзіць вас,—запрапанаваў ён Таісе.

— Вельмі буду вам удзячна. Я так баюся ўначы. Асабліва цяпер: ночы такія цёмныя, месяца няма,—адказала яна ажыўлена і пачала адвітвацца з усімі.

Ліпнёвая ноч, цёплая і душная, шчыльна ахутвала сонны горад. Пасьля лямпавага сьвету ня відаць было нічога, нават за некалькі крокаў. Рухліва, неспакойна роіліся яркія зоркі, рэжучы часам неба белымі палосамі мэтэораў. Карпіцкі падаў руку Таісе, адшукаў вобмацкам вузенькі драўляны тротуар і павольна, не сьпяшаючыся, яны пашлі. Вышлі на галоўную вуліцу, якраз каля парку, спусьціліся пад маленькі яго ўзгорак, прашлі на павароце вуліцы некалькі дзесяткаў крокаў проці кляштору і падыйшлі да дому Таісы.

Спыніліся каля ганку. Хвілінку маўчалі.

— Якая цёплая ноч. Больш прыемна цяпер, як у палкі душны дзень,—гаварыў сьціха, каб не пачулі ў доме, Карпіцкі.—Удзень проста няма куды дзецца. Хіба толькі ў вашым гародчыку схаванка ад сьпякоты,—заўсёды цень ад дому і пах ад язьміну.

— Я так люблю сядзець у маім гародчыку. Калі ня была на службе, дык цэлыя дні сядзела і,—дадала,—бачыла вас. А вы мяне быццам і не заўважалі,—сказала, і ў яе голасе прагучэлі ноткі дакорлівасьці.

— Вам толькі здаецца. Я вас заўсёды бачу. Можа так трэба было, схаваць ад вас.

— Чаму?

Расчынілі дзьверцы гародчыку, селі на лаўцы каля сьцяны. Праз вуліцу, за кляшторным мурам, цямнелі старыя ліпы. Каля іх была яшчэ большая цемра, хоць вочы ўжо прызвычаіліся да яе і адрозьнівалі рэчы. Ад лёгкага ветрыку старыя ліпы пачыналі паміж сабой размову. Шапацелі аб чымсьці далёкім, забытым; іх лісты шапацелі мірна-сумным шоламам. Шапацелі, нібы-та не жадаючы выдаць каму староньняму сваю адвечную таямніцу. Шапацелі, быццам спасылалі мірны сон нябожчыкам, што ляжалі ў магілках, пад іх карэньнямі. Змоўкнуць, прыслухаюцца і зноў аб чымсьці шапочуць. Вежы кляштору чорнымі тычкамі ўзьнімаюцца над іх верхавінамі. Гулкія званы не заглушаюць ціхага шоламу ліп, сьпяць...

І горад, нават сонна-лянівы ўдзень, не перашкаджае старым ліпам весьці сваю ціхую гутарку. Дзесьці, у іншым канцы, прагучэлі па бруку колы. Бліжэй крыху скрыпнулі і са стукам зачыніліся дзьверы. Дзесьці на акраіне, каля ракі, забрахалі і зноў змоўклі сабакі. Сьціхлі ў начной цішы рэдкія крокі позьняга пешахода. І зноў цішыня, і зноў шапацяць лісты старых ліп. І кожная хвіліна гэтай цішыні здаецца доўгай і невядомай, як вечнасьць, узьнімае імкненьні ў невядомае.

— Якая цішыня і хараство,—пачаў гутарку Карпіцкі, калі яны селі на лаўцы,—але і гэткая цішыня часам ня можа супакоіць, закалыхаць думку пачуцьця,—дадаў разважліва.

— Хіба можа быць у такую цішыню нейкая бурлівая думка, якую нельга супакоіць?—спыталася.—Але раней адкажэце на маё пытаньне: чаму вы бачылі мяне і рабілі выгляд, быццам ня бачылі?

— А так, бываюць такія зьявішчы, калі навокал цішыня і спакой, а на душы, на сэрцы бура. Бываюць і такія, калі навокал дзеецца нешта страшэннае, бурлівае, жудаснае, а на душы і ў сэрцы спакой і абыякасьць. Першае, мне здаецца, бывае тады, калі моцнае пачуцьцё толькі пачынае ахапляць чалавека, пачынае разгарацца ў полымя, у пажар. Другі выпадак бывае хіба тады, калі ўсе свае пачуцьці чалавек растраціў, зьнішчыў, калі ў яго нічога не засталося, калі яму ўсё роўна, што-б з ім ні сталася. Тады ўжо ніякая бура і навальніца яго не ўскалыхне.

— Значыцца, першы выпадак лепшы?

— Так, але ён можа быць і першым крокам да другога, калі бура ў душы будзе лютаваць і сеяць зьнішчэньне, калі за навальніцай не надыйдзе ясны сонечны дзень з брыльлянтавымі кроплямі расы на амытых лісьцях...

Таіса нічога не адказала; няпрыкметны ўздых і чаканьне, каб Карпіцкі прадоўжыў гутарку.

— Сёнешні вечар таксама навальніцай пранёсься па маіх не заўсёды пагодных настроях. Я таксама ня ведаю, з якога боку і калі прыдзе і ці прыдзе гэты сонечны дзень,—пачаў, замаўчаўшы хвілінку, Карпіцкі.

— Чаму сёнешні вечар быў для вас такім дрэнным,—са шкадаваньнем спыталася Таіса.

— Не, ён ня быў дрэнным. Ён толькі ня даў адказу на пытаньне, якое хвалюе мяне. Тым ня менш мне хочацца сёньня ў гэтай акаляючай цішыні знайсьці адказ. Праўда, мяне палохае магчымасьць атрымаць такі адказ, які прымусіць лічыць сёнешні вечар самым горшым у маім жыцьці. Я даўно шукаю гэтага адказу, з таго самага дня, як прыехаў у гэты горад і як убачыў вас там з балькону клюбу,—прамовіў з пачуцьцём Карпіцкі.—І нашае сёнешняе спатканьне на вечары паставіла перада мной ва ўсёй моцы задачу знайсьці адказ.

Карпіцкі, пачаўшы гутарку з воддалі, змоўк, ні то каб шукаў слоў, якімі лепш выказаць свае пачуцьцё, а быццам сумняваўся яшчэ, ці варта

зараз прызнацца, што яго ўвесь час непакоіць. Таіса, відаць, развaжала над тым, як разумець словы Карпіцкага.

— З таго першага дня нашага спатканьня, вы так многа месца занялі ў маім пачуцьці і думках. Няўжо сёньня вы толькі пажартавалі, калі выклікалі мяне ў часе гульні? Няўжо па-за вашым жартам у вас нічога праўдзівага і шчырага ня знойдзецца для адказу,—сказаў Карпіцкі, страсянуўшы Таісу за рукі, як-бы жадаючы абудзіць яе з задумлівасьці.

— Не, я не жартавала і цяпер толькі жартам адказваць вам ня буду,—адказала яна сьціха, прыглядаючыся скрозь цемру да Карпіцкага тым самым пытліва-гарэзьлівым поглядам, як тады пры сьвеце цьмянай газулькі.

— Дык няўжо ў вас хоць пэўная частка ёсьць да мяне таго пачуцьця, якое мяне ахапіла так моцна?—Павольна прыцягнуў яе да сябе і, не спатыкаючы ніякай перашкоды, пачаў яе цалаваць. Таіса схілілася да яго, прытулілася бліжэй.

— Як гэта нечакана, вы мяне кахаеце таксама? Чаму я ня ведаў раней.

— Вы мне даўно падабаліся. Не мая віна, што самі не прабавалі даведацца, ці кахаю я вас. І каб ня сёнешні выпадак, дык можа не рабілі-б гэтае спробы.

— А Шпідэльскі?—напомніў Карпіцкі.—Вы яго не кахалі? Ён-жа заўсёды быў каля вас.

— Што-ж я яму зраблю, не магу адагнаць, прыстае і толькі. Ён мне ніколі не падабаўся і ня можа падабацца. Прыходзіць дадому часта, ловіць мяне, дзе толькі спаткае. Маці часам нават гаворыць, што можа за яго варта было-б выйсьці замуж. Так,—папрaвіла думку яна,—дапраўды, раіла выйсьці за яго замуж. „Чалавек, кажа, мае спэцыяльнасьць, добра зарабляе, можа будзе з ім добра жыць“. Што-ж з заробку? гэтага ўсяго мала для шчасьця. Я ніколі не пагадзілася-б з думкай выйсьці за чалавека, якога я не кахаю. Каб былі-б са мной вы, не прыставаў-бы Шпідэльскі. А вы заўсёды заняты справамі, нават не заўважалі мяне. Мяне таксама непакоіла думка, ці можаце вы кахаць наогул і ці можаце пакахаць мяне. Вось цяпер у гэтым я павінна буду пераканацца.

— Хіба вы яшчэ не пераканаліся, што вас так моцна кахаю. Каб ня Шпідэльскі, дык вы ў гэтым пераканаліся-б значна раней. З таго моманту, калі я вас спаткаў з ім на мосьце, мяне непакойна ахапіла сумненьне. Шпідэльскі прыстае да кожнай дзяўчыны, амаль кожнай ён робіць прызнаньне. Тую дзяўчыну, якая пакахала-б яго, ня мог-бы я пакахаць. Вось ён і стаяў папярок дарогі. А цяпер няма яго?

— Няма, як і ня было.

— Ня было можа яго, але была яго здань. З сёнешняга дня і яе няма.

Пацалункі шчырыя, палкія, сьцьвярджаюць словы.

Лісты старых ліп зусім змоўклі. Не хацелі, яны сваім шоламам нарушаць ціхую песьню каханьня. Зоркі быццам стаміліся ад частага мірга્ньня, страцілі сваю яскравасьць і зьнікалі адна за другой на паблекшай сіні неба. Кляшторныя вежы вялікімі двума пальцамі тырчэлі на небасхіле, над старым паркам усё больш чырванела ранічная зара, зачырыкалі адна, дзьве, потым усё больш і больш—птушкі, чакаючы ўзыходу сонца, цемра пакрыху радзела, чорныя плямы стрэх рабіліся шэрымі, павеяла ранічнай вільгацьцю, гулка навокал крычалі пеўні.

— Заўтра спаткаемся ў парку.

— Ня заўтра, а сёньня,—паправіла Таіса.

— Праўда, што сёньня, зараз на занятkі. Мне здавалася, што яшчэ ночка бясконца доўгая. Спаткаемся ўвечары ў парку.

*(Працяг будзе)*

## РАБОЧЫ ТАМАШ

*З жыцьця Зах. Беларусі*

**Л. Радзевіч**

Тамаш рабочы з гарадзкой электроўні, жыў недалёка ад месца сваёй службы. Хоць было яшчэ больш гадзіны да зьмены, аднак Тамаш вышаў з дому, каб да службы схадзіць у аптэку і купіць лякарства сыну. Яго васьмігодні Франук у апошнія дні занямог, мабыць перабраў меру ў ежы. Увесь месяц жылі ў прогаладзь, а на днях прыдбаў Тамаш трохі грошы, ну дык на радасьці жонка больш наварыла і ўсе сквапна накінуліся на ежу.

Успомніўшы пра грошы, Тамаш хоць і чуў іх цяжасьць у кішэні, аднак рашыў упэўніцца і пашчупаў свой абмусолены кашэль, які павінен быў карміць усю яго сям'ю ня менш двох тыдняў, а там трэба будзе зноў выкручвацца, як скурат на агні.

Праходзячы праз плошчу, увагу Тамаша зьвярнуў вялікі натаўп рабочых. Над іх галовамі выдзяляўся ўпалавіну прамоўца, як можна было дагадвацца, падтрымваны на руках. Бяз шапкі, размахіваючы моцна рукамі, кідаў ён гарачыя словы ва ўсе бакі шчыльна згуртаванай масы. Тут-жа на сьвежа абструганым кіі палыхала чырвонае палотнішча. Дзе-ні-дзе ў вокнах ці на бальконах тырчэлі наслухіваючыя фігуры ў пагардлівых позах. Кругом плошчы на тротуарах было паўнюсенька зявакаў, хоць паміж мітынгуючымі і тротуарам свабоднага месца колькі хочаш.

Выглядала так, што на плошчы ідзе няпрыемнае, але інтрыгуючае прадстаўленьне, а вакола згрудзіліся выпадковыя гледачы, якіх абурае прадстаўленьне, але цікавіць яго канец. Стануць на брук плошчы—гэта значыць часткова прыняць учасьце ў чырвоным прадстаўленьні—вось чаму ўсе таўкліся і ціскаліся на тротуары.

Затрымаўся і Тамаш: адно, што трудна было далей праціскацца, а другое, што цікава было да ўсяго прыгледзецца і паслухаць, што кажа аратар.

Акружаючыя Тамаша шыдэрча кпінавалі і нахабна зьдзекаваліся з сур'ёзных і маўчаліва разважных мітынгуючых рабочых. Бразгат, шыпеньне, скрогат іхняй гутаркі перашкаджаў Тамашу ўслухацца ў музыку зычных слоў аратара. Як ні цікава было Тамашу даведацца аб чым кажа аратар, аднак ён падыйсьці бліжэй не рашаўся. Нечага, па-ягонаму, было натыкацца на ражон, бо ён шмат ад каго чуў, што гэткія зборышчы дрэнна канчаюцца.

Колькі разоў яго знаёмы, рабочы з тартака, заклікаў прыйсьці там да іх памагчы і самаму навучыцца, уліцца ў рабочую сілу, падтрымаць рабочае дзела. Супроць рабочага дзела ён нічога ня меў, няхай робяць, перашкаджаць ня будзе, але самому ўблутывацца—рэч не патрэбная. Можна бяз працы на вуліцы апынуцца. Яго і ў электроўню прынялі з асьцярогай, што калі хоць крыху заўважаць што-небудзь, зразу расчот. Ды ці яго гэта работа палітыкай занімацца.

Таўсты ягомасьць, які стаяў побач, уздумаў выпхнуцца наперад ды так піргануў Тамаша, што ён страціў роўнавагу і апынуўся на бруку. Закіпела ў нутры Тамаша, хацеў ён тым-жа адплаціць панскаму хаму, але сьцерпіў, бо быў пэўны, што таўсты ягомасьць паліча гэта не як разрахунак, а як напад, перадасьць яго ў рукі паліцыі, а там ужо рэч вядомая—падзіраваць скуру, душу выматаюць. Хапае і бяз гэтага бяды ў хаце. Ня жыцьцё, а катарга. Адна радасьць у яго гарапашным жыцьці гэта Франук. Важны хлапчына, будзе радасьць і апора пад старасьць. Ня гледзячы на хатні недастатак і на недамаганьні, Франук як кукамі зьбіты—целам крэпкі, голасам зычны, валаскі залацістыя, бы сьпелае збожжа, а з-пад іх яскрава сіняць жывыя вочкі, бы васількі.

— Ну як-жа такога малайца кінуць на галодную сьмерць! Чорт з ім з панам—сьцярплю. Вось трэба ў аптэку сьпяшыць, трошкі яшчэ пастаю і пайду.

А таўсты ягомасьць ня ўнімаўся і з абурэньнем валтузіўся.

— Чорт ведае што—казаў—дзе гэтая паліцыя, чаму яна дазваляе на бунты бальшавіцкія.

— Цяпер вось зьбіраюцца, нагаварваюцца, а пасьля пачнуць людзей выразаць. Яны заўсёды так,—паддаківаў галамызы, падобны да крамніка, з акраіны гораду.

— Езус, Марыя, кары божай на іх няма,—бы парваная струна, засакатала сухарлявая дзвотка.

— Ня кару на іх трэба ссылаць, проша пані, а асьвету. Народ гэта цёмны, з дзікімі інстынктамі. Шкадаваць і ўшляхэтняць яго трэба,—казаў, настаўляючы, панок у акулярах і з портфэлем.

— Ага, трасца вашай галаве, не падабаецца вам усё гэта,—падумаў з задаваленьнем Тамаш. А ўголас сказаў.

— Ня ўсе яны тут бальшавікі, але што, слухаючы гэтага гаваруна, марнуюць усе час, дык гэта праўда.

Прысутныя заместа адказу звысока глянулі на Тамаша і вытрымалі пагардлівую маўчанку, а таўсты пан адвярнуўся налітай салам патыліцай.

Чаму яны ўсе так насы круцяць, ня тое, мусіць, сказаў, разважаў пра сябе Тамаш. Кампаньён я для іх непадхадзяшчы гэта праўда. Ды яно нечага і крыўдаваць на іх, не раўня я ім. Усё-ткі яны і з навукай і грошы маюць, чыста апрануты, а ў мяне вопратка вугальлем вымазана, мазутам

аддае, апрача гэтай замусоленай мазалістай пецярні нічога больш ня маю. І як на бяду, рук гэтых колькі хочаш, выбірай любыя,—вунь колькі іх.

У гэты час на плошчы мітынгуючыя махалі шапкамі, вітаючы аратара і паўтараючы лёзунг, кінуты ім.

— Іш як быдла расходзілася. Ну і парадкі ў нас,—злаваліся суседзі Тамаша.

— Гура!—нечакана для самаго сябе, крыкнуў Тамаш пападаючы ў тон мігынгуючым. Яго акружаючыя вытрашчылі вочы, поўныя зьдзіўленьня і нянавісьці.

— Гура! Гура!—крычаў Тамаш і чуў, што пад варожымі ўзглядамі голас самохаць слабее і яго „гура“ выходзе, што раз слабей, ажно ўрэшце зусім абарвалася.

Залажыўшы рукі за сьпіну, выставіўшы жывот, абмотаны тоўстым залатым ланцужком, пхаўся на Тамаша той, падобны да крамніка і брызгаючыся сьлюнкамі шыпеў.

— Бальшавік! Так, бальшавік! Комуны хочаш, а ў турму неахвоч, а? як?

— Ды я жартуючы, чаго чэпіцеся, перадражніваю іх, дурняў, вось і ўсё. Вялікая штука крыкнуць гура. Кожны, здаецца, мае на гэта права. Нашоўся дасужы. А мне хоць ты лопні крычучы гура ці не гура, слова не скажу. Прыстаў...

Абураўся пад канец Тамаш, калі яго напасьнік адышоў водаль, пабедна сказаўшы: то-то. Тамаш сам быў ня рад за свой выкрык у чэсьць мітынгуючых і дзівіўся, як гэта ён адважыўся—само вырвалася.

Ад перажытай сутычкі ў Тамаша ў нутры астаўся непакой і гарката, нездаволенасьць і няяснае пачуцьцё помсты. Як яму не абрыдлай была фігура крамніка, аднак ён ня мог стрымацца, каб ня глянуць у яго бок і ня вылаяцца ў думках. Ён ужо быў рашыў пайсьці ў аптэку—прападзіце вы тут усе пропадам,—але жаданьне набедакурыць чым-небудзь гэтым выпадковым суседзям, але ўсюды і часта сустраканым людзям, затрымала яго.

Затрымала Тамаша і пяяньне Інтэрнацыяналу, якое разьлягалася па ўсёй плошчы і ў якім чулася векавечная скарга і боль і бурны парыў да бою, да жыцьця. Гэтага гімну падняволеных, эксплёатаваных і пакрыўджаных Тамаш ня ўмеў, але чуў яго некалькі разоў і любіў слухаць. Яму было крыўдна і жаласна, што ня ўмее пяяць, чуў сябе абасобленым, пакінутым. Штось там глыбока ў душы варушылася балючае і раднаснае. Усплывалі ўспаміны, то бы золак на прадвесьні, то бурым горкім дымам з трубы электроўні, то фіалетавымі электра-іскрамі. Душа набракала любоўю да Франука, якая разьлівалася сытай цеплатой і аж да сьлёз шкада было свайго пястуна, шкада сваёй маладасьці і змарнаванага беспрасьветнага, беспатольнага жыцьця. Шкада і злосьць агортвала.

І непатрэбныя, як чужыя, сьлёзы туманілі вочы, Тамаш моргаў векамі, каб разагнаць іх па воку. А побач чуў сьвіст, лаянку, праклёнцце:

— Пейце, пейце хутка кроўю будзеце плакаць. Вам гэта дарам ня пройдзе, тут вам не бальшэвія.

— Ды пэўне-ж падратуюць іх, падушаць. Шукаюць сабе гузака. Ці гэта мала нашаму брату і так дастаецца,—казаў Тамаш больш для таго, каб скрыць, каб заглушыць, мляўкае прыкрае пачуцьцё, сваю душэўную слабасьць і разлад.

Як хто нажом ёрзаў па шкле, так адбівалася ў яго вушох дзікае скавытаньне абураных суседзяў. Нібы з ненароку, Тамаш усёй сваёй цяжасьцю уступіў грубым ботам на лякераваны камаш пузатага пана, які праз залатыя зубы шыпеў праклящьці проста ў вушы Тамаша. Завыў, заенчыў з болю пан і накінуўся на Тамаша.

— Хамскае рыла, хіба ня бачыш!? Чаго тут точышся, вунь твае месца з імі, бальшавікамі...

— Паліцыя! Паліцыя!—пачуліся з усіх бакоў крыкі.

У адчэй з вуліц паказаўся атрад коннай паліцыі, якая проста чгала на мітынгуючых.

— Уцякайце, чэрці, чаго вы вароніце,—крычаў Тамаш рабочым, паказваючы на паліцыю.

А на тротуарах шумна радаваліся:

— Урэшце паліцыя.

— Біце іх, бальшавікоў.

— Аратара лавіце.

Ад мітынгуючых аддзяліўся пажылы яўрэй і хацеў увайсьці на тротуар, але крамнік груба яго адпіхнуў нагой, бэсьцячы апошнімі словамі.

Натаўп на плошчы захваляваўся. Паміж паліцыяй і мітынгуючымі завязалася кароткая тузаніна. У паветры мільганулі каменьні, пабліскваді шашкі паліцыянтаў. Крык, енк, заклікі, каманда. Народ кінуўся ўцякаць ва ўсе бакі. Чырвоны сьцяг зьнік. Паліцыя направа і налева рубала па ўцякаючых тупым бокам шаблі. Міма аслупеўшага ад жудаснага відавоку Тамаша беглі рабочыя з перапудам і нянавісьцю ў вачох. Вось прайшоў, хістаючыся, рабочы, прыціскаючы рукой чырвоную пляму на сівых валасох, а па загрубелых пальцах пацеркамі зьбягала кроў, водаль бегла жанчына, стогнучы, і праціпала рукамі вочы, якія заплывалі крывёй ад раны на галаве. На плошчы там-сям валяўся аглушаны ці забіты; іншыя не маглі ісьці і паўзьлі па зямлі пад сьцены дамоў, размазваючы кроў па каменьнях...

Пасмутнела ў вачох, занудзіла Тамашу. За што, за што,—зычэла ў вушох і пераходзіла ў лямант, у адчай.

— За што?

І перад ім вырастаў пытальнік, такі вялікі, быццам закруцястым сваім канцом чапляўся за яго малаледзтва, а вострым—прабіў сэрца. За што ён усё жыцьцё набіваў крывавыя мазалі. Ці не яго рукамі

выгнаны гэтыя мураваныя вуліцы, апрануты гэтыя паліцыянты, вымашчана плошча—кругом сьляды яго працы!

— Дык за што яны рубаюць маю галаву, бы качан капусты, за што качаюся ў крыві па бруку, як конь ахвачаны?.. Дык вось яно як з нашым братам!

Тамаш так праняўся ўсім бачаным, так аддаўся сваім пачуцьцям, што ўсёй істотай уцелаішчываўся ў кожную ахвяру тэрора, перажываў іхнюю крыўду і мукі. Ён ня чуў, як прабягаючыя міма штурхалі і сьпіхалі яго з месца на месца. Тамашу здавалася, што ўсё акружаючае, усё паветра было прасякнута цярпеньнем і нянавісьцяй, і яму цяжка было дыхаць, словы душылі ў горле.

Увагу Тамаша зьвярнуў малады рабочы, які прабягаў праз плошчу. Відаць было, што юнак намагае на ўсе свае сілы, каб уцячы ад коннага паліцыянта, які гнаўся за ім, нарыхтаваўшы шашку да ўдару. Месца паміж уцякаючым і даганяючым з кожным момантам скарачалася. Затаіўшы дыханьне, сачыў за імі Тамаш. Уцячэ, не дагоне, каб толькі да варот дабраўся, упэўняў сябе Тамаш. Аднак рабочы не дабег да сярэдзіны плошчы, а паліцыянт быў зусім недалёчка. Ня спускаючы з вока паліцыянта, Тамаш нагнуўся і гвалтоўна выдзіраў камень, абдзіраючы пальцы да крыві. У гэты час уцякаючы крута абярнуўся і спакойна, але з ёмкім размахам кінуў камень у напасьніка. Раптоўна апала шашка і з бразгам ударылася аб брук, паліцыянт зашыпеў, завыў і аберуч хапіўся за калена, а конь устрымаў бег і шагам пашоў у іншы бок.

Аглядаючы пабоішча на плошчы, Тамаш зглядзіў, як адзін з прыбітых крыху прыпадняўся. Увесь акрываўлены, здратованы, на чалавека не падобны выцягнуў руку, у якой трымаў шматкі чырвонага сьцягу і, махаючы ім, штось крычаў, заклікаў, пагражаў.

Тамаш як-бы зразу збудзіўся з цяжкага сну. Думка „ратаваць, выручаць“ балюча сьцебанула раз, другі. Гвалтоўна сарваўшыся з месца, бег Тамаш наўпросткі да чырвонага сьцягу. І вось ён бача ці яму здаецца, што яшчэ нехта бяжыць туды-ж, ды не адзін, а з усіх бакоў і за ім бягуць, і разумее ён, што яны з іншай мэтай бягуць, хочуць яго папярэдзіць, бягуць, каб перашкодзіць, зьнішчыць, дабіць...

— Не, сволачы, не даждаць вам, палопаюцца жылы вашыя,—запальчыва гразіць Тамаш і бяжыць, бяжыць расхрыстаны, праставалосы туды, дзе бача толькі паднятую руку, конвульсыўна сьціскаючую шматкі чырвонага сьцягу. Вось яшчэ момант, руку працягнуць... ужо... маё...

Але тут удар па галаве звалівае яго з ног. У вушах шум і звон, перад вачмі то чырвонае поле, то залацістая галоўка сына... Стараецца яшчэ што разгледзіць, прыпомніць сабе, дзе ён, што з ім. Дарма—чорная цяжкая заслона захінула сьвядомасьць.

Ачуняў Тамаш ад вострага запаху, які балюча і шчакатліва калоў у носе—раскрыў вочы і пабачыў знаёмае акружэньне: шкляныя вокны,

скураныя сьцены і таксама зыбае яго, як калісь чалавек... у белым дае нюхаць лякарства... Калі гэта ён бачыў? Ды вось, як укруціла раз яму нагу машына на электроўні, ехаў тады ў больніцу... Значыць, ён і цяпер у карэце хуткай дапамогі. Чуў боль у галаве, лапнуў рукамі і пераканаўся што ўся галава была абвязана. Пачаў успамінаць як гэта ён тут апынуўся. Мітынг, чырвоны сьцяг, кучаравая галава Франука, аптэка, грошы... Пашчупаў у кішэні ці ёсьць кашэль з грашмі. Няма. У другой кішэні нешта цяжкое—аказаўся камень. Сажмаў Тамаш камень у гарачай далані і падумаў:

— Гэта я цябе, брат, на паліцыянта выдраў з бруку. А і лоўка той лучыў у калена... Першы гузак буржуям набіваем каменем... Так, так.

І твар расплыўся ў спакойную радасную ўсьмешку. Аднак грошы згубіў, галава пашчапана, на зьмену ня трапіў, лякарства ня купіў да і са службы могуць прагнаць.

— Нічога! Няхай сабе...

І зноў тая самая ўсьмешка. Тамаш чуў, што яго напаўняе ніколі ім не адчуванае радаснае задаваленьне, нібы ён нашоў нешта такое, што доўга, доўга шукаў, нібы памаладзеў, пакрапчэў, нібы зрабіў такое, што яго будуць паважаць як таго аратара, а ў Франука ад зацікаўленасьці аж вочкі расшырыліся і ён спачуваючы любоўна галоўку туліць.

— Чырвоны сьцяг і камень...

Сказаў уголас і ў гэтых словах учуў асаблівую гармонію і моц.

— Чырвоны сьцяг і камёнь! Сонца і сталь!

Паўтараў Тамаш і цешыўся са слоў, а калі задаваленьне напаўняла паверх берагоў, дык яно сплывала спакойнай радаснай усьмешкай.

# БАШКІРКА-ДЗЯЎЧЫНА

Е. Пфляумбаум.

Залацісты кунган [1]),
стройны стан, гібкі стан!—
Мэн сінэ яротам [2]),
мэн сінэ яротам!..

Нехта прыдзе чужы
з-за стэповай мяжы,
купіць мёдам твой стан
і прыгожы кунган.
Мэн сінэ яротам,
мэн сінэ яротам!..

Будзе срэбны калым [3])
і вясельны уздым,
і захмеліцца стан
і бліскучы кунган.
Мэн сінэ яротам,
мэн сінэ яротам!..

Мне стэповы кавыль
шалясьціць гэту быль...
Над ракой гібкі стан
і прыгожы кунган.
Мэн сінэ яротам,
мэн сінэ яротам!..

---

1) Па-башк.—Збан.

2) Па-башк.—Я кахаю цябе.

3) Па-башк.—Пасаг.

## ЛІПНЁВАЙ РАНІЦАЙ

**Ал. Салагуб**

Ліпнёвай раніцай ўздыхала неба,
Ў паветры пахнула расою. Цішыня.
Туманам грудзь атуліла зямля,
Зялёным пырнікам асыпалася глеба.
Прастору глыб, блакітная дуга
На кругазоры лесу апусьцілась.
Пад грудзі з больлю сэрца закацілась,
Гняздо зьвіла ў грудзёх маіх туга.
Ў вастрозе раніца кадзіла дым вясны
Пад ціўканьне на даху вераб'ёў.
Клубок дзяцінай радасьці і днёў
Разьвіўся. Спакой укралі сны.
Бялеў туман ў паветры малаком,
І малака прыемны пах каровы
Заказытаў мне нос. Курыўся дым вясновы.
Вастрог душыўся, кратаў талакном.
З далі даносіцца мне трахтаньне дарогі.
Аб сьветлай раніцы задумалася даль.
У хмаркі бела-сіні шаль
Сьцягнулі месяца бялеючыя рогі.
Ў вастрозе раніца кадзіла дым вясны.
Кра-кра!—на даху чорная варона,—
І гэты крык, падобны сьмерці стогна,
Трывожыў мой спакой, каханьня сны.
Агністы пук, куль сонечнай саломы
Праз краты пырснуў, дрыгнуў на пасьцель,
І туману расплывісты кісель
Растаяў, зьнік, як гукі звона.
Агністы пук лізаў цамэнту ногі,
На даху вераб'і спраўлялі гучны хор,
Сьмяялась даль, сьмяяўся кругазор,
Здалёк няслося трахканьне дарогі.
Трр! Сьвісток. Вастрожнікі усталі,
Сьмяюцца з лёх і кашляюць з вакон;

І фабрыкаў працяжны, востры стогн
Хавае раніцы ліпнёвай чары.
Ліпнёвы дні, як вечнасьці кудзелю,
Прадзе майго жыцьця верацяно.
Як гаспадар бязбожны у нядзелю,
Перасыпаю дні, як на таку зярнё.
Душою, сэрцам я—і моцны і цьвярозы,
Мне аднастайнасьцяй ня страх жыцьця:
Я—пролетар, я—новых дзён дзіця;
Ня страшны мне дні буднічанае прозы!
Ў грудзёх маіх поэзія бурліць,—
Я—валадар над ўласнаю красою,
Я песьні барацьбы нясу з сабою,
Я жыць хачу, цярпець, кахаць, тварыць!

Лукішкі—турма
25-VI—27 г.

# У СЭРЦЫ АГАНЬКІ...

**Наля Маркава**

...Навокал—лес і белыя паляны.
Застыгла ў занізі сярэбраная ноч.
А ў сэрцы—мітульга
мяцеліцаю п'янай,
А ў сэрцы—аганькі
смуглявых воч...

Увысь глядзіцца сумная дарога
і гай заводзе патаемны вой
і на палёх—віхураў
буйны рогат...
Я думаю, чарнявы:
што з табой?..

Ці на дарогу выйду—толькі вецер
спагадаю пяе ля гаю...
і распляліся думкі
доўгім вецьцем
і нехта сэрца
ціха супыняе...

Калі цягнік за гаем закрычыць,
трывожным гукам закалыша далі,
я усьміхаюся,
а далячынь
сьціскае сэрца
жалем...

Увысь глядзіцца нудная дарога
і гай заводзе патаемны вой
і за вакном—віхураў
буйны рогат...
Я думаю, чарнявы:
што з табой?..

20-XII—27 г.

## СЕЛЯНІН У ГОРАДЗЕ

(Wenn du ans den Bergen kommst)

**Іоганэс Бэхэр**

I

Вось прышоў ты
з гор далёкіх
— дзікуном,
якім быў я;
недарэчных забабонаў
шмат нясе
душа твая.

*

Просты парабак вясковы,
з каркам моцнага вала,
ты людзей нямнога бачыў:
быў з жывёламі
    ў хляве.
    Што-ж у першыя хвіліны
    абуджаецца
    ў табе?

*

Ты-б ахвотна
ўсё навокал
разбурыў
і раздушыў.
— „Прэч, да д'ябла
ўсё блюзьнерства!"—
злосна ты пастанавіў.

*

Ты нап'ешся адзінокі
і бяжыш
са злосьцю дзікай,
тут цябе і апануе
    горад
з сілаю вялікай.

2

Так!
Я помню, што калісьці
ўсё мяне апанавала,
быццам мне ўвайшлі—
у цела
і тунэлі, і каналы,
і ўсе рэйкі, і прыводы,
і рады зубчастых колаў—
вось тады зарагатаў я
дзіка, з думкай невясёлай:
— „Гэй ты, горад,
гэй ты, падла!
Ты—шалёнае страшыдла!
Ці-ж пачну з табой змагацца
я ў дзіцячым узбурэньні?
Гонкі лес мой
праглынуў ты,
пашу возьмеш ты для быдла!
Што ж пакінеш
бедным вёскам?
— Толькі голад і зьнішчэньне!“

3

А каб я зьявіўся ў горад
з нейкай роўнае краіны:
з гладкіх стэпавых прастораў,
з нізкіх морскіх берагоў,—
ноччу я бадзяўся-б доўга
з сумнай думкай,
бязупынна:
быццам я
сярод вазёраў
ці імшараў і лагоў,
— чую жабіныя крыкі,
а ня гоман гарадоў.

*

А магло-б здавацца часам,
нават доўгія гады,
быццам горад
зьнік у масах
крышталёвае вады,

быццам моцныя бамбукі,
быццам папараць, трысьцё
ўсё заткалі,
пахавалі
там даўнейшае жыцьцё.

*

Унізе, ля самай глебы
хмары нейкія відаць,
іх малочна-белы колер,
іх паверхні сьлізкай гладзь...
Многа рыб паміж дамамі...
Вось саборныя крыжы...
іх расьліны вадзяныя
абвіваюць,
як вужы.

4

А цяпер—
сярод рабочых,
што магутным струмянём
уначы бягуць на працу,
нібы цёплы той Гольфстром,
і, ступаючы нязграбна,
грузнуць ботамі ў асфальце,—
новым я натхнён жыцьцём
і пяю хвалу спляценьням
электрычных моцных дротаў
і жалезу
і бэтону:
Тут працоўных міліёны
свой збудуюць
новы дом!

Пераклаў з нямецкае мовы **Л. Цьвяткоў**.

# ЛІГА НАЦЫЙ

## І. Герчыкаў

У пераважнай частцы азначэньняў, якія даюцца Лізе Нацый у друку розных кірункаў, гаворыцца толькі аб тым, што яна імкнецца зрабіць вайну непатрэбнай. Такія азначэньні не высьвятляюць цалкам задач, пад якімі буржуазія рэклямуе Лігу Нацый. Буржуазія запэўняе, што Ліга Нацый можа перашкодзіць ня толькі міжнародным сутычкам, якія даводзяць да войнаў, але ўхіліць і клясавыя сутычкі, што даводзяць да рэволюцый.

Гэта падвойная задача выплывае нібы ня толькі з чыннасьці, але, як мы пабачым ніжэй, і з самага статуту Лігі Нацый. Ня можна сумнявацца ў тым, што кіруючыя буржуазныя політыкі, якія пісалі статут Лігі, а цяпер рыхтуюць войны і сьвядома ўмацоўваюць буржуазны парадак супроць надыходзячай рэволюцыі, ведаюць, што ні аднае ні другое задачы Ліга Нацый выканаць ня можа.

Вайча і рэволюцыя выплываюць, з няўхільнасьцю закону прыроды, са ўсяго ладу капіталістычных адносін. У пражываную намі эпоху імпэрыялізму капіталізм ідзе па шляху да свайго зьнішчэньня, войны і рэволюцыі ператварыліся ў зьявы, якія пэрманэнтна калышуць капіталістычнае грамадзтва. Вось чаму буржуазныя політыкі асабліва стараюцца адцягнуць увагу мас ад пытаньняў няўхільнасьці войнаў і рэволюцый да ідэй аб тым, што іх можна ўхіліцца, і яны ствараюць яўна фальшывыя штучныя ўстановы, накшталт Лігі Нацый.

У апошнюю эпоху капіталізму вайна надзвычайна цяжкая зьява для мас насельніцтва ўсіх буржуазных краін. Сучасныя імпэрыялістычныя войны цягнуцца надзвычайна доўга, яны бязьлітасны, ахапляючы вялізарныя прасторы, вымагаючы вялізарную колькасьць комбатантаў, г. зн. непасрэдных узброеных удзельнікаў вайны, аб якіх да гэтага часу ваенная гісторыя ня мела і ўяўленьня. Апрача таго, сучасная вайна ўцягвае ў сваё кола ўсю масу насельніцтва—ад малога да вялікага. Апошнія ваенныя мобілізацыйныя пляны ва Францыі, Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах і іншых дзяржавах, якія пераймаюць усё ад буйных дзяржаў, ператвараюць у комбатантаў у перадавых і тылавых часьцях арміі абсолютна і пагалоўна ўсё насельніцтва. Усе мобілізацыйныя пляны разьлічаны на тое, што надыходзячая вайна будзе вельмі ўпартай і доўгай, пэрыод у дзесяць—пятнаццаць гадоў не выключаецца вайсковымі спэцы-

ялістымі і дыплёматамі; таму вайсковыя пляны прымаюць пад увагу прырост насельніцтва і ўлічаюць яго ў якасьці рэзэрву, абарачаючы, такім чынам, у комбатантаў ня толькі грудных дзяцей, але і тых, якія яшчэ і не думалі зьяўляцца на сьвет. За выключэньнем буйнейшых кіраўнікоў політыкі, самай верхавіны дыплёматыі, што організуе вайну, генэралітэту, ды яшчэ камандуючых міліянэраў і міліярдэраў прамысловасьці, для абароны інтарэсаў якіх вайна організуецца, няма ніводнай чалавечай істоты ў краіне, якая магла-б сьцьвярджаць, што яна раней ці пазьней ня будзе выстаўлена на поле бою.

Вось чаму вайны баяцца ўсё большыя і большыя масы. Натуральна, што самыя прыгнечаныя масы рабочае клясы і сялянства стараюцца знайсьці выхад у рэволюцыі, які павінен разбурыць той лад, што, побач са штодзеннай эксплёатацыяй, нясе жудасны эксплёатацы ваеннай, а дробнабуржуазныя элемэнты кідаюцца то туды, то сюды паміж рэволюцыяй і спробамі як-небудзь інача разьвязаць проблему вайны.

Усе гэтыя спробы іншага, па-за рэволюцыйнага разьвязаньня проблемы, спробы зьнішчэньня вайны на базе і ў рамках капіталізму, не разбураючы капіталістычнай організацыі грамадзтва, набылі ў гісторыі назву *пацыфізму*. Гісторыя пацыфізму надзвычайна даўгая. Ліга Нацый зьяўляецца аднэй з самых наглых спроб эксплёатацыі мас шляхам укараненьня ў іх пацыфіцкіх ідэалаў.

Ідэя стварэньня саюзу ці таварыства народаў для таго, каб устанавіць паміж імі братэрскае і сяброўскае саіснаваньне ў інтарэсах чалавецтва, як такога, надзвычайна старая. Спэкуляцыйныя і схолястычныя філёзофы, што стварылі з свае галавы абстрактычныя схэмы шчасьлівага грамадзкага ўпарадкаваньня, маюць цэлы шэраг прапаноў, якія ня вытрымалі крытыкі гістарычнай рэчаіснасьці; усе гэтыя схэмы разьбіваліся аб жорсткія клясавыя сутычкі, якія зьяўляліся прычынай сутычак міжнародных. Асабліва жвава абгаварвалася проблема саюзу народаў у XVII веку, калі Эўропа сапраўды сплывала крывёю; веку, які ведае трыццаці летнюю вайну, Вялікую Ангельскую Рэволюцыю, вялізарны паход турак, змаганьне Англіі з цэлым шэрагам дзяржаў за панаваньне на морах і цэлы шэраг іншых буйных і дробных сутычак. І чым бязьлітасьней была рэчаіснасьць, тым больш упарта білася думка над тым, каб знайсьці з яе выхад, і лепшыя розумы і самыя сумленныя душы, якія не маглі мірыцца з жудаснай сапраўднасьцю, пры слабасьці грамадзкіх навук, што пазьней другіх разьвіліся і ня выкрылі яшчэ сапраўдных прычын жорсткіх грамадзкіх уздрыгаў, марылі аб таварыстве народаў і ў гэтым бачылі здань выратаванага маяка.

Пасьля вялізарнай крывавай эпопэі наполеонаўскіх войнаў, пасьля зьвяржэньня Наполеона, 1 жніўня 1814 году ў Лёндоне быў паложаны пачатак падмурку „Храма Згоды“, які павінен быў зьяўляцца сымболем таго, што народы будуць палюбоўна вырашаць усе сутычкі, што ўзьні-

каюць паміж імі, а войнаў больш ня будзе. Зразумела, для тых, хто будаваў гэты храм, і ў той-жа час рыхтаваў далейшыя войны,—гэта была крывадушная дань людзкой слабасьці, масе чалавечай, якую, як гэта паказала практыка гісторыі, лёгка эксплёатаваць высокімі і прыгожымі ідэямі. Для мас-жа народных гэта была надзея, якая іх заспакойвала. І што-ж? XIX век вызначыўся цэлым шэрагам войнаў, а роўна цераз сто гадоў—першага жніўня 1914 году ўжо грымелі гарматы, якіх яшчэ ня ведала гісторыя чалавецтва.

У прадбачаньні гэтай вялізарнай вайны, якая насоўвалася, нібы навальнічная хмара, надзвычайна павялічыўся пацыфіцкі рух, штурханы, з аднаго боку, лепшымі намерамі бязгрунтоўных ідэалістых, і з другога—палітыкамі, якія ўпарта і сыстэматычна рыхтавалі вайну; але апошнім да пары да часу канечна патрэбна было заспакоіць пільнасьць і трывогу мас. Нам давялося-б занадта многа пералічаць, калі-б мы захацелі паказаць усё тое, у чым выяўляўся і ў чым адбіваўся гэты рух, і таму мы пералічым толькі важнейшыя факты, аб якіх кажа профэсар міжнароднага права Ю. В. Ключнікаў.

„У 1889 годзе адбыліся зьезды—„Міжпарляманцкага Саюзу“, які яднаў парляманцкіх дзеячоў розных краін, што прызнавалі канечную патрэбу звароту да трэцейскага разьвязаньня конфліктаў і якія наогул стаялі за ўмацаваньне мірных міжнародных сувязяй; у 1891 годзе ў Бэрне было заснавана „Міжнароднае Бюро Міру“, якое зьяўлялася зьвязальным цэнтрам паміж шматлікімі нацыянальнымі „таварыствамі міру“. У 1899 г. па расійскай ініцыятыве ў Гаазе сабралася першая мірная конфэрэнцыя для абмежаваньня ўзбраеньняў і выпрацоўкі мірных спосабаў вырашэньня міжнародных конфліктаў“. Ніякага разброеньня Гаагская конфэрэнцыя не правяла, але на ёй дзяржавамі была падпісана конвэнцыя аб заснаваньні „Пастаяннай Палаты Трэцейскага Суду“. На ёй першы раз была выказана офіцыяльна адразу дваццацю шасьцю дзяржавамі думка аб „салідарнасьці, якая злучае членаў *таварыства цывілізаваных народаў*“. Формула „таварыства народаў“, „Societe de Nations“,—француская назва,—для цяперашняй Лігі Нацыі была такім чынам дадзена[1]).

У часе вайны пацыфіцкі рух, натуральна, узмацніўся: з аднаго боку, таму, што клясы, якія падтрымлівалі вайну, пераконвалі, што гэта вайна апошняя, і намагаліся паказаць, што яны нібы сапраўды ствараюць грамадзкія інстытуты, організацыі, якія зьнішчаць патрэбу вайны; з другога боку, шырокія колы дробнай буржуазіі карысталіся першай акалічнасьцю, каб рэалізаваць сваю мару аб рэальным гістарычным увасабленьні іх пацыфіцкіх надзей націскам на пануючыя і кіруючыя клясы пры спачуваньні самых шырокіх мас, стомленых войнамі.

---

[1]) „Версальский Мирный договор“. Вступительная статья проф. Ю. В. Ключникова. Изд. Литиздат НКИД. Москва, 1925 г.

Зьбіраліся пацыфіцкія зьезды і сходы, арганізоўваліся таварыствы ў краінах абодвух ваюючых лягераў, але больш за ўсё, зразумела, спрабавалі гэту чыннасьць разгарнуць на нэўтральнай глебе. Швайцарыя, якая стала за час вайны цэнтрам міжнародных шпіёнскіх арганізацый і дыплёматычнага гандлярства, іграла, зразумела, галоўную ролю. Ужо скора пасьля пачатку вайны ў 1914 г. тут сабраўся камітэт па вывучэньні асноў дагавору для ўстанаўленьня сталага міру. У верасьні 1914 году ў Англіі членамі Палаты Абшчын Ч. Трэвэльянам, Р. Макдональдам, А. Понсонбі і публіцыстымі Э. Морэлем і Норманам Энджэй (аўтар вядомай пацыфіцкай кнігі „Вялікая памылка",—нарыс аб узаемаадносінах ваеннай магутнасьці нацыі і іх экономічнага і соцыяльнага прогрэсу; расійскі пераклад.—Масква, 1912 г.) быў арганізаваны пацыфіцкі „Саюз дэмократычнага контролю". У 1915 годзе ў Лёндоне ўтварылася „Ліга Грамадзтва Нацый". Першы пункт програмы Лігі патрабаваў, каб „магчыма скарэй быў заключаны дагавор, з дапамогаю якога дзяржавы, гатовыя далучыцца да яго, утварылі-б Лігу з абавязкам вырашаць мірнымі мэтодамі ўсе конфлікты, што могуць вынікнуць паміж імі".

Разьвіўся пацыфіцкі рух і ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах. У гэтай краіне ён меў і свае асаблівыя карані, паколькі іменна ў Злучаных Штатах яшчэ з вельмі даўняга часу выпрацоўвалася тэорыя стварэньня саюзу амэрыканскіх дзяржаў, саюзу, які зрабіў-бы немагчымымі войны і мог-бы легчы ў аснову стварэньня агульнага ўсеамэрыканскага саюзу—ажыцьцяўленьня ідэі пан-амэрыканізму. Таму няма нічога дзіўнага, што іменна прэзыдэнт Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Вудро Вільсон зьявіўся ў Эўропу з „эвангэлем" Лігі Нацый і быў тут урачыста прыняты, спаткаўшы тут падрыхтаваную для яго ідэй глебу. Як на буйнейшыя пацыфіцкія організацыі ў Злучаных Штатах, трэба паказаць на „Лігу дасягненьня міру", у якую ўваходзілі Тафт—былы прэзыдэнт Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў (1909—1913) і сам Вудро Вільсон.

Ва Францыі з лета 1915 году ўтвараецца таварыства пад назваю „Мір цераз пасярэдніцтва права"; сьледам за ім пайшла „Ліга праў чалавека і грамадзяніна". У рэзолюцыі зьезду Лігі 1916 году гаворыцца: „Сталы мір магчымы толькі пры стварэньні Таварыства Нацый, якія ўстанаўляюць паміж сабою той-жа рэжым, што кожная з іх ужывае ў стасунку для сваіх членаў: вырашэньне спрэчак з дапамогаю права, а не з дапамогаю сілы". У рэзолюцыі зьезду 1917 году Ліга выставіла патрабаваньне аб тым, каб у роўніцы права вырашаліся нават і экономічныя спрэчкі і каб Таварыству Нацый „была надана патройная ўлада ўсякага грамадзтва: законадаўчая, судовая і выканаўчая" [1]).

Якія-ж тыя асноўныя прынцыпы, лёзунгі і вымаганьні, што высоўваліся ўсім пацыфіцкім рухам, і якое іх рэальнае значэньне?

---

[1]) Падрабязна глядзі паказаны ўступны артыкул проф. Ю. В. Ключнікава.

1. *Гарантыя*, г. зн. гарантыя кожнай дзяржавы ад ненападу на яе другое дзяржавы ня вытрымлівае крытыкі таму, што яна магла-б быць установлена толькі пры гарантыі з боку найбольш сільных і магутных дзяржаў у стасунку да слабейшых; фактычна-ж іменна сільнейшыя дзяржавы ў сваёй міжнароднай політыцы імкнуцца да аднае толькі гарантыі— эксплёатацыі і падпарадкаваньня сабе больш слабых дзяржаў.

2. *Пасярэдніцтва—арбітраж*—прынцып, які ня раз ажыцьцяўляўся ў міжнародных адносінах. Але досыць праглядзець усе міжнародныя зьезды і конфэрэнцыі, у якіх гэты прынцып іграў ролю, каб убачыць, што ўсё зводзілася да таго, што досыць сільная і аўторытэтная дзяржава, якая толькі і магла, зразумела, іграць ролю пасярэдніка, імкнулася ажыцьцявіць свае ўласныя інтарэсы на шкоду або аднаё або абедзьвюх старон, што спрачаліся паміж сабою. Англія—Венскі конгрэс 1814—15 г.; Германія—Бэрлінскі конгрэс 1878 г. Увесь концэрт эўропэйскіх дзяржаў выступіў пасярэднікам паміж Японіяй і Кітаем пасьля япона-кітайскай вайны 1894—1895 гадоў і ня даў Японіі выкарыстаць перамогу над Кітаем, захапіўшы тэрыторыі Кітаю ў карысьць эўропэйскіх дзяржаў. Пасярэднік без аўторытэту ня мае жаднага сэнсу, а аўторытэт у міжнародных адносінах мае той, на чыім баку сіла; іншага аўторытэту пакуль што міжнародныя адносіны ня ведалі і ня ведаюць.

3. *Абавязковы суд*—ня ведае тае сілы, якая прымусіла-б паасобныя дзяржавы карыстацца гэтым судом і яму падпарадкавацца.

5. *Концэрт эўропэйскіх дзяржаў*—гэта ёсьць таксама патрабаваньне таварыскага саюзу народаў у процівагу тым прынцыпам групоўкі дзяржаў, якія існавалі да гэтага часу ў відзе імкненьня ўстанавіць політычную роўнавагу, калі дзяржавы ядналіся ў саюзы, імкнучыся ўроўнаважыць свае сілы, але ўзаемна адна другой варожыя, узаемна імкнучыся да розных політычных мэт.

6 і 7. *Публічнасьць дыплёматыі і дэмократычны контроль*—выманьні аднаго характару, несумяшчальныя ні з адносінамі паміж клясамі ў буржуазным грамадзтве, дзе пануючыя клясы ня могуць выкрыць сваіх сакрэтаў перад клясамі прыгнечанымі, ні з адносінамі паміж нацыямі, дзе нацыі прыгнятаючыя ня могуць паказаць сваіх сакрэтаў нацыям прыгнечаным, ні з адносінамі паміж дзяржавамі, дзе ў змаганьні за лепшае ўзбраеньне і пры дыплёматычных хітрыках сакрэт іграе вельмі важную ролю. Калі-ж дэмократычны контроль ажыцьцяўляецца ў камісіях па замежных справах парляментаў, то ён мае характар кляйнага абгаворваньня пытаньняў, які ня мае нічога агульнага з дэмократызмам.

8. *Адмаўленьне анэксій*—прынцып няясны і неазначаны ўжо толькі таму, што зусім невядома, што такое *анэксія*. Калі праглядзець афіцыяльныя дыплёматычныя дакуманты эўропэйскіх дзяржаў за ўвесь XIX век, то ніводнае анэксіі ня было зроблена. Землі расьцягаюцца і

забіраюцца на падставе права, *толькі права* „гістарычнай“, „этнографічнай“, „экономічнай“ і ўсякай іншай прыналежнасьці; анэксія, г. зн. гвалтоўнае прысваеньне,—гэтага, паводле офіцыяльных дыплёматычных дакумантаў, Эўропа ня ведае. Супроць чаго-ж змагаюцца антыанэксыяністыя, якія ня сходзяць са шляхоў буржуазна-клясавых адносін?!

9. *Плебісцыт*—устанаўленьне прыналежнасьці краіны да тае ці іншае дзяржавы ці яе самастойнасьці на падставе агульна-народнага *галасаваньня ці, іначай, права нацый на самавызначэньне.* Прынцып гэты быў высунуты ў Эўропе ў часе Вялікай Францускай Рэволюцыі, і „організатар міжнародных перамог рэволюцыі“ якобінец Карно пісаў у сваёй інструкцыі дыплёматычнаму корпусу: „Наш прынцып той, што кожны народ, як-бы малая ні была краіна, у якой ён жыве, абсолютна пан у сябе дома, правамі роўны з самымі вялікімі народамі, і ніхто ня можа *законна* пасягаць на яго незалежнасьць“. Але, як мы бачылі вышэй, паняцьце законна вельмі хісткае ў буржуазных міжнародных адносінах, і калі не ўдаецца тымі ці іншымі гвалтоўнымі сродкамі ці подкупам накіраваць плебісцыт у выгадны бок, то спрактыкаваныя паслугачы-юрыстыя даюць *законную* форму падпарадкаваньня нацыі.

Пры такім становішчы рэчаў трацяць усякі сэнс лёзунгі 10. *Абмежаваньне ўзброеньняў і* 11. *Разброеньне.*

Лёзунг 12—*разьвязаньне спрэчак з дапамогаю „права“, а не з дапамогаю сілы.* Тут не даводзіцца доўга гаварыць аб тым, што ня толькі правазнаўцы, так званыя марксыстыя, але і буржуазныя тэорэтыкі права, што займаюцца сапраўды навукай, а не спэкуляцыяй, устанавілі, што ў буржуазным грамадзтве права і сіла ідэнтычны, і права там, дзе сіла.

Спашлемся для прыкладу на буйнейшага буржуазнага тэорэтыка Рудольфа Ієрынга.

У галіне экономічных патрабаваньняў галоўнае і найбольш часта выстаўлянае—*свабода гандлю*—прынцып, які адмаўляецца ўсёй сыстэмай сучаснага монополістычнага капіталізму-імпэрыялізму.

Конкрэтная міжнародная ініцыятыва заснаваньня організацыі Лігі Нацый належыць Паўночна-Амэрыканскім Злучаным Штатам, у прыватнасьці яе прэзыдэнту Вудро Вільсону, які выразіў яе ў 14 пункце свайго славутага пасланьня конгрэсу Злучаных Штатаў ад 8 студзеня 1918 г. Гэты славуты 14 пункт, выказваючы надзею пацыфістых, кажа: „Агульнае аб'яднаньне нацый павінна быць створана на аснове асаблівых дагавораў з мэтаю стварэньня ўзаемных гарантый політычнай незалежнасьці і тэрыторыяльнай недатыкальнасьці аднолькава вялікіх і малых дзяржаў“.

У Парыж, дзе адбывалася мірная конфэрэнцыя, якою завяршалася вайна 1914—18 гадоў, Вільсон прыехаў са сваім проектам статуту Лігі Нацый; але гэты проект спаткаўся з проектам ангельскім, складзеным лёрдам Робэртам Сэсылем, згодна жаданьням кіраўніка ангельскай палі-

тыкі Лёйд-Джорджа і ангельскага ўраду. Апрача таго, проект Вільсона спатыкаў супярэчаньні і ў некаторых уплывовых колах політыкаў Злучаных Штатаў. Пад падвойным нацiскам Вільсон вымушан быў рабіць уступку за ўступкай і ў канечным падрахунку статут, зацьверджаны мірнай конфэрэнцыяй і на падставе якога зараз існуе Ліга Нацый, больш належыць Робэрту Сэсылю, чым Вудро Вільсону, і больш адбівае дух ангельскага, чым паўночна-амэрыканскага імпэрыялізму.

Статут Лігі Нацый зьяўляецца абавязковай уступнай і органічнай часткаю ўсіх мірных дагавораў, заключаных пасьля вайны 1914—18 гадоў, Вэрсальскага, Трыанонскага, Сэн-Жэрмэнскага і іншых. Складаецца ён з аднаго невялічкага ўступнага абзацу і 26 артыкулаў і зьмяшчаецца на васьмі звычайных нават буйным шрыфтам надрукаваных друкарскіх старонках. Ва ўступнай часьці мы маем усе вядомыя ўжо нам добрыя пажаданьні пацыфізму. Уводзіны кажуць: „Прымаючы пад увагу, што для разьвіцьця *супрацоўніцтва паміж народамі* і для *гарантыі міру* і *забясьпекі* важна прыняць некаторыя абявязкі *ня ўжываць вайны*, падтрымліваць у поўнай *галоснасьці* міжнародныя адносіны, заснаваныя на *справядлівасьці* і *гонары*, строга выконваць вымаганьні міжнароднага *права*, якія ад гэтага часу лічацца сапраўдным правілам паводзін урадаў, устанавіць панаваньне *справядлівасьці* . . . . прымаецца гэты Статут, які засноўвае Лігу Нацый“.[1]) Сапраўды, тут сабраны ўсе найлепшыя пажаданьні і шляхэтныя словы для таго, каб вымасьціць дарогу ў пекла. А як вымошчваецца гэта дарога нам раскажуць важнейшыя моманты з 26 артыкулаў Статуту.

Артыкул 8 кажа аб тым, што захаваньне міру вымагае *„абмежаваньня* нацыянальных *узброеньняў* да мінімума, сумяшчальнага з нацыянальнай забясьпекаю“. Але дзе-ж бо знойдзецца той мудры Эдып, які здолее паказаць гэты мінімум, калі выстарчальна дасягнута нацыянальная забясьпека. Хіба гэты артыкул, па сутнасьці, ня ёсьць заклік да максымальных узбраеньняў, калі ўзбраеньне застаецца гарантыяй забясьпекі? Няхай-бы ў гэтым Статуце нічога ня было больш напісана,—гэты артыкул зводзіць усе добрыя пажаданьні пацыфізму на нішто. Аб рэшце гутарка наперадзе. Апрача гэтага, Статут мае ў сабе пажаданьні, выказаныя так сабе, для прывабнасьці.

Артыкул 23 кажа аб устанаўленьні „справядлівых і гуманных умоў працы“. Артыкул 25—аб палепшаньні здароўя чалавецтва і зьмякчэньні *„пакут на сьвеце“* (падкрэсьлена намі, *І. Г.*), ні больш ні менш!

Апрача таго, у артыкуле 23 устанаўляецца контроль над гандлем зброяй. Калі-б гэта палажэньне хоць часткаю ажыцьцяўлялася ў сьвеце з часу падпісаньня Статуту, многа менш было-б праліта крыві, чым гэта фактычна адбылося і адбываецца зараз. Адкуль набываюць зброю генэралы-сатрапы, што расстрэльваюць масы сялян і рабочых у Кітаі і

[1]) Усё падкрэсьлена намі.

вядуць бясконцыя войны паміж сабою? Хто, як ня члены Лігі Нацый, што бесконтрольна вывозяць зброю, жывяць грамадзянскую вайну ў Мэксыцы і цэлым шэрагу іншых краін? Хто, як не павадыры Лігі—Францыя, з аднаго боку, Англія—з другога дастаўлялі зброю ў часе грэка-турэцкае вайны? Адным словам, усе тыя *трыццаць* вялікіх і малых войнаў, якія на працягу аднаго толькі 1923 году, як падлічае адзін ангельскі генэрал і аб чым гаворыць Лёйд Джордж у сваёй кнізе „Эўропэйскі хаос“, насычалі крывёю розныя тэрыторыі ўсіх частак сьвету зброяй, атрыманай ад членаў Лігі Нацый.

На першым паседжаньні Лігі Нацый Вудро Вільсон агаласіў, што яна „заклікана падрыхтаваць усеагульны мір“. „Прайшоў той час,—заявіў ён,—калі ўсім распараджаліся багатыя клясы“. Гэта гаварыў прэзыдэнт рэспублікі, якою кіруе фактычна кучка мiліянэраў і міліярдэраў на чале з левіафанамі эксплёатацыі—Рокфэлерам і Морганам; прэзыдэнт рэспублікі, аб якой расійскі корэспондэнт старога часопісу легальнага марксызму „Новое Слово“ ў сваім лісьце са Злучаных Штатаў пісаў яшчэ ў 1897 годзе, што як прэзыдэнт Гарысон (1889—1893), так і прэзыдэнт Клівленд (1893—1897) былі крэатурамі буйных монополістычных корпорацый“; тое самае ён пісаў аб Мак-Кінлеі (1897—1901), які зьмяніў іх, і з імем якога зьвязаны забараняльны ўвозны тарыф Злучаных Штатаў ад 1899 году. Наўрад ці хто будзе спрачацца, што з таго часу панаваньне „монополістычных корпорацый“ у Злучаных Штатах узмацнілася, а не паслабла. А перад гэтым, у дзень заключэньня перамір'я паміж дзяржавамі, што вялі вайну 1914—18 г. г., Вільсон у прамове перад конгрэсам Злучаных Штатаў, паведамляючы аб сканчэньні вайны, заявіў, што „закаваны ў броню імпэрыялізм нізрынуты ў хмурую прорву і загінуў“.

Якія-ж мае Ліга Нацый сродкі, каб дасягнуць такіх вялікіх і важных мэт? Аб іх гаворыцца ў вельмі пагрозным у 16 артыкуле Статуту, які кажа: „Калі член Лігі ўжыве вайну, наўпрэкі прынятым абавязкам, то ён ipso fakto (па самай гэтай акалічнасьці) разглядаецца, як зрабіўшы акт вайны супроць усіх іншых членаў Лігі. Апошнія абавязваюцца зараз-жа парваць з ім усе гандлёвыя ці фінансавыя адносіны, забараніць усе зносіны паміж сваімі грамадзянамі і грамадзянамі дзяржавы, якая парушыла Статут, і спыніць усякія фінансавыя, гандлёвыя ці асабістыя зносіны паміж грамадзянамі гэтае дзяржавы і грамадзянамі ўсякае іншае дзяржавы, ці зьяўляецца яна членам Лігі ці не“.

Як бачым, артыкул вельмі грозны і пагражае поўным моральным, экономічным і політычным бойкотам амаль ня ўсіх дзяржаў парушыцелю міру. Але мала гэтага—ён мае ў сабе яшчэ ваенныя санкцыі. „У гэтым выпадку,—гаворыцца далей,—савет (Лігі) абавязан прапанаваць розным зацікаўленым урадам той лікавы склад вайсковае морскае ці паветранае сілы, з дапамогаю якога члены Лігі будуць, па прыналежнасьці, прымаць

удзел ва ўзброеных сілах, прызначаных для падтрыманьня пашаны да абавязацельстваў Лігі".

Гэты артыкул быў-бы сапраўды пагражальным, калі-б ён быў колькі-небудзь рэальны і не ануляваўся зусім арганізацыяй Лігі Нацый. А арганізацыя гэта, якая зусім забівае 16 артыкул і ператварае Лігу Нацый у сваю супярэчнасьць—з прылады для прыдушэньня імпэрыялізму ў прыладу для яго ўмацаваньня, вельмі цікавая.

Паводле сваёй арганізацыі, Ліга Нацый складаецца з Савету і Пленуму ў такім арыгінальным злучэньні, што ня Пленум пануе над Саветам, а Савет над Пленумам. Савет складаецца з пастаянных членаў,—раней чатырох, а з часу ўваходу ў Лігу Германіі—пяці: Англіі, Францыі, Італіі, Японіі і Германіі. Гэта прадстаўніцтва пастаянных членаў раз назаўсёды ўстаноўлена і склад яго вызначаецца зацікаўленымі дзяржавамі і зусім не залежыць ад Пленуму. Яны то—гэтыя пастаянныя члены Савету, незалежны ад Пленуму і іграюць вырашальную ролю ў Савеце. Апрача таго, у Савет уваходзяць непастаянныя члены ад дзяржаў па выбары і зацьверджаньні Пленуму. З пачатку заснаваньня непастаянных месц было чатыры, потым дадана яшчэ два і зрэшты даведзена да дзевяці. Савет зьбіраецца чатыры разы на год. Пленум усяго адзін раз. Пленум ня мае права выключаць з Савету ніводнага з пастаянных членаў, а непастаянных толькі па сканчэньні тэрміну ў парадку перавыбараў; але затое Савет мае права выключыць са складу Лігі любога яе члена бяз удзелу і санкцыі Пленуму.

Каб ахарактарызаваць прадстаўніцтва народаў у Лізе, мы пакажам, на наступныя даныя. У той час, як Эўропа, галоўным чынам, сваімі магутнымі дзяржавамі, густа і багата прадстаўлена ў Савеце і ў Пленуме Лігі, усё шматмільённае насельніцтва вялізарнай Паўднёвай Амэрыкі мае ўсяго двух прадстаўнікоў у Савеце. Усё 900-мільённае насельніцтва Азіі мае ў Лізе прадстаўнікоў толькі ад Пэрсіі, Кітаю і Сіаму, у Савет уваходзіць толькі Японія; на просьбу Кітая даць яму месца ў Савеце, згода ня была дана. Такім чынам, Ліга Нацый сама па сабе, паводле свае будовы, ёсьць адмаўленьне ўсіх тых высокіх прынцыпаў, на якіх яна нібы будавалася. Тут аб роўнасьці народаў і гутаркі быць ня можа, тут і ня пахне дэмакратызмам,—гэта ёсьць самая бессаромная аўтакратычная арганізацыя, у якой пяць буйных імпэрыялістычных дзяржаў пануюць над усёю рэштаю дробных сваім палітычным значэньнем, ці сваёй велічынёю. Гэта так ясна для ўсіх, што нават былы дзяржаўны сакратар Злучаных Штатаў, адзін з непасрэдных удзельнікаў Парыскай мірнай конфэрэнцыі—Лянсінг, у сваіх мэмуарах піша: „Трэба згадзіцца, што Ліга Нацый зьяўляецца ў руках дзяржаў-пераможніц тэй прыладай, якую яны накіроўваюць супроць імкненьняў і надзей пераможаных народаў, *якія прызначаны на адзіноцтва*". Проста кажучы, Ліга Нацый паводле сваёй арганізацыі магла-б абярнуцца ў выканаўчы орган

сусьветнага імпэрыялізму, калі-б унутраныя нязгоды паміж пастаяннымі членамі Савету Лігі не падзялялі іх і неператваралі Савет у нясупынна кіпучы гаршчок.

Пры Лізе Нацый, праўда, існуе „Пастаянная палата Міжнароднага Суду", але зварот да яе не зьяўляецца абавязковым і залежыць ад дзяржаў, што спрачаюцца паміж сабою. Трудна, такім чынам, меркаваць, каб які-небудзь сапраўды сур'ёзны міжнародны конфлікт быў пераданы на абгаварэньне гэтай Палаты. І ўрэшце, пастановы яе неабавязковы, і ня мае Палата такое сілы, якая-б магла зрабіць іх абавязковымі.

Да гэтага трэба дадаць яшчэ тое, што ўсе пастановы па важнейшых пытаньнях Савету Лігі маюць сілу толькі тады, калі яны прыняты аднагалосна. Такім чынам, калі Англія рабуе Турцыю і па ўсіх даных да яе павінна быць дапасаваны артыкул 16, то гэта можа адбыцца толькі з яе згоды. Хітра прыдумана!

Калі выключыць пытаньне аб СССР, то слабейшым месцам Лігі зьяўляецца тое, што ў яе не ўваходзіць самая магутная буржуазная дзяржава—Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты.

Як ангельцы і французы ні ладзілі Статут Лігі так, каб ён адпавядаў іх інтарэсам, ім трэба было лічыцца з супярэчнасьцю інтарэсаў, што існуюць паміж Злучанымі Штатамі, з аднаго боку, і Англіяй і Японіяй з другога. Гэта шматгранная сутычка інтарэсаў праходзіць, галоўным чынам, па двух лініях: 1) уплыву ў Паўднёвай, іначай Латынскай Амэрыцы і 2) уплыву ў Кітаі і на Ціхім акіяне. Для таго, галоўным чынам, каб супроцьстаяць Злучаным Штатам па гэтых двух кірунках, яшчэ ў 1902 г. быў заключаны ангельска-японскі саюз, які быў адноўлены ў Лёндоне 13 чэрвеня 1913 году. Англія ўжо вельмі даўно пачала ўкараняцца ў Латынскую Амэрыку, і доктрына Монроэ (1823 г.), якая агалашала—Амэрыка для амэрыканцаў,—была накіравана, галоўным чынам, супроць Англіі. Але паводле свайго характару, паколькі яна ўстанаўляе панаваньне Злучаных Штатаў над абедзьвюма Амэрыкамі і адрывае амэрыканскія дзяржавы ад эўропэйскіх, зусім несумяшчальна з прынцыпам Лігі Нацый; разам з тым, Статут Лігі Нацый прызнае доктрыну Монроэ, даючы Злучаным Штатам магчымасьць і пры наяўнасьці яе ўвайсьці ў склад Лігі Нацый.

Пункт 20 Статуту кажа: „Члены Лігі прызнаюць кожны, паколькі тое яго датычыцца,—што гэты Статут адмяняе ўсе ўмовы ці згоды inter se, несумяшчальныя з яго ўмовамі, і ўрачыста абавязуецца падобных на далей не заключаць". Артыкул-жа 22 кажа: „Міжнародныя ўмовы такія, як дагаворы аб трэцейскім разьбірацельстве, і абмежаваныя граніцаю пэўных раёнаў згоды, як доктрына Монроэ, якія забясьпечваюць захаваньне міру,—не разглядаюцца, як несумяшчальныя з якой-небудзь з пастаноў гэтага Статуту". Апошні артыкул цікавы ня столькі сваім адступленьнем ад прынцыпаў Лігі, колькі тым, што ён зьяўляецца

ўступкай эўропэйскіх імпэрыялістых імпэрыялізму Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў для таго, каб уцягнуць Злучаныя Штаты ў Лігу. Але для гэтага, аказваецца, мала было прызнаць доктрыны Монроэ, гэта значыць панаваньня імпэрыялізму Злучаных Штатаў над абедзьвюма Амэрыкамі, але трэба было яшчэ разарваць ангельска-японскі дагавор, разьвязаўшы рукі імпэрыялізму Злучаных Штатаў на Ціхім акіяне, зьнішчыць панаваньне Японіі ў некаторых краінах Кітаю, набытае доўгім змаганьнем і ўдзелам у вайне 1914—18 гадоў. З апошнім Англія і Японія ніяк не маглі згадзіцца, а разам з тым і Злучаныя Штаты не маглі згадзіцца з тым становішчам, якое ў момант напісаньня Статуту Лігі існавала на Ціхім акіяне.

Кітай пачалі захопліваць эўропэйскія дзяржавы ўжо з пачатку сакавых гадоў XIX веку, а Японія з канца васьмідзесятых гадоў. Японска-Кітайская вайна 1894—95 г. г. прадстаўляе ў гэтым сэнсе надзвычайна выдатную дату ў тым сэнсе, што з гэтага часу пачынаецца ўзмоцнены захоп Кітая ўсімі дзяржавамі, апрача Злучаных Штатаў. Злучаныя Штаты павінны былі маўкліва паглядаць на гэта, каб іншыя захопнікі таксама маўкліва назіралі за тым, як яна распраўляецца з зьнясіленай Гішпаніяй у вайне 1890 году і нажываецца за яе кошт, як яна душыць паўстаньні на Філіпінскіх астравох, Кубе, Гавайскіх астравох. Праўда, ужо і тады Японія рабіла спробу дыплёматычнай нотай Злучаным Штатам протэставаць супроць гэтых захопаў, але гэта быў чысты плятонічны протэст. Цяпер Злучаныя Штаты адчуваюць сябе даволі сільнымі, каб паправіць становішча і ніяк ня могуць згадзіцца з status quo, што стварылася да вайны 1914 году ў Кітаі і на Ціхім акіяне; а Статут Лігі, таксама як і Вэрсальскі дагавор, іменна з гэтага status quo і выходзіць, зьмяняючы за кошт Германіі становішча на карысьць Англіі і асабліва Японіі, якая моцна асталявалася ў Монголіі, Тзін-Чаў, Шандуні.

Толькі на Вашынгтонскай конфэрэнцыі (з 12-XI-1921 г. па 6-II-1922 г.) Паўночна-Амэрыканскім Злучаным Штатам удалося скарыстаць цяжкое становішча Англіі ў агульным пасьляваенным развале і яе і сусьветнае гаспадаркі і цяжкое становішча Англіі ў яе ўзаемаадносінах са сваімі доміниёнамі, асабліва з Канадай, для таго, каб парваць ангельска-японскі дагавор. Асабліва варта ўвагі тое, што Злучаныя Штаты надалі Вашынгтонскай конфэрэнцыі азначана больш важнае значэньне, чым Парыскай конфэрэнцыі, на якой выпрацоўваўся Вэрсальскі дагавор і Статут Лігі Нацый.

У прамове, якою прэзыдэнт Гардынг (1921—23) распачаў пасяджэньні ён назваў конфэрэнцыю „прабуджэньнем сумленьня XX веку і надзеяй народаў, стомленых сусьветнай вайною, на аднаўленьне сталых міжнародных адносін і доўгага міру“. Але такія самыя словы гаварыліся ў свой час і наконт Парыскай мірнай конфэрэнцыі і пажаданьні, выказаныя гэтымі словамі, лічыліся дасягнутымі ў выніку Вэрсальскага мірнага

дагавору і заснаваньня Лігі Нацый. Сваёй уступнай прамоваю Гардынг зьвёў усё гэта на нішто. Але ўсё-такі разьвязаць кітайскае пытаньне на карысьць Злучаных Штатаў не ўдалося і выясьнілася, што пытаньне можа быць разьвязана толькі ваенным парадкам,—таму яго нават і не абгаварвалі, а адносіны Злучаных Штатаў да Лігі Нацый не маглі перамяніцца.

Апрача паказаных акалічнасьцяй, Злучаныя Штаты не ўвайшлі ў Лігу Нацый яшчэ таму, што гэтым ухіляецца адна з прызнаных і афіцыяльна ўстаноўленых магчымасьцяй для ўмяшацельства эўропэйскіх дзяржаў у амэрыканскія справы, тады як Злучаныя Штаты, у стасунку да якіх Эўропа зьяўляецца буйным дэбіторам, маюць неабмежаваныя магчымасьці ўмешвацца ў эўропэйскія справы.

Але калі Статут Лігі Нацый і сама Ліга нікога не гарантуе ад анэксій, то яна затое праводзіць іх у захаваным відзе ў артыкуле 22, у якім гаворыцца пра „адсталыя“ народы: „Наступныя прынцыпы дапасоўваюцца да колёній і тэрыторый, якія ў выніку вайны перасталі быць пад сувэрэнітэтам дзяржаў, што кіравалі імі перад гэтым, і якія населены народамі, *яшчэ няздольнымі самастойна кіраваць сабою* (падкрэсьлена намі. *І. Г.*) у асабліва трудных умовах сучаснага сьвету“. Для такіх народаў устанаўляецца інстытут мандатараў—„аж да таго моманту, калі яны зробяцца здольнымі самі кіраваць сабою“. Можна падумаць, што гутарка ідзе аб дзікіх ірокезах і папуасах. Не, нічога падобнага. У якасьці мандатных краёў апынуліся Сырыя, Палестына і цэлы шэраг другіх краёў, якія голасна заяўляюць, што яны могуць кіраваць сабою бяз усякай „сардэчнай“ над імі апекі. Але хто павінен устанавіць гэты факт? Тыя-ж драпежнікі Савету Лігі, якія на падставе гэтага 22 артыкулу расьцяглі сабе розныя тэрыторыі і якім ніяк нявыгодна констатаваць гэты факт у станоўчы бок. У гэтых адносінах галоўны драпежнік—Англія, мае вялікую практыку. Колькі ўжо гадоў крычыць Індыя аб тым, што яна зусім здольна да самастойнага кіраваньня, а Англія па сёнешні дзень ня хоча згадзіцца з гэтым, наперакор усім фактам.

Гэты інстытут мандатараў павінен мець некалькі дэмократычны характар, паколькі мандатары павінны „публічна“ рабіць справаздачу аб сваім кіраваньні. „Ва ўсіх выпадках мандатар павінен пасылаць у Савет штогодны даклад наконт тэрыторый, якія яму даручаны“. Гэта значыць, драпежнікі, што расхапілі тэрыторыі і прыгнятаюць слабыя нацыі, павінны даваць справаздачу самі сабе. Пакуль-жа на аснове палажэньня аб мандатарах Вялікабрытанія забрала Палестыну, Мэсопотамію, Усходнюю Афрыку, Того ў Афрыцы; Францыя—Сырыю і другую частку Того; Японія—былыя германскія ўладаньні ў Кітаі і астравы на Ціхім акіяне і г. д. і г. п.

На характары Статуту адбілася ня толькі тое, хто яго пісаў, але і пры якіх умовах ён пісаўся.

З аднаго боку, ён пісаўся пад націскам мас. Пасьля вайны ўсе імпэрыялістычныя ўрады апынуліся ў надзвычайна цяжкім становішчы. У значнай частцы Эўропы бушавала рэволюцыя, прычым рэволюцыя соцыялістычнага характару. Яна пагражала зьнесьці ўвесь буржуазны парадак, што яна і ажыцьцявіла на тэрыторыі былой Расійскай імпэрыі. У другой-жа частцы Эўропы яна пагражала выбухнуць з гадзіны на гадзіну. Ашуканым вайною народам трэба было паказаць, што штосьці такое робіцца для ажыцьцяўленьня вялікіх прынцыпаў, у імя якіх яна нібы вялася, і трэба было кінуць у масы магчыма больш прывабных і прыгожых слоў,—і іх даволі напхалі ў статут Лігі. Тым болей, што не па нашай, а па характарыстыцы Кэйнса (аб ёй гутарка будзе трошкі ніжэй), статут абгаварваўся і прымаўся ў компаніі надзвычайна спрактыкаваных палітычных машэньнікаў, якія не чырванелі і ўмелі стрымліваць усьмешку ў момант бяссорамнай брахні. А аўтар кнігі „Вудро Вільсон“ [1]) Рэй Стэннарт Бэкер, які займаў адказную пасаду старшыні амэрыканскага камітэту друку на мірнай конфэрэнцыі, называе дыплёматаў, што выпрацоўвалі статут, кажучы аб іх далікатна, „самымі шальмоўскімі дыплёматамі ва ўсім сьвеце“.

Найбольш удалую характарыстыку таго, як і ў якіх умовах пісаўся Вэрсальскі дагавор і статут Лігі Нацый, дае Кэйнс. „Хоць у склад конфэрэнцыі ўваходзіць цэлы шэраг дзяржаў,—піша ён,—усе пытаньні вырашаліся ў савеце чатырох, г. зн. прадстаўнікоў Англіі—Лейд-Джорджа, Італіі—Орляндо, Францыі—Клемансо і Злучаных Штатаў—Вудро Вільсона“. Кэйнс, буйнейшы ангельскі экономісты і сам удзельнік конфэрэнцыі ў якасьці важнейшага экспэрта пры Лейд-Джорджу, ня мог не абурацца тымі карцінамі, якія разгортваліся перад яго вачыма. У савеце чатырох Вільсон, як сьведчаць усе, быў зацёрты, таксама як і тыя добрыя пажаданьні, што ён выказаў у сваіх чатырнаццаці пунктах, якія і формальна і па ўсёй справядлівасьці павінны былі легчы ў аснову ўсіх перамоў, таму што на падставе іх пераможаныя народы заключылі перамір'е.

Вырашальную ролю іграў Клемансо—чалавек надзвычайна далёкі ад усякага сэнтымэнтальнага ідэалізму і пацыфізму. Вось як Кэйнс кажа аб яго поглядах: „Вайна паміж эўропэйскімі нацыямі зьяўляецца нормальнай зьявай ці, прынамсі, яна і яшчэ будзе ня раз. Змаганьне паміж організаванымі вялікімі дзяржавамі, якое вялося на працягу апошняга сталецьця, выкліча яшчэ новае змаганьне. Эўропэйская гісторыя—гэта вечнае спаборніцтва, у якім Францыя выйграла на гэты раз, але якое з гэтым разам зусім не канчаецца“. Пры такіх пераконаньнях пісаць і падпісваць статут Лігі Нацый—гэта значыла весьці яўна бяссумленную і здрадніцкую гульню. А разам з тым, дзякуючы сваёй грубасьці, хітрасьці і настойлівасьці, ён іграў ролю дыктатара ў савеце чатырох, паседжаньні

[1]) Стэннарт Бэкер—„Вудро Вільсон“. Дзяржвыдат, 1923 г.

якога адбываліся таямніча ў яго габінэце ля каміну. І калі ён наогул аб гэтым гаварыў, то таму, кажа Кэйнс, што „разважнасьць вымагала паказаць відочнасьць спачуваньня „ідэалам“ амэрыканскіх фантазёраў“. Аб самым Клемансо Кэйнс далікатна кажа, што, „гледзячы на яго, можна было толькі лічыць, што цывілізацыя вымагае ад чалавека іншых якасьцяй і паводзін“.

Абсолютна ўсе, хто піша аб конфэрэнцыі, задаюць сабе тое самае пытаньне, якое задае сабе Кэйнс: „Дзякуючы якому штукарству дыплёматыі гэта політыка (Клемансо) узяла верх над прынцыпамі, выказанымі ў 14 пунктах, і якім чынам Вільсон дазволіў такое ператварэньне“,—і амаль усе адказваюць, што гэты тэорэтык, спрактыкаваны профэсар дзяржаўнага права з выглядам і манерамі дэсыдэнскага сьвяшчэньніка, не ўладаў тымі „інтэлектуальнымі здольнасьцямі, якія канечна патрэбны для таго, каб змагацца з хітрымі і небясьпечнымі варажбітамі, высунутымі, дзякуючы жудаснай сутычцы социяльных сіл і асабістых ганарлівасьцяй, наперад у якасьці пануючых віртуозаў хуткай ігры захопаў і ўступак,—у гэтай ігры ён ня меў абсолютна ніякае практыкі“,—кажа Кэйнс.

Бэкер, аб якім мы гаварылі вышэй, кажа, што ў Вільсона не хапіла сілы змагацца з гэтымі „шальмоўскімі дыплёматамі, самымі шальмоўскімі майстрамі прымаць прынцыпова і адхіляць фактычна“.

Ня раз у часе і пасьля заключэньня дагавору Клемансо паўтараў, перамаўляючы славуты сказ Кляўзэвіца: „Калі вайна ёсьць працяг політыкі, але іншымі сродкамі, то мір ёсьць працяг вайны, але таксама іншымі сродкамі“. Любое об'ектыўнае дасьледваньне ня зможа абыйсьці таго факту, што ваенны дух помсты Клемансо насіцца над статутам і азначае яго характар.

Аб Вільсоне-ж вельмі ўдала выказаўся адзін дыплёмат, што ён павінен быў іграць на конфэрэнцыі ролю льва ў імя вышэйшых ідэалаў міра і справядлівасьці, а фактычна ён быў падобны на пудзеля, астрыжанага пад лева. Але гэта комэдыя была вельмі на руку шэльмам дыплёматыі, каб ашукаць народныя масы, сярод значнай часткі якое і цяпер яшчэ ня зьнікла вера ў тое, што высокія ідэі сапраўды ляжаць у аснове статуту.

Вельмі стрыманы і сур'ёзны гісторык мірнай Парыскай конфэрэнцыі Тэмпэрлей піша аб ёй наступнае: „Конфэрэнцыя кіравалася асобамі, якіх падзеі вайны зрабілі кіраўнікамі значна большых спраў, чым якія існавалі калі-небудзь раней. Але ніхто з гэтых асоб ня быў чалавекам, здольным падпарадкавацца якой-небудзь сыстэме, кожны карыстаўся сваімі матэрыяламі на ляту і сяк-так, і гэта пастаянна зьменьвала мэханізм конфэрэнцыі ў залежнасьці ад патрэб моманту і становішча. Немагчыма апісваць конфэрэнцыю як нешта ўстойлівае, яе варта скарэй разглядаць як жывы організм, каморкі якога пастаянна зьменьваліся, і які часамі прымаў *выключна дзіўныя і пачварныя формы па загаднай волі пава-*

*дыроў, якія, у сваю чаргу, падначальваліся вялікай сіле грамадзкае думкі"* (падкрэсьлена намі. *І. Г*).

У цяперашні час у Лігу Нацый уваходзіць 53 дзяржавы. Што-ж зьмянілася ў міжнародных адносінах з таго часу, як гэтыя дзяржавы зьбіраюцца пад эгідай Лігі на беразе Жэнэўскага возера? Які той мір, права і справядлівасьць, якія павінны былі-б з гэтага часу запанаваць у міжнародных адносінах?

---

Можна было-б напісаць цэлыя томы пра гісторыю тых гвалтаў, што пануюць цяпер у міжнародных адносінах, і якія творацца аднымі членамі Лігі, галоўным чынам пастаяннымі членамі яго Савету, над іншымі членамі тэй-жа організацыі, прычым адзін гвалт цягне за сабою другі.

У кастрычніку 1920 году, у часе адступленьня Савецкай Чырвонай арміі ад Варшавы, зухаваты польскі генэрал Жэліхоўскі „памылкова" пераходзіць цераз устаноўленую Вэрсальскім дагаворам літоўскую граніцу і займае Вільню. Польшча імкнецца замацаваць за сабою Вільню, што выклікае рэзкія протэсты Літвы. І першая і другая дзяржавы маюць вельмі малое самастойнае значэньне—першая зьяўляецца васалам Францыі, другая—Англіі. Пытаньне пераходзіць на разгляд Савету Лігі Нацый, у якім паядынак паміж Англіяй і Францыяй ня прыводзіць ні да якіх вынікаў да таго часу, пакуль Літва ў студзені 1923 году не захапіла вольны, паводле Вэрсальскага мірнага дагавору, былы нямецкі горад Мэмэль. Тады адбываецца компэнсацыя гвалта гвалтам, і конфэрэнцыя паслоў зацьвярджае Вільню за Польшчай, Мэмэль—за Літвою. Потым, наўпрэкі выразна выказанаму народнаму галасаваньню, частка Верхняй Сылезіі адрываецца ад другое, экономічна з ёй зьвязанай часткі, і, каб дагадзіць Францыі, аддаецца Польшчы. Гэта адарваная ад сваёй натуральнай экономічнай базы частка Верхняй Сылезіі занепадае ў імя вялікадзяржаўных імкненьняў Польшчы, але за тое гэта зацьверджана Лігай Нацый, у якой якраз у гэты час вырашальную ролю іграў францускі імпэрыялізм.

Усё гэта адыгрываецца на фоне двух важнейшых драпежніцкіх прадпрыемстваў Англіі і Францыі. Першая гвалтуе Турцыю, адрываючы ад яе багатую на нафту краіну Мосуль, другая ня спыняе фактычнай вайны супроць ужо пераможанай і падпісаўшай Вэрсальскі дагавор Германіі, заняўшы сваімі войскамі Рур.

Не адстае ад гэтых двух драпежнікаў і Італія. І самым паказальным фактам яе міжнароднай чыннасьці зьяўляецца так званы грэка-італьлянскі конфлікт 1923 году, які Лейд-Джордж называе выбухам на Міжземным моры.

„27 жніўня 1923 году,—жвава апісвае гэту падзею Габрыэль Пэры ў сваёй цікавай брошуры „Ліга Нацый, яе словы, і справы",—тры італьлянскія афіцэры (якія мелі даручэньне ад Лігі Нацый), перашоўшы грэц-

кую граніцу, папалі ў засаду і былі забіты. Цераз 48 гадзін італьлянскі габінэт накіроўвае грэцкаму ўраду грозную ноту, у якой патрабуе, каб Грэцыя зараз-жа прасіла прабачэньня і зараз-жа заплаціла ўзнагароду ў суме 50 мільёнаў лір. І ў той-жа момант, не чакаючы адказу з Афін, морскія ўлады Італіі займаюць востраў Корфу. Дзеля таго, што грэцкі ўрад пярэчыў супроць правамернасьці патрабаваньня італьлянскай ноты, эскадра назаўтра пачынае абстрэльваць крэпасьць Корфу, забіваючы і ранячы мужчын, жанчын і дзяцей.

У гэты час у Жэнэве адбываліся паседжаньні Савету Лігі Нацый. Грэцыя апэлявала ўсё-ткі да Лігі Нацый, і Савет, разглядзеўшы яе заяву, прапанаваў баком новыя ўмовы рэпарацыйнае ўзнагароды.

Тады прадстаўнік Італіі заявіў, што Савету тут няма чаго рабіць, дзеля таго, што конфэрэнцыя паслоў ужо занялася разглядам гэтае спрэчкі. Ён дадаў пры гэтым, што, на яго думку, некаторыя артыкулы пакту (статуту. *І. Г.*), якія датычацца компэтэнцыі Савету, патрабуюць інтэрпрэтацыі. Савет ухваліў пасланьне Мусоліні і здаўся на конфэрэнцыю паслоў. Конфэрэнцыя паслоў засядала цэлы месяц. Гарматы ўжо пасылалі знарады на вуліцы Корфу, ужо італьлянскі патруль абыходзіў горад, а паседжаньні конфэрэнцыі ўсё яшчэ адбываліся. Корфу быў эвакуаваны толькі тады, калі ўзнагарода (контрыбуцыя) была заплачана,—тады толькі Ліга Нацый занялася вывучэньнем праўнага боку гэтага конфлікту".

Мы абыйдзем гвалты, што рабіліся і робяцца ў Эгіпце, Сырыі, Мэксыцы, Нікарагуа, Кітаі, Іраку і г. д., і г. д. Прыведзеных намі фактаў досыць для таго, каб адказаць на пытаньне аб тым, што пануе цяпер у міжнародных адносінах—*сіла* ці *„права“* ці права дужага.

Ня кажучы ўжо аб прогрэсе імпэрыялізму, з ростам якога расьце і абвастрэньне і міжнародных і клясавых адносін, але нават з чыста знадворных умоў для ўзьнікненьня міжнародных сутычак у цяперашні час маецца значна больш мотываў, чым іх было да гэтага часу. Да 1908 г. Эўропа ведала толькі адну Эльзас-Лётарынгію, толькі адну абурлівую, ажыцьцёўленую ў 1870 г. анэксію, якая павінна была зьявіцца зачэпкаю для вайны. З 1908 году да гэтага далучылася анэксія Аўстрыяй Босьніі і Гэрцагавіны,—з тых часоў атмосфэра аж да Сараеўскага стрэлу ў эрц-герцага Фэрдынанда ў ліпні 1914 году была такою напружанай і насычанай порахам, што, прыгнуўшы галаву, уся Эўропа чакала вайны з жахлівым фаталізмам, як пасьля маланкі чакаюць грому. А ў цяперашні час пасьля Вэрсальскага міру і ў дні Лігі Нацый такіх Эльзас-Лётарынгій, Босьній і Гэрцагавін, такіх абурлівых анэксій і не пералічыць. Эўропа яшчэ ня ведала да гэтага часу такое вялікае колькасьці нацыянальнасьцяй, разарваных на часьці, такога ўціску і глуму над нацыянальнымі меншасьцямі, якія робяцца зараз. Эўропа бальканізавана, яна прадстаўляе з сябе касьцёр, гатовы запалымнецъ у любы час.

Досыць толькі паглядзець колькасны стасунак паміж нацыянальнасьцямі ў нанава створаных дзяржавах, як Паўднёва-Славія, Чэха-Славія і Польшча, каб пераканацца ў гэтым. Калісьці асяродкам міжнацыянальных сварак зьяўлялася амаль выключна шматнацыянальная, складзеная з шматкоў Аўстрыйская імпэрыя, да яшчэ прыгнечаныя нацыянальнасьці на Бальканах, а ў іншых краінах уціск датыкаўся аднэй-двух нацый; цяпер такіх шматковых імпэрый маецца цэлы шэраг.

Сэрбія яднала перад вайною тры мільёны сэрбаў. Паўднёва-Славія 1925 году налічвае 11.850.000 жыхароў, з іх:

| | |
|---|---|
| Сэрбаў . . . . | 42 % |
| Кроатаў . . . | 23,7 „ |
| Славакаў . . . | 8 „ |
| Сэрба-кроатаў мусульман | 6,3 „ |
| Македонцаў . . . | 5 „ |
| Немцаў . . . | 5 „ |
| Вэнграў . . . | 4 „ |
| Іншых . . . . | 5,6 „ |

Чэха-Славакія—13½ мільёнаў жыхароў, з іх:

| | |
|---|---|
| Чэхаў . . . . | 44 % |
| Немцаў . . . | 27,4 „ |
| Славакаў . . . | 14,8 „ |
| Вэнграў . . . | 5,9 „ |
| Украінцаў . . . | 2,9 „ |
| Яўрэяў . . . | 2,7 „ |

Польшча—30 мільёнаў жыхароў, з іх:

| | |
|---|---|
| Палякаў . . . | 52,7% |
| Украінцаў . . . | 21 „ |
| Яўрэяў . . . | 11 „ |
| Беларусаў . . . | 7,3 „ |
| Немцаў . . . | 7 „ |

Вось перад намі брошура, выданая ў жніўні 1924 году камітэтам прыгнечаных нацыянальнасьцяй (украінцаў, беларусаў, літоўцаў) „Pour la liberte des peuples opprimes par la pologne“ (за свабоду народаў, прыгнечаных Польшчай).

Аб рэакцыйным буржуазна-пацыфіцкім руху, які далучаецца да Лігі Нацый і на яе пакладае свае надзеі, коламі якога і выдана гэта брошура, таксама, як аб Лізе Нацыянальных Меншасьцяй, якая далучаецца да Лігі Нацый, мы ў наступны раз дамо асобны нарыс на старонках „Полымя“.

Расійская рэволюцыя, разбурыўшы старыя сілы былое Расійскае імпэрыі, абвясьціла і сапраўды ажыцьцявіла—першы раз у гісторыі з часу яго агалашэньня—прынцып самавызначэньня нацыянальнасьці. Дробна-буржуазныя і буржуазныя элемэнты Літвы, Беларусі і Украіны, змага-

ючыся з соцыялістычнай стыхіяй расійскай рэволюцыі, схаваліся ў засень вялікіх імпэрыялістычных краін. Гэтыя элемэнты здрадзілі інтарэсам мас, што насяляюць вызваленыя з-пад уціску царызму акраіны Расіі. У выніку іх політыкі ад уваходзячых у Савецкі Саюз тэрыторый Украіны і Беларусі былі адарваны тыя часткі, якія цяпер стогнуць пад ярмом Польшчы; гэта ў выніку іх чыннасьці была створана пародыя на самастойную Літоўскую дзяржаву, прычым значная частка літоўскага насельніцтва падпала пад тое-ж ярмо Польшчы. Цяпер яны протэстуюць супроць свайго становішча, дарэмна імкнуцца паправіць яго, звальваючы віну на сваё становішча толькі на „вялікія дзяржавы“ і апэлюючы да ўсяго „цывілізаванага“ (разумей, буржуазнага) чалавецтва і да Лігі Нацый. Зразумела, Ліга Нацый ня чуе гэтых енкаў.

Але ня гэта нас зараз цікавіць, нас цікавяць факты, якія канстатуюць самі староньнікі і прыхільнікі Лігі Нацый.

У прадмове да брошуры мы чытаем: „Калі Польшча стала „вялікаю нацыяй“, то дзякуючы таму, што, скарыстаўшы дапамогу вялікіх саюзных дзяржаў, яна магла анэксаваць часткі суседніх народаў. Гэтыя народы не павінны быць трактаваны дробнымі нацыянальнасьцямі. Украінцаў, напрыклад, налічваецца ўвогуле да 35 мільёнаў чалавек, беларусаў—да 12 мільёнаў... Дый агульная лічба насельніцтва пад польскім панаваньнем таксама вельмі значная, калі прыняць пад увагу, што украінцы, беларусы і літоўцы ўтвараюць у Польшчы меншасьць у 12 мільёнаў“[1]).

„Польшча,—сьцьвярджаюць яны далей,—набыла панаваньне над нашымі тэрыторыямі *супроць нашага жаданьня* (падкрэсьлена намі. *І. Г.*) і дзякуючы пасярэдніцтву саюзных дзяржаў“.

Гэта сьцьвярджэньне, якое выяўляе адзін з многіх гвалтоўных учынкаў закладальнікаў Лігі Нацый, верна характарызуе становішча рэчаў, калі толькі замест няяснага *нашага* жаданьня паставіць волю мас тых нацый, аб якіх ідзе гутарка.

Правільней і больш азначана гаворыцца ў другім месцы: „Гэтыя тэрыторыі былі перададзены Польшчы супроць жаданьня украінскага, беларускага і літоўскага народаў і наўпрэкі абавязку, прынятаму на сябе галоўнымі саюзнымі і што аб'ядналіся дзяржавамі ў час і ў часе вайны, які гарантуе падняволеным народам права свабоднага самавызначэньня, таксама як і супярэчна сэнсу мірнага дагавору, згодна палажэньня якога прынцып плебісцыту быў прызнаны ўмовай sine qua non усіх тэрыторыяльных зьмен, нават у адносінах да пераможаных народаў“. Так голасна апэлююць да свае маці Лігі Нацый яе староньнікі, ня бачачы, ці стараючыся ня бачыць таго, што прынцыпы, выкладаныя на паперы, і ажыцьцяўляныя ў рачаіснасьці, ня маюць паміж сабою нічога агульнага.

1) „Pur la libertè des peuples opprimes par la pologne“. Paris. Edition du Comitè de Peuples opprimés (Ukrainiens, Bielorussiens, Lithuaniens).

Вэрсальскі мірны дагавор бязьлітасны і з гістарычнага боку ня мае ніякага сэнсу. А ўсё такі ва Францыі існуюць вельмі ўплывовыя, а іншы раз і вырашаючыя політыку колы з славутым генэралам Фошам на чале, якія сьцьвярджаюць, што Клемансо, пры падпісаньні гэтага дагавору, быў занадта мяккі і невыстарчальна забясьпечыў Францыю ад магчымасьці нападу з боку Германіі. Галоўным чынам кідаецца дакор у тым, што ад Германіі ня быў адарваны край на левым беразе Рэйна і не даведзена да гэтых граніц тэрыторыя Францыі. Толькі ў такім выпадку, сьцьвярджае Фош, Францыя мела-б досыць моцную стратэгічную апору супроць Германіі. Агітацыя Фоша была настолькі моцная, што кандыдатура Клемансо на пасаду прэзыдэнта была сарвана ў 1920 годзе. А варожасьць паміж Фошам і Клемансо пачалася іменна тады, калі Клемансо пад націскам саюзьнікаў узяў назад прапанову Францыі, выпрацаваную ўплывовым міністрам габінэту Клемансо—Тардзье. „У інтарэсах агульнага міру,—кажа гэты дакумант,—і для забясьпечаньня правільнай дзейнасьці Лігі Нацый заходняя лінія Германіі будзе ўстаноўлена на Рэйне. Германія надалей адмаўляецца ад усякага сувэрэнітэту, а таксама ад усякага мытнага аб'яднаньня з тэрыторыямі б. Германскае імпэрыі, што ляжаць на левым беразе Рэйна". Лёйд-Джордж, у якога мы бярэм выкладаньне гэтага факту[1]), заўважае: „Сардонічны гумар маецца ў словах —„у інтарэсах агульнага міру і для забясьпечаньня правільнай дзейнасьці Лігі Нацый." Вось таго, што думка, зьмешчаная ў гэтым дакуманце, ня была праведзена на мірнай конфэрэнцыі, ня могуць даравацъ Клемансо. І калі адбывалася ўрачыстае абраньне Фоша ў члены Францускай Акадэміі Навук, сам прэзыдэнт рэспублікі ў прамове сваёй сказаў, зварачаючыся да Фоша: „Ah, monsieur le Maréchal, калі-б тады прыслухаліся да вашых слоў".

Можа быць Пуанкарэ і вельмі прыслухоўваецца да Фоша, але ў 1919—20 г. г., калі імпэрыялістыя-пераможцы перадзельвалі паміж сабою сьвет, імкненьне Фоша раздрабніць Германію на часткі сустрэла рэзкі адпор з боку Англіі, Японіі і асабліва Злучаных Штатаў,—і Клемансо, сьціснуўшы зубы павінен быў уступіць. Праўда, француcкія дыплёматы спрабавалі падсунуць ідэю ўтварэньня з Германскай краіны на левым беразе Рэйна самастойную буфэрную дзяржаву—рэспубліку паміж Германіяй і Францыяй. Францыі нават удалося організаваць зграю падкупленых публіцыстых і політыкаў, якія інсцэнавалі паўстаньне ўнутры гэтага краю на карысьць аддзяленьня яе ад Германіі і ўтварэньня самастойнай рэспублікі,—такія тэатральна-буфарныя паўстаньні былі і да вайны, а пасьля вайны сталі звычайным сродкам эўропэйскіх політыкаў, каб ажыцьцявіць усякі захоп. Але тут гэта занадта супярэчыла інтарэсам іншых імпэрыялістычных дзяржаў, якія вельмі добра разумелі, што гэта бясь-

---

[1]) Лёйд-Джордж— „Эўропэйскі хаос".

сільная рэспубліка будзе ў поўнай залежнасьці і падначаленьні Францыі, і ўсе хітрыкі ні да чаго не прывялі.

З таго часу на ўсіх міжнародных конфэрэнцыях Францыя высоўвае пытаньне аб тым, каб дзяржавы забясьпечылі яе ад нападу з боку Германіі; яна трымае окупацыйную армію, якая жыве за нямецкі кошт на нямецкай тэрыторыі левага берагу Рэйну, і, згодна апошнім заявам, Францыя і ня думае яе выводзіць ні цяпер, ні пасьля, ня гледзячы на Жэнэўскія, Лёкарнаўскія і ўсякія іншыя згоды. І як гэта ня дзіўна, ня гледзячы на тое, што Германія пераможана да канца ў вайне, разброена і вымушана плаціць контрыбуцыю, яе гаспадарка ўсё-ж такі, дзякуючы цэламу раду прычын, аб якіх тут гаварыць ня месца, адноўлена; і надалей, да надыходзячага вялізарнага крызісу, які павінен ускалыхнуць увесь сусьветны капіталізм, Германія ўсё больш і больш будзе заваёўваць сваё месца ў шэрагу імпэрыялістычных дзяржаў.

Францыя, у прадбачаньні надыходзячай вайны, ня можа бяз жаху думаць аб тым, што ў Германіі на 50 проц. больш насельніцтва—на цэлых 20 мільёнаў чалавек,—і гэта насельніцтва яшчэ павялічваецца, у той час, як у ёй па ранейшаму прыросту няма. Францускія мілітарыстычныя зграі і мілітарыстычная дыплёматыя разьдзьмухваюць гэты факт з дапамогаю свайго вялізарнага буржуазнага і мяшчанскага друку і ствараюць уражаньне псыхічнага бязьмежнага жудасу перад Германіяй у шырокіх масах. Вось як надзвычайна цікава перадае гэта ўражаньне Лёйд-Джордж: „Нельга доўга гутарыць з французам, не заўважыўшы, як здань германскай пладавітасьці палохае Францыю і перашкаджае ёй ясна разумець тое, што адбываецца. Гэтыя дзеці,—кажуць нам,—выхоўваюцца ў духу помсты; з часам змаганьне пачнецца зноў і Францыя ня будзе мець натуральнай абароны супроць помсьлівых ордаў, якія гуляюць цяпер на нямецкіх вуліцах і поўняць вясёлым гоманам сваіх галасоў дзіцячыя сады Германіі.“ Гэта боязьнь тэўтона, якая вісіць цяпер над Францыяй, важкім псыхічным цяжарам прыдушыўшы яе сьвядомасьць, таксама як, з другога боку, нявытрыманы ваяўнічы крык гальскага пэўня, які рэжа вуха немца і ад якога наліваюцца крывёю і прагнасьцю помсты яго вочы, сьведчыць толькі аб тым, што супярэчнасьці паміж буржуазнай Францыяй і буржуазнай Германіяй непрыміральны, што іх не захіліць і не перамагчы ніякай Лізе Нацый і што, да таго часу, пакуль будуць панаваць буржуазныя адносіны, абедзьве нацыі, эксплёатуемыя буржуазіяй, будуць імкнуцца адна другую ўзаемна зьнішчыць.

А якое сучаснае агульнае міжнароднае становішча Эўропы і ўсяго сьвету?

Яго ў выстарчальнай ступені ярка характарызуюць віднейшыя прадстаўнікі Лігі Нацый і буржуазнай дыплёматыі. Нам ужо даводзілася на старонках „Полымя“ гаварыць аб офіцыёзе Лігі Нацый, які выдаецца ў Бэрліне,—„Nord und Süd“. У ім пішуць такія буйныя дзеячы, як Даўэс,

Лушэр, Брэйсфорд, Масарык, лёрд Робэрт Сэсыль, Вандэрвэльдэ, Бэнэш, Макдональд і г. д. Увогуле часопіс—выражэньне асабістых думак, прычым атрымліваецца вясёлая лірыка надзей і сумнае констатаваньне фактаў сучаснага.

Найбольш цікавы артыкул прэзыдэнта Лігі Нацый профэсара Gilberta Murray. Ён констатуе надзвычайна цяжкое становішча ў міжнародных адносінах і зьяўленьне цэлага раду новых зьяў, якіх да вайны не існавала.

Бальканізацыя Эўропы ня толькі ў палітычных, але і ў экономічных адносінах дасягла жудасных памераў. Краіны адгарадзіліся адна ад другое забараняльнымі мытнымі тарыфамі і бязупынна вядуць гандлёвыя і мытныя войны, якія надзвычайна тармозяць сусьветную экономіку і ствараюць надзвычайную дарагоўлю прадметаў спажываньня, якая кладзецца большаю часткаю на масы спажыўцоў і ставарае асабліва цяжкое становішча для рабочае клясы, а гэта ў сваю чаргу абвастрае клясавыя супярэчнасьці і спрыяе насьпяваньню грамадзянскіх і міжнародных сутычак. Адначасна з гэтым яшчэ больш строга ажыцьцяўляецца монополія на сыравіну, і ў той час, як адны затыхаюцца без яе, другія трымаюць яе без карысьці пад сваёй узброенай рукой. Да сусьветнай вайны ня была вядома такая зьява, якую профэсар Murray называе „Monopol von Gebiten“ і якая складаецца з таго, што ставяцца перашкоды ня толькі руху тавараў — старая зьява, — але і руху людзей—зьява зусім новая. Нават пры руху паасобнага індывідууму па Эўропе, пераход цераз кожную граніцу зьвязаны з труднасьцямі, перашкодамі, затратай часу і грошай. Руху-ж людзкіх мас пастаўлены неперможныя перашкоды, а разам з тым такі рух мас вымагаецца ўсім становішчам рэчаў, аб чым мы гаварылі ў нашым артыкуле ў першым нумары „Полымя“. Тут трэба дадаць толькі наступную надзвычайна яркую карціну.

Разгарнеце карту Ціхага акіяну, значэньне якога і краін, што мяжуюцца з ім, расьце з дня на дзень, і вам кінецца ў вочы тая няроўнамернасьць у разьмеркаваньні насельніцтва, якую надзвычайна ярка рысуе профэсар Мурэй. „Ціхі акіян,—кажа ён,—абкружаны амаль выключна брытанскай расай—Аўстралія, Новая Зэляндыя, Злучаныя Штаты, Канада, у той час, як і Паўднёвая Афрыка ня так далёка зьмешчана ў Індыйскім акіяне. Паўночныя і паўночна-заходнія берагі Ціхага акіяну лічацца самымі перанаселенымі часткамі земнае кулі. Шчыльнасьць насельніцтва немагчымая і ёй адпавядае лічба сьмяротнасьці. Я разумею тут Японію, Кітай і Маляйскі архіпэляг (Індонэзія. *І. Г.*). На паўднёвых-жа і ўсходніх берагох маюцца вялізарныя ў кліматычных адносінах памяркоўныя мала заселеныя краі—уся Брытанская Колюмбія (берагі Канады, Каліфорнія і Паўднёвая Амэрыка, а таксама тыя краіны Аўстраліі, якія годны, каб іх засяліць, і незаселены толькі дзякуючы заканадаўчым забаронам. Ці павінны людзі, якія гінуць ад няхвату зямлі, і

надалей быць адарваны ад тэрыторый, што пустуюць дзякуючы адсутнасьці насельніцтва? Аўстралійцы (новыя—белыя. *І. Г.*) і амэрыканцы застаюцца пры сваім непарушным „але“. Яны хочуць захаваць свае тэрыторыі для белай расы і не дапусьціць таго, каб яны былі запоўнены вялікімі масамі пладавітай расы, якая нясумненна прынясе з сабою нізкі ўзровень існаваньня і, адпаведна заходняму разуменьню, уладае таксама ніжэйшым узроўнем цывілізацыі. Такое становішча рэчаў. *І ніякі інтэрнацыянальны аўторытэт ня можа нічога тут дасягнуць. Допуск перасяленцаў (імігрантаў) зьяўляецца выключна прадметам унутранай палітыкі* (падкрэсьлена намі. *І. Г.*). Прэзыдэнту Лігі Нацый ня прыходзіць у галаву, што гэта непахільнае „але“ можа быць узарвана вялізарным паўстаньнем каляровых мас, сьціснутых цыскамі эксплёатацыі на сваіх перанаселеных тэрыторыях, каб рабіць даставу танных рабочых рук імпэрыялістычным эксплёататарам“.

А Ліга-ж Нацый крывадушна выступае ў абарону прыгнечаных нацыянальнасьцяй, уводзячы ў зман маласьвядомыя масы, замест таго, каб сказаць, якое сапраўднае становішча рэчаў.

А што нясе з сабою эўропэйская цывілізацыя рэшце народаў, аб гэтым ясна сказаў Мурэю, адзін з відных дзеячоў афрыканскага вызваленчага руху. „Вы кажаце,—сказаў яму гэты каляровы,—аб вашай навуцы, філёзофіі, поэзіі, а што вы нам з гэтага далі? Для нас ваша цывілізацыя азначае алькоголізм, хваробы (вэнэрычныя), проституцыю, Rassen hass (варожасьць рас, чалавеканенавіднасьць), кашары, абразы, вайну. Мы ня хочам такой цывілізацыі. Дайце нам магчымасьць пасвойму жыць або памерці“. „Заходняя цывілізацыя,—прызнаецца сам профэсар,—прасторава пашыраючыся, пагаршаецца. У мінулым яшчэ пакаленьні заходняя цывілізацыя з яе безьлічна назьбіранымі капіталамі, страшною зброяю, школамі, грамадзкімі организацыямі і непахільнай самаўпэўненасьцю, здавалася непераможнай.

Цяпер шмат што зьмянілася. Яе дабрабыт цяпер нясталы, яе самаўпэўненасьць пахістана, яе прэстыж упаў; але ў першую чаргу трэба паказаць на тое, што заходняя цывілізацыя набыла суперніка ворага—бальшавізм“.

„Гэты вораг прасяк на нашу тэрыторыю, ён мае сваіх памоцнікаў у сэрцы кожнай нашай крэпасьці, гнёзды бальшавізму расьсеяны па ўсёй Эўропе і Амэрыцы—дзе толькі ёсьць няшчасныя і пакрыўджаныя (verelendete, verbiterte)“.

Доцэнт лёндонскага унівэрсытэту Delisle Burns свой артыкул „Kriegsgefahr“ (Вайсковая небясьпека) пачынае наступным чынам: „У цяперашні час маюцца ў наяўнасьці сілы, якія вядуць да другое сусьветнае вайны. Калі яны яшчэ ў працягу пяці гадоў ня страцяць свайго значэньня, сусьветная вайна зробіцца няўхільняй“. Такія посьпехі Лігі Нацый пасьля васьмі гадоў яе існаваньня.

Што-ж гэта такое Ліга Нацый—разьбітыя надзеі альбо нячуванае ашуканства? Для цёмных несьвядомых мас, гатовых бачыць свой ратунак у кожным ветлівым руху пальца прыціскаючай яго рукі буржуа—першае. Для шальмоўскіх дыплёматаў буржуазных палітыкаў—другое.

У нашым нарысе няма аднаго важнага моманту: аб адносінах да Лігі Нацый СССР, але гэта тэма, як і пытаньне аб Лізе Нацыянальных Меншасьцяй, складзе асобны нарыс. Але адносіны да Лігі Нацый СССР надзвычайна яскрава выявіліся на 5 сэсіі падрыхтавальнай камісіі да конфэрэнцыі па разброеньні, на якой зараз мы і спынімся.

15—23 сакавіка 1928 года. У гэтыя дні працавала 5 сэсія падрыхтавальнай камісіі да конфэрэнцыі па разброеньні, і яны будуць выдатнай датай у гісторыі Лігі Нацый, у гісторыі сусьветнай пасьляваеннай дыплёматыі. У дыскусіі ў часе гэтай сэсіі паміж прадстаўніком СССР М. М. Літвінавым і прадстаўнікамі імпэрыялістычных дзяржаў адносна ўнесенага СССР проекту конвэнцый аб тэрміновым, поўным, усеагульным разброеньні стыкнуліся рэволюцыя і контр-рэволюцыя, мір соцыялістычных і буржуазна-імпэрыялістычных адносін, і ў гэтай сутычцы на глебе важнейшага прынцыповага пытаньня рэволюцыя атрымала вялізарную моральную перамогу, якая выклікала нячуваны рэзонанс у масах прыгнечанага чалавецтва і вялізарным-жа рэзонансам будзе гучэць у бліжэйшых гістарычных падзеях чалавецтва. Посьпехі СССР на гэтай сэсіі ўдарылі ня толькі па яўнай і азначанай імпэрыялістычнай контр-рэволюцыі, але і па тым наіўным пацыфізьме, захаваным і несьвядомым памоцніку контр-рэволюцыі, які яшчэ ўладае значнымі масамі пролетарыяту і дробнай буржуазіі; па тым наіўным пацыфізьме, які буржуазная контр-рэволюцыя сьвядома падтрымлівае для таго, каб зводзіць масы са шляху рэволюцыі на шляхі наіўных і неўгрунтаваных надзей і чаканьняў, якія буржуазная контр-рэволюцыя можа ўмацаваць для ўзмацненьня свайго панаваньня, як экспляатуе яна і іншыя лепшыя ідэі, што жывуць у масах. Ліга Нацый, якую буржузныя вучоныя і публіцыстыя называюць „прыладаю міру“, ёсьць фактычна галоўная прылада экспляатацыі гэтых наіўна пацыфіцкіх ідэй.

Апрача таго, што Ліга Нацый зьяўляецца прыладаю для ажыцьцяўленьня конкрэтных заданьняў імпэрыялізму ў галіне ажыцьцяўленьня імпэрыялістычных падзелаў і захопаў, гэта экспляатацыя зьяўляецца яе другою галоўнаю задачаю. Вось чаму імпэрыялістычныя дзяльцы, ствараючы гэту прыладу для ажыцьцяўленьня сваіх імпэрыялістычных імкненьняў для ашуканства мас, напісалі на сьцягу Лігі Нацый: „Устанаўленьне ўсеагульнага міру“. Варта толькі сьцерці гэты хлусьлівы надпіс са сьцягу Лігі Нацый, каб з-пад яго выступілі тыя імпэрыялістычныя лёзунгі, якія выяўляюць яе сапраўдны характар. У сакавіку 1928 г., пасьля 5 сэсіі падрыхтавальнай камісіі, гэты надпіс значна паліняў і гэта трэба адзначыць, як факт вялікага гістарычнага значэньня.

Напісаўшы ў чэрвені 1919 году ва ўступнай частцы статуту Лігі Нацый фальшывыя словы аб „гарантыі міру“, аўтары статуту вымушаны былі ў 8 артыкуле напісаць, што „захаваньне міру вымагае абмежаваньня нацыянальных узброеньняў да мінімума, сумяшчальнага з нацыянальнай забясьпекаю“. Як ні неазначана і няпэўна гэта рэдакцыя, яна ўсё-ж такі ўскладае на Лігу Нацый некаторы абавязак тэорытычнай пастаноўкі пытаньня аб разброеньні і практычных кроках у гэтым кірунку. Напісаўшы ў 5 частцы Вэрсальскага мірнага дагавору, што разброеньне Германіі адбываецца з мэтаю зрабіць магчымай падрыхтоўку агульнага абмежаваньня ўзброеньняў усіх нацый, аўтары яго ўсклалі на Лігу Нацый абавязак, паводле якога трэба сачыць за выкананьнем Вэрсальскага мірнага дагавору, адказнасьць за падрыхтоўку і ажыцьцяўленьне „скарачэньня ўзброеньняў усіх нацый“. Для таго, каб захаваць свой прэстыж у масах, Ліга Нацый вымушана рабіць выгляд, што яна гэтых сваіх абавязкаў не забывае.

Але імпэрыялістычныя дзяржавы зусім ня хочуць разбройвацца, і трэба было знайсьці такі пункт у абгаварэньні гэтага пытаньня, каб можна было схаваць гэта нежаданьне. Такім надзвычайна зручным пунктам і зьявілася проблема *забясьпекі*, высунутая Францыяй, якая скарыстоўваецца ўсімі імпэрыялістычнымі дзяржавамі.

Іграючы на Вэрсальскай мірнай конфэрэнцыі галоўную ролю ў бязьлітасным рабунку і разброеньні Германіі, Францыя ўвесь час знаходзілася пад страхам рэваншу і, з аднаго боку, шукала магчымасьці гарантаваць сябе ад гэтага рэваншу; з другога боку, яна высоўвала гэту магчымасьць рэваншу, як сродак для таго, каб вырваць у сваіх таварышак па задушэньні Германіі максымальныя ўступкі і забясьпечыць сябе ад ненападу з боку Германіі. Самаю лепшаю гарантыяй французы лічылі захоп германскай тэрыторыі левага берагу Рэйна і ўстанаўленьне граніцы па Рэйне. Гэта далучэньне да Францыі новых мас нямецкага насельніцтва і тэрыторыі было зусім немагчыма для Англіі і Злучаных Штатаў. Яны не згадзіліся на гэтыя ўступкі, прапанаваўшы гарантаваць Францыі забясьпеку шляхам утварэньня „патройнага дагавору“ (pacte tripartite), „абараняльнага саюзу“ Францыі, Англіі і Злучаных Штатаў. Але конгрэс Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў адмоўвіўся ратыфікаваць увесь Вэрсальскі дагавор; такім чынам адпала і пытаньне аб удзеле Амэрыкі ў „патройным дагаворы“. Англія браць на сябе адну цалкам адказнасьці не хацела, і проект „абараняльнага саюзу“ правалійся. Пытаньне аб забясьпецы Францыі засталося ня скончаным. Доўга пытаньне—як быць з гэтай акалічнасьцю—дэбатавалася паміж дзяржавамі, пакуль зноў ня было афіцыяльна пастаўлена ў 1922 годзе на *конфэрэнцыі ў Каннах* (4—11 студзеня). Лёйд-Джордж прапанаваў гарантаваць Францыю ад германскага нападу, не пашыраючы гэтай гарантыі на ўсходніх саюзьнікаў Францыі і без заключэньня абавязваючай ваеннай

конвэнцыі. Такія прапановы былі няпрыймальны для Францыі, і пытаньне зноў засталося ня скончаным.

У тым-жа 1922 годзе пытаньне аб абмежаваньні ўзбраеньняў абгаварвалася на трэцім сходзе Лігі Нацый. З рэзолюцыі гэтага сходу вынікае: што скарачэньне ўзброеньня ў сэнсе артыкулу 8 статуту Лігі магчыма толькі пры выстарчальнай узаемнай гарантыі забясьпекі, якая можа быць дасягнута „даступнай для ўсіх краін абараняльнай згодай“[1]. Такім чынам, пытаньне аб разброеньні зноў захавана за пытаньнем аб забясьпецы, а 16 рэзолюцыя гэтага сходу па пытаньні аб разброеньні і забясьпецы кажа наступнае: „Прымаючы пад увагу, што матэрыяльнае разброеньне вымагае спачатку моральнага разброеньня, што гэта апошняе можа быць ажыцьцёўлена толькі ў атмосфэры забясьпекі і ўзаемнага давер'я сход“... констатуе, што гэта давер'е будзе немагчыма да таго часу, пакуль паранейшаму будзе існаваць *няўстойлівасьць валют, экономічны хаос, беспрацоўе, ад якіх пакутуе сьвет, і што толькі зьнішчэньне няўпэўненасьці, пануючай у адносінах тых сродкаў, з дапамогаю якіх могуць быць аднаўлены спустошаныя краі, і адносна ўрэгуляваньня міжсаюзьніцкіх даўгоў, можа быць лекамі супроць гэтых бед*“.

Ад гэтай часткі рэзолюцыі падыхае Францыяй, якая гэтымі словамі сьцьвярджае—пакуль рэпарацыйная проблема, у сэнсе адбудовы Францыі за кошт Германіі, ня будзе вырашана, ніякага разброеньня. З другога боку, для нас, зразумела, ясна, што няма такіх сіл, якія маглі-б ухіліць экономічны хаос і беспрацоўе ў буржуазным грамадзтве. Ва ўсякім выпадку, магчымасьць разброеньня адсоўваецца ў такую далячыню, што робіцца зусім нябачнай.

Пасьля гэтага зразумела, што Францыя захацела забясьпечыць сябе і адначасна з гэтым забясьпечыць сваю прамысловасьць вугалем і адабраць яго ўзброенай рукою ад германскай прамысловасьці. Адсюль паход у Рур у студзені 1923 году і спроба стварыць „буфэрную“ рэйнскую дзяржаву. Крах гэтага пляну пад ударамі Англіі і Злучаных Штатаў, якія падтрымлівалі Германію і германскіх прамыслоўцаў супроць рурскай авантуры, зноў пакінуў нявырашаным пытаньне аб забясьпецы, а за ім нязьменна хавалася пытаньне аб разброеньні.

Верасень 1924 году—5 сэсія Лігі Нацый у Жэнэве. Для ажыцьцяўленьня артыкулу 8 статута Лігі Нацый канечна патрэбна заключыць „дагавор узаемнай дапамогі“,—заявіў прадстаўнік Францыі Эрыо. Не,—адказаў прадстаўнік Англіі Макдональд,—для гэтага досыць дагавору аб „абавязковым арбітражы“. Англія ня хоча браць на сябе бязумоўнай абароны граніц Германіі, а асабліва Польшчы і іншых саюзьнікаў Францыі; яна лічыць, што яна ў якасьці арбітра разьбярэ, хто вінаваты ў

[1] „Мировое хозяйство и мировая политика“ № 2 за 1926 год. Документация по вопросам международной политики. Резолюции 3-го собрания Лиги Наций.

сутычках паміж Францыяй, Польшчай, Літвою і Германіяй і г. д., і рассадзіць усіх па месцах, як гэтага ёй захочацца. І Францыя, зразумела, ня можа на гэта пайсьці. Спрэчка канчаецца компромісам, у выніку якога і ствараецца славуты жэнэўскі пратакол. Галоўныя яго палажэньні:

1) Дзяржавы, што дагаварваюцца, маюць права ўжываць вайну толькі ў тым выпадку, калі на іх нападуць, і пры тым толькі са згоды Лігі Нацый.

2) Конфэрэнцыя (г. зн. конфэрэнцыя па разброеньні), якая мае сабрацца ў 1925 годзе ў Жэнэве, дапоўніць гэтыя палажэньні і абмяжуе ўзброеньне ўсіх народаў.

3) Калі-ж народы ня згодзяцца скараціць узброеньні, гэты пратакол траціць сваю моц.

Такім чынам, трэцяе палажэньне зводзіць увесь пратакол на нішто, дзеля таго, што скарачэньне ўзброеньня зьвязана з „забясьпекаю“, а забясьпека ніяк не дасягнута.

Саляндра—прадстаўнік Італіі тут-жа заявіў: „Ніколі мая краіна не аддасьць і корху сваёй сувэрэннасьці“, гэта значыць, не паставіць сябе ў залежнасьць ні ад якіх арбітражаў і гарантый. Яшчэ ясьней выказаўся прадстаўнік Японіі Адатгі: „Для кожнага народу вышэй за ўсё яго ўласныя інтарэсы. Яны не залежаць, яны ня могуць залежаць ад самавольства арбітражных пастаноў“.

Цераз месяц урад Макдональда падаўся ў адстаўку, а консэрватыўны ўрад Болдуінаануляваў увесь жэнэўскі пратакол. Пытаньне аб забясьпецы зноў не разьвязана, як і пытаньне аб разброеньні.

Як мы бачылі, пастанова аб скліканьні конфэрэнцыі па разброеньні была вынесена Лігай Нацый яшчэ ў верасьні 1924 году з прапановаю, што ў 1925 годзе конфэрэнцыя зьбярэцца. Для выпрацоўкі програмы конфэрэнцыі, падрыхтоўкі матэрыялу для работ конфэрэнцыі і ўстанаўленьня тэрміну яе скліканьня была створана Лігай Нацый падрыхтавальная камісія да конфэрэнцыі па разброеньні, якая павінна была сабрацца ў Жэнэве... 15 лютага 1926 году (!!). Але і ў гэты тэрмін не сабралася. Згодна жаданьню Францыі, Італіі, Чэха-Славакіі, Японіі і Уругвая, сэсія падрыхтавальнай камісіі была адкладзена, і толькі сакавіковая 1926 г. сэсія Савету Лігі Нацый павінна была ўстанавіць новы тэрмін скліканьня падрыхтавальнай камісіі.

СССР атрымаў ад Лігі Нацый прапанову прыняць удзел у гэтай першай сэсіі падрыхтавальнай камісіі. У запрашальным лісьце ад 12-XII—1925 году так азначалася задача камісіі: „Яна будзе складацца ў падрыхтоўцы конфэрэнцыі па разброеньні, якую мяркуецца склікаць у магчыма хуткі час“.

6 студзеня 1926 году ў адказным лісьце тав. Чычэрын пісаў наступнае: „Савецкі ўрад надае такое вялікае значэньне ўсякай спробе паменшыць ваенную небясьпеку і зьменшыць цяжар узброеньня, які гняце

народы, што ён гатовы прыняць удзел ва ўсякай конфэрэнцыі, што склікаецца з гэтай мэтай“. „Адначасна (я) падкрэсьліваю, што яна (гэта згода) ня цягне ніякім чынам далучэньня майго ўраду да поглядаў, што разьвіваюцца Саветам Лігі Нацый“. „Гэта ніяк не азначае, што яго (савецкага ўраду) адмоўныя адносіны да апошняй (Лігі Нацый) у чым-небудзь зьмяніліся. Мы можам толькі пашкадаваць, што сход, які ставіць такую шырокую задачу перад сабою, як усеагульнае разброеньне, склікаецца такой організацыяй, як Ліга Нацый, няпрызнанай многімі дзяржавамі.“

Тое, што першыя тры сэсіі падрыхтавальнай камісіі да конфэрэнцыі па разброеньні адбыліся ў Жэнэве, не дало СССР магчымасьці, ня гледзячы на прынцыповую яго згоду, прыняць удзел у яе работах, дзеля таго, што СССР бойкотаваў у гэты час Швайцарыю ў сувязі з забойствам на швайцарскай тэрыторыі тав. Вароўскага. Савецкая дыплёматыя настойвала на перанясеньні пасяджэньняў у другое месца, але савет Лігі Нацый, ведаючы, што гэта ёсьць адзіная перашкода для ўдзелу савецкіх прадстаўнікоў у паседжаньнях, усё-ж не пераносіў іх у другое месца, і ён зьяўляецца адказным за тое, што СССР ня прымаў удзелу ў паседжаньнях.

На працягу 1926-27 гадоў падрыхтавальная камісія бяз удзелу СССР мела тры сэсіі. Усе тры сэсіі рэальных вынікаў не далі. Яны ня выпрацавалі ні даты скліканьня конфэрэнцыі, ні програмы яе.

14 красавіка 1927 году савецка-швайцарскі конфлікт быў ліквідаваны і СССР змог прыняць удзел у чацьвертай сэсіі, паседжаньні якой адбываліся ад 30 лістапада да 3 сьнежня 1927 году. На гэтай-то сэсіі савецкае прадстаўніцтва прадставіла проект поўнага і тэрміновага разброеньня. Старшыня савецкай дэлегацыі М. М. Літвінаў, падтрымліваючы савецкі проект, надзвычайна ясна выказаў савецкія адносіны да пацыфізму, як зманлівага міражу, і абманнага характару Лігі Нацый, якая пацыфізмам прыкрывае зусім непацыфіцкія свае імкненьні, і падкрэсьліў цэлым радам фактаў міралюбнасьць СССР. Ангельскі прадстаўнік Кашэндэн змоўчаў, прадстаўнік Францыі, „соцыяліст“ Поль Бон-Кур заявіў аб „немагчымасьці“ вырашэньня проблемы разброеньня без паралельнага разьвязаньня *пытаньня аб забясьпецы*. Прапанова аб організацыі камісіі па забясьпецы зрывала разгляд савецкага проекту, які зрабіў вялізарнае ўражаньне ва ўсім сьвеце, і ўсе дзяржавы пасьпяшыліся ўхапіцца за гэты якар ратунку. Толькі Турцыя і Германія падтрымалі прапанову аб разглядзе савецкага проекту. Надзвычайна цікавая і хітрая была „падтрымка“ германскага прадстаўніка Бэрнсдорфа. Ён заявіў, што „радыкалізм савецкіх прапаноў цалкам адпавядае ідэям заснавальнікаў Лігі Нацый“. Выходзячы з адзначанага намі вышэй факту, што, як сьцьвярджае Вэрсальскі мірны дагавор, разброеньне Германіі ёсьць першы крок да разброеньня рэшты дзяржаў, ён падкрэсьліваў гэтай сваёй заявай, што далейшыя крокі па разброеньні іншых дзяржаў павінны

быць такімі-ж радыкальнымі, як і першы крок—разброеньне Германіі. З другога боку, гэта значыла, што калі савецкі проект няпрыймальны дзякуючы сваёй радыкальнасьці, то таксама няпрыймальна радыкальнае разброеньне Германіі. Вывад просіцца сам сабою. Калі дзяржавы адступаюць ад праяўленага імі радыкалізму ў стасунку да Германіі, то Германіі павінна быць вернута права ўзбройвацца. Гэтым Бэрнсдорф выказаў мару германскай буржуазіі, якая імкнецца да старое політыкі імпэрыялізму. Такім чынам, згодна з пастановай большасьці, сэсія закончылася выбарамі камісіі па забясьпецы, удзел у якой прымаць адмовіліся СССР і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты. Сэсію камітэту па забясьпецы пастаноўлена склікаць на 20 лютага і пятую сэсію падрыхтавальнай камісіі—15-га сакавіка 1928 году.

І зноў такі ні тэрмін скліканьня конфэрэнцыі па разброеньні, ні програма яе ня былі ўстаноўлены.

У прызначаны дзень пачалася 5 сэсія падрыхтавальнай камісіі.

Надзвычайная ўвага, якую зьвярнуў увесь сьвет на савецкі проект сапраўднага, поўнага і тэрміновага разброеньня, прымусіў буржуазныя дзяржавы даць адказ па сутнасьці проекту і выслухаць прамовы М. М. Літвінава, сказаныя ім у абарону гэтага проекту 19 сакавіка на пасяджаньні камісіі. Цэлы шэраг колектыўных тэлеграм і прывітаньняў, надасланых савецкай дэлегацыі ня толькі ад пролетарскіх, але і ад дробна-буржуазных пацыфіцкіх організацый, апрача выстарчальнай часткі пасьведчаньняў, выказаных значнай часткай эўропэйскага друку, сьведчылі, наколькі савецкі проект выклікае да сябе спачуваньне вялізарных мас насельніцтва. Шалёныя лічбы, агалошаныя Літвінавым аб 120 сэсіях, 1.189 паседжаньнях, 111 рэзолюцыях і 13.000 старонках літаратуры, якія складаюць сабою ўсе прамовы і перапіску па пытаньні аб разброеньні ў розных паседжаньнях Лігі Нацый, яе камісій і ўсякіх дыплёматычных конфэрэнцый, павінны былі сьведчыць аб тым, наколькі бескарысны тыя шляхі, па якіх да гэтага часу ішла ў пытаньні разброеньня буржуазная дыплёматыя. Позыцыя савецкай дыплёматыі была непараўнана мацней.

Разглядаючы, з марксыцкага пункту гледжаньня вайну, як грамадзкі інстытут, няўхільна і канечна ўласьцівы буржуазнаму грамадзтву, савецкі проект і прамова Літвінава патрабавалі зьнішчэньня вайны, як грамадзкага інстытуту шляхам зьнішчэньня грамадзка-дзяржаўных інстытутаў, якія ў грамадзка-дзяржаўным парадку рыхтуюць і організуюць вайну. Вось чаму савецкі проект вымагаў ня толькі зьнішчэньня гармат, стрэльбаў і ўсіх іншых сродкаў узброенага нападу, але і генэральных штабаў, вайсковых міністэрстваў, вайсковых школ і г. п. Калі выкінуць з адказаў буржуазных дыплёматаў язьвіцельныя выбрыкі супроць саветаў, іх эканамічнай сыстэмы і іх політыкі, то па пытаньні аб разброеньні імі было выказана адно,—што буржуазны грамадзкі парадак і буржуазныя адносіны ўключаюць вайну, як частку ўсёй буржуазнай грамадзкасьці, і што

вайна, як грамадзкі інстытут, зьнішчана быць ня можа, што нават самы радыкальны дакумант буржуазнае творчасьці, які робіць на словах максымальныя ўступкі для ашуканства мас—статут Лігі Нацый, не дапушчае зьнішчэньня гэтага грамадзкага інстытуту. У адказнай прамове, сказанай М. М. Літвінавым на сэсіі 22 сакавіка, яму засталося толькі констатаваць гэты факт, адказаўшы разам з тым на злобныя выпады супроць саветаў.

Была зроблена спроба супроцьпаставіць савецкаму проекту проект конвэнцыі аб разброеньні, які меўся ў портфэлі сэсіі і захаваўся ў ім яшчэ з часоў 3 сэсіі. Але тут аказалася, што такога адзінага проекту няма, а ёсьць цэлыя тры, адзін з другім не пагоджаныя проекты ў францускім, ангельскім і нямецкім варыянтах. Сэсія стала перад цяжкім пытаньнем аб тым, які з гэтых варыянтаў палажыць у аснову абгаварэньня. Прадстаўнік Францыі Клозэль знайшоў выхад у тым, каб і гэтых проектаў не абгаварваць, дзеля таго, што зараз па-за Лігай ідуць перамаўленьні паміж Англіяй і Францыяй аб пагоджаньні іх варыянтаў конвэнцыяй. Тады прадстаўнік Італіі Марыніс заявіў, што пагоджаны ангельска-францускі проект ня будзе абавязковым для Італіі, дзеля таго, што яна нічога аб ангельска-францускіх перамаўленьнях ня ведае і ўдзелу ў іх ня прымае. Такім чынам, буржуазныя проекты аказаліся блефам.

Нямецкі прадстаўнік Бэрнсдорф прапанаваў 5 сэсіі зараз-жа вызначыць тэрмін скліканьня конфэрэнцыі па разброеньні, дзеля таго, што ясна, што папярэднія камісіі нічога не далі і не дадуць. Тав. Літвінаў падтрымаў гэту прапанову, заявіўшы, што такая конфэрэнцыя расьсее туман, які стварыўся навокал пытаньня аб разброеньні і канчаткова пакажа, ці могуць і ці хочуць дзяржавы разброіцца.

Зразумела, такое расьсейваньне туману ня спрые інтарэсам дзяржаў і прапанова не магла быць прынятай. Тады савецкая дэлегацыя, каб яшчэ болей агаліць твар буржуазнага „пацыфізму", унесла проект частковага разброеньня, але пад рознымі прычынамі, нясталасьць якіх поўнасьцю была выяўлена савецкай дэлегацыяй, разгляд гэтага проекту быў адложаны да наступнай сэсіі, якая павінна быць склікана невядома калі старшынёю камісіі, калі ён пераканаецца, што дзяржавы за кулісамі Лігі Нацый згаварыліся паміж сабою. Гэта значыць, што процьма работы Лігі Нацый не нарадзіла нават мышы, бо пытаньне аб разброеньні ў цяперашні час застаецца ў тым-жа становішчы, як і дзевяць год таму назад,—пры складаньні статуту Лігі Нацый. Адзіны рэальны гістарычны вынік 4 і 5 сэсіі падрыхтавальнай камісіі тое, што на іх савецкая дэлегацыя выкрыла хлусьліва-пацыфіцкі і сапраўдны імпэрыялісцка-мілітарыстычны характар Лігі Нацый і ўсяе чыннасьці яе.

# ПОЛЬСКА-САВЕЦКІЯ АДНОСІНЫ І РЫСКІ МІР [1])

*Проф. Ул. Пічэта.*

Разьдзел V.

## Мірныя перамовы ў Рызе

Паход на Варшаву савецкага войска быў вынікам контр-рэволюцыйных і захопніцкіх плянаў польскай палітыкі, а ня вынікам імкненьня насадзіць комунізм пры дапамозе расійскіх штыкоў. Так пісаў пра паход на Варшаву і Ул. Ленін [2]). Савецкая ўлада зрабіла ўсё, што магла, каб не дапусьціць вайны з Польшчай. І калі ўсе мірныя імкненьні і ўступкі пацярпелі няўдачу, савецкая ўлада змушана была бараніцца ад нападаў з боку польскага імпэрыялізму. Гэта абарона вылілася ў пераход ад абароны да наступленьня, да таго пераможнага паходу, якім аказалася наступленьне савецкага войска на Варшаву. Калі Чырвоная армія ступіла на тэрыторыю буржуазнай Польшчы, дык, зразумела, яна імкнулася ўтварыць новы і разбурыць буржуазны лад. Чырвоная армія зьнішчала правы ўласнасьці фабрыкантаў і абшарнікаў і ўводзіла сыстэму сялянскіх і рабочых дэпутатаў, стараючыся перадаць рабочым вырваную з рук буржуазіі ўладу. У гэтым сэнсе Чырвоная армія рабіла тое самае, што рабіла войска рэволюцыйнай Францыі, калі яно, бароначы рэволюцыю, павінна было ступіць на тэрыторыю фэўдальных дзяржаў Італіі, Прусіі, Аўстрыі і Гішпаніі. Рэволюцыйнае войска руйнавала стары лад, зьнішчала прыгон, разганяла клясавае дваранскае прадстаўніцтва і ўводзіла роўнасьць перад законам [3]). Наступленьне Чырвонай арміі на Варшаву прывяло да стварэньня часовага польскага рэволюцыйнага камітэту, задачай якога было дапамагаць, як правільна адзначыў т. Мархлеўскі, „польскім рабочым і сялянам у правядзеньні савецкай сыстэмы“. Гэты камітэт быў складзен са згоды Расійскай Комуністычнай Партыі і пры ўдзеле яе і камандваньня Чырвонай арміі ў момант уваходу Чырвонай арміі ў Польшчу [4]).

Польскі друк усіх адценьняў стараўся мобілізаваць усе грамадзкія сілы, каб даць адпор наступаўшай Чырвонай арміі. У гэтай справе пар-

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 5.

[2]) Друнин, „Польша, Россия и СССР“, Масква 1928 г., стар. 188.

[3]) Друнин, „Польша, Россия и СССР“, стар. 189.

[4]) Друнин, „Польша, Россия и СССР“, стар. 189.

тыйны друк ППС нічым не адрозьніваўся ад друку больш правых партый. „Работнік“, орган ППС, заклікаў рабочы народ да абароны і ўзнімаў у ім шовіністычныя і нацыяналістычныя настроі. „Работнік“ заклікаў таптаць маскалёў, як гадаў, і іхнымі трупамі ўсьцілаць зямлю. „Работнік“ заклікаў аддаць усе сілы на абарону Варшавы. Пры такім становішчы Варшавы барацьба кляс лічылася за злачынства. „Цяпер,— пісаў „Работнік“,—можа ісьці гутарка толькі аб абароне і міры. Усякія іншыя пляны, думкі і замеры зьяўляюцца адзнакамі больш страшной хваробы, чым мор, халера, чума, зьяўляюцца сьвядомымі, або падсьвядомымі прыкметамі паражэнства [1]).

ППС старалася адначасна з гэтым выклікаць у народных масах пачуцьцё антысэмітызму. У адным са сваіх артыкулаў „Работнік“ паведамляў, што ў Польшчы ўжо зьявіліся грамадзкія адкіды, якія хочуць выклікаць у Польшчы грамадзянскую вайну. Бальшавікі ўжо склалі свой урад для Польшчы пад назвай Рэволюцыйны Камітэт Польшчы. Вось прозьвішчы тых адшчапенцаў, якія рыхтуюцца стаць магільшчыкамі Польшчы: Юльян Мархлеўскі—паляк каталік, Фэлікс Кон—яўрэй, Юзэф Уншліхт—яўрэй, Фэлікс Дзяржынскі—паляк каталік. Словы „паляк, каталік, яўрэй“ былі надрукованы чорнымі літарамі. Як відаць, „Работнік“ хацеў падкрэсьліць, што комуністыя—гэта „пераважна яўрэі і іхныя паслугачы“. „Работнік“ разьвіваў шалёную барацьбу проці бальшавізму, які, наклаўшы на расійскі народ ярмо нячуванай няволі, спрабуе ў нашай зямлі, на зямлі Касьцюшкі, на зямлі сьвятых магіл і крыжоў заснаваць сваю крывавую ўладу [2]).

Заходня-эўропэйскі імпэрыялізм павінен быў пайсьці на сустрач Польшчы ў яе барацьбе з Савецкай Расіяй. Францускі імпэрыялізм зрабіў усё, што мог, каб узброіць Польшчу і даць ёй магчымасьць затрымаць наступленьне Чырвонай арміі на Варшаву.

У гэтым сэнсе пляны францускіх і польскіх імпэрыялістых мелі пэўныя вынікі. Наступленьне Чырвонай арміі было затрымана. Палякі скарысталі гэта, узялі ініцыятыву ў свае рукі і павялі наступленьне.

Наступленьне Чырвонай арміі на Варшаву было надзвычайна хуткім. Ваеннае камандваньне, разумеецца, не магло і думаць аб замацаваньні позыцыі ў тылу і аб правільнай дастаўцы арміі ўсяго патрэбнага. Апошняе асабліва было цяжка, бо харчовых запасаў ня было, і гаспадарчае жыцьцё краіны было зусім зруйнавана імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнамі. І таму ня дзіва, што калі пачалося наступленьне польскага войска, дык Чырвоная армія была змушана адступаць і аддаваць польскай буржуазіі тэрыторыі, на якіх ня так даўно разьвяваўся сьцяг волі.

---

[1]) Друнин, стар. 190.

[2]) Друнин, стар. 190—191.

Аднак, ня гледзячы на нібы ўдалае наступленьне палякаў, польскі буржуазны друк імкнуўся да заключэньня міру, бо экономічнае становішча Польшчы было вельмі цяжкае, і вялікая зацяжка вайны магла даць вельмі няпрыемныя вынікі для саміх палякаў. Настроі польскай буржуазіі добра выяўляла „Рэч Паспаліта"—орган Падарэўскага. „Мы жадаем скончыць вайну і таму жадаем цяпер-жа вырашыць пытаньні аб межах і компэнсацыях. Што-ж датычыць пытаньня аб прызнаньні савецкага ўраду, а таксама аб урэгуляваньні палітычных і гандлёвых адносін, дык усе гэтыя пытаньні мы можам вырашыць толькі пры ўдзеле дзяржаў згоды". „Кур'ер Паранны" выказваў думку, што будучыя мірныя перамовы будуць спробай вырашыць усходняе пытаньне мірным спосабам. Але калі гэта няўдасца, дык Польшча гатова далей ваяваць. Францускі ўрад, які прызнаў Урангеля, быў вельмі зацікаўлены ў тым, каб вайна цягнулася далей і каб тым самым была выратавана армія Урангеля. Аднак, прызнаючы, што Польшча, з прычыны пагрозы соцыяльнага выбуху, ня можа весьці вайны, францускі ўрад лічыў неабходным запатрабаваць ад савецкага ўраду поўнай дэмобілізацыі Чырвонай арміі, згаджаючыся са свайго боку на дэмобілізацыю польскай арміі. Гэта вымаганьне было зусім зразумелым. Адна мобілізацыя выклікае другую мобілізацыю. У выпадку, калі-б савецкі ўрад згадзіўся на гэту ўмову, армія Ўрангеля і яе наступленьня не спаткалі-б ніякага адпору. Разумеецца, гэта былі толькі мары францускага буржуазнага ўраду, бяз усякай надзеі на іхную рэалізацыю.

Няўдача мірных перамоў у Менску была выклікана зьменамі на фронце. Гэтыя абставіны далі магчымасьць палякам адмоўна аднесьціся да савецкіх мірных прапаноў і адцягнуць перамовы да таго моманту, калі іх перапынак быў нямінучы. Аднак, польскія буржуазныя дзеячы галоўным чынам цэнтру, добра разумелі, што неабходна заключыць мір, бо ў іншым выпадку Польшча будзе пазбаўлена магчымасьці ўзяцца за працу па арганізацыі гаспадарчага і палітычнага адбудаваньня. Прадстаўнікі мерных буржуазных колаў адмаўляліся ад думкі аб межах Польшчы 1772 году. Польскія нацыянал-дэмократы, прымаючы пад увагу, што будучыня Польшы на моры, лічылі неабходным заключыць мір з Савецкай Расіяй на памяркоўных для абодвух бакоў умовах і ўсе сілы і сродкі краіны кінуць на ўмацаваньне заходніх граніц Польшчы, дзе, па іхнай думцы, быў спрадвечны вораг Польшчы—немцы. Аднак, і мерныя буржуазныя колы, бяручы на ўвагу, з аднаго боку, адступленьне Чырвонай арміі, а з другога—бачачы ўдачны развой наступленьня Ўрангеля, лічылі неабходным пасунуць мяжу польскай дзяржавы на ўсход значна далей, чымся гэта вызначала так званая лінія Керзона. Калі мерныя буржуазныя колы ня думалі аб тым, каб граніцы на ўсходзе даходзілі да Дняпра, дык у кожным разе яны лічылі неабходным правесьці граніцу каля Менску або крыху за Менскам.

Такі быў настрой польскага буржуазнага друку ў той час, калі абодва бакі зьехаліся на конфэрэнцыю ў горад Рыгу. На гэты раз старшынёй мірнай дэлегацыі з боку РСФСР і УССР быў назначан А. А. Іоффэ, які перад гэтым выявіў свае дыплёматычныя здольнасьці ў вядзеньні мірных перамоў у Бярэсьці з немцамі і ў Маскве з Літвой. Прадстаўніком Украіны быў т. Мануільскі. У сярэдзіне працы конфэрэнцыі ў Рыгу прыехаў прадстаўнік БССР, якая заснавалася на тэрыторыі Беларусі, вызваленай ад палякаў, член Часовага Рэволюцыйнага Камітэту А. Чарвякоў. Савецкая дэлегацыя, разумеецца, паехала ў Рыгу, маючы з сабой пэўную колькасьць экспэртаў. Прадстаўнікамі экспэртызы вайсковых былі вядомы ваенны дзеяч, былы генэрал Полівантов, і камандуючы войскам у Туркастане Ф. Навіцкі, які раней браў чынны ўдзел у барацьбе з Калчаком на Ўсходнім фронце. Аднак, Полівантов узяць удзелу ў працы конфэрэнцыі ня мог з прычыны хваробы, якая скончылася сьмерцю. Прадстаўніком экспэртызы, з пункту гледжаньня этнографічнага, быў профэсар У. І. Пічэта, які да гэтага часу быў сакратаром камісіі па апрацоўцы і падрыхтоўцы матэрыялу для вядзеньня мірных перамоў з палякамі. Гэта камісія была складзена пры Народным Камісарыяце Замежных Спраў. У склад яе ўваходзілі буйныя спэцыялістыя і вучоныя, як географ Д. А. Анучын, этнограф Н. А. Янчук, лінгвіст Д. Чанакоў, этнограф. А. А. Борзов, вядомы вучоны М. К. Любаўскі, Я. Л. Дыла ды інш. Камісія распрацавала ўвесь належны матэрыял і нарыхтавала патрэбныя дакладныя запіскі па пытаньнях этнографічнага і культурна-гістарычнага характару. Фінансава-экономічная экспэртыза была прадстаўлена профэсарам М. Богомоловым.

Старшынёй польскай дэлегацыі быў Я. Домскі, які раней вёў перамовы ў Менску, пры ўдзеле цэлага шэрагу экспэртаў і членаў дэлегацыі, сярод якіх найбольш выдатнае месца займалі С. Грабскі і рэдактар „Работніка" доктар Пэрль.

Праца мірнай конфэрэнцыі ў Рызе аднавілася 21 верасьня 1920 г. Мірную конфэрэнцыю адчыніў міністар замежных спраў Латвіі Мэеровіц а 5 гадзіне ўвечары. Ён зьвярнуўся да членаў конфэрэнцыі з прывітальнай прамовай на французскай мове. Латвійскі міністар вітаў прысутных і адзначыў неабходнасьць наладжаньня мірнага сужыцьця паміж народамі для захаваньня культурных заваёў чалавецтва і выказаў надзею, што абодва бакі заключаць такі мір, які іх задаволіць. Ад імя польскай дэлегацыі адказваў яе старшыня Я. Домскі, які дзякаваў прадстаўніку латвійскага ўраду за гасьцінны прыём, зазначыўшы, што ў Латвіі ён бачыць прыклад разумнай эўропэйскай дзяржавы, якой, дзякуючы аддана сьці яе сыноў, удалося вызваліцца ад сваіх ворагаў і, акрыяўшы, стаць на ногі. Домскі выказаў надзею, што перанясеньне конфэрэнцыі ў Рыгу зьявіцца адзнакай добрага канца конфэрэнцыі. Адказную прамову ад імя савецкай дэлегацыі сказаў старшыня дэлегацыі А. Іоффэ,

які таксама дзякаваў за гасьцінны прыём і адзначыў, што ўвесь сьвет ужо некалькі гадоў чакае канца праліцьця крыві і заключэньня трывалага міру. Мір без анэксій, мір без пераможцаў і без пераможаных, гэтатакі мір, якога дамагаецца рабоча-сялянская рэспубліка. Іоффэ заявіў, што ён гатоў далучыцца да оптымізму, выказанаму ранейшымі прамоўцамі, і другі раз падзякаваў міністру за гасьцінны прыём. Выслухаўшы адказныя прамовы, міністар Мэеровіц пакінуў пасяджэньне мірнай конфэрэнцыі. Затым старшыня польскай дэлегацыі Я. Домскі адчыніў шостае пасяджэньне польска-савецкай мірнай конфэрэнцыі [1]).

Старшыні абедзьвюх дэлегацый папрасілі прысутных дэлегатаў прад'явіць свае поўнамоцтвы. Для праверкі мандатаў быў абвешчан перапынак. Пасьля перапынку прадстаўнікі абодвух бакоў заявілі, што поўнамоцтвы дэлегатаў знаходзяцца ў поўным парадку.

На 1 пасяджэньні конфэрэнцыі ня быў вызначан тэрмін другога пасяджэньня, і пытаньне аб тым, калі абодва бакі зноў спаткаюцца, вісела ў паветры. Гэта змусіла старшыню савецкай дэлегацыі А. Іоффэ зьвярнуцца 23 верасьня з лістом да старшыні польскай дэлегацыі Домскага з прапановай назначыць другое пасяджэньне мірнай конфэрэнцыі на 24 верасьня, а 23 увечары назначыць нараду сакратароў аб парадку дня другога пасяджэньня. У той-жа дзень старшыня польскай дэлегацыі Домскі адказаў лістом, у якім даваў сваю згоду на тое, каб адбылося спатканьне сакратароў абодвых бакоў, на якім яны абмеркавалі-б належныя пытаньні [2]). У выніку перамоў сакратароў абедзьвюх дэлегацый наступнае пасяджэньне мірнай конфэрэнцыі было назначана на 24 верасьня а 12 гадзіне дня. На пасяджэньні быў старшынёй А. Іоффэ. Старшыня польскай дэлегацыі Домскі выступіў з па-зачарговым словам, у якім заявіў, што, згодна вызначанаму раней пляну, на гэтым пасяджэньні дэклярацыя польскай дэлегацыі павінна быць агалошана першай. Ня гледзячы на гэта, ён згаджаецца зьмяніць парадак дня і прадаставіць слова старшыні савецкай дэлегацыі для агалашэньня савецкай дэклярацыі. Пасьля гэтага А. Іоффэ агаласіў наступную дэклярацыю.

„У часе перамоў, якія адбываліся ў Менску, пагляды абедзьвюх дэлегацый па асноўных пытаньнях міру выясьніліся. Расійска-украінская дэлегацыя выразна і ясна выказала ўсе ўмовы, якія па думцы Савецкіх Рэспублік, павінны прывесьці да спыненьня праліцьця крыві і да ўтварэньня моцнага і трывалага міру, павінны служыць гарантыяй проці новых выступленьняў на Расію і Украіну, якія не жадаюць ніякай вайны. Польская дэлегацыя рэзка акрытыкавала расійска-украінскія ўмовы і рашуча заявіла, што яна ні ў якім разе ня можа прыняць большасьці з гэтых умоў. Мірныя перамовы цягнуцца ўжо больш месяца, але канца іх ня відаць. Кроў, як раней, льецца ракой, і пад грукат гармат і перадсьмя-

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 21 верасьня 1920 г.
[2]) „Сегодня“ ад 24 верасьня 1920 г.

ротны хрып забіваных аднаўляецца ў Рызе праца мірнай конфэрэнцыі. Расія і Украіна ніколі не жадалі гэтай, як і наогул ніякай, вайны. Каб хутчэй дамагчыся спыненьня вайны і зараз-жа пакласьці канец нячуванаму праліцьцю крыві, Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт на апошняй сваёй сэсіі ўчора 23 верасьня прыняў рашэньне, якое я дазволю сабе тутака агаласіць цалкам:

„Да гэтага часу цягнецца вайна Польшчы з Расіяй, вайна, утвораная нападам на Расію і Украіну якраз у той момант, калі працоўная Расія распачала дэмобілізацыю сваёй арміі і ўсю сваю энэргію накіравала на мірную творчую працу. Гэта вайна, якую падтрымлівае Антанта для сваіх імпэрыялістычных інтарэсаў, пагражае нячувана цяжкай зімовай кампаніяй, нябывала лютай, разбуральнай і крывавай. Працягненьня яе могуць жадаць толькі імпэрыялістыя Антанты, якія будуюць свае пляны на далейшым зьнішчэньні жыцьцёвых сіл як Польшчы, так і Расіі. Зімовая кампанія, калі вайна ня спыніцца, будзе справоджвацца такімі мучэньнямі для шырокіх мас, што расійскі савецкі ўрад і вышэйшы законадаўчы орган рэспублікі ЎсеЦВК лічыць сваім абавязкам прыняць усе меры, прынесьці нават цяжкія ахвяры, абы толькі дабіцца міру, спыніць праліцьцё крыві і пазбавіцца аднолькава цяжкай для абодвух бакоў зімовай кампаніі.

УсеЦВК лічыць, што асновай, на якой магчыма было-б у самы кароткі тэрмін дасягнуць пажаданай згоды, павінна быць ажыцьцяўленьне прынцыпу самавызначэньня для ўсіх вобласьцяй, за тэрыторыяльныя межы якіх змагаліся ў часе вайны. Выходзячы з поўнага прызнаваньня прынцыпу самавызначэньня, РСФСР яшчэ ў 1917 годзе прызнала і нязьменна прызнае, бязумоўна і без усялякіх абмежаваньняў, незалежнасьць і сувэрэннасьць Польскай Рэспублікі, у 1918 годзе незалежнасьць і сувэрэннасьць Украіны і Беларусі, а ў 1920 годзе падпісала дагавор з незалежнай і сувэрэннай Літоўскай Рэспублікай.

Працягваючы тую-ж політыку, УсеЦВК лічыць, што ў аснову міру павінна быць пакладзенна: папершае, неадкладнае ўрачыстае пацьверджаньне як Польшчай, так і Расіяй, незалежнасьці Украіны, Літвы і Беларусі і прызнаньне незалежнасьці Ўсходняй Галіцыі; падругое, як Польшча так і Расія павінны зараз-жа офіцыйна прызнаць, як форму выяўленьня волі адпаведных нацый, тыя дзяржаўныя прадстаўнічыя ўстановы (сойм, парлямант, або зьезд саветаў), якія існуюць у кожнай з гэтых краін. Са свайго боку РСФСР, прымаючы пад увагу, што савецкі лад яшчэ не заснаваўся ва Ўсходняй Галіцыі, гатова згадзіцца на плебісцыт у гэтай вобласьці не па прынцыпу савецкаму, г. зн. галасаваньнем працоўных, а па звычайнаму буржуазна-дэмократычнаму прынцыпу.

УсеЦВК ня можа, аднак, не зьвярнуць увагі на тое, што пункт гледжаньня некаторых кіруючых польскіх грамадзкіх груп, політычных партый і грамадзкіх дзеячоў у грунце разыходзіцца ў пытаньнях сама-

вызначэньня з пункту погляду РСФСР. Калі-б польская дэлегацыя ў Рызе стала на пункт погляду гэтых партый, груп і асоб, якія наперакор відавочным і бясспрэчным фактам адмаўляюць самавызначэньне Украіны і Беларусі ў 1918 годзе, дык гэта зрабіла-б згоду на падставах самавызначэньня немагчымай, а перамовы аб мэтодах самавызначэньня бескарыснымі і нават шкоднымі, як прыкрыцьцё політыкі, якая не жадае міру, і імкнецца пад выглядам міру да анэксій чужых тэрыторый. І таму, не жадаючы дапускаць ніякіх двухсэнсоўнасьцяй і ніякіх адцяжак па вельмі важным для працоўных мас пытаньні, а іменна, па пытаньні аб зімовай кампаніі, УЦВК загадвае сваёй мірнай дэлегацыі запрапанаваць мірнай дэлегацыі Польскай Рэспублікі, калі прысьці адразу да згоды аб самавызначэньні нельга, заключыць неадкладна на ніжэйнаступных падставах згоду аб асноўных прынцыпах міру, пакідаючы ў баку тыя спрэчныя пытаньні і тыя рознамоўі і тлумачэньні агульных прынцыпаў, з-за якіх нельга хутка дасягнуць міру. Гэтыя асновы згоды наступныя:

Урад РСФСР, прымаючы да ведама заяву польскай дэлегацыі аб немагчымасьці для яе прыняць ранейшыя ўмовы расійска-украінскай дэлегацыі наконт скарачэньня колькасьці польскай арміі, дэмобілізацыі яе прамысловасьці, выдачы ёю зброі і перадачы ў поўную ўласнасьць РСФСР чыгункі Ваўкавыск-Граева, адмаўляецца ад гэтых умоў і выказвае пажаданьне, каб Саюзная Украінская Рэспубліка таксама адмовілася ад гэтых ранейшых умоў. РСФСР гатова неадкладна падпісаць замірэньне і прэлімінарныя ўмовы міру на падставах прызнаньня граніцай паміж Польшчай і Расіяй лінію, якая праходзіць на ўсход ад граніцы, устаноўленай Вышэйшай Саюзнай Радай 3 сьнежня 1919 г. з тым, што Ўсходняя Галіцыя застаецца на захад ад гэтай граніцы.

РСФСР лічыць, што гэтай сваёй прапановай яна зрабіла ўсё магчымае і неабходнае дзеля хутчэйшага дасягненьня міру і пазбаўленьня расійскіх, польскіх, беларускіх і украінскіх працоўных мас ад цяжару новай зімовай кампаніі. Адхіленьне гэтай прапановы Польшчай азначала-б што Польшча рашылася, пад націскам імпэрыялістычнай Францыі і іншых краін Антанты, на зімовую кампанію. Таму ЎсеЦВК змушан заявіць, што гэта прапанова мае моц у працягу 10 дзён. Пасьля гэтага тэрміну, г. зн. калі да 5 кастрычніка 1920 г. прэлімінарныя ўмовы міру ня будуць падпісаны, Савет Народных Камісараў мае права зьмяніць запрапанаваныя ўмовы. Савецкая Расія, ідучы на такія ахвяры ў імя міру, робіць гэта з поўнай сьвядомасьцю свае праваты і нявычарпаных сіл расійскіх і украінскіх працоўных мас, якія гатовы цьвёрда і рашуча стаць на абарону Савецкіх Рэспублік, калі польскі ўрад адважыцца ўзяць на сябе перад тварам усяго сьвету адказнасьць за працягненьне вайны і далейшае праліцьцё крыві. Вось чаму УсеЦВК пэвен, што пропуск гэтага тэрміну фактычна прадрашае пытаньне аб зімовай кампаніі. Вось якое рашэньне УсеЦВК. Цяпер выбар вайны або міру цалкам залежыць ад

рашэньня ўраду Польскай Рэспублікі. Мыставім перад вамі конкрэтныя прапановы, на якія чакаем ад вас адказу“ [1]).

Прапановы расійскай дэлегацыі паслужылі найлепшым доказам ціхамірнасьці Савецкай Расіі і жаданьня яе ўраду заключыць трывалы мір з суседняй Польскай Рэспублікай на ўмовах, якія значна адрозьніваліся ад прапаноў, высунутых савецкай дэлегацыяй у Менску. Дарэмна белыя газэты ў Рызе, як і польскія газэты, убачылі ў гэтай дэклярацыі адзнаку слабасьці РСФСР і УССР і жаданьне, чаго-б гэта ні каштавала, дамагчыся міру. Савецкая дэлегацыя, прымаючы пад увагу ўтвораную конʻюнктуру, лічыла немагчымым узьнімаць пытаньні, якія выклікаюць дыскусыю і абмеркаваньне са ўсіх бакоў, і лічачы, што прынцып самавызначэньня Украіны і Беларусі не падлягае перагляду, запрапанавала мірныя ўмовы, сутнасьць якіх была выказана ў дэклярацыі савецкай дэлегацыі.

Дэклярацыя савецкай дэлегацыі зрабіла моцнае ўражаньне на ўсіх прысутных на гэтым памятным пасяджэньні. Ад імя польскай дэлегацыі Я. Домскі заявіў, што дэклярацыя Савецкай Расіі прымаецца да ведама і што ён просіць зрабіць перапынак дзеля абмеркаваньня агалошанай савецкай дэклярацыі.

Пасьля перапынку слова было дадзена старшыні польскай дэлегацыі, які агаласіў польскую дэклярацыю прэлімінарнага міру. Старшыня польскай дэлегацыі заявіў, што яшчэ 3 жніўня ў Менску ў першай дэклярацыі польскай дэлегацыі было заяўлена, што Польская Рэспубліка ня ставіць умоў міру ў залежнасьць ад становішча ваенных падзей на фронце, бо гэта заўсёды вядзе да зацягваньня вайны, да поўнага абясьсіленьня аднаго з ваюючых бакоў і ўзьнімае ў далейшым у пераможаных прагнасьць помсты; жадаючы міру хуткага і трывалага, Польшча імкнецца да міру, да справядлівай згоды, якая аднолькава здавальняла-б жыцьцёвыя патрэбы абодвух бакоў. Польская Рэспубліка і зараз нязьменна кіруецца гэтым асноўным прынцыпам, бо яна нічога так не жадала і не жадае, абы як мага хутчэй пасьля доўгіх гадоў страшнай вайны перайсьці да мірнай творчай працы, да організацыі аднооўленага дзяржаўнага жыцьця. Вайной, якую, наперакор свайму жаданьню, польскі народ, на жаль, змушан яшчэ весьці, Польшча імкнецца забясьпечыць сваю незалежнасьць, бясьпечнасьць граніцы. Польская Рэспубліка, па словах Домскага, жадае ўсталяваць сваю веліч і сваю магутнасьць не на захопе чужых тэрыторый і не на прыгнечаньні іншых народаў, а на здаволеньні і дабрабыце ўласных грамадзян і на прыязных адносінах з суседнімі народамі. Таму галоўным імкненьнем міжнароднай політыкі Польскай Рэспублікі зьяўляецца ня толькі жаданьне забясьпечыць Польшчу ад нападаў ворагаў і ўмацаваць уласную вольную незалежнасьць, але разам з гэтым стаць фактарамусе-

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 24 верасьня.

агульнага міру ў Эўропе і ўсеагульнай свабоды народаў. Польская Рэспубліка даказала гэта, прызнаючы права самавызначэньня народаў, і гэта яна ня раз рэальна выяўляла ў сваіх адносінах да суседніх народаў: Латвіі, Літвы, Беларусі і Украіны.

Калі Расійская Савецкая Рэспубліка ў такой самай ступені жадае міру, дык у такім разе польская дэлегацыя не сумняваецца ў тым, што будзе магчыма ўхіліць тыя разгалосьсі, якія да гэтага часу парушаюць мірнае сужыцьцё Расіі і Польшчы. Разам з тым, польская дэлегацыя выказвае пэўнасьць у тым, што такая згода будзе адзінай мэтазгоднай і моцнай гарантыяй, якае зможа ўзаемна забясьпечыць абедзьве дзяржавы ад новых узброеных конфліктаў.

На падставе вышэй сказанага польская дэлегацыя прапануе пакласьці ў аснову прэлімінарнага міру наступныя прынцыпы:

1. Абодва бакі ўзаемна гарантуюць поўнае паважаньне дзяржаўнага сувэрэнітэту другога боку і ўстрыманьне ад усялякага ўмешваньня ва ўнутраныя справы.

2. Дзяржаўнае разьмежаваньне абодвух бакоў на тэрыторыях, адцятых ад Польшчы былой Расійскай Імпэрыяй, павінна грунтавацца на абаюдным прыстасаваньні ніжэйнаступных падстаў:

а) Спыненьне барацьбы паміж Польшчай і Расіяй за спрэчныя тэрыторыі і добрасуседзкае сужыцьцё народаў; б) дзяржаўная граніца будзе вызначана не на падставе гістарычных даных, а на падставе справядлівага ўзгадненьня жыцьцёвых інтарэсаў абодвух бакоў; справядлівае вырашэньне спрэчных нацыянальных пытаньняў на гэтых тэрыторыях, згодна дэмократычным прынцыпам; в) забесьпячэньне бясьпекі кожнай з дзяржаў ад магчымага нападу другога боку. З прычыны таго, што Польшча імкнецца да міру па згодзе і не жадае навязваць сваіх умоў, яна прапануе другому боку разам вызначыць межы на падставе памянёных вышэй прынцыпаў.

3. Абодва бакі абавязваюцца ўключыць у мірны дагавор пункт наконт свабоднага выбару польскага і расійскага грамадзянства з тым, што правамі, якія будуць забясьпечаны дагаворам за грамадзянамі абодвух бакоў, будуць карыстацца бяз усякага абмежаваньня і асобы, якія маюць права выбраць тое або іншае падданства.

4. Польшча абавязваецца ў мірным дагаворы прызнаць за асобамі расійскай нацыянальнасьці права вольнага разьвіцьця культуры, мовы і рэлігійнага вызнаньня. Другі бок абавязваецца ў гэтым сэнсе ў адносінах да асоб польскай нацыянальнасьці.

5. Абодва бакі ўзаемна адмаўляюцца ад звароту якіх-бы то ні было страт па вядзеньню польска-савецкай вайны і ад узнагароды за зруйнаваньне ў выніку гэтай вайны.

6. Абодва бакі абавязваюцца ўключыць у мірны дагавор палажэньні пра абмен ваеннапалоннымі і пакрыцьцё выдаткаў па ўтрыманьні іх.

7. Неадкладна пасьля падпісаньня прэлімінарнага міру будуць створаны аб'яднаныя камісіі для найхутчэйшага абмену грамадзянскімі палоннымі, інтэрнаванымі асобамі і па выдачы заложнікаў, а таксама і ваеннапалонных.

8. Абодва бакі абавязаны ўключыць у мірны дагавор палажэньне аб амністыі для польскіх грамадзян і асоб польскага паходжаньня ў Расіі і расійскіх грамадзян і асоб расійскага паходжаньня ў Польшчы.

9. Абодва бакі абавязваюцца неадкладна распачаць перамовы аб канчатковым мірным дагаворы.

10. Абодва бакі абавязваюцца зараз-жа пасьля падпісаньня мірнага дагавору распачаць перамовы аб конфэрэнцыях гандлёва-гаспадарчых, санітарных, аб шляхавых і паштова-тэлеграфных зносінах.

11. Абодва бакі заяўляюць, што вырашэньне пытаньняў аб узаемным разрахунку і ліквідацыі будзе грунтавацца ў мірным дагаворы на ніжэйнаступных падставах:

а) прызнаньне, што з належных раней былой Расійскай Імпэрыі польскіх земляў не вынікаюць для Польшчы, у адносінах да Расіі, якія колечы абавязацельствы і абцяжэньні; б) узаемнае адмаўленьне ад усіх праў на другі бок і разрахунак па залатому фонду былога расійскага дзяржаўнага банку; в) узаемная рээвакуацыя і зварот натурай або роўнай каштоўнасьцю рухомай маемасьці, належнай дзяржаве, органам самакіраўніцтва, установам, асобам фізычным і юрыдычным, за выключэньнем ваеннай здабычы; г) зварот усіх архіваў, бібліотэк, рэчаў мастацтва, ваенных трафеяў, помнікаў старасьветчыны ды іншых рэчаў культурнага багацьця, вывезенага з Польшчы ў Расію з часоў падзелаў Польшчы; д) узаемнае ўрэгуляваньне прэтэнзій асоб фізычных і юрыдычных абодвух бакоў у адносінах да ўраду і ўстаноў другога боку; е) рэстытуцыя і зварот дзяржаве і асобам фізычным і юрыдычным страт, панесеных імі пасьля захопу іхнай маемасьці пры заняцьці савецкімі органамі памяшканьня польскага прадстаўніцтва ў Расіі; ж) прызнаньне за Польшчай і яе грамадзянамі прынцыпу найвялікшага здаволеньня ў справе рэстытуцыі і ўзнагароды за страты за пэрыод рэволюцыі і грамадзянскай вайны ў Расіі.

Абодва бакі абумоўліваюць, што пералічаныя пункты ня вычэрпваюць усіх пытаньняў наконт разрахункаў і ліквідацыі. Згодна жаданьню, выказанаму ўрадам РСФСР наконт адначаснага ўстанаўленьня прэлімінарнага міру і ўмоў замірэньня, польская дэлегацыя прапануе вызначыць лінію замірэньня, калі выявіцца, што абодва бакі дасягнулі згоды наконт умоў прэлімінарнага міру [1]).

Пасьля таго, як польская дэлегацыя агаласіла сваю дэклярацыю, А. А. Іоффэ заявіў, што савецкая дэлегацыя спадзявалася атрымаць адказ

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 24 верасьня.

на сваю дэклярацыю, а замест гэтага яна пачула толькі ўмовы прэлімінарнага міру. Расійская дэлегацыя, па словах Іоффэ, прымае да ведама заяву польскай дэлегацыі і просіць падаць яе ў пісьмовай форме з тым, каб з ёю магчыма было лепш пазнаёміцца і даць адпаведны адказ, назначыўшы для гэтай мэты пасяджэньне на 25 верасьня. Прапанову А. Іоффэ польская дэлегацыя прыняла. Што датычыць прапановы А. Іоффэ наконт дэмаркацыйнай камісіі, дык старшыня польскай дэлегацыі Домскі запрапанаваў перанесьці гэта пытаньне на другое пасяджэньне або вырашыць на пасяджэньні старшынь дэлегацый. Проці гэтага А. Іоффэ нічога ня меў. У далейшым у адказ на пытаньне старшыні савецкай дэлегацыі Домскі адказаў, што польская дэлегацыя мае на ўвазе ня толькі адну дэмаркацыйную камісію, а цэлы шэраг камісій, прычым пытаньне аб складаньні камісій прапануе абмеркаваць на вячэрнім пасяджэньні старшынь абедзьвюх дэлегацый [1]). Прапанова Я. Домскага была прынята.

Заява старшыні польскай дэлегацыі аб умовах міру значна разыходзілася з агульнымі ўмовамі, выказанымі ў дэклярацыі савецкай дэлегацыі. Зусім зразумела, што ўмовы міру павінны былі выклікаць шмат рознамоўяў і пярэчаньняў з боку расійска-украінскай дэлегацыі. Пасяджэньне савецка-польскай дэлегацыі магло аднавіцца толькі 27 верасьня, бо памёр ваенны экспэрт Поліванов, і савецкая дэлегацыя была занята адпраўкай і пахаваньнем нябожчыка. Трэба адзначыць, што Поліванов пакінуў лісты, у якіх ён пералічваў матэрыялы свае монографіі—ваеннае міністэрства з 17 чэрвеня 1916 г. па 13 сакавіка 1917 г.—і ўказваў месца, дзе знаходзяцца гэтыя матэрыялы, а таксама прасіў выплаціць ганарар яго сястры, калі яго праца будзе надрукована. У другім лісьце Поліванов прасіў пахаваць яго ў Петраградзе ў сямейным склепе, побач з жонкай і з забітым на вайне сынам. Пахаваньне павінна адбыцца па праваслаўнаму звычаю. Экспэрты савецкай дэлегацыі Пічэта і Семенов склалі сьпіс усіх рэчаў нябожчыка, наконт якіх ён распарадзіўся. Усе пажаданьні Поліванова савецкая дэлегацыя дакладна выканала.

Восьмае пасяджэньне мірнай конфэрэнцыі адбылося 27 верасьня. Старшынёй пасяджэньня быў Я. Домскі. Пасяджэньне пачалося агалашэньнем польскага адказу на расійска-украінскую дэклярацыю. У сваім адказе старшыня Домскі заявіў, што „першая частка расійскай дэклярацыі складаецца з тэорэтычных прынцыпаў яе асноўнага палітычнага сьветапагляду, якія выходзяць за межы гэтых мірных перамоў; яны ні ў якім разе ня могуць узьняць дыскусіі паміж Польшчай і Расіяй, напрыклад, пытаньне аб Галіцыі“. Польская дэлегацыя лічыць, што дыскусія па такіх палітычных пытаньнях не пасуне наперад справы міру і не паскорыць спыненьня вайны. Розьніца ў асноўных поглядах расійскай і польскай дэлегацыі досыць выявілася як у Менску, так і ў Рызе. Другая частка дэклярацыі складаецца з рэальных прапаноў, якія можна абга-

1) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 24 верасьня.

варваць, і таму польская дэлегацыя зноў высоўвае сваю прапанову перайсьці да працы ў камісіях. У польскім адказе было заяўлена аб шчырым жаданьні хутчэй спыніць праліцьцё крыві і разам з тым было адзначана, што ультыматыўнае абмежаваньне тэрміну заключэньня замірэньня ні ў якім разе не дапамагае хутчэй давесьці перамовы да пажаданага канца, а, наадварот,—робіць уражаньне, што дзяржава, якая высоўвае такі ультыматум, захоўвае за сабой права ў пэўны момант сарваць мірныя перамовы.

Потым старшыня савецкай дэлегацыі агаласіў адказ расійска-украінскай дэлегацыі на польскія мірныя прапановы, высунутыя на папярэднім пасяджэньні. У адказе расійска-украінскай дэлегацыі было адзначана што абодва бакі імкнуцца да міру і не жадаюць выпрацоўваць мірных умоў у залежнасьці ад становішча на фронце. Па думцы абодвух бакоў, мір павінен быць аднолькава выгодным як для Польшчы, так і для Расіі. А. Іоффэ заявіў, што Савецкая Расія і Украіна ніколі не рабілі замаху на незалежнасьць Польскай Рэспублікі і калі мэта мірных перамоў—забясьпечыць незалежнасьць і бясьпечнасьць яе граніц, дык гэта зусім адпавядае інтарэсам і Расіі і Украіны. Ад імя савецкай дэлегацыі т. Іоффэ заявіў, што ён прызнае прынцыповую правільнасьць запрапанаваных умоў прэлімінарнага міру. Іоффэ падкрэсьліў, што ўзаемная гарантыя і пашана дзяржаўнага сувэрэнітэту другога боку і няўмешваньне ў яго ўнутраныя справы заўсёды было прынцыпам міжнароднай палітыкі Савецкай Расіі і Украіны. Савецкая Расія і Украіна ніколі не змагаліся за якія-б то ні было польскія тэрыторыі і заўсёды трымаліся таго пункту погляду, што тэрыторыяльныя пытаньні найлягчэй вырашаюцца па прынцыпу самавызначэньня народаў. Сталае забясьпечаньне абодвух бакоў ад магчымага нападу другога боку, ці праз яго тэрыторыю, ці пры яго дапамозе, зьяўляецца аднэй з умоў міру. А. Іоффэ прызнаў адпавядальным інтарэсам Савецкіх Рэспублік як права оптацыі, так і права нацыянальных меншасьцяй; гэта лёгічна вынікае з агульнага прынцыпу самавызначэньня народаў. Таксама расійска-украінская дэлегацыя згаджаецца і на ўзаемнае адмаўленьне ад усялякіх выдаткаў ды контрыбуцый. Палажэньне пра абмен ваеннапалонных і зварот выдаткаў па ўтрыманьню іх таксама павінна быць уключана ў мірны дагавор. Расійска-украінская дэлегацыя прызнае неабходным утварэньне аб'яднанай камісіі пасьля падпісаньня міру па абмену грамадзянскімі палоннымі, інтэрнаванымі заложнікамі і ваеннапалоннымі. Расійска-украінская дэлегацыя прызнае неабходнай амністыю кожнай дзяржавай грамадзян другога боку і лічыць, што ў імя справядлівасьці гэта амністыя павінна пашырацца таксама і на ўласных грамадзян, якія ў часе вайны зрабілі праступны ўчынак на карысьць другога боку. Маючы патрэбныя поўнамоцтвы, расійска-украінская дэлегацыя гатова неадкладна распачаць перамовы аб канчатковым мірным дагаворы. Расійска-украінская дэлегацыя прымае поўнасьцю прапанову

аб заключэньні адпаведных конвэнцый, у тым ліку транзітнай і консульскай, і спадзяецца, што вырашэньне пытаньняў аб узаемных разрахунках і ліквідацыі, таксама як і аднаўленьне прыватна-праўных і публічных адносін, павінна быць адзначана ў мірным дагаворы. „Расійска-украінская дэлегацыя,—заявіў Іоффэ,—з радасьцю адзначае, што, як відаць, у вызначаных абодвума бакамі асновах будучага міру паміж імі няма значнага рознамоўя, якое магло-б прывесьці да якіх колечы ўскладненьняў і занадта доўгіх спрэчак. Расійска-украінская мірная дэлегацыя ўсё-ж лічыць, што падрабязнае абмеркаваньне большасьці з вызначаных пытаньняў павінна легчы ў аснову перамоў аб канчатковым мірным дагаворы, якія могуць пачацца толькі пасьля падпісаньня замірэньня і прэлімінарных умоў міру“ [1]).

Адказ Расійска-украінскай дэлегацыі на конкрэтныя прапановы польскай дэлегацыі поўнасьцю адпавядаў асноўным прынцыпам дэкларацыі савецкай дэлегацыі, агалошанай на сёмым пасяджэньні. У сваім адказе расійска-украінская дэлегацыя выявіла сваё імкненьне да міру і жаданьне вырашыць усе спрэчныя пытаньні так, каб яны адпавядалі жыцьцёвым патрэбам абодвух бакоў.

Агаласіўшы адказ на польскія прапановы міру, старшыня савецкай дэлегацыі адказаў на выступленьне старшыні Домскага наконт першай часткі дэклярацыі савецка-украінскай дэлегацыі. Старшыня савецкай дэлегацыі адзначыў, што старшыня польскай дэлегацыі няправільна назваў першую частку дэклярацыі тэорэтычнай, бо якраз савецкая дэлегацыя ўхілялася ад усіх тэорэтычных пытаньняў, якія маглі-б выклікаць значныя спрэчкі. „Пакідаючы ў баку ўсе пытаньні аб самавызначэньні, якія маглі-б выклікаць вялікае рознамоўе паміж бакамі,—заявіў Іофэ,—я павінен адзначыць, што калі адзін бок завярае, што другі сілай Чырвонай арміі якая выяўляе волю аднэй партыі, прымусова навязвае сваю волю, дык другі бок можа завяраць, што, наадварот, пад выглядам самавызначэньня робяцца спробы прымусовага анэксаваньня або далучэньня да сябе чужых тэрыторый. Маючы поўную магчымасьць дакладна давесьці, што Чырвоная армія, як і наогул кожная армія, ні ў якім разе ня можа быць партыйнай, а зьяўляецца выяўніцаў волі расійскіх, украінскіх і беларускіх працоўных мас, расійска-украінская мірная дэлегацыя, у інтарэсах хутчэйшага замірэньня і прэлімінарных умоў міру, запрапанавала пакінуць у баку ўсе гэтыя спрэчныя пытаньні. Расійска-украінская мірная дэлегацыя ў сваім імкненьні хутчэй дабіцца міру і падпісаньня дагавору аб замірэньні і прэлімінарных умоў міру ні ў якім разе не хацела ацяжваць гэту працу якімі-б то ні было ультыматумамі. Наадварот, расійска-украінская дэлегацыя ў сваёй заяве зазначала, што гатова пайсьці на шырокія ўступкі, каб толькі хутчэй дабіцца замірэньня

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 27 верасьня.

і прэлімінарнага міру. Аднак, яна змушана сваю ўступчывасьць абмежаваць пэўным тэрмінам,бо якраз, з пункту гледжаньня тэй рэальнай політыкі, пра якую сёньня казаў паважаны старшыня польскай дэлегацыі, надта важна праводзіць гэту ўступчывасьць толькі ў тым выпадку, калі яна сапраўды можа прывесьці да хутчэйшага і неадкладнага замірэньня і прэлімінарнага міру. Расійска-украінская дэлегацыя таму і падкрэсьліла, што калі нельга будзе дабіцца неадкладнага замірэньня і прэлімінарнага міру, дык яна нязможа далей прытрымлівацца тых прапаноў, якія конкрэтна былі заяўлены раней. Што датычыць сутнасьці самых прапаноў, дык яны былі зроблены ў яснай, конкрэтнай, рэальнай форме, і тут-жа была ўнесена прапанова ўтварыць камісію для абмеркаваньня гэтых прапаноў ужо ў форме артыкулаў будучага дагавору аб замірэньні і прэлімінарных умовах міру. Я са здаволеньнем сьцьвярджаю, што ў сёнешнім адказе польскай дэлегацыі на нашы конкрэтныя прапановы, ёсьць адзін конкрэтны пункт, гэта згода на ўтварэньне камісіі. І таму я прапаную абмеркаваць склад яе і час, калі гэта камісія пачне працаваць“ [1]).

Дэклярацыі абедзьвюх мірных дэлегацый і абмен думкамі выразна паказалі жаданьне абодвух бакоў прыйсьці да мірнай згоды. Кожны з бакоў выказваў свае пажаданьні і пляны. Далейшая дыскусія ў агульных пасяджэньнях была непатрэбнай, і ўся праца мірнай конфэрэнцыі была перанесена ў камісіі. Згодна рашэньню, прынятаму на нарадзе старшынь абедзьвюх дэлегацый, меркавалася скласьці чатыры камісіі: галоўную, тэрыторыяльную, юрыдычную і экономічна-фінансавую. Было ўстаноўлена таксама, што ў склад галоўнай камісіі ўваходзяць поўнасьцю ўсе члены абедзьвюх дэлегацый. Была таксама прынята пастанова, што ўсе пасяджэньні будуць зачыненымі для корэспондэнтаў і публікі і што, па ўзаемнай згодзе, будуць штодня выпускацца бюлетэні аб ходзе працы ў камісіях.

Праца галоўнай камісіі пачалася адразу-ж. Дзеля таго, што ў дэклярацыях абодвух бакоў было выказана шмат думак, якія аднолькава можна прыняць для абодвух бакоў, праца галоўнай камісіі, у якой разьбіраліся агульныя ўмовы замірэньня і прэлімінарнага міру, ішла досыць хутка, і з прынцыповага боку пры іх рэдагаваньні ня ўзьнікала значных спрэчак. Абодва бакі досыць хутка сформулявалі цэлы шэраг артыкулаў прэлімінарнага мірнага дагавору. Аднак, праца камісій усё-ж ня ішла так хутка, як гэта было пажадана. Праца камісій затрымлівалася па ініцыятыве польскай дэлегацыі.

Праца галоўнай камісіі да 6 кастрычніка ішла досыць марудна, сустракаючы шэраг перашкод формальнага характару, якія цяжка было вырашыць. Фактычна галоўная камісія сабралася толькі адзін раз. Пасяджэньні галоўнай камісіі, якія назначаліся некалькі разоў, не маглі

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 27 верасьня.

адбыцца, і пытаньне аб міры вісела ў паветры. У часе перапынку працы галоўнай камісіі старшыні абедзьвюх дэлегацый увесь час сустракаліся і абмяркоўвалі патрэбныя пытаньні, і гэта дало магчымасьць дасягнуць згоды па цэлым шэрагу пытаньняў і вызначыць тэрмін падпісаньня прэлімінарнага мірнага дагавору не пазьней 8 кастрычніка. Дзякуючы перамовам абодвых старшынь, 4 кастрычніка магло адбыцца другое пасяджэньне галоўнай камісіі, на якім заслухалі заяву старшыні Домскага і адказную прамову старшыні савецкай дэлегацыі Іоффэ. У сваёй заяве старшыня Домскі зазначыў, што савецкая дэлегацыя высунула тры проекты наконт умоў міру і што паміж гэтымі проектамі ёсьць розьніца і нават пярэчаньне, якое цяжка ўхіліць. Напрыклад, па пытаньні аб гранічнай лініі дэкларацыя УсеЦВК гатова была прызнаць за Польшчай мяжу значна больш высунутай на ўсход. Аднак, у сваім апошнім проекце расійская дэлегацыя варочаецца ў гэтым пытаньні да сваёй пляцформы, сутнасьць якой была выказана ў Менску і прадыктавана жаданьнем навязаць Польшчы мір пераможцаў. Старшыня Домскі зьвярнуўся з запытаньнем да старшыні расійска-украінскай дэлегацыі, „ці лічыць ён падставай для перамоў дэкларацыю УсеЦВК і калі гэта так, дык ён прапанаваў-бы прыняць у аснову далейшых перамоў адзначаныя ў гэтай дэкларацыі ЎсеЦВК умовы замірэньня і прэлімінарнага міру, якія маюць сваёй мэтай прысьпешаньне міру, а таксама і высунутыя намі і з прыемнасьцю прынятыя да ведама расійскай дэлегацыяй“ [1]).

На заяву старшыні польскай дэлегацыі неадкладна адказаў старшыня расійска-украінскай дэлегацыі. Тав. Іоффэ перш за ўсё зазначыў, што расійска-украінская дэлегацыя агаласіла ня тры дэкларацыі, а ўсяго адну, а іменна—дэкларацыю, якая зьмяшчае ў сабе сэнс рэзолюцыі ЎсеЦВК, тэй самай рэзолюцыі, якая была пакладзена ў аснову ўсіх далейшых заяў расійска-украінскай дэлегацыі. Калі, па думцы старшыні польскай дэлегацыі, існуе розьніца ў формулёўках рэзолюцыі і конкрэтнага проекту будучага прэлімінарнага дагавору, дык гэта розьніца, бязумоўна, ёсьць і зьяўляецца характэрнай для кожнай дэкларацыі. У дагаворы, па думцы Іоффэ, дадзены конкрэтныя формулёўкі, а ў дэкларацыі—прынцыповыя падставы. Што датычыць здаволеньня, выказанага расійска-украінскай дэлегацыяй, то яно адносіцца да жаданьня абодвух бакоў дабіцца хутчэйшага міру, але ня можа мець дачыненьня да конкрэтных прапаноў польскай мірнай дэлегацыі з тэй прычыны, што да гэтага часу іх ня было. У сваёй адозьве ЎсеЦВК кажа, што ў выпадку, калі згода па пытаньні аб самавызначэньні будзе немагчымай, расійска-украінская дэлегацыя, пакінуўшы ў баку абмеркаваньне гэтых спрэчных пытаньняў, павінна спрабаваць дасягнуць згоды па іншых конкрэтных пытаньнях, абы хутчэй спыніць праліцьцё крыві. Усё выказанае цяпер паважаным старшынёй польскай дэлегацыі кажа за тое, што дабіцца хуткай згоды

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 6 кастрычніка.

па гэтых пытаньнях немагчыма і, значыцца, гэта дазваляе конкрэтна ставіць другую прапанову, пакідаючы ў баку гэтыя спрэчныя пытаньні. Погляды польскай дэлегацыі, што самавызначэньне вобласьцяй, калі яно ня прыводзіць да простага далучэньня гэтых вобласьцяй да Польшчы, ня ёсьць самавызначэньне, толькі падмацоўвае думку аб немагчымасьці згоды на гэтым грунце. Нежаданьне польскай дэлегацыі ўнесьці ў парадак дня мірнай конфэрэнцыі пытаньне аб Усходняй Галіцыі і прымаецца да ведама, але матывоўка, што гэта робіцца таму, што Галіцыя ніколі не належала да Расійскай Імпэрыі, толькі лішні раз даводзіць імпэрыялістычныя настроі польскай дэлегацыі. Расійска-украінская мірная дэлегацыя, аднак, ня можа не зьвярнуць увагі на тое, што пытаньне аб незалежнасьці ня ёсьць жаданьне Чырвонай савецкай арміі, а ёсьць бязумоўная воля ўсяго жыхарства Галіцыі, якая выявілася нават у заявах тых політычных партый, якія стаяць па сваім соцыяльна-політычным сьветапаглядзе значна бліжэй да Польшчы, чым да сучаснай Расіі і Украіны. Расійска-украінская мірная дэлегацыя прымае да ведама, што Польшча ўжо прызнала незалежнасьць Украіны, Літвы і Беларусі, але ня можа ня ўспомніць, што гэта прызнаньне незалежнасьці не пашкодзіла ў часе польскай окупацыі тэрорыстычнаму кіраваньню окупаванымі вобласьцямі праз камісараў, якія назначаліся з Варшавы. Яшчэ раз зазначаючы, што ні якіх рознамоўяў, за выключэньнем чыста формальных, паміж дэклярацыяй УсеЦВК і вынесеным на абмеркаваньне проектам прэлімінарнага міру няма, расійска-украінская мірная дэлегацыя зноў заяўляе, што яна гатова пакласьці ў аснову ўсіх далейшых абмеркаваньняў якраз гэту прапанову ЎсеЦВК і што з самага пачатку яна глядзела на свой проект, як на падставу далейшай працы. Ідучы на сустрач ужо зробленай прапанове польскай дэлегацыі, Савецка-украінская дэлегацыя згаджаецца на неадкладны пачатак працы камісіі фінансава-экономічнай і праўнай“ [1]). Па згодзе абодвух бакоў, старшынёй фінансава-экономічнай камісіі з польскага боку быў вызначан доктар Мечкоўскі, а з боку расійска-украінскага—Л. Абаленскі, пры экспэртах Боголюбове і Пічэце. У склад польскай камісіі ўваходзілі апрача старшыні яшчэ Кернік, Грабскі і цэлы шэраг экспэртаў. Старшынёй праўнай камісіі з польскага боку быў вызначан д-р Кернік, а з боку савецкага—Д. Мануільскі. У тэрыторыяльнай камісіі старшынёй быў С. Грабскі з боку польскага, а з боку расійска-украінскага—Д. Мануільскі. Пасьля вызначэньня складу камісій, праца ў камісіях зараз-жа пачалася і ў огуле ішла досыць хутка.

Па пытаньні аб тэрыторыяльных межах паміж Расіяй і Польшчай, расійска-украінская мірная дэлегацыя, бяручы на ўвагу этнографічны склад жыхарства і сваю заяву наконт тэрыторыяльных уступак, выказала свае прапановы наконт межаў паміж Беларусьсю і Польшчай.

---

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 4 кастрычніка.

Савецкая дэлегацыя прапанавала граніцу крыху на захад ад лініі Керзона. Аднак, польская дэлегацыя не згадзілася з гэтай прапановай на тых падставах, што жыхарства там па свайму этнографічнаму складу польскае. Цікава адзначыць, што вядомы профэсар Ромэр у 1919 годзе выдаў географічны атлас, дзе ўсе мясцовасьці, што палякі на конфэрэнцыі называлі польскімі, разглядаліся не як польскія, а беларускія, і польская нацыянальнасьць складала там толькі меншасьць. На пасяджэньні-ж тэрыторыяльнай камісіі профэсар Ромэр заявіў, што большасьць жыхарства палякі; гэта было дасягнута тым, што ўсіх беларусаў каталікоў палічылі за палякаў. Разглядаючы пытаньне аб межах, савецкая дэлегацыя прымала пад увагу расійска-літоўскі дагавор 12 ліпня 1920 году, у якім часткі тэрыторый Віленшчыны і Горадзеншчыны былі пакінуты за Літвой. І таму, згаджаючыся на тэрыторыяльныя ўступкі, савецкая дэлегацыя запрапанавала, каб пытаньне аб тэрыторыі, на якую заяўляюць прэтэнзію палякі і якая юрыдычна лічыцца за літоўцамі, было асобна вырашана палякамі супольна з літоўцамі. Уступаючы Польскай Рэспублікі частку тэрыторыі, заселенай палякамі, савецкая дэлегацыя выявіла сваё імкненьне да міру ў самым бліжэйшым часе.

Фінансава-экономічная камісія разглядала пытаньні наконт страт па вядзеньні вайны і абаюднага адмаўленьня ад звароту гэтых страт, а таксама пытаньні ліквідацыйнага характару і наконт заключэньня гандлёвай, санітарнай ды іншых конвэнцый. Адным з галоўных пытаньняў, якое разглядала фінансава-экономічная камісія і якое выклікала шмат гутарак і спрэчак, было пытаньне пра залаты фонд дзяржаўнага банку былой Расійскай Імпэрыі, на частку якога палякі заяўлялі свае прэтэнзіі. Свае прэтэнзіі польская дэлегацыя грунтавала на тым, што польская народная гаспадарка ня была дэфіцытнай і што, значыцца, дзяржаўны залаты фонд павялічваўся пры актыўным удзеле і польскай тэрыторыі. Расійская экспэртыза даказала адваротнае і проці гэтых довадаў па сутнасьці нельга было рэальна спрачацца. Польская дэлегацыя дамагалася свайго, спасылаючыся на тое, што іншыя новыя рэспублікі, якія пасьпелі ўжо заключыць з Савецкай Расіяй мір, атрымалі пэўную колькасьць золата. Урэшце, савецкая дэлегацыя, не жадаючы зацягваць мірныя перамовы, згадзілася прызнаць права Польшчы на атрыманьне часткі залатога фонду. Аднак, калі польская дэлегацыя заявіла прэтэнзію на занадта вялікую частку залатога фонду, дык савецкая дэлегацыя адхіліла такое дамаганьне і нават была гатова спыніць перамовы. Становішча моцна напружвалася. Гэта добра разумелі і самі палякі, якія ведалі, што савецкая дэлегацыя рыхтуецца да ад'езду. Пытаньне вырашылася тым, што старшыні абедзьвюх дэлегацый рашылі прынцыпова прызнаць права Польшчы на частку залатога фонду, але згадзіліся ня фіксаваць гэтай сумы, лічачы, што сума гэта будзе вызначана пры канчатковым заключэньні сталага мірнага дагавору. Толькі дзякуючы

такой фармулёўцы мірныя перамовы ня былі сарваны прэтэнзіямі палякаў. Савецкая дэлегацыя, выяўляючы ўступчывасьць ва ўсіх іншых пытаньнях, у пытаньні аб залатым фондзе аказалася вельмі ўпартай. Цьвёрдасьць позыцыі савецкай дэлегацыі палякі добра зразумелі, і польская дэлегацыя знайшла магчымым ня ставіць так востра пытаньне аб залатым фондзе.

У тэй-жа камісіі ўзьніклі рознамоўі з поваду вымаганьняў палякаў наконт рээвакуацыі ўсіх ваенных трофэяў і культурных каштоўнасьцяй, вывезеных з Польшчы, ня лічачыся з тым, пацерпяць ад гэтага расійскія галерэі і кнігасховы ці не. Польская экспэртыза будавала свае вымаганьні на былых міжнародных прэтэндэнтах, пачынаючы з 1815 году, калі пасьля Венскага конгрэсу Францыя змушана была вярнуць вывезеныя з розных дзяржаў культурныя каштоўнасьці. У адказ на гэтыя вымаганьні савецкая экспэртыза зазначыла, што фактычна шмат якія ўмовы мірных дагавораў аб вывазе культурных каштоўнасьцяй ня выконваліся і што культурныя каштоўнасьці зьяўляюцца помнікамі не нацыянальнага, а агульначалавечага значэньня, што ад руйнаваньня карцінных галярэй, бібліотэк і музэяў вельмі многа страціць сусьветная культура, бо будуць разьяднаны культурныя каштоўнасьці аднаго характару. І таму экспэртыза савецкай мірнай дэлегацыі лічыла, што культурныя каштоўнасьці, якія ўжо зрасьліся з непасрэдна расійскімі культурнымі каштоўнасьцямі, павінны застацца там, дзе яны цяпер знаходзяцца, тым больш, што кожны, хто жадае займацца тым або іншым пытаньнем, для якога неабходны адпаведныя матэрыялы, будзе мець поўную магчымасьць карыстацца тым, што яму патрэбна. Польская дэлегацыя не згадзілася з поглядамі савецкай экспэртызы і як раней далей дамагалася свайго.

Ня гледзячы на тое, што праца ўсіх камісій ішла досыць хутка і камісіі працавалі з самай раніцы да позьняй ночы, усё-ж не ўдалося падпісаць прэлімінарны мірны дагавор у тэрмін, вызначаны старшынямі абедзьвюх дэлегацый. Выявілася, што мірны дагавор будзе складзен і падпісан не пазьней 12 кастрычніка 1920 году.

У гэты дзень адбывалася ўрачыстае пасяджэньне абедзьвюх дэлегацый пры поўным складзе яе членаў. Паміж іншым, у канцы працы дэлегацыі прымаў удзел І. С. Кіров, які перад гэтым прыехаў з Каўказу. Старшыні абедзьвюх дэлегацый абмяняліся прывітальнымі прамовамі і выказалі здаволеньне з поваду заключэньня міру „без пераможцаў і пераможаных“, міру, які грунтуецца на рэальных інтарэсах абодвух бакоў. Абодва старшыні выказвалі пэўнасьць у тым, што гэты мірны дагавор, пры добрым жаданьні абодвух бакоў, будзе падставай для заключэньня сталага мірнага дагавору, пасьля якога павінны наладзіцца нормальныя адносіны паміж РСФСР і Польшчай. Пасьля гэтага быў прачытан дагавор на расійскай і польскай мовах, а затым усе члены дэлегацый

падпісалі дагавор. Гэтым і скончылася ўрачыстае пасяджэньне 12 кастрычніка 1920 г.[1]).

На ўрачыстым пасяджэньні 12 кастрычніка былі падпісаны ўмовы замірэньня і прэлімінарнага міру паміж РСФСР і УССР, з аднаго боку і Польскай Рэспублікай—з другога. Усяго ў дагаворы 18 пунктаў. Абодва бакі прызнавалі незалежнасьць Украіны і Беларусі, а таксама згаджаліся і пастанаўлялі, што ўсходняй граніцай Польшчы, г. зн. граніцай паміж Украінай і Беларусьсю, з аднаго боку, і Польшчай—з другога, была лінія, якая пачыналася па рацэ Заходняй Дзьвіне ад граніцы Расіі з Латвіяй да пункту, дзе граніца былой Віленскай губэрні сходзіцца з граніцай былой Віцебскай губэрні. Далей, па граніцы былой Віленскай і Віцебскай губэрняў да вёскі і чыгуначнай станцыі Арэхава, якія застаюцца на польскім баку; потым зноў уздоўж усходняй граніцы былой Віленскай губэрні да пункту, дзе сустракаюцца паветы Дзьвінскі, Лепельскі і Барысаўскі, ад гэтага, пункту да вёскі Малая Чарніца, пакідаючы апошнюю на баку Савецкай Беларусі, адгэтуль на паўднёвы захад, праз сярэдзіну Возера, па рацэ Бярэзіне да вёскі Зарэчыцк, якая застаецца на баку БССР. Затым на паўднёвы захад да ракі Вяльлі, да пункту на ўсход ад Даўгінава, далей па рацэ Вяльлі да тракту на поўдзень ад Даўгінава, далей на поўдзень да ракі Ільлі, уздоўж ракі Ільлі да злучэньня з ракой Рыпчанка, прычым мястэчка Ільля застаецца на баку Польшчы; далей па рацэ Рыпчанцы на поўдзень да чыгуначнай станцыі Радашковічы, прычым станцыя і мястэчка застаюцца на баку БССР; далей на ўсход ад Ракава, Волма і Рубяжэвічы да чыгункі Менск—Баранавічы каля Коласава, якое застаецца на баку Польшчы; далей на поўдзень да сярэдзіны гасьцінцу з Несьвіжу на Цімкавічы, потым на поўдзень да сярэдзіны гасьцінцу з Клецку ў Цімкавічы, далей на поўдзень на Маскоўска-Варшаўскую шасу, перацінаючы яе на захад ад Піліпавічаў; далей нацянькі да ракі Лань, каля вёскі Чудзіна, пакідаючы яе на баку Польшчы, далей па рацэ Лань да ракі Прыпяць, потым на ўсход па рацэ Прыпяць на працягу 7 кілёмэтраў, адтуль на поўдзень да ракі Сьцьвіга да таго месца ракі, дзе яна робіць луку на захад, потым па рацэ Сьцьвіга да пункту, у якім гэта рака перасякае граніцу былой Менскай і Валынскай губэрняў, адкуль па граніцы гэтых губэрняў ідзе да перасячэньня чыгункі на захад ад станцыі Ахотнікава і мястэчка Ракітна. Так вызначалася тэрыторыяльная граніца паміж Беларусьсю і Польшчай. Што-ж датычыць граніцы паміж Украінай і Польшчай, дык яна праходзіла ад станцыі Ахотнікава і мястэчка Ракітна на поўдзень па рэчцы Льва да яе пачатку і адтуль да таго месца, дзе рака Корчыц упадае ў раку Случ, потым уверх па рацэ Корчыц, пакідаючы мястэчка Корэц на баку Польшчы, далей на паўднёвы захад, пакідаючы Кілікіеў на баку Савецкай Украіны, да Міляціна, які застаецца

[1]) Стэнографічная справаздача пасяджэньня 12 кастрычніка.

на баку Польшчы; затым на поўдзень, перасякаючы чыгунку Роўна—Шапятоўка і раку Горань да ракі Вяльлі, прычым горад Астрог застаецца на баку Польшчы; далей уверх па рацэ Вяльлі да Новага Ставу, які застаецца на баку Савецкай Украіны, адтуль на поўдзень, перасякаючы раку Горань каля Ўланаўцаў, пакідаючы гэту вёску на баку Польшчы, і потым па рацэ Збруч, пакідаючы вёску Белазёрку на баку Польшчы; далей уздоўж ракі Збруч да таго месца, дзе яна ўпадае ў раку Дняпро [1]).

Расія і Украіна адмовіліся ад усякіх правоў на землі на захад ад гэтай граніцы. Са свайго боку Польшча адмовілася на карысьць Украіны і Беларусі ад якіх-бы то ні было прэтэнзій на землі на ўсход ад гэтай граніцы. Урэшце абодва бакі прышлі да згоды, што пытаньні аб спрэчных паміж Польшчай і Літвой землях павінны быць выражаны супольна Польшчай і Літвой. Гэты дадатак трэба было зрабіць, прымаючы пад увагу літоўска-расійскі дагавор ад 12 ліпня 1920 году [2]). Абодва бакі абавязаліся паважаць узаемны сувэрэнітэт, ня ўмешвацца ва ўнутраныя справы другога боку, не дапускаць ніякіх арганізацый, якія маюць на мэце зьнішчэньне дзяржаўнага і грамадзкага ладу другога боку, або арганізацый, якія рыхтуюць замах на тэрыторыяльную цэласьць, а таксама арганізацый, якія надаюць сабе ролю ўраду другога боку [3]). Абодва бакі абавязаліся ўнесьці ў мірны дагавор пастанову аб вольным выбары савецкага, або польскага грамадзянства [4]). Абодва бакі адмаўляліся ад звароту сваіх ваенных выдаткаў і бралі на сябе абавязацельствы ўключыць у мірны дагавор палажэньні наконт ваеннапалонных і наконт сапраўдных выдаткаў на ўтрыманьне іх [5]). Абодва бакі абавязаліся ўключыць у мірны дагавор пастанову, якая забясьпечвае асобам польскай нацыянальнасьці ў Расіі і Украіне ўсе правы вольнага разьвіцьця культуры і мовы і выкананьня рэлігійных абрадаў, якімі будуць карыстацца асобы расійскай і украінскай нацыянальнасьці ў Польшчы, а з другога боку—асобам расійскай і украінскай нацыянальнасьцяй у Польшчы ўсе тыя правы, якія забясьпечваюць вольнае разьвіцьцё культуры і мовы і выкананьня рэлігійных абрадаў, якімі будуць карыстацца асобы польскай нацыянальнасьці ў Расіі і Украіне [6]). Абодва бакі заяўлялі, што з ранейшай прыналежнасьці часткі зямель Польскай Рэспублікі да былой Расійскай Імпэрыі ня вынікае для Польшчы ніякіх абавязацельстваў. Абодва бакі заяўлялі, што яны адмаўляюцца ад якіх-бы то ні было правоў на дзяржаўную маемасьць, зьвязаную з тэрыторыяй

[1]) „Сборник действующих договоров, соглашений и конвенций", вып. I, Петраград, 1922 г., № 14, арт. 1.

[2]) „Сборник", № 14, арт. 1.

[3]) „Сборник", № 14, арт. 2.

[4]) „Сборник", № 14, арт. 3

[5]) „Сборник", № 14, арт. 5 і 6.

[6]) „Сборник", № 14, арт. 4.

другога боку. Не вызначаючы сумы залатога фонду, у дагаворы ўсё-ж было сказана, што пры ўзаемных разрахунках і ліквідацыі будзе прыняты пад увагу актыўны ўдзел земляў Польскай рэспублікі ў гаспадарчым жыцьці былой Расійскай Імпэрыі. Дэталізацыя гэтага артыкулу павінна быць зроблена пры заключэньні мірнага дагавору. Абодва бакі абавязаліся ўключыць у мірны дагавор пастанову наконт рээвакуацыі рухомай маемасьці, у натуры або ў адпаведным эквіваленце, вывезенай з тэрыторыі Польшчы пачынаючы з 1 жніўня 1914 году, за выключэньнем ваеннай здабычы. Апрача гэтага, у прэлімінарным мірным дагаворы было адзначана, што будзе ўстаноўлена абавязацельства вярнуць Польшчы архівы, бібліотэкі, рэчы мастацтва, ваенна-гістарычныя трафэі, помнікі старасьветчыны ды іншыя рэчы культурнага багацьця, вывезеныя з Польшчы ў Расію з часоў падзелу Польшчы. У дагаворы было адзначана, што ў канчатковы мірны дагавор будзе ўнесена ўзаемнае рэгуляваньне прэтэнзій фізычных і юрыдычных асоб абодвых бакоў, прэтэнзій да ўраду і ўстаноў другога боку, узьнікшых да моманту падпісаньня дагавору. Урэшце, у дагаворы было зазначана, што ў канчатковым мірным дагаворы будзе ўстаноўлена абавязацельства Расіі і Украіны прызнаць за Польшчай і яе грамадзянамі найвялікшую задаволенасьць у справе рэстытуцыі маемасьці і звароту стратаў у пэрыяд рэволюцыі і грамадзянскай вайны ў Расіі і Украіне [1]). Абодва бакі згадзіліся ўключыць у мірны дагавор палажэньне аб транзіце для Расіі і Украіны праз польскую тэрыторыю і для Польшчы праз тэрыторыю Расіі і Украіны [2]). Урэшце, абодва бакі абавязаліся зараз-жа пасьля падпісаньня мірнага дагавору распачаць перамовы аб конвэнцыях гандлю і судаходзтва, санітарнай, чыгуначных зносін і паштова-тэлеграфнай, а таксама аб компэнсацыйным тавараабмене [3]). Вось якія былі ўмовы прэлімінарнага мірнага дагавору, якія павінны былі зьявіцца падставай мірнага дагавору паміж Польшчай, з аднаго боку і Расіяй і Украінай— з другога. Прэлімінарны Рыскі мір спыніў крывавую вайну паміж Расіяй і Польшчай. Гэты мір меў аграмадныя політычныя вынікі, бо ён даў магчымасьць Савецкім Рэспублікам распачаць упартую барацьбу з Урангелем, які значна прасунуўся на поўнач у кірунку на Харкаў. Мір з Польшчай быў пачаткам паражэньня Урангеля, войска якога змушана было адступаць усё далей і далей на поўдзень, пакуль пад напорам Чырвонай арміі ня прышлося зусім пакінуць Крым. Рыскі мір выявіў добрую волю і шчырае жаданьне савецкага ўраду прыйсьці да згоды. Савецкі ўрад зрабіў палякам значныя ўступкі ў тэрыторыяльных пытаньнях, дзякуючы чаму частка Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны з беларускім і украінскім жыхарствам адыйшлі пад Польшчу. Бязумоўна,

[1]) „Сборник", № 14, арт. 9.
[2]) „Сборник", № 14, арт. 12.
[3]) „Сборник", № 14, арт. 16.

расійска-украінская дэлегацыя адначасна з гэтым павінна была дабіцца гарантыі з боку польскага ўраду на права нацыянальна-культурнага самавызначэньня для беларусоў і украінцаў. Пры заключэньні мірнага дагавору польская дэлегацыя выявіла ў гэтай справе чыста-слоўны лібэралізм. Ён дайшоў нават да таго, што профэсар Грабскі заявіў, што з боку польскага ўраду ня будзе ніякіх перашкодаў да таго, каб украінскае прымежнае жыхарства, жывучы каля Пачаеўскай Лаўры, магло свабодна пераходзіць на тэрыторыю Польскай Рэспублікі для выкананьня рэлігійнага культу. Гэта заява проф. Грабскага, падмацованая старшынёй польскай камісіі, ёсьць у паперах дэлегацыі.

Рыскі мір спыніў польска-савецкую вайну. Абодвы бакі распачалі ліквідацыю ваенных фронтаў, і праз нейкі час распачаліся перамовы ў Рызе, якія закончыліся сталым мірным дагаворам паміж Расіяй і Украінай з аднаго боку і Польшчай—з другога. Дагавор быў падпісан 18 сакавіка 1921 году, праз некалькі дзён пасьля Кранштадзкага паўстаньня. Складаньне мірнага дагавору патрабавала з боку дэлегацый абодвых бакоў вялікага напружаньня энэргіі. Усе асноўныя артыкулы прэлімінарнага дагавору набылі поўнае тлумачэньне і акрэсьленасьць. Расійскі і Украінскі ўрады, заключыўшы мірны дагавор, выканалі ўсе абавязацельствы, якія яны ўзялі на сябе, заключаючы прэлімінарны мірны дагавор. Здавалася-б, пасьля мірнага дагавору, пры добрай волі польскага ўраду, павінна была распачацца новая эра ў савецка-польскіх адносінах. Але, на жаль, Рыскі мірны дагавор не зрабіўся падставай для разьвіцьця мірных адносін, і ініцыятыва варожых адносін, выяўленых да РСФСР Украіны і Беларусі з боку Польшчы, належыла Польскай Рэспубліцы. Досьледы гэтых адносін складаюць самастойную задачу.

# СЯЛЯНСТВА ВІЦЕБСКАЙ І МАГІЛЕЎСКАЙ ГУБЭРАНЬ У ПАЎСТАНЬНІ 1863 ГОДУ

**Д. Васілеўскі**

Гістарычныя здарэньні 1863 г. пакінулі на Беларусі столькі паданьняў, песьняў, прыказак, жартаўлівых прыпевак пра пана-паўстанца, што толькі вайна 1914 г. адсунула іх у бок забыцьця і накіравала народную творчасьць у бок прысвойваньня сучасных падзей. У мове сялянства Віцебшчыны і Магілеўшчыны, у губэрскіх межах, прыгоннае жыцьцё пад панамі, спатканьне з імі ў бойках 1863 г.—адзначыліся такімі словамі: „Панская галава, панскі розум, панская павадка, панская ласка“ і г. д., як блізка-значнікі блазноцтва, двудушнасьці і дуронасьці.

Аграрная рэволюцыя 1917 г. і польская окупацыя надалі гэтым азначэньням, паданьням новую моц жывучасьці і паверку правільнасьці. Успаміны дзядоў аб 1863 г., паданьні аб паўстаньні зноў занялі віднае месца ў вуснай творчасьці вёскі і настойна дамагаліся ўвагі дасьледчыкаў.

Дагэтуль удзел сялянства ў паўстаньні 1863 г. мала дасьледваны. Цёмнае сялянства не пакінула нам сваіх успамінаў у друку ,і ў архівах. Архівы выказваюць пункт погляду, тлумачэньне здарэньняў царскім чыноўнікам і паном-паўстанцам. Польскія і расійскія буржуазныя гісторыкі высьвятлялі падзеі 1863 г. на падставе гэткіх архіўных матэрыялаў. Сяляне ў гэтых матэрыялах праходзяць маўклівымі постацямі. Расійскія гісторыкі прабавалі залічыць беларускага селяніна ў вартаўнікі царскага самаўладзтва ў „Западно-русским крае“, але недаўменна змоўклі: Калі „на Магілеўшчыне пажар бунту згас, будучы затоплены ў масе рускага (беларускага) насельніцтва“ [1]), то на Горадзеншчыне таксама разьліваліся ў вясковым моры атрады царскага войска. Сорамна ў такіх абставінах лічыць сялянства цалкам за апірышча царскага самаўладзтва.

Польскім гісторыкам гарачыня няўдачы паўстаньня перашкаджала бесстароньняму падыходу да выўчэньня здарэньняў 1863 г. У іх пісаньнях заўсёды адчуваецца крыўда на „хлопа“, „зрадцу айчызны“, які сапсаваў пану добра наладжаную ігру. З другога бока, удзел сялянства ў паўстаньні, спароджаныя гэтым надзеі, хуткая згода цара і пана, агульны іх уціск селяніна—зрабілі моцны ўплыў на сьвядомасьць вёскі. Сяляне заўважылі, як хутка пан і цар памірыліся за кошт мужыка. У вёсцы

1) Вестник Западной России, т. I, ст. 88.

радзілася патрэба ўявіць сабе гэткае гістарычнае „дзіва“ і растлумачыць другім, за што змагаліся і клалі без пары свае галовы тыя сяляне, што з голымі рукамі лезьлі лавіць па лясох узброенага пана. І вось па вёсках пайшлі паданьні, легенды і песьні.

Культурная прорва, якая ляжала паміж панам-гісторыкам і селянінам не давала магчымасьці паразуменьня, і таму расійская буржуазная навука не магла добра растлумачыць паводзін селяніна, які лавіў пана-паўстанца і адначасна біў другога пана: царскага чыноўніка, ці афіцэра-замірыцеля. Прабавалі гісторыкі сьведчыць, што селянін змагаўся за цара, але саромліва замаўкалі, бо пад кіраўніцтвам Каліноўскага сяляне вельмі ахвотна біліся з царскім войскам. Дасюль гэтыя сялянскія невядомыя могілкі стаялі пытальнікам на гістарычным полі, неаплаканыя, неапетыя, нявысьветленыя.

Панскім нябожчыкам лепш пашанцавала. Іх сьмяротныя мукі былі аплаканы прыгожымі паненкамі, млявымі панямі, апеты палкімі поэтамі і бліскуча-белымі ксяндзамі. На іх могілках яшчэ ў часы царызму за нач ўзрасталі цудоўныя кветкі з панскіх цяпліц, уставалі з кветак мармуровыя помнікі. Іх баяўся і з імі змагаўся царскі ўрад. Падзеямі паўстанцаў ганарыцца, на іх заветах выхоўваецца польская шляхецкая моладзь. Аб іх вялікіх і малых учынках пісаліся і пішуцца кнігі.

Могілкі беларускіх сялян даўно зраўняліся з зямлёй і чакалі таго часу, калі працоўны растлумачыць усім, за што яны паляглі.

Аршанскае Акруговае Таварыства Краязнаўства пачало зьбіраць запісы паданьняў аб паўстаньні 1863 г. ў межах былых Віцебскай і Магілеўскай губ. За адсутнасьцю пісьмовых сьведчаньняў сялянства аб іх надзеях, пачуцьцях у часы паўстаньня—запісы народных паданьняў аб паўстаньні маюць значэньне першарадных крыніц, а высьвятленьне гэтых паданьняў па архіўных матэрыялах дае магчымасьць выявіць настроі вёскі, маёнтка, селяніна да пана-паўстанца і растлумачыць незразумелыя паводзіны сялянства ў часы паўстаньня. Запісы праводзіліся ў межах Полацкай, Віцебскай і Аршанскай акруг.

Паверка вясковых паданьняў па архіўных матэрыялах упэўніла нас у тым, што памяць народу досыць ясна захавала ход падзей у межах сучаснае Аршаншчыны, а ў адносінах сялян да пана-паўстанца была пэўная законамернасьць, якая нарадзілася з экономічных адносін вёскі і маёнтку таго часу.

Усе запісы паданьняў сьведчаць аб дужа вострых адносінах сялянства да паноў і панскіх паслугачоў. Клясавае змаганьне паміж сялянамі і аграрамі ішло вельмі горача і толькі цяжар панска-царскага самаўладзтва прыціскаў гэтае змаганьне і заганяў яго ў вёскі. Падпальваньне панскіх маёнткаў, забойства паноў, панскіх войтаў і старастаў, арандатараў панскіх фальваркаў было бытавой зьявай. Прыгоннае жыцьцё прымушала селяніна замыкацца ў сябе, ня быць дужа адкрытым у сваіх

думках і глыбока хаваць свае надзеі. І вось па сканчэньні паўстаньня, па скасаваньні прыгону гэтыя надзеі, пачуцьці селяніна выявіліся ў паданьнях, легендах, песьнях аб прыгонным жыцьці і аб першым адкрытым змаганьні з панам за зямлю ў 1863 г.

Экономічны стан вёскі быў зусім дрэнны. Прыгон цягнуўся 5—6 дзён на тыдзень. „Працуй ад зраньня да зьмярканьня на сваіх харчах". Сваю работу селянін мог спраўляць толькі ноччу, пры месяцы, ды ў сьвяты, урабл ялі зямлю абы як, каб толькі хутчэй. Ад гэтага ўраджаі былі дрэнныя. Чыстага хлеба вёска ня ведала. Елі заўсёды „паловы" хлеб з нявеянага жыта, зьбіралі лебяду, дзягель, бабоўнік,—варылі ды елі. Паны вялі невялікую ўласную гаспадарку, а большасьць фальваркаў здавалі ў арэнду шляхцічам, латышам і немцам. Арандатары імкнуліся выцісьнуць як мага больш прыбытку з прыгонае вёскі. Падаткі расьлі, як грыбы ў мачлівую восень. Ня можна было заводзіць ніякіх навін у гаспадарцы і сялібе. Захацеў злажыць комін, вывесьці яго на страху,—плаці падымшчыну, прарэзаў у хаце вокны,—плаці паваконшчыну. За ўсё плаці, а ўзяць ня было адкуль. Вось селянін і стараўся выкруціцца ў сваім жыцьці так, каб менш плаціць. Будаваў курныя хаткі з адным задзьвіжным вакенцам у хлеў, так і жылі ў цемнаце, гаркаце. Ня жылі, а гнілі" (Запісана ад сялянкі Насты Сьцяпанавай, Новае Сяло, Бешанкаўскага раёну).

На прыгон ганялі цяжарных жанчын, якія радзілі ў полі на панскай рабоце. Дзеці мерлі, як мухі ўвосень, ад недагляду. Адна радасьць—гарэлка ў карчме. Пілі, гулялі так, што за вечар стаптывалі ў вакрыўкі трое пар лапцей. Пелі: „шнітка—матка, Дзягіль—бацька". Зусім натуральна, што пры такім жыцьці вёска марыла аб волі і ваража паглядала на маёнтак, а паны гулялі, балявалі і гвалцілі вясковых дзяўчат ды маладзіц. Падпанкі тут часта абганялі паноў і здаецца, гэта начная павіннасьць цяжэй за ўсё клалася на душу селяніна. У пасьляпрыгоннай прыпеўцы маладзіца ў радасьці пяе:

„Эх, ты, маць, мая матухна,
Калышы маё дзіцятухна!
А маё да дзіця вольнае!
А ня зборна, ня прыгоннае"

(Крывое сяло, Беш. раёну).

Народ тупеў, марнеў ад непасільнай працы, выміраў ад пошасьці, вастрыў зубы на паноў. Кралі ў пана, хто што мог, толькі тым і мадзелі (Вёска Ліцьвіна, Ляднянскага раёну, Аршаншчына).

Шпаркае разьвіцьцё польскае і маскоўскае прамысловасьці выклікала барацьбу іх за беларускія рынкі. Польскі гандлёва-прамысловы капітал абапіраўся ў Беларусі на буйныя маёнткі і каталіцкія кляштары. Маскоўскі ўплыў прасачваўся праз урадовыя ўстановы ў гарадох і цэркві ды кляштары на вёсцы. Прыгонная гаспадарка затрымлівала разьвіцьцё прамысловасьці. Спробы беларускіх паноў утварыць цэлы шэраг фабрычных прадпрыемстваў на грунце працы прыгонных не ўдаліся і толькі

ўзбагацілі беларускую мову жартаўлівымі прыказкамі. Чуткі аб волі ўсё пашыраліся, асабліва пасьля няўдалай вайны пад Сэвастопалем. Адначасна з гэтым папаўзьлі, з вёскі ў вёску чуткі аб хуткім прыходзе палякаў, якія будуць забіраць зямлю і край наш пад сябе. Гэтыя чуткі палохалі вёску. Нікому не хацелася аддаваць палякам сваю зямлю. Але весткі аб волі агортвалі асалодай адзнаньне вёскі і яна марыла аб хуткім скасаваньні паншчыны. Ва ўсіх запісаных паданьнях сяляне аднагалосна адзначаюць кепскія адносіны паноў і сялян. „Кепска адносіліся паны да сялян, і калі парабак не выпаўняў абавязкаў, то каталі яго розгамі“ (зазначае селянін Нікіпар з вёскі Угалеўшчыны, Талачынскага раёну). „Такія зьбітыя сяляне жаліліся цару на паноў, а тут паслы Нямеччыны, Аўстрыі і Францыі прыехалі к цару і сказалі, што калі ён ня вызваліць сялян ад прыгону, дык яны пойдуць на яго вайной. Цар гэтага спужаўся і аслабадзіў сялян ад крэпасной няволі. Кожнаму селяніну пры гэтым павінна было даць па 6 р. грошы і па 20 дзесяцін зямлі. Паны гэтага не залюбілі, схаўрусіліся з палякамі, сталі рыхтавацца да паўстаньня. Палякаў паны падгаварвалі і казалі, што калі яны памогуць паном, то могуць узяць усю сваю зямлю назад“ (Запісана ў вёсцы Вугалёўшчына, Талачынскага раёну). „Мы жылі пад панамі, а зямля была за намі і калі пайшлі чуткі пра волю, то паны сталі зганяць нас з харошае зямлі і высяляць на няўдобіцу. Малыя вёскі зганялі ў адну вялікую вёску і садзілі на ляды, а чыстую пахату забіралі пад фальваркі“ (запісана ў вёсцы Новае Сяло, Бешанкоўскага раёну, ад М. Грыгорава). У гэтых запісах мы знаходзім і прастадушнае захадніцтва селяніна з Талачынскага раёну, і надзеі на атрыманьне зямлі і грошай праз царскі ўрад, і яснае адмежаваньне панства Беларусі ад этнографічных палякаў. Дзед з Новага Сяла ўжо зусім сьвядома тлумачыць паводзіны паноў перад воляй, зусім праўдзіва апавядае аб згоне дробных вёсак у адну і аб захопе панамі сялянскае зямлі. Ён сабе ўяўляе, што зямля належала за прыгонам ня пану, а сялянам. Але і той і другі селянін з Віцебскай і Магілеўскай губ. аднолькава адзначаюць імкненьне паноў забраць зямлю ў сялян. Свае „паны“ былі больш знаёмымі, чым невядомыя „палякі“, і прыходу палякаў вельмі баялася вёска. Пры такіх настроях вёскі і разуменьні паводзін панства вельмі цяжка было разьлічаць на дапамогу сялян у паўстаньні.

З лета 1862 году паны на ўсходзе Беларусі замітусіліся. Зьезды, сходкі, баляваньне паноў па маёнтках былі надзвычайныя. Усе дворныя рамесьнікі былі пастаўлены на выраб зброі. Кавалі стрэльбы, адлівалі кулі, набывалі порах. Ляскат ішоў ад панскіх кузьняў. Сялянам казалі, што паны зьбіраюцца паляваць на мядзьведзя. Вёска мала ў гэта верыла, чуткі аб прыходзе палякаў і французаў шырыліся, і сяляне пільна сачылі за панамі. Адносіны паноў да сялянства троху зьмяніліся ў гэтым годзе, і панства стала падбухторваць сялян да паўстаньня. Запісы

паданьняў з Талачынскага і Копыскага раёнаў Аршаншчыны проста сьведчаць: „паны сталі падкупляць за грошы сялян, каб яны ім памагалі ў паўстаньні“. (Вёска Вугалёўшыны, Талачынскага с.-с.). Але самыя паданьні слаба адбіваюць падрыхтоўчы рух панства да паўстаньня, затое тут вельмі красамоўны архіўныя матэрыялы. Так у Віцебскім Акруговым Архіве захавалася справа „Наряд № 505 Лепельского уездного Исправника секретным бумагам с 1861 по 1864 г.“. Гэтая справа вельмі красамоўна малюе зборы панства на паляваньне ў лясох Лепельшчыны. У чэрвені 1862 г. па ўсёй губ. пашыраліся білеты выйгрышнай пазыкі „лётарэя Фантова“. На білеце быў намалёваны аднагаловы арол—гэрб Польшчы, а пад ім польскі надпіс: „Лётарэя Фантова, 40 білетаў выйграе“, цана білету, а па подпісу былі намалёваны ўзброеныя пан і селянін. На грошы за праданыя білеты набывалі зброю к паходу“. („Наряд, страница 2-ая). Паны кінуліся працаваць у адкрытых імі па маёнтках сельскіх школах (тамсама, № 7). У траўні па шляхох Лепельшчыны закалясілі туркі, вэнгэрцы, сітнікі. Сяляне знаходзілі па дарогах брошуры на расійскай мове „Что нужно делать войску, что нужно делать духовенству“. Пад Чашнікамі на дарозе знойдзены „Песьни набожныя“, а ў мястэчку Уле, на беразе рэчкі, знойдзены кнігі на польскай, француская і лацінскай мове. У мястэчку па руках ходзіць па панскіх дварох „Гутарка старога дзеда“ (тамсама, № 18). Губэрская ўлада ў страху сакрэтна загадвае здабыць пашыраны па Віцебскай губ. маніфэст „О совершенной свободе селян с предоставлением им всей земли“. („Наряд“, адносьнік ад 9—V—18261 г., № 54). Аддаецца загад весьціназіраньне за нашэньнем польскіх нацыянальных вопратак і сымболяў. Паліцэйскія прыставы з прыемнасьцю даносяць Віцебскаму губарнатару, што бачылі тую ці іншую паненку ў касьцеле ў конфэдэратцы. Але гэта ўжо не здавальняе губэрскую ўладу. Навала нарастае. Маёнткі адкрыта рыхтуюцца да паўстаньня. У студзені 1863 г. губарнатар загадвае сачыць, абыскваць, арыштоўваць паноў, якія прымушаюць сялян маліцца за посьпех польскае зброі, агітуюць і падбіваюць іх да „беспорядков“ (тамсама, № 22). Губарнатарскі абежнік эпічна зазначае, што паны зьяжджаюццадля перамаўленьняў, маюць шмат зброі і пораху. У лютым г. г. было забаронена выдаваць білеты на набыцьцё пораху. Паліцыі загадваецца сачыць за (настаўнікамі з каталікоў, бо яны выхоўваюць вучняў у шкодным кірунку; тамсама, ст. 57). Узмацняецца патаемнае назіраньне за студэнтамі розных вузаў.

У сакавіку губарнатар пасылае спраўніку больш трывожнае паведамленьне, што „па губэрні разаслана адозва на расійскай мове аб падтрыманьні паўстанцаў за штампам і пячаткай „Русского Центрального комитета Земля и Воля“. Друкарня „Земли и Воли“. Загадваецца адшукаць, хто пашырае гэту адозву, адабраць і данесьці (стар. 63), але самае трывожнае для губарнатара паведамленьне, што „ў губэрні пашыраецца

пісьмовая адозва да сялян, якая заклікае іх паўстаць супроць паноў". Спраўнік пасьпяшаўся запэўніць, што такіх адозваў у павеце няма (71 ст.). Так паступова выяўляецца падрыхтоўка да барацьбы польскага і маскоўскага капіталаў за беларускі рынак. Струны клясавых супярэчнасьцяй дужа туга нацягнуліся, лопнуўшая струна парушала ўвесь ход жыцьця і выклікала на паверхню вострыя клясавыя змаганьні. Сяляне толькі пад уціскам царскае ўлады са злосьцю ў сэрцы рабілі выгляд згоды з панам, і губэрскія ўрадоўцы гэта добра разумелі. Вось чаму з абежнікаў Віцебскага губарнатара пра маніфэст аб аддачы сялянам усёй зямлі, пра адозву Цэнтральнага камітэту „Зямлі і Волі"—чуецца сапраўдны перапалох, апаска за жыцьцё і волю. Магілеўскі жандарскі штаб-афіцэр Кацэбу ў сваім рапарце начальніку краю зазначае: што „рахункаў сялян з панам, ня зусім прыемных для памешчыкаў, за мінулае прыгоннае жыцьцё было многа" (рапарт ад 20-X—1864 г. за № 461). На першых часох вёска моўчкі слухала ў карчме апавяданьні аб хуткім прыходзе палякаў. У карчме сяляне гаварылі ўсё, аб чым ведалі і думалі. Зразумела, што агенты паліцыі адсюль і зьбіралі свае першыя весткі аб панскім руху. Шынкары давалі знаць аб праездах паноў і аб падрыхтоўцы да паўстаньня (Наряд—83 ст.). Але хутка сяляне пачалі змагацца з панамі. Першымі павялі змаганьне з імі іхныя дворныя людзі—дваракі. Ужо ў красавіку дваракі займаюць варожую да паноў пазыцыю і даводзяць да ведама вайсковых у Леплі аб усіх іхных замерах. Згодна гэтых вестак, шэраг паноў было заарыштавана. З гэтых-жа паведамленьняў сялянства пачалі вызначацца і месцы фармаваньня паўстанцкіх атрадаў. Гэта былі буйныя маёнткі ў Віцебскай і Магілеўскай губ. Так, у Лепельскім павеце архіўная справа вызначае такія маёнткі, як месцы фармаваньня атрадаў: Белае—3910 дзесяцін, Арэхаўна—3734 дзесяціны, Іванск—3489 дзесяцін, Ушач—2744 дзесяціны, Павульле—1832 дз., Вікулінічы—1059 дз., Бешанковічы—15000 дзесяцін; у Аршанскай акрузе: Ліцьвінава—2300 дзесяцін, Дуброўна—18668 дзесяцін, Дрыбін—3223 дзесяціны, Ародзеж—3787 дз., Бабінавічы і Любавічы—14344 дз., Піорамонт—4029 дзесяцін, Пагосьцішча—869 дзесяцін, Сьлепцы—4389 дз., Худава, у Сеньнінскім павеце—4089 дзесяцін. У Магілеўшчыне: Булаты—1092 дзесяціны, Чарнаруччa—2200 дзесяцін, Франкулін—800 дзесяцін, Самсоны—2458 дзесяцін, Краснае, Чэрыкаўскага павету—1863 дзесяціны (Памятная кніжка Магілеўскай губ., том 3).

Малюнак рыхтаваньня і згуртаваньня вайсковых сіл аднолькавы па гэтых сумежных губэрнях. Усюль польскія паўстанцы абапіраюцца на буйныя маёнткі, як асяродкі ўплыву польскага прамысловага капіталу. Дробная шляхта гуртуецца каля такіх вялікіх асяродкаў паўстаньня. Дробныя маёнткі, фальваркі давалі ў атрады сваіх людзей. Гэта былі розныя войты, цівуны, лоўчыя, садоўнікі ды іншыя служачыя паноў. Бізуны і лазу іх вельмі добра ведалі ўсе прыгонныя вёскі. Ужо дзякуючы

аднаму гэтаму сялянства не магло ісьці поплеч з імі ў паўстаньні. К сярэдзіне красавіка паўстаньне яшчэ не пачыналася, а ўжо царская паліцыя сядзела па станах бяз душы і прасіла аб прысылцы салдат. Так прыстаў 2-га стану Лепельскага павету 21-га красавіка 1863 г. даносіў спраўніку: „што ў мястэчку Чашніках выявіўся надзвычайны рух паноў і шляхты. Яны ва ўсякі час дню і ночы едуць праз Чашнікі на Белае, Лепля і назад к Пышну і Пачаевічам“. Сялянства ціха чакала прыходу палякаў.

У ноч з 22 на 23 красавіка сформаваныя ў буйных маёнтках атрады вышлі „да лясу“, у паўстаньне. Паўстаньне ахапіла адначасна Лепельскі, Сеньненскі, Аршанскі, Горацкі ды іншыя паветы. Паўстанцамі быў захоплены горад Горкі і некаторыя валасныя праўленьні. Вясковая паліцыя раптам захварэла і схавалася. Настрой яе вельмі ярка адбіўся ў допісах дзелавода 3-га стану з мястэчка Ўшачы—спраўніку ў Леплі: „24/IV у маёнтку Заскарках аказалася 2 шайкі паўстанцаў, каля Янава і Бікуліч яны падзяліліся і пайшлі ў лес, адна па дарозе на Вушач, другая па Полацкай дарозе. Насельніцтва мястэчка і сумежных вёсак у перапудзе, частка пакінула хаты і схавалася, другая частка напагатове ўцякаць. Рабочыя на мосьце рэчкі Ушач кінулі работу і разьбегліся па хатах, паром ня ходзіць. Дзякуючы таму, што „мяцежнікі“ напалі на маёнтак Бікулічы, пана Косова, і забралі коні і быдла, гаспадары павыганялі быдла ў лясы і пахавалі коняй. Няма дзе дастаць фурманак для правозу войска, казакі выйшлі на Лепель. Спраўнік моцна захварэў, стан застаўся на дзелаводзе, але і яго схапіла удушша, баляць грудзі, калоціцца сэрца, так што па некалькі гадзін бывае ў няпрытомнасьці. Прымушаны кінуць стан, просіць прыслаць іншага чыноўніка, а калі яму ня вераць, няхай прышлюць доктара“ (тамсама, ст. 113, адн. № 608). Такое „ўдушша“ было агульнае для вайсковае ўлады на ўсходзе Беларусі. Сяляне загналі свае статкі на „астравы“ амшар, спадзяючыся, што паны ня пойдуць на мхі і застануцца ў лесе, а палякі тымчасам пасунуцца далей.

Вялікае-ж было зьдзіўленьне і абурэньне сялян, калі, замест невядомых палякаў, яны сустрэлі знаёмых паноў і войтаў. Тут ужо сяляне ня ўцерпелі і кінуліся на іх з каламі. Так, партыю паўстанцаў, якая выехала з Іванску, сяляне пераасьледвалі аж да Паўльскага лесу і не затрымалі яе толькі затым, што яна была ўзброена і страляла ўсю дарогу, а сяляне былі ня ўзброены (тамсама, стар. 115). Другая шайка каля м-ку Белага была разьбіта і разагнана адразу сялянамі і, толькі злучыўшыся з іншымі паўстанцамі, змагла дайсьці да Губінскае карчмы, забраць два гарцы піва, кварту гарэлкі, заплаціўшы 8 кап., і схавацца ў лес маёнтку Белага. Тут ужо сяляне іх не змаглі знайсьці, але па сьлядох дазналіся, што паны паехалі на Полацк (тамсама, стар. 116—117). Такія паводзіны сялянства ўзьніклі самі сабой і ў Магілеўскай губэрні без падбухторваньня паліцыі, якая пагалоўна хварэла на жываты. Так, ужо 24-га красавіка 18 паноў забрана з дарогі сялянамі вёскі Ляхаўкі і прывезена

ў Воршу. Атрад паўстанцаў каля мястэчка Бешанковіч у гэты самы час быў пералоўлены сялянамі і дастаўлены ў Віцебск.

Некаторыя расійскія гісторыкі, асабліва першых гадоў па паўстаньні, звычайна высьмейвалі вайсковыя пляны паўстаньня. Гэтыя пляны прынята было лічыць фантастычнымі, але, калі ўзяць пад увагу колькасьць вайсковых сіл у Магілеўскай губ., іх раскіданасьць па ўсяму абшару губэрні і сілы паўстанцаў, дык выйдзе, што, пры самым нязначным спачуваньні сялянства, паўстаньне, бязумоўна, мела-б посьпех. Так, у Магілеўскай губэрні вайсковая сіла была раскідана: у Магілеве — батальён унутранай варты, сотня казакаў і тры роты салдат, у Княжыцах — адна рота, у Воршы—дзьве, Любавічах—адна, Рагачэве—тры роты, у Быхаве — дзьве, Сяньне — тры роты, Чэрыкаве — дзьве, Прапойску, Амсьціслаўлі і Гомелі—па адной роце, усяго ў Магілеўскай губ. царскага войска было 20 рот па 50—100 чал. у кожнай, так што царскага войска ў губэрні было ня больш 2000 чалавек. Апрача таго, было некалькі артылерыйскіх батарэй, якія былі раскіданы па ўсёй губэрні (Вестник Западной России, 1864 г. том I, ст. 89). Сілы паўстанцаў, паводле вылічэньня таго-ж самага аўтара, на Магілеўшчыне дасягалі 800 чалавек. Атрад Тапара—300 чалавек, атрад Касы—100 ч., Яна Пеховіча—50 ч., Косткі і Антонія—па 100 чал., атрад Даціславава—50 чал. і Анцыпы—30 чал. Гэтых сіл, з дадаткам спачуваючай шляхты, было досыць, каб разьбіць раскіданыя царскія сілы ў адзіночку. А што правадыры паўстаньня на Магілеўшчыне разьлічалі на спачуваньне і дапамогу сялянства, аб гэтым сьведчаць як іх прозьвішчы Тапор, Каса, Костка, Антоні, так і іх паводзіны ў стасунку да сялянства. Першы загад Тапара—Зьвірджжоўскага па Горацкаму атраду—гэта было абвешчаньне суровай кары за ўсякія гвалты, рабункі і свавольствы над насельніцтвам. І гэты загад сьвята выконваўся ва ўсёй Віцебскай і Магілеўскай губэрнях. Усе крыніцы, як архіўны матэрыял, так і вусныя паданьні, сьведчаць аб уважлівых адносінах паўстанцаў да сялян.

Ні паданьні, ні архіўныя матэрыялы ня сьведчаць аб тэрорыстычных актах паўстанцаў сярод сялянства. Таксама няма вестак аб якім-небудзь рабаваньні сялян паўстанцамі. Наадварот, паданьні і асобныя матэрыялы сьведчаць аб вельмі прыемных для сялянства адозвах і абяцанках. Уся зямля, якой карысталіся сяляне да паўстаньня, была абяцана сялянству за дапамогу паўстанцам. Было абвешчана скасаваньне акцызу, выкупных выплат і рэкруцкай павіннасьці. Абвяшчаўся безакцызны продаж гарэлкі, солі і вольная вайсковая служба ў сваім павеце. Ня гледзячы на ўсё гэта, збройны рух быў вельмі кароткі. З 5-га па 19-га траўня. За гэтыя два тыдні паўстанцы забралі места Горкі, мелі ўсяго 8 сутычак з царскімі войскамі і былі ў масе пералоўлены сялянамі ды здадзены ў рукі царскага ўраду. А тымчасам рамантычныя мары аб надзвычайных учынках паўстанцаў і вялікім спачуваньні тубыльнага

насельніцтва да Польшчы дасюль яшчэ не пакідаюць польскіх гісторыкаў. У 1920 годзе ў Варшаве была выдана невялічкая кніжачка Эдварда Мялішэўскага—„Рок 1863 на крэсах Магілеўскіх", якая знайшла сабе вялікае спачуваньне сярод польскіх вучаных. Так солідная часопісь польскае навукі, як „Квартальнік Гістарычны", у рэцэнзыі М. Дубецкага, зазначае: „Настроі палякаў над Віслай знаходзілі свой адгалосак сярод іх сваякоў над горным і па-загорным Дняпром, у ваяводзтве Амсьціслаўскім. *Вясковы люд* Смаленшчыну, *Магілеўскую губэрню,* якія былі ўтвораны з зямель першага падзелу, заўсёды называў *польскімі,* а свае Смаленскія ваколіцы—„забраным краем". Так моцна традыцыя і памяць народных мас! Царскі ўрад гвалтоўнымі мерамі задумаў сьцерці ўсякі *сьлед польскасьці,* але ён мог конфіскаваць маёнткі магнатаў, а перамагчы і зьнішчыць польскасьць ня здолеў. *Насельніцтва паўстала,* каб сваім аружным протэстам паказаць, дзе *паўночна-ўсходнія рубяжы* неразабранай *Польшчы.* Паўстаньне ўзьнікла, як духоўная патрэба *народу* сваім апошнім протэстам запісаць у бясьсьмертных падзеях: жывём" [1]).

Мы падалі такі доўгі выпіс з рэцэнзіі, каб паказаць, як мары, уласныя спачуваньні засланяюць польскім вучаным вочы на праўду. Рачаіснасьць была зусім не такая, і архіўныя матэрыялы ды паданьні сьведчаць аб адваротным. Ужо ў першы дзень паўстаньня на Магілеўшчыне пачаліся сутычкі паўстанцаў з сялянамі. Пры забраньні г. Бабінавічы атрад паручніка Будзіловіча быў сустрэчаны зьдзіўленьнем жыхарства: „якія-ж гэта палякі, гэта-ж нашы паны!". І калі атрад пакідаў горад, то па ім мяшчане адкрылі страляніну (Исторический Вестник 1902 г., том 9, уголок восстания). У гэты-ж дзень пры забраньні паўстанцамі Горак былі забіты жыхарамі Зарэцкай Слабады студэнты-агітатары, якія зьявіліся ў Слабаду, каб падбухторыць сялян памагчы паўстанцам. Мужчыны і бабы Зарэцкай Слабады з каламі сталі па рэчцы і ня пускалі паўстанцаў да сябе. 26-IV у маёнтку Пагосьцішчах пры дапамозе сялянства ліквідуецца атрад Будзіловіча: 21 паўстанец на чале з Будзіловічам узяты ў палон, забіта 6 чалавек паўстанцаў і 2 сялян. 30 красавіка здаецца перапалоханаму Чэрыкаўскаму спраўніку рэшта атраду Тапара ў ліку 120 асоб. Яны сьпяшаюцца здацца да першага, каб скарыстаць абвешчаную царскім урадам амністыю і не папасьціся ў рукі ўзварушанага і разьюшанага сялянства. У Рагачоўскім павеце пры актыўным удзеле і ўсебаковай дапамозе сялян хутка ліквідуецца атрад Анцыпы. Троху даўжэй трымаліся атрады, якія з'організаваліся ў Сеньненскім і на мяжы Магілеўскага і Аршанскага паветаў. Магілеўскі паўстанцкі атрад пад кіраўніцтвам Антонія Алендзкага павёў моцную агітацыю сярод сялянства за падтрыманьне паўстанцаў. У кожнай вёсцы Алендзкі склікаў сходы сялян і агітаваў сярод іх за паўстаньне. Яго прамовы, здаецца, павінны былі сустрэць найвялікшае спачуваньне сярод сялянства. Ён

[1]) Квартальнік Гістарычны, 1922 г., т. 36, ст. 210—211.

абвяшчаў аддачу сялянам у карыстаньне ўсяе зямлі, скасаваньне прыгону, абавязковай вайсковай павіннасьці, вялікіх царскіх падаткаў. Прамовы свае гаварыў ён на зразумелай сялянству мове. Паступова такія сходы сялянства праводзіліся ім ва ўсіх сустрэчных вёсках: Навасёлкі, Палыкавічы, Літвары, Дудаковічы, Варгуцеве, Філатаве, Кручы, Друцку, але спачуваньня і дапамогі ад сялян ён не атрымаў. Праўда, большая частка паданьняў, якія запісаны аб паўстаньні ў межах Талачынскага раёну, дагэтуль яшчэ ўспамінаюць аб прамовах і паводзінах правадыра гэтага атраду. Памяць аб вайсковых падзеях з атрадам Алендзкага дагэтуль яшчэ жыве ў межах Талачынскага раёну. І, нават, сілы яго атраду надта пераўвялічаны. Так, з запісу ў вёсцы Саколіна, Талачынскага раёну яго атрад налічае 250 чалавек. Паданьне, запісанае ў Талачыне, ужо налічае ў яго атрадзе 750 чалавек, а запіс у вёсцы Угалеўшчына лічыць ужо ў гэтым атрадзе 1000 палякаў. Праўда, паданьні зблыталі імя правадыра з паручнікам Корсакам, які быў у атрадзе. Асабліва яркімі фарбамі малюе паданьне апошняе змаганьне атраду Алендзкага з царскім войскам каля фольварку Антанова, Славенскага сельсавету 26 і 27 красавіка. Першая сутычка гэтага атраду з ротай Алексапольскага палка скончылася перамогай паўстанцаў. Паданьні так апавядаюць: „што тысяча паўстанцаў пад кіраўніцтвам пана Корсака разьбілі царскі атрад у 260 чалавек, пасеклі салдат на капусту, так што засталося ўсяго 7 чалавек, якія неяк дацягнуліся да Магілева. Адтуль прыслалі ўжо 5000 салдат. Пасьля першай перамогі палякі зрабілі гулянку, накупілі гарэлкі, піва, моцна заснулі ў сваім лягеры, у бару, на гарэ. Рускія салдаты, з дапамогай нейкай мясцовай жанчыны, абступілі ноччу лягер ды чакалі, калі паны па ўстаюць. Ужо стала ўсходзіць сонца, паны ўсё сьпяць. Тады салдаты надумаліся іх разбудзіць, паставілі духавую музыку і зайгралі, як толькі сонца ўзышло. Паўскаквалі палякі, а салдаты давай іх страляць. Ніводнага ня выпусьцілі жывога, пабілі ўсіх, застаўся толькі ранены кіраўнік „пан Корс“, у яго была адсечана рука. Многа труждаўся Корс, але нарэшце памёр, паклаў сваю галаву дарма“. (Запісана ў вёсцы Вугалёўшчына, Талачынскага раёну). Афіцыяльныя паперы аб гэтым сьведчаць так: „Рота Алексапольскага палка дагнала ў лесе каля мястэчка Славень і спаткала ва ўмацованым лагеры атрад паўстанцаў у 100 чалавек. У бойцы паўстанцы былі разьбіты, забіта 21 чалавек, а паранена 2, на месцы ўзята ў палон 99 чалавек, а пасьля сяляне вылавілі яшчэ 60 чалавек паўстанцаў. У лягеры быў забраны ўвесь абоз паўстанцаў (Матэрыялы аб паўстаньні на Магілеўшчыне польсэкцыі Інбелкульту). Паданьне, запісанае ў Талачыне, называе паручніка Корсака— панам Карскім і даводзіць, што ён меў маёнтак „у Манастырох“. Вялікае ўражаньне зрабіла на насельніцтва мястэчка Талачына партыя паўстанцаў і зброя, якую везьлі, адабраўшы ад паўстанцаў, праз Талачын. Забраную зброю везьлі на 7 фурманках, і вялікае зьдзіўленьне сярод насельніцтва

выклікала гармата, драўляная, абабітая жалезнымі абручамі. Народнае паданьне ў 10 раз павялічала сілы і страты паўстанцаў. Другое паданьне малюе сутычку казакаў з атрадам паручніка Жаброўскага—„У Бобрскіх лясох". Казакі абкружылі п'яных паўстанцаў на беразе рэчкі. Паны п'янствавалі, а частка з іх купалася ў рацэ. Казакі пачалі страляць і пазабралі ў палон голых паўстанцаў і ўвесь абоз (Запісана ў Талачыне). Тымчасам справа троху была іншая: атрад Косткі забраў у Канлохаўскай карчме бочку гарэлкі, а на другі дзень паўстанцы селі на беразе возера, каля вёскі Падберцы, і сталі адпачываць і выпіваць. Якраз у гэты час па іх пачала страляць праходзіўшая рота. Частка паўстанцаў сапраўды купалася ў возеры. Неспадзяваная страляніна распудзіла паўстанцаў, і яны паразьбегліся па лесе. Частка з іх была тут-жа злоўлена, таксама быў узяты ўвесь абоз, дзе аказалася трое сялян, якія былі наняты паўстанцамі з фурманкай па 30 кап. у дзень. („Вестник Западной России" 1864 г., том 3, ст. 150—170). Сялянства вельмі рупна лавіла паноў ня толькі ў лесе, але і па дарозе. Так, каля 1-га траўня сялянамі была вылаўлена партыя паўстанцаў у Высачанскім раёне каля паштовай станцыі Дыманова (Погребенки). Гэта партыя складалася з гімназістых і ўрадоўцаў Віцебскіх установ, яна пад кіраўніцтвам Юзэфа Сьліжаноўскага ішла на дапамогу партыі Будзіловіча, а ў гэты час атрад Будзіловіча быў ужо ліквідаваны (Матэрыялы Польсэкцыі Інбелкульту). У траўні жандарскі штаб-афіцэр з Магілева даносіў дэпартаманту паліцыі: „Сялянамі дастаўлена ў Магілеў 80 паноў, забраных з дарог губ., і 30 з маёнткаў". У гэтых паводзінах сялянства беларускіх зямель зусім не адчуваецца тэй прыхільнасьці да паўстаньня, аб якой дагэтуль мараць польскія гісторыкі і „Квартальнік Гістарычны". Ня было ў гэтыя-ж часы і моцнага ўплыву царскага ўраду на Магілеўшчыне. З пачатку паўстаньня царскі ўрад зьнік на вёсцы, тросься дзе-ні-дзе па мястэчках і ціха, пад аховай войска, шавяліўся па гарадох Беларусі. Дзьве варожыя спрадвеку клясы жыхарства адны змагаліся на полі бойкі. Калі прайшоў першы перапалох вясковага насельніцтва і ніхто ня ўбачыў прыходу польскіх палкоў, а толькі спаткалі пана ў лесе, то для сялян справа стала зусім яснай. Пан заклікае паляка забраць „*нашу зямлю*", а сьледам за панам ідзе царскі казак ці салдат і рабуе гаспадарку селяніна. Трэба бараніць сваю зямлю і ад пана і ад казака. Хутчэй паразганяць паноў, пакуль яны не прывялі палякаў і не забралі зямлі. Вёска дружна паўстала на абарону *сваёй зямлі* і пачала біць, у першую чаргу, шкаднейшага—пана, а пасьля—казака. Зноў выбухнула вайна за зямлю. Найбольш адважныя сяляне з каламі кінуліся на ўзброенага пана і пачалі вязаць яго тады, калі яшчэ ні царскага салдата, ні царскага ўрадоўца ня было на вёсцы. Упартая барацьба вёскі і маёнтку, мужыка і пана падагравалася ранейшымі спрэчкамі за зямлю. Селянін бараніў сваю зямлю і не хацеў аддаць яе палякам. Гэта скарыстаў царскі ўрад, ці найбольш здольны паліцэйскі

і з дапамогай сялянства ліквідаваў паўстаньне. Слой заможных сялян, дворных служачых спачатку прымаў некаторы ўдзел у паўстаньні, але, убачыўшы нездаволеньне ўсёй масы сялянства, пачаў адыходзіць ад паўстаньня і варочацца дамоў; ну, а без дапамогі сялянства на адных панох і шляхце паўстаньне трымацца не магло, бо гэта быў дужа малы слой насельніцтва Беларусі. У 1863 г., паводле вылічэньняў профэсара Доўнар-Запольскага, на 1000 насельніцтва Віцебшчыны дваран было—36,8, папоў усіх вызнаньняў—5,1, мяшчан, купцоў—144,1, сялян—781,4. На Магілеўшчыне паноў было—4,86 проц., духавенства—0,85 проц., мяшчан—14,03 проц., сялян—76,78 проц.; палякаў афіцыяльная статыстыка налічала ў 1863 г. па Віцебскай губэрні 5,3 проц., па Магілеўскай—2,8 проц. (Народное хозяйство Белоруссии, ст. 27—28). Стаўка на сялянства ў паўстаньні 1863 г. скончылася няўдачай. Узброенае паўстаньне хутка пагасла ў сырых імшарах усходу Беларусі. Перапалоханыя каламі мужыка паны-паўстанцы кідалі зброю і самі здаваліся ў рукі на сьмерць перапалоханых іх прыходам станавых прыставоў. Лепш паліцэйскі прыстаў, чым прыгонны селянін: усё-ж такі прыстаў свой чалавек, таксама пан, хаця і расіец. Але сялянства гэтым не здаволілася: калі няма пана ў лесе, то ён ёсьць у маёнтку і на яго трэба служыць, за яго зямлю трэба плаціць падаткі і, апрача таго, з-за яго непакойнага суседзтва заўсёды можна мець няпрыемнасьць і шкоду ад царскага ўраду, казака і войска. Трэба выкарчаваць панскую зграю з корнем, выкурыць іх з роднага гнязда. Сялянства ўзялося за паноў у маёнтках. У губэрні пачалі вывозіць паноў і іх сем'і з маёнткаў у гарады: зьвязвалі па пяцьшэсьць паноў, нагружалі на калёсы і везьлі ў горад, а паненак і паняй вялі нявязанымі. Гэта быў такі стыхійны вывад панскіх гнёзд, што царскі ўрад на першых часох нічога ня мог зрабіць, каб усьцішыць гэты народны рух. Запісанае ў вёсцы Кісялі, Ляднянскага раёну паданьне аб вывазе паноў з маёнтку ясна паказвае нам корані гэтага руху. На сялян быў зроблены накід—вазіць гной. Пара была жаркая: сваёй працы многа, і сяляне задумалі арыштаваць пана, як мяцежніка. Сяляне вёскі Кісялі зьявіліся да пана Тышкевіча ў маёнтак Кісялі, арыштавалі яго і адвезьлі ў горад Красны, у чужы павет, баючыся, каб у сваім павеце пана ня вызвалілі; і сяляне не памыліліся. Праз тыдзень у маёнтак зьявіўся паліцэйскі, усіх сялян склікалі на дворню, зачынілі ў сямейную на замок; на двор прывезьлі воз розаг і хацелі хлабасьцінай зьнімаць дазнаньне. Сяляне выкрышылі дзьверы і, апынуўшыся на волі, стойка заявілі, што катаваць сябе не дазволяць. Паліцэйскі зьняў дазнаньне на адкрытым месцы, прыгразіў сялянам, што яны будуць адказваць за арышт і зьдзекі над панам. Гэтым справа аб арышце пана скончылася, пан з-пад арышту не вярнуўся, сяляне *служыць прыгон перасталі* (запісана ў вёсцы Кісялі, Ляднянскага раёну). З гэтага запісу відаць, што галоўнай прычынай арышту пана было жаданьне сялян хутчэй вызваліцца ад *прыгонных*

*абавязкаў*. Сялянства так рупна ўзялося за арышт паноў, што Чэрыкаўскі спраўнік прасіў Магілеўскага губарнатара прыслаць вайсковую каманду для замірэньня сялян (Матэрыялы Польсэкцыі). Але царскі ўрад нічога ня мог зрабіць з усхваляванай вёскай. Толькі ўжо ў кастрычніку 1864 г. Магілеўскі жандарскі штаб-афіцэр пісаў начальніку краю: „агульна выяўляецца сярод сялянства ня толькі крайняя няразьвітасьць, а часамі некаторае распуцтва, як неабходны вынік былых смут, на працягу якіх сялянства грала такую значную ролю. У сялянства няма пашаны да праў уласнасьці, яны завальваюць рынкі гарадоў будаўнічым лесам з панскіх маёнткаў. Адным словам, мне здаецца, што ва ўсіх адносінах зараз выяўляецца настойная „неабходнасьць узяцца за сялян“ як найстражэй, для іх-жа карысьці, для моральнага і матэрыяльнага іх дабрабыту“ (рапарт галоўнаму начальніку Паўночна-Заходняга краю Магілеўскага Жандарскага штаб-афіцэра Кацэбу ад 20-Х—1864 г. за № 461, матэрыялы Інбелкульту). Толькі нязначная частка сялянскай інтэлігенцыі спачувала паўстаньню. Гэта былі валасныя пісары, вучнёўская моладзь і частка шляхты. У Віцебскім архіве захавалася пэўная частка архіўных матэрыялаў, якая сьведчыць аб гэтым спачуваньні. Так, каля 10 траўня 1863 г. начальнік Віцебскай губ. прапануе Лепельскаму земскаму спраўніку зараз-жа звольніць з пасады пісара Вульскай воласьці—Фэлікса Тапчэўскага і Красьненскай воласьці—Мікалая Тапчэўскага за выказанае імі спачуваньне паўстаньню [1]). Фэлікс Тапчэўскі быў вядомы пазьней беларускі пісьменьнік на Лепельшчыне—„Хвэлька з Руканіц“. Дарма сялянства вынасіла прыгаворы аб звароце на ранейшую пасаду свайго паважанага пісара. Царскі ўрад іх хадайніцтвы не здаволіў. Спатыкаліся і яшчэ сярод паўстанцаў асобы з сялянскага пахаджэньня, але гэта былі адзінкі. Так у рачаіснасьці малюецца „спачуваньне настроям палякаў на Вісьле“ сярод насельніцтва зямель па горнаму Дняпру. Але гістарычная праўда ня зусім даходзіць да польскіх гісторыкаў: і яны, не зважаючы на факты, дагэтуль яшчэ сьведчаць аб моцным спачуваньні, спрыяньні карэннага насельніцтва Беларусі іх плянам—захапіць пад Польшчу „Магілеўскія крэсы“.

У „Квартальніку Гістарычным“ п. М. Дубецкі ўпэўнена адзначае: „Расія добра ведала, што нават самыя найдалейшыя крэсы Жэчы Паспалітай заўсёды будуць цягнуць да Польшчы. Патрэбна было стварыць з тых зямель пустыню, каб на тым попелішчы прышчапіць расійскасьць“ (К. Г. т. 36, ст. 211 за 1922 г.). З паданых архіўных матэрыялаў і запісаных паданьняў аб 1863 г. мы бачылі, як тутэйшы селянін „цягнуў“ пана з яго лясоў і маёнткаў у турму. Толькі абарона іх царскім урадам перашкодзіла беларускаму сялянству ў 1863 г. зрабіць пустку з панскіх палацаў, каб раз назаўсёды вызваліцца ад чужаеда—пана і палюдзку вырашыць зямельнае пытаньне. Зусім дарма абураецца „Квартальнік Гістарычны“ на царскі ўрад: „урад гвалтоўнымі мерамі задумаў

[1]) Наряд 505 Леп. зем. спраўніка, стар. 87.

сьцерці ўсякі сьлед польскасьці. Спалены, зьнішчаны цэлы шэраг засьценкаў—Сянажаткі, Церцеж, а мяшканцы выселены ў Орэнбурскую і Пермскую губэрні за прыхільнасьць да паўстаньня“ (тамсама, ст. 211).

Архіўныя матэрыялы, якімі мы карысталіся, нічога ня кажуць аб спаленьні ды зьнішчэньні царскім урадам маёнткаў па Магілеўскай ці Віцебскай губэрні. Маёнткі заўсёды карысталіся дапамогай царскага ўраду ад сялянства, якое, праўда, імкнулася сьцерці іх з твару зямлі, але па соцыяльных, а не нацыянальных прычынах. Вёска падпальвала маёнтак, ня гледзячы на нацыянальнасьць яго гаспадара. Пробавалі вяскоўцы ў 1863 г. і вывозіць паноў і таксама ўсіх вызнаньняў, але паны аднолькава знаходзілі абарону царскага ўраду і былі вельмі ўдзячны яму за гэту абарону ад селяніна. Аб гэтым вельмі красамоўна сьведчаць „усепаданьнейшыя адрасы“ цару ад панства Беларускіх губэрань. Пад адным толькі адрасам Менскай губ. стаяла да 29-III—1864 г. 6265 панскіх подпісаў („Рок 1863 г. на Меншчыне“, ст. 161). Думаецца, што пад адрасамі цару ад сялян усяе Беларусі ня знойдзецца столькі ўласнаручных подпісаў, калі прыняць пад увагу, што за няпісьменных сялян падпісваліся валасныя пісары і старшыні з мэтай выслужыцца. Пану ня было дужа вялікай асабістай патрэбы лезьці цару ў вочы з падзякай датуль, пакуль ціха трымаў сябе прыгонны селянін. Толькі троху адведаўшы на ўласнай сьпіне кулака і кала селяніна, пан хуценька хлёпнуўся цару ў ногі з гарачай падзякай за ласку і паратунак.

Канчае п. Дубецкі сваю рэцэнзію вельмі паказальнымі словамі: „Гэта (заўсёдную прыхільнасьць магілеўца да Польшчы) варта ведаць ня толькі гісторыкам, але кніга павінна быць штуд'явана і тымі, хто трымае ў сваёй далоні сучасную дыплёматыку Польшчы“. („Кварт. Гістр.“, т. 36, ст. 212). Зараз „дыплёматыку Польшчы“ ткуць тыя-ж самыя рукі панства, што і ў 1922 г. Таму двойчы варта ім ведаць, як у рачаіснасьці „спачуваў“ беларускі селянін польскай справе ў 1863 г. і пазьней. Варта паслухаць праўду жыцьця і крыху паразумнець. Зараз пад царскую апеку ўжо пан не схаваецца.

Рух сялянства ў 1883 г. нарадзіўся на экономічным грунце, з клясавых узаемаадносін насельніцтва Беларусі. Працоўныя вёскі вобмацкам шукалі выхаду з цяжкага жыцьця, інстынктыўна трапілі на шлях аграрнае рэволюцыі, чым адразу пасварылі расійскага і польскага аграрыя. Царскае самаўладзтва зразумела ўсю небясьпеку сялянскага руху для сябе і панства, хутка адгукнулася на заклікі распачлівых адрасоў панства і яшчэ больш заняволіла беларускую вёску. Калі згніло царскае самаўладзтва, зваліліся і гэтыя ланцугі, сьцягнуўшы за сабой у яму пана і нацыянальную варожасьць.

Так высьвятляецца сялянскі рух у 1863 г. на падставе народных паданьняў.—Гэта варта ведаць.

# СОЦЫЯЛЬНА-БЫТАВЫЯ МОТЫВЫ БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ КАЗАК

### Ал. Дайлідовіч

З кожным годам усё больш цяжка робіцца знайсьці ў нашай вёсцы казку, тую казку, якая на працягу многіх стагодзьдзяў зьяўлялася бадай што адзінай даступнай для селяніна крыніцай духоўнай сувязі. Век казак мінуў, прышоў час конкрэтнага будаўніцтва, у якім друкаванае слова мае значна большую вагу, чымся наіўная адцягненая мара, на якой будуецца казка. Дзе-ні-дзе дажываюць свой век апошнія з могікан—стогадовыя дзяды ды бабулькі, якія яшчэ перахоўваюць багаты казачны матэрыял.

Тым больш цікава цяпер, пакуль казка яшчэ жыве, пакуль усякае дасьледваньне ў гэтым кірунку яшчэ можа быць дапоўнена жывымі матэрыяламі. Беларуская казка да самага апошняга часу застаецца яшчэ бадай-што недасьледаванай: яна неяк выпадала з поля ўвагі дасьледцаў фольклёру, і многія вельмі цікавыя рысы яе яшчэ чакаюць сваіх дасьледцаў. Аднэю з такіх рыс і зьяўляюцца соцыяльна-бытавыя мотывы казак.

Справа ў тым, што народная казка, зараджаючыся і афармляючыся ў нетрах сялянства, праходзіць праз шмат пакаленьняў казаньнікаў, вандруе з вёскі ў вёску і, як кожны продукт вуснай творчасьці, паступова абрастае цэлым шэрагам паасобных рысак, якія характарызуюць пэўныя часы і пэўныя мясцовасьці, адлюстроўваюць і бытавыя рыскі і соцыяльнае становішча і, нарэшце, погляды сялянства на тую, ці іншую зьяву. Нават у казках фантастычных вельмі часта праз вэлюм алегорыі ды сымболічных конструкцый мы можам іншы раз убачыць тыя-ж фігуры і тыя-ж зьявы, што і ў казках бытавых.

Беларуская казка, як і кожная народная казка, ня ведае складаных соцыяльных градацый. Гіпэрболічнасьць, якая заўсёды ляжыць у аснове казкі, дае месцы ў ёй альбо асьляпляючаму багацьцю, якое вядзе за сабою і сілу і ўладу, альбо страшэннай беднасьці. Праўда, беларуская казка, выходзячы з об'ектыўных умоў жыцьця беларускага селяніна, не магла належным чынам разгарнуць сваю фантазію ў гэтым кірунку, ня маючы перад вачыма конкрэтных прыкладаў. Хаця курная хата і давала багатую прастору для абмаляваньня беднасьці, панскі двор ня мог выклікаць ілюзіі залатога палацу. Самым багатым і моцным чалавекам казка ўяўляла нібыта цара. Але бытавыя рыскі, якімі аздабляла яна гэту

фігуру, вельмі часта робяць разуменьне „цар“ вельмі ўмоўным. У лепшым выпадку—гэта фігура заможнага зямляўласьніка, бо гэта самае багатае жыцьцё, якое маглі бачыць творцы казкі. Напрыклад, у казцы „Царква васковая“ (Раманаў III, ст. 332) цар дае дзяцюку заданьні—даглядзець коняй, змалаціць жыта, сьцерці салому—усё гэта характэрныя работы для звычайнага двара. А ў аднэй украінскай казцы тэрмін „цар“ паўстае ў яшчэ больш умоўнай афарбоўцы:

„Як були собі царь да царіца, да у ніх не було дітей; да були вони таки бідни, шо і істи нічого було. Раз пішов цар на заробітки... і г. д. (Афанасьев, III, ст. 175).

Фактычна цар па тых азнаках, якімі надарае яго казка, нічым не адрозьніваецца ад пана, ці ад заможнага селяніна. Для абмаляваньня-ж матэрыяльнага дабрабыту таго ці іншага пэрсанажу, казка апісвала яго гаспадарку, агульны характар яго жыцьця.

„Жылі сабе два браты: адзін жыў багата, а другі бедна. Багаты жыў пры ўсёй выгодзе, сам не работаў, а толькі хадзіў ды красаваўся, бо меў парабкоў многа, што на яго работалі“ (Рам., III, ст. 319).

У другой казцы:

„Быў адзін вельмі добры маёнтак. Зямлі як вокам схваціць, а зямля добрая, ураджайная, от, здаецца, пасадзі дзіця, дык і тое вырасьце. А сенажаці мурожныя, за берагі—сена некуды дзеваць. Двор каля самае ракі. Будынак—палацы. Дабра, аж будоўля ломіцца. Кругом сад, бацца ў раю. Такая пану жытка, што й пэміраць ня трэ“ (Сяржпутоўскі, 45).

У апошнім прыкладзе даецца найбольш поўнае абмаляваньне дабрабыту. Наогул-жа багацьце ў казцы абмалёўваецца больш схэматычнымі рысамі—найбольш зразумелаю для селяніна меркаю багацьця зьяўляецца колькасьць зямлі, жывёлы і г. д.:

„Жыў сабе дзед з бабай, і яны былі дужа багатыя. Мелі яны дванаццаць пар валоў, дванаццаць пар коняй, на сябе і на людзей па шэсьць пар“ (Рам., I, ст. 330).

У аднэй казцы сьмелая дзяўчына атрымлівае гэткую ўзнагароду:

„Узнаўшы цар, што дзеўка такая разумна і храбра і так многа зрабіла дабра, зрабіў яе стаўбавою дваранкаю, даў ёй валок тры зямлі, ад усяго асвабадзіў і выдаў замуж за добрага чалавека“ (Шэйн, II, ст. 229).

Адным словам, для абмаляваньня дабрабыту бярэцца малюнак магчымай заможнасьці сялянскага двара. Такія прыёмы ўжываюцца пераважна толькі тады, калі справа ідзе ў бытавым, рэальным пляне. Калі-ж у рукі героя трапляе цудоўная сіла, дык тут ужо выступае на прастору гіпэрболіка. У казцы „Купчык небагаты“ (Рам. III, ст. 345) герой загадвае падуладным яму цудоўным сілам пабудаваць яму дом „такі што ні ўзду-

маць, ні згадаць, толькі ў прыказцы сказаць... Назаўтра ўстае і відзіць ён, што ён і маць сьпяць у пярынах, прыслуга ў іх ёсьць—і кухары і лакеі"... Потым герой такім-жа шляхам набывае шасьцёрку коняй „з кучарамі, з лакеямі, з хвалетырамі", і пасылае маці ў сваты да цара. Потым будуе мост „сярэбраная масьціна і залатая масьціна". Цар прыяжджае да героя і бачыць, што ўсё ў яго „почышчэ і получьче, чым у яго самого".

У казках з фантастычнымі мотывамі выяўляецца тэндэнцыя рабіць усякія рэчы з золата—найдаражэйшы матэрыял, які можа ўявіць сабе селянін. З золата робяцца і такія рэчы, для якіх яно, як матэрыял, ня зусім і падыходзіць. Мы знаходзім у казцы залатую кашулю, залатую спаднічку, куртачку, панчошкі, падвязкі, чаравічкі, хустачку, рукавічкі—і нават паліто—усё залатое.

Беднасьць мае больш стэрэотыпнае абмаляваньне:

„Жыў сабе чалавек вельмі бедны; ня было ў яго чаго есьці" (Шэйн, II, ст. 165);

„Жыў быў вельмі бедны шавец і было ў яго пяцера дзяцей і жонка" (ib., 166);

„Жылі яны (дзед і баба) крэпка бедна. Прыжылі яны да таго, што і есьць нечага" (Рам., III, ст. 271);

„Быў чалавек бедны, ня меў ні спасьціны, ні скаціны, а дзяцей меў шмат. Прышла вясна, а яму няма чым гараць, людзі ідуць з сахою, а ён ідзе з жалезьняком" (Афан., V, ст. 8).

Селяніну, які сам жыве ў гэткіх ўмовах, больш рэальнага абмаляваньня і ня трэба. Таму ў казцы мы спатыкаем толькі схэматычныя і сьцісьлыя апісаньні беднасьці, падобныя да вышэй паданых.

Вельмі распаўсюджаны казачны сюжэт пра багатага і беднага братоў дае нам схэму адносін паміж багатымі і беднымі сялянамі, і адначасна заключае ў сабе ацэнку экономічнай няроўнасьці. Усе сымпатыі ў казцы з гэткім сюжэтам—на баку беднага брата. Багаты звычайна малюецца хціўным, жорсткім, скупым і, ня гледзячы на сваё багацьце, сквапным. Багацьце сваё ён звычайна нажывае няпраўдаю—адгэтуль імя Крыўда: ён альбо ашуквае беднага брата пры падзеле спадчыны, альбо гандлюе ашуканскім спосабам і г. д. Наадварот, бедны брат малюецца казкаю ў самых сьветлых фарбах. Ён звычайна шчыры і гасьцінны, церпіць усякія крыўды пакорна (хрысьціянскі ўплыў) і сам жыве вельмі сумленна і праўдзіва, за што і атрымлівае імя Праўда.

Трэба адзначыць тую ролю, якую прызначае казка багацьцю і як яна яго ацэньвае. Бязумоўна, поўны дабрабыт залежыць ад матэрыяльных сродкаў—адгэтуль тэндэнцыя ўзнагародзіць беднага героя за тыя няшчасьці, якія яму даводзіцца перацярпець, і даць яму багацьце. У казцы пра двох братоў бедны робіцца багатым, падслухаўшы гутарку чарцей, альбо загубіўшы сваю матэрыялізаваную бяду. Казка спрыяюча адносіцца да героя, калі ён здабывае сабе багацьце шляхам барацьбы ці цуда. Наадварот, да багацьця, набытага шляхам ашуканства, крыўды,

казка адносіцца адмоўна. У Сяржпутоўскага ёсьць казка „Усё ў галаве ня зьмесьціцца“ (ст. 200). У гэтай казцы бацька пакідае сыну гаршчочак з грашыма і загадвае аддаць яго першаму старцу, які прыдзе пасьля яго сьмерці. Сын выконвае загад. Старац аказваецца богам, вядзе дзяцюка да сябе і тлумачыць яму так:

„Твой бацька вядзьмар, а матка ведзьма. Ось паглядзі, што ў тым горшчыку, што ты мне даў. Разьвязаў бог гаршчочак, аж там кроў, сьлёзы і пот людзей.—От што людзі называюць грашыма, от яно золата, што твой бацька й матка сабралі ў людзей. Яны хацелі пакаяцца й аддалі мне ўсё, што за жытку награбілі ў бедных людзей“.

У казцы пра двох братоў багаты брат таксама атрымлівае кару за свае адносіны да беднага: яго багацьце гіне.

Проблема соцыяльнай няроўнасьці ставіцца ў казках вельмі часта і даволі востра. Звычайна яна набывае форму ідэалізацыі старадаўнага часу.

„Даўным даўно, спрадвеку жылі сабе людзі, пажывалі, ніякага ліха ня зналі. Сьвет вялікі; усюды вольна; як патрудзіўся, так і пажывіўся. Ня было тады ні паноў, ні мужыкоў“.

І вось бог дае людзям розум:

„Пачаў вучыць людзей, як латвей дастаць жыўнасьць, як зрабіць сабе адзежу, як схавацца ў непагоду, як лавіць рыбу ды зьвяр‘ё, ды птушак. І пазналі тады людзі, што каму ўлажыў бог розум, той можа рабіць, што хоча. Мы й самі, бы багі, толькі бог затым ня даў нам сілы, улады, што баіцца, каб, зямлёю заўладаўшы, мы ня ўздумалі і самога бога сапхнуць з неба. І адступіўся тады бог ад гордых людзей і пашоў сабе на неба. Але пачалі сьвятыя анёлы прасіць бога, каб ня губіў людзей. І сказаў ім бог, што дае ён людзям уладу на зямлю; на ўсё, што расьце на зямлі; на ўсялякае зьвяр‘ё, што жыве па лесе, па палёх, балотах, па зямлі і пад зямлёю; над птушкамі, што купаюцца пад небам; над рыбамі, што ў вадзе гуляюць вольна. І будуць мець людзі ўладу над усім, што ёсьць у зямлі й на зямлі. І будзе людзям добра жыць на сьвеце, калі яны не захочуць мець уладу адзін над другім; а калі ўздумаюць над людзьмі панаваць, то пазнаюць дабро і ліха, і датуль будзе ліха, пакуль людзі будуць мець уладу над людзьмі“.

Але тут умешваецца шатан:

„Дужэйшых ды хітрэйшых зрабіў панамі і аддаў ім у рукі ўсіх слабейшых людзей. І пайшло з тае пары ліха на зямлі, такое ліха, што й сказаць ня можна. Пачалі паны лавіць людзей, бы зьвяр‘ё, пачалі іх мучыць, ды зьдзекавацца, быццам гэта ня людзі, а гаўяда. Паны ўзялі ўладу на зямлі, пачалі марыць людзей голадам, пачалі іх біць, забіваць, ды адзін на другога насылаць“...

Але на сьвеце расьце ясны розум—паціхеньку з пакаленьня ў пакаленьне.

„От як вырасьце той ясны, бы сонейка, розум, ды пачне сьвяціць людзям у вочы, дык тады ўсе пазнаюць, з чаго ліха на сьвеце, пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысьць і зажывуць на зямлі, бы ў раю“.

Адным словам, адмоўныя адносіны да багацьця маюць заўсёды соцыяльны грунт. Але багацьце лічыцца злом, калі яно ўжываецца не на добрыя мэты, альбо непраўдзівым шляхам здабыта. Ва ўсіх іншых выпадках яно карыстаецца поўнаю пашанаю.

У казках, як ні ў якой іншай галіне народнай творчасьці, захаваліся ўспаміны пра прыгон. У зьвязку з гэтым выясьняюцца і адносіны да пана. Найбольш багаты матэрыял у гэтым кірунку дае нам зборнік Сяржпутоўскага, дзе найбольш поўна адбіліся паасобныя моманты вясковага быту часоў прыгону. Возьмем характэрнае месца з казкі „Пан і мужык“.

... „Паны, яны заўжды ад дабра круцяцца. Так і той пан. Прыедзе, бала, у двор, бегае, бы шалёны, ды крычыць на камысара, лае дворню, а тыя жаляцца на нашага брата мужыка. А ведама так заўжды, што, калі што ня так, дык вінават мужык.—А даць яму сто гарачых,—крычыць пан. От табе і ўся справа. Толькі тады трохі супакоіцца пан, як прыдуць к яму ў двор тыя дзеўкі, каторых хочуць людзі браць. Там была, бачыце, такая павядэнца, што пакуль дзеўка ня сходзіць к пану, датуль ня можна рабіць вясельле. От, бала, нагоняць к пану дзевак цэлую чараду, бы авец, а ён бярэ ці к сабе, ці гасьцям. От пакруціцца пан з тыдзень ці больш, ды й зноў паедзе чорт ведае куды. Кажуць, ён усё езьдзіў у Аршаву ці заграніцу. Яго лёкай раз падвыпіў, дык казаў, што ў пана быў другі такі маёнтак, але ён прайграў яго ў карты. Мо‘ хлусіў, а мо‘ й праўда. Толькі ось адзін раз вельмі доўга ня было пана. Розна гадалі людзі. Другія пашлі гаманіць, што ўжо саўсім ня будзе пана, што нас возьмуць у казну, ці саўсім пусьцяць на волю. Толькі быў у нас адзін п‘янчужка, дык той праўду казаў, што балота бяз чорта ня будзе; адзін загіне, дзесяць будзе. Дык тое на праўду й вышла. От якась перад сёмухаю сагналі людзей у двор. Сышліся яны на дзядзінец, сядзяць, пакурваюць сабе люлькі да гамоняць аб том, аб сём. Ужэ сонейка пачало каціцца долу, а яны ўсё сядзяць, да чакаюць ведамосьці, нашто іх сагналі. Усхапіўся той п‘янчужка да й кажа: Хоць-бы далі па чарцы гарэлкі чарвяка замарыць, а то штось каля сэрца от так і завіло. Пачалі людзі шуткаваць да сьмяяцца, от і дзень хутчэй прайшоў. Зірнулі яны, аж ужо і сонейка нізка, вечар блізка. Вышаў камісар ды й вялеў прыходзіць на заўтра раненька...

Хадзілі так людзі без дайрацы мо‘ колькі дзён, нарэшце, ось, прыехаў асэсар і з ім якісь незнаёмы пан. Пашлі яны ў пакоі да й пачалі сабе сілкавацца. Ведама, панам часу многа, а што людзі дарам пятрэюць, дык ім клопату мала.

Але ось ужэ перад самым вечарам вышаў к людзям асэсар з камісарам і новым панам, прачытаў якісь паперак да й кажа:—Ось вам новы пан. Слухайце яго ды шануйце, то й ён вас не пакіне, а будзе вам як бацька“.

Гэткі „бацька“ ў казцы „Аўсяная дворня“ корміць дваровых людзей аўсом, на тэй падставе, што коні ад аўса вельмі дужыя.

Часамі сяляне ня вытрымліваюць уціску. У казцы „Паляшукі й лесавікі“ разгортваецца сапраўдная эпопэя барацьбы сялян з панамі:

„Ні з якога боку не пазбавіцца ад тых паноў. Але ось прыходзіць туды якісь старэнькі дзядок і кажа:—людзі, людзі, вас многа, а паноў жменя і гэтая жменя зьдзекуецца, ды езьдзіць у вас па карку. Ці гэта-ж вы людзі, а не авечкі.—Пагаманіў ён гэ ў вадном мейсцы да ў другом, от і схамянуліся людзі, да й пачалі варушыцца. Знайшліся ўдалыя хлопцы, сабралі сабе шайку добрых малайцоў, да й пайшлі пярэсьціць, да мясіць тых паноў. Бачаць тые, што гэта не пярэліўкі ды й пусьціліся наўцекача: хто ў лес, а хто ў чужыя краі“ (Серж., 72).

Цікавы малюнак дае нам і казка „Дурань“. Дурань дабіваецца ад цара маніфэсту аб свабодзе для мужыкоў. Паны стараюцца гэты маніфэст захаваць ад народу. Дурань зьвяртаецца да народу, зьбірае войска і змагаецца з панамі. Спачатку перамога хіліцца на яго бок, але ўрэшце паны перамагаюць, дурань гіне, а народ пападае ў яшчэ горшую няволю. Цікавая з гэтага боку вядомая казка „Асілак“. Гэтакі матыў—мотыў клясавай барацьбы даводзіцца спатыкаць у казках вельмі рэдка; прынамсі ў расійскіх ды украінскіх казках нам гэтага мотыву спатыкаць не даводзілася. Затое малюнкі адносін паноў да сваіх падданых спатыкаюцца вельмі і вельмі часта. Усё жыцьцё селяніна знаходзіцца пад яго контролем. У казцы „Журавоў кашалёк“ (Рам., 271) бедны селянін набывае кашалёк, які мае дзіўную сілу:

„Калі ты захочаш есьці, дык скажы—кашалёк, кашалёк, дай мне піценьня, ядзеньня. Ён адкрыецца і з таго кашалька будзе і стол і крэсла і тыя самыя кушаньня, што ты ў мяне еў (гэта кажа жораў)“.

Селянін запрашае да сябе ў госьці войта, а потым і пана. Пан ашуканскім спосабам выдурвае кашалёк у беднага селяніна.

Ёсьць цэлы шэраг казак, дзе селянін знаходзіць скарб, ды рознымі хітрыкамі захоўвае яго ад пана. Панскаму суду селянін таксама ня верыць. У шэрагу казак пра панскі суд мы маем сюжэт, які нагадвае вядомы маскоўскі „Шемякін суд“, у якім бедны селянін падманьвае судзьдзю і толькі такім спосабам выйгрывае справу.

Гэткія адносіны паноў выклікаюць і адпаведную рэакцыю ў казцы. Казка з вялікай сымпатыяй адносіцца да тых сялян, якія спрытна абдурваюць пана (казкі пра знойдзены скарб). „Ніколі з панам ня дружы“—кажа Янка Войт у казцы пад тэю-ж назваю (Рам., III, 388). Аналёгічная казка ў Шэйна—„Пану верна ня служы, з жыдам дружбы ня дружы, жонцы праўды не кажы, а чужое дзіцянё хавай за роднае“. Ашукаць, ці абкрасьці пана—ня грэх.

„У пана прасіць ня грэх, бо пан багаты“,—кажа парабак Сьцяпан Штукар у казцы „Іншы сон як у руку дась“ (Сяржп., 224). „Ён у нас накраў, а мы сваё дабро возьмем назад. Дык гэта ня грэх“.

У сьвята працаваць наогул—грэх, але на пана працаваць можна, бо тады грэх пераходзіць на пана.

Часамі нявінная помста пану, як кража, прымае больш сур'ёзную форму.

Добра вядома казка „Пану—навука“, у якой апавядаецца пра тое, як селянін Рымша помсьціў пану за яго несправядлівыя ўчынкі. Падобны-ж момант мы сустракаем у казцы „Вядзьмар“ (Сяржпутоўскі, 152).

Ёсьць шмат казак пра спрытных мужыкоў, якія абдурваюць паню запрашаючы панскую сьвіньню да сябе на вясельле, а пасьля пана, які за ім гоніцца. Пан траціць сьвіньню, коняй і грошы.

Цікавая казка, „Недапад“, дзе п'янчужка кухар цэлы год частуе ласага пана ўсякаю дрэньню, а пан усё хваліць. У апошні дзень кухар робіць абед з кароўяга памёту і падае пад назваю „недападу“ (бо да зямлі не дапала, а ўпала ў цэбар). Пан здаволены стравою, як ніколі, кухар атрымлівае багатую ўзнагароду і раскрывае пану і яго гасьцям сакрэт „Недападу“.

Наогул, казка імкнецца вывесьці пана ў сьмешным выглядзе.

Самае-ж жыцьцё паноў, распуснае і гульлівае, вельмі добра абмалявана ў апавяданьнях Аземшы (Сержпут., Бядуля). Там апавядаецца пра распусту паноў ды іх жонак, пра зьдзекі над сялянамі, над вясковымі дзяўчатамі і г. д.

Сялянскі быт, бязумоўна, знайшоў у казках найбольшы адбітак. Палявая праца і яе тэрміны, хатнія прылады, хатняя жывёла, абрады, звычаі і сьвяты, сямейны ўклад селяніна—усё гэта знаходзіць сабе месца ў казцы.

У казках часта даецца героям заданьне выканаць якую-небудзь работу ў кароткі тэрмін: напр., сатана загадвае ў адну ноч ляда высечы, выбраць, узараць, заскародзіць, узьмяшаць і пшаніцу пасеяць, каб пшаніца ўзыйшла, зжаць яе, змалаціць, змалоць, і пірагі сьпячы і прынесьці іх за дзьве гадзіны да дня (Рам., 167). Такое самае непасільнае заданьне мы сустракаем у казках з загадкамі і ў многіх іншых казках. Чорт, папаўшы ў работнікі да селяніна, арэ поле хутчэй ды лепей за другіх і г. д.

Ёсьць цэлы цыкль казак пра няўпраўных гаспадароў. Казка густымі сатырычнымі мазкамі высьмейвае людзей, якія ня могуць зрабіць самых элемэнтарных рэчаў у сялянскім абыходзе. Наогул гэтыя казкі нагадуюць расійскія казкі пра пашахонцаў. Сюжэт іх такі: сын кідае дурную матку і жонку ды ідзе шукаць дурнейшых людзей. Па дарозе ён спатыкае людзей, якія цягнуць вала на дах, каб ён зьеў траву, што там вырасла; потым бачыць сям'ю, якая есьць кісель з сытою, але з кожнаю лыжкаю кісялю бегае ў клець, каб памачыць у сыту; бачыць цесьляроў, якія стараюцца расьцягнуць закароткае бервяно, якое не падыходзіць да зрубу; бачыць чалавека, які збудаваў хату без вакон, ды рэшатом носіць сьвятло

ў хату і г. д. Трапляюцца казкі, у якіх ролю гэтых дурных людзей адыгрываюць яўрэі.

У цэлым-жа гэты цыкль казак накіраваны супроць непрактычных ды няўмелых гаспадароў. Уменьне гаспадарыць—асноўная якасьць, якой патрабуе казка ад мужчыны.

Вялізную ролю адыгрывае ў сялянскай гаспадарцы рабочая жывёла—конь,—яму адводзіцца і значнае месца ў казках. Момант куплі-прадажу і выбару рабочага каня вельмі часта спатыкаецца ў казках. У адносінах да каня ёсьць свая этыка „Хто мяняе, у таго хамут гуляе"—так называецца казка пра маладога непрактычнага гаспадара, які няўмела ўзяўся за адбудаваньне разбуранай гаспадаркі. Састарэлая жывёла, якая бяз жаднай карысьці марнуе дарагі корм, выганяецца з двара—гэта матыў многіх казак пра жывёлу. У некаторых казках сама-жывёла ўцякае з двара з прычыны нядобрага абыходжаньня. Ідэалам вернасьці жывёлы гаспадару служыць сабака. У казках пра страх (Шэйн) сабака самаахвярна змагаецца з нячыстаю сілаю, ратуючы свайго гаспадара. У казцы „Купчык небагаты" сабака і кот выратоўваюць гаспадара з бяды, здабываючы яму цудадзейны пярсьцёнак. У аднэй легендзе сабака выпрашвае ў бога, які хацеў саўсім зьнішчыць жытні колас, каб ён пакінуў яе долю; з таго часу сабака дзеліцца сваёю доляю з людзьмі.

Але ўсё-ж такі пераважную ролю ў казках іграе конь. Пры гэтым сялянскі рабочы конь цэніцца значна даражэй, чымся вялікія багатырскія коні. Вельмі часта бывае ў казцы, што толькі хударлявы сялянскі жарэбчык ці кабылка могуць утрымаць на сабе асілка. Конь—гэта аснова дабрабыту гаспадара, і багацьце яго вылічаецца колькасьцю коняй. Добры дагляд за коньмі ставіцца героям казак у асаблівую заслугу і выклікае зайздрасьць да іх.

Цыкль казак пра дурня дае своеасаблівы кодэкс бытавых узаемаадносін. Дурня навучаюць, як трымаць сябе пры розных жыцьцёвых выпадках (вясельле, хаўтуры, пажар і г. д.), ён усё пераблытвае і за гэта яго б'юць.

У шмат якіх казках мы спатыкаем паказы на шырокую гасьціннасьць беларуса—агульна-славянская рыса, якая ў беларусаў найбольш захавалася да самага апошняга часу. Нават надаедлівага госьця ня можна выганяць з хаты—госьць карыстаецца ўсімі правамі сябра сям'і. Прынцыпы гасьціннасьці засвойвае і „нячыстая сіла". Баба-яга спатыкае волата лаянкаю і пагрозамі, але не забываецца накарміць, напаіць, завесьці ў лазьню.

З назваў розных абрадаў і звычаяў найбольш часта сустракаюцца ў казках звычаі вясельныя. Запоіны, заручыны складаюць у пераважнай большасьці казак альбо завязку іх, альбо заключэньне (апошняе часьцей), стэрэотыпны канец казак—„і я там быў, мёд-піва піў, па вусам цякло, а ў рот не папала"—звычайна прыстасоўваецца да вясельля героя, як

перамог усе перашкоды і жэніцца на героіні казкі. З іншых сьвятаў асабліва часта спатыкаем дзяды, каляды. Часта завязкай казкі служаць хрысьціны, калі бедны чалавек ідзе шукаць сабе кума і бярэ ў кумы альбо чорта, альбо сьмерць, якія потым дапамагаюць яму зрабіцца багатым. Вясковыя пагулянкі моладзі таксама часта сустракаюцца ў казках; моладзь наогул любіць пагуляць, паслухаць музыку: у казцы „Няхай так будзе“ (Сяржпут., 16) дзяўчына трымаецца да каханка варожа, калі спаткаюцца на ігрышчы. На ігрышчы вясковыя хлопцы б'юць апосталаў Пётру ды Паўла. У некаторых казках на ігрышчы распачынаецца знаёмства дзяўчыны з ваўкалакам, якое служыць завязкаю для далейшага разьвіцьця казкі.

У казцы „Самая разумная“ (Сяржп., 242) герой першы раз бачыць дзяўчыну ў часе веснавога сьвята:

„Гэта было па вясьне, от якась каля Велікдзеня. Высыпалі дзеўкі з курнікаў на загумеччэ, паюць песьні, да скачуць там на дошках“.

Казаньне казак і апавяданьне сноў уводзіцца ў самую казку, як уводны эпізод для таго, каб хутчэй выклікаць разьвязку, як, напрыклад, у казцы пра каралеўну і разбойнікаў (Аф., IV, 286), „Дачка мельніка і дванаццаць разбойнікаў“ (Ш., 226) і г. д.

Выдатнае месца ў казках займае шынок і наогул гарэлка. Шынок—гэта нешта накшталт сялянскага клюбу. Тут запіваюцца барышы, вядуцца дзелавыя гутаркі, зводзяцца рахункі і г. д. Казка пра спрытных ашуканцаў стварае зачараваную шапку. Хто мае гэту шапку—можа колькі хоча піць ды есьці, а як дакранецца да шапкі ды скажа „заплочана“, дык грошай ужо плаціць ня трэба. Наогул казка стварае такія цудоўныя рэчы, якія найбольш могуць спатрэбіцца ў практычным жыцьці—гэта торба, якая дае ўсякія справы, жбан-лі-жбан, які дае пітво, хармазонскія грошы, якія заўсёды вяртаюцца да гаспадара і г. д. П'янства, як зьявішча, казка ня любіць. Гаспадар, які вельмі многа выпівае—дрэнны гаспадар. Аднак, у многіх казках мы спатыкаем разумнага п'яніцу, які дае мудрыя парады і лёгка робіць вельмі цяжкія справы. Такія казкі „Проварна Ярыжка“ (Рам., 212), „Няшчасны Егар“ (ib., 350). Асабліва цікавая казка „П'яніца“ (Сяржп., 89). У гэтай казцы апавядаецца, як п'яніца папаў на той сьвет, надакучыў чарцям, якія пагналі яго ў рай, і як ён прабіваўся ў рай. Вось урывак з гэтай казкі:

„Падходзіць ён к браме (райскай) і пачынае стукаць у дзьверы.—Хто там? пытаюць адтуль.—Я.—А хто ты такі?—Звесна хто. П'яніца. А ты хто?—Я сьвяты Пётра. Ідзі сабе, голубе, бо ў рай п'яніц ня прымаюць.—А, гэта той самы Пётра, што ат Хрыста атрокса. Дык бачыш яго, як угібаў ад рая ключы, дык нікога й ня пускае. Пачакай-жэ, я й на цябе справу знайду. Німа чаго Пётру казаць,

заве ён Паўла, каб той пагаманіў з п'яніцаю.—Хто там? пытае Паўла,—Я.—Хто ты такі?—П'яніца.—А ты хто?—Я Паўла.—А, гэта той самы Паўла, што ганяўся да лавіў Хрыста.—Дык чаго табе трэ'?—Адчыні дзьверы.—Тут німа мейсца п'яніцам. Ідзі сабе далей. —Дык от які ты, Хрыста ганяеш, а мяне ня пушчаеш. Я як вып'ю чарачку, дык заўжды скажу: дзякуй табе Госпадзі.—Німа чаго казаць. Пашоў Паўла да і пазваў Івана Евангаліста. Прыходзіць той, а п'яніца грукае ў дзьверы, аж рай дрыжыць.—Хто там?—пытае Евангаліст Іван.—Я.—Хто ты такі?—П'яніца.—Чаго табе трэ?—От пусьці, калі стукаюць.—Тут п'яніц ня пушчаюць.—А ты хто?—Я Евангаліст Іван.—От і бачна, якая ў цябе праўда. Ты сам напісаў, што калі будзеш стукаць, то адчыняць, а калі станеш шукаць, то знойдзеш. Я от ужо мо' паўгадзіны грукаюся, а ты ўсё не адчыняеш. Сягонячы ўвесь дзень шукаю гарэлкі, а яе німаш і капелькі. Дак от ты як нашага брата ашукоўваеш.—Німа чаго рабіць, пусьціў той п'яніцу ў рай, да яшчэ напаіў яго гарэлкаю, каб толькі маўчаў".

Разьвязка гэтай казкі напамінае нам маскоўскую „Повѣсть о пьяницѣ", XVI стаг.

Вельмі многа месца адводзіць казка сямейнаму ўкладу беларускага селяніна. Уся гаспадарка строга падзелена паміж мужам і жонкаю. Муж працуе на полі, жонка дома, жонка носіць мужу на поле абед. У казцы „Недовольный муж і хитрая жена" (Ш., 221) апавядаецца пра тое, што вышла, калі муж з жонкай памяняліся абавязкамі. Гэта сюжэт даволі вядомы і ў нас нават сцэнізаваны, многія помняць невялічкую п'есу „Зьбянтэжаны Саўка". Дзяўчына ў большасьці выпадкаў выходзіць замуж за таго, за каго ёй загадаюць бацькі. На грунце гэтага часамі разыгрываюцца цэлыя драматычныя эпізоды. Клясычнае апісаньне дзяўчыны дае казка „Дзяўчына" (С., 148).

... „Яна тымчасам вышла к рацэ. Там людзі лавілі рыбу, да як убачылі такую гожую дзяўчыну, дак забылі ўсё на сьвеце, толькі пазіраюць на яе. І здаецца ім, што варта мучыцца ўвесь век, каб толькі хоць раз зірнуць у тые вочкі, што, бы сонейка, паляць сэрца, паляць, шчыпаюць, але такі даюць слодыч, якога больш няма на сьвеце. Пазірае дзяўчына, а людзям здаецца, што на сьвеце ўсё так гожа, так радасна сьвеціць сонейка, так добра жыць, што лепшага і ня трэ".

Вобраз злой дзяўчыны спатыкаецца ў казках ня так часта, як вобраз добрай, прыгожай і шчырай. Затое добрую жонку бадай што ня можна знайсьці ў казках. У самым лепшым выпадку яна толькі дурная. Жонка гультайка ўсё робіць упоперак мужу пра гэта гаворыць вядомая казка „Чорт і Баба" і другія, як „Працiўная жонка", „Жонка выдумшчыца", „Празднішная жонка" (Рам., 384, 385, 387), „Упартая жанчына" (Сержп., 25). У казках пра адшуканы скарб жонка даносіць пану на мужа; толькі дзякуючы мужавай хітрасьці яму ўдаецца пакінуць скарб за сабою. Гультайства жанчыны, яе разумовая адсталасьць і г. д. у бела-

рускіх казках займаюць выдатнае месца. Надмерная цікавасьць—гэты спэцыяльны жаночы парок—чуць не даводзіць мужа да сьмерці ў казцы „Цікавая жонка“ (Сяржп.). Толькі парада пеўня выратоўвае яго. Доўгі язык жанчыны, якая распаўсюджвае сакрэт, таксама даводзіць мужа да вялікіх няпрыемнасьцяй (З панам дружбы не вадзі, жонцы праўды не кажы і г. д. Ш.). Сварлівасьць жонкі даводзіць да шаленства нават чорта. Мы маем шэраг казак, у якіх муж вызваляе багаты дом ад чорта, пужаючы апошняга сваёю жонкаю. Ведзьмы ды іншая нячыстая сіла выступаюць у казках пераважна ў вобразе старой жанчыны. Нарэшце шмат якія казкі малююць вобраз распуснай жонкі, якая карыстаецца кожным момантам, каб здрадзіць мужу—„Жонка і разбойнік“ (Рам., 386) ды іншыя казкі. Адносіны жанчыны з чортам вельмі блізкія. „У бабы чортава галава“, „Дзе чорт няйме, там бабу пашле“, „Баба хітрэй чорта“, „Баба і чорт“ і г. д. Жанчына гатова вельмі лёгка здрадзіць самому блізкаму чалавеку, як у цыклі казак пра зьвярынае малако, дзе маці (часамі сястра) робіць усё магчымае, каб загубіць сына (ці брата). Наогул казка характарызуе жанчыну вельмі і вельмі чорнымі фарбамі, адводзячы пры гэтым ёй актыўную ролю бадай што ва ўсіх няшчасьцях мужчыны.

Аднак, у казках мы сустракаем і вобраз жанчыны, якая зносіць шмат пакуты ў сям‘і. Гэта перш за ўсё група казак пра мачыху, пра мачыхіну дачку і пра падчарыцу. Цяжкае становішча падчарыцы—зьявішча чыста бытавое, і казка ў даным выпадку толькі фотографуе жыцьцёвы факт. Спатыкаем мы і выпадкі, калі жанчыну ў сям‘і імкнецца загубіць сьвякроў, залоўка, родная сястра (каб заняць яе месца) у адзіночных выпадках муж („Гануся“. Рам., 357). У такіх выпадках казка малюе нам вобраз прыгожай, добрай і мяккай жанчыны, якая шчыра кахае ўсю сваю сям‘ю, мужа і г. д. Часта ў казках спатыкаем мы і вобраз маткі, якая гатова на ўсё, каб выратаваць з небясьпекі сваё дзіця. Калі дзіця (звычайна сын) вырастае і робіцца асілкам, яна бяз спрэчак прызнае за ім годнасьць главы сям‘і і слухаецца ўсіх яго загадаў. Як мы бачылі вышэй, бывае і наадварот, калі матка гатова загубіць сваё дзіця.

Нам застаецца яшчэ спыніцца на тых фігурах, якія найбольш часта сустракаюцца ў казках і зьяўляюцца самымі колёрытнымі ў іх.

Перш за ўсё чорт. Хаця гэты пэрсонаж і фантастычны, але ён настолькі моцна зьвязаны з бытавымі рысамі казак, што яго абмінуць ніякім чынам нельга тым больш, што ён у значнай ступені матэрыялізаваны і сабраў у сабе рысы дурнаватага і жулікаватага чалавека. Ён набывае ў казках нават некаторыя рыскі нацыянальнай псыхолёгіі: напрыклад, чорт расійскай казкі ў параўнаньні з яго беларускім колегаю вызначаецца большаю злосьцю і крыважэрнасьцю, чорт украінскі—флегматычны і лены. Надворны выгляд яго аднолькавы ва ўсіх казках: гэта істота з хвастом, з рагамі, з капытамі; дурны ён да нязвычайнасьці і

шкоду робіць звычайна падурному. Але ў ім можна знайсьці шмат рысак дабрадушша і сумленнасьці. Угавор ён заўсёды выконвае, часамі і па добрай волі дапамагае селяніну выбрацца з цяжкіх абставін. Для яго ня чужыя і людзкія слабасьці. Часта чорт пападаецца на крадзежы, заляцаецца да дзяўчат (звычайна ў лазьні), нават жэніцца і г. д.

Бог матэрыялізуецца селянінам у вобразе сівенькага старца, які ходзіць па вёсцы і дапамагае людзям у цяжкай прыгодзе. Сьвятыя—прыдуркаватыя старцы, якія выконваюць загады бога, але ў большасьці неўпапад.

Чорта зьвязвае з людзьмі вельмі значная ў сялянскім жыцьці асоба—вядзьмар. Усё жыцьцё селяніна праходзіць у трывозе за заўтрашні дзень, за дабрабыт сваёй гаспадаркі. І на кожны выпадак ёсьць свой паратунак. У казцы „Канакрад“ (Сяржп., 181) адзін селянін раіць другому, у якога ўкралі каня:

„Купі сьвечку, пастаў яе ў цэркві перад Юр'ям, памаліся перш богу, а потым зламі гэту сьвечку, ды павярні агнём уніз, дык гэсты гад (канакрад) ці прыбяжыць перапрашаць, ці выпруціцца, бы ражон...“

Вядзьмар, знахар—гэта важныя людзі ў вёсцы. Бяз іх не абыйсьціся. Шмат якія казкі высьмейваюць іх, выводзяць на чыстую ваду іх штукарства. Але гэта казкі пазьнейшай формацыі і ў пераважнай большасьці выпадкаў казка адносіцца да знахара даволі сур'ёзна.

Вядзьмар лічыцца нібыта прадстаўніком нячыстай сілы. А рэлігійныя погляды беларуса наогул даволі няпэўныя. Вядомы народны анэкдот пра бабку, якая лепіць у царкве сьвечку сьвятому Юр'ю і чорту, якога ён забівае:

— Трэ' і богу дагадзіць і чорта не ўгнявіць,—тлумачыць яна.

У зьвязку з гэтым і трымаецца пэўны страх перад ведзьмаром; ён можа нарабіць шмат шкоды, як у цыклі казак „Дока на доку“.

Далей ідуць прадстаўнікі рэлігійных гультаёў—поп і ксёндз (пра рабіна далей). І той і другі ў пераважаючай большасьці казак малюецца ў самых антыпатычных рысах. Іх скупасьць, сквапнасьць, тупасьць, распуста ды ашуканства востра высьмейваюцца ў цэлым шэрагу казак. У казцы „Прошча“ апавядаецца, як поп сумесна з рандаром сфабрыкавалі цуд з спэцыяльнаю мэтаю на гэтай справе спэкульнуць. Яны налепліваюць сьвечкі на абраз, і спускаюць той абраз уночы на ваду. Цуд гатоў—застаецца толькі зьбіраць грошы, што нясуць цёмныя людзі. Некалькі казак апавядае, як поп, увабраўшыся ў казьліную скуру, ідзе адбіраць у беднага чалавека знойдзены апошнім скарб. Ва ўсіх гэтых казках поп нясе кару за сваю сквапнасьць—казьліная скура прырастае да цела. У казцы „Поп і дзяк“ расказваецца, як дзяк абкрадаў сялян ды хаваў пакрадзенае, а яго компаньён поп угадваў, дзе што схавана: атрыманы за варажбу гонорар дзяліўся пароўну. У шмат якіх казках чуем, як поп ходзіць да сялянскіх жонак. На грунце гэтага вырастаюць

сапраўдныя новэлі, ня горшыя за некаторыя новэлі „Дэкамэрона“, напр., „Новы чорт“. У аднэй з такіх казак-новэль распусны поп ашуканскім парадкам бярэ маладую жонку селяніна; селянін помсьціць яму, ашукваючы яго жонку і дачку. Папу часта даводзіцца на гэтым фронце натыкацца і на кіі і на бізуны. Ня меншай пашанай у казцы карыстаецца і ксёндз. Па колькасьці, праўда, казак пра ксяндзоў меней, але гэта тлумачыцца тым, што і самых ксяндзоў па Беларусі меней—каталіцкае насяленьне складае каля $^1/_3$ усяго насельніцтва. У казцы „Як ксяндзы лячыліся“ мы бачым трох гультаёў, якія „растаўсьцелі, як адкормленыя вяпрукі. Чаго яны ні рабілі, якіх зельляў ні прымалі—нічога не памагае“. Іх вылечвае толькі пан, прымусіўшы заняцца фізычнаю працаю. Характэрныя рыскі папа зьяўляюцца ўласьцівасьцю і ксяндза—казка „Мужык, ксёндз і пан“.

Інакш малюецца ў казках трэцяя духоўная асоба—рабін. Гэты ўяўляецца нам у казцы ў вобразе страшэннага дурня, ён жыве выключна сваімі тэкстамі і на іх будуе ўсё. Казка пра рабіна „Вельмі навучаны“ дае нам характэрныя рысы пашахонца, які што ні зробіць, дык неўпапад. Яўрэй—вельмі часты госьць у беларускай казцы. Гэта пранырлівы, звароцісты чалавек, якога, праўда, вельмі лёгка ашукаць. Ён выключна займаецца гандлем (іншых яўрэяў і ня мог спатыкаць селянін), трымае шынок і на кожным кроку стараецца зрабіць які-небудзь гешэфт. Але селянін адносіцца да яго даволі добрадушна, бо яўрэй знаходзіцца ў такой самай залежнасьці ад пана, як і ён. У казках пра князя Радзівіла мы бачым, якое самаўпраўства дапускалі паны ў адносінах да яўрэя. Мы маем таксама шэраг апавяданьняў пра тое, як яўрэй разам з селянінам ідзе на панскі суд. Яго характэрная рыска—сквапнасьць да грошай і гэтым заўсёды карыстаецца селянін, прадаючы яму ўсякую заваль за цудадзейныя рэчы (зачараваная шапка, гаршчок, які сам кіпіць, каня, які дае грошы, цялежку, якая каціцца бяз коняй і г. д.). Ёсьць і казкі, у якіх адносіны да яўрэя робяцца сьвядома жорсткімі і злымі; гэтыя казкі ў значнай меры формаваліся, як відаць, пад рознымі кніжнымі ўплывамі хрысьціянскага пахаджэньня („Адкуль узялася сьвіньня“, „Як гожа“ і г. д.)

Салдат, маскаль спатыкаецца ў многіх казках. Гэта бывалы чалавек, п'яніца, бабнік; яму нічога ня варта ашукаць простага чалавека. Ён часамі бярэ сваім аўторытэтам, часамі пускаецца на хітрыкі, але заўсёды перамагае. Чорт перад маскалём таксама пасуе. Напужаць салдата ён ня можа. Папаўшы ў пекла, салдат тэрорызуе ўсё пекла сваімі буйнымі паводзінамі. Ня гледзячы на яго жульніцтва, казка малюе яго ў сымпатычных фарбах і, відаць, спагадае яму, як спагадае ўсяму сьмеламу, рашучаму і спрытнаму. Казкі пра спрытнага злодзея даюць нам такі тып рашучага адважнага чалавека, які ні перад чым ня спыняецца для дасягненьня сваёй мэты. Для таго, каб апраўдаць свае спрыязныя адно-

сіны да злодзея, казка яго дзейнасьць накіроўвае на багатых людзей— на пана, на цара. Аднак, калі дзейнасьць злодзея пераходзіць на селяніна, дык малюнак мяняецца. У казцы „Канакрад" ніхто ня хоча ратаваць палаючую хату канакрада. У казцы „Дабро і ліха" канакрада вяжуць, хаця і не злавіўшы на месцы ўчынку. У казках пра знойдзены скарб селянін кажа жонцы, пачуўшы крык:

— Гэта наш пан сала ўкраў, дык яго па вуліцы водзяць, ды б'юць.

Відаць, гэткую-ж кару нясе і кожны злодзей.

Дадатнымі моральнымі якасьцямі лічыцца апрача гасьціннасьці, яшчэ шчодрасьць і праўдзівасьць. І тое і другое атрымлівае багатую ўзнагароду; на гэту тэму мы спатыкаем шмат казак. Наадварот—скупасьць заўсёды прыводзіць да дрэнных вынікаў таксама, як і надмерная сквапнасьць. За тое і за другое людзі нясуць адпаведную кару. Вельмі характэрным, з пункту погляду ацэнкі добрых і дрэнных учынкаў, зьяўляецца наступны адрывак з казкі „Гусьлі" (Сяржп., 192):

„Астаўся там (у пекле) Іваньчык. І вялеў яму чорт доўгаю залезнаю качаргою ў катлох смалу памешваць. Павярнуў ён качаргою, аж там у смале мучацца грэшныя душы. Варочае ён качаргою ды разглядае тыя грэшныя душы. Каго толькі там ня было. Перш наперш вынырнула лысая галава ксяндза, а поруч з ёю кіпелі ў смале доўгія кудлы папа. Павярнуў ён качаргою, дык разам выскачылі з смалы маладзенькая паненка, абняўшыся з старым панам, старая пані, хурман з бізуном, лёкай з пляшкаю ў горле, камысар з ксёнжкаю пад пахай, пакаёўка, кухар, аканом, цівун, і многа другіх дваровых людзей. Павярнуў ён яшчэ раз качаргою, дык тут ужэ былі ўсе жыды: сам ландар з Соркаю, рабін з бібляю, цадык з тораю, маламед з ксёнжкаю, каваль, шавец, кравец, крамар і крамарка, шапар, нават анучнік і той высунуў з смалы галаву, ды патрос пейсамі, але яны зьліпліся й гарэлі, бы зубленка. Пашоў Іваньчык да другога катла, павярнуў у ём качаргою, дык тут ужэ паказаліся нашы браты хрысьціяне і ўсё больш самые набожные людзі да такіе, якіх лічылі пры жыцьці чуць не сьвятымі".

Вось тыя катэгорыі людзей, якія, згодна этыцы казкі, вядуць не такое жыцьцё, як належыць, і за гэта нясуць пакуту на тым сьвеце.

У заключэньне цікава адзначыць яшчэ адну характэрную бытавую рыску, якая выпрацавалася на грунце соцыяльнай няроўнасьці і несправядлівасьці—гэта хабарніцтва. Калі ідуць людзі на суд, дык нясуць падарункі; хто зробіць лепшы падарунак, той і выгрывае справу. У казцы „Судзьдзя праведная" бядняк, як і ў маскоўскім „Шемякином суде", хавае за пазуху камень і такім чынам стварае ілюзію прынесенага гасьцінца; таму ён і выгрывае справу. Салдат прымушае чарцей насыпаць поўны пакой золата за тое, што пакіне іх у спакоі. Дурань бярэ хабар за тое, што ня пойдзе даносіць пра забойства і г. д. Хабар у казцы— гэта цьвёрдае жыцьцёвае зьявішча, не выклікаючае ніякіх протэстаў: бяз яго не абойдзешся. Ён вырастае з тых асаблівасьцяй соцыяльнай

структуры, супроць якіх гэтак часта і даволі рэзка протэстуе казка—з соцыяльнай няроўнасьці, з прыгнёту слабейшых дужэйшымі і г. д. Казка на шляху свайго афармленьня праходзіць якраз праз такія пласты насельніцтва, якія найбольш цярпелі ад усіх гэтых шурпатасьцяй.

У нашу задачу не ўваходзіць формальны аналіз казак, але і там мы можам знайсьці багацейшую соцыяльную сымболіку, якая дае магчымасьць азнаёміцца з поглядамі сялянства на стан рэчаў. Нават мова казка іншы раз падкрэсьлівае соцыяльнае расслаеньне, якое ў нас ускладнялася яшчэ і нацыянальнаю разьмежаванасьцю. Пан у многіх казак гаворыць папольску і на грунце агульнага неразуменьня ўтвараюцца нават паасобныя казкі. Пра формальную старану беларускіх казак проф. Саўчанка некалі пісаў: „По живописи и простоте рассказа белорусские сказки не имеют себе равных“. Да гэтага трэба дадаць яшчэ і найбольшую, у параўнаньні з іншымі суседнімі пляменьнямі, паўнату ў занатаваньні соцыяльна-бытавых рысак жыцьця беларускага селяніна.

# ІОГАНЭС БЭХЭР—ШЛЯХ РЭВОЛЮЦЫЙНАГА ПІСЬМЕНЬНІКА

Ф. Вайскопф

Нарысаваць шлях, які прайшоў Іоганэс Р. Бэхэр, значыцца:—даць нарыс разьвіцьця таго разумовага (інтэлігентнага) авангарду Нямеччыны, які ў ваенныя і пасьляваенныя гады ясна выявіў сабе „сёньня“ і „заўтра“ разьвіцьця чалавецтва, праўдзівы твар сьвету, у якім ён жыве, прычыны яго расстройства і мэтоды зьмены іх.

Ход разьвіцьця Іоганэса Р. Бэхэра ад бунтуючай распуснай галавы да дысцыплінаванага рэволюцыянэра тыповы для ўсіх тых сумленных інтэлігентаў, якія з пазнаньня стану грамадзтва вывелі для сябе адзіную магчымую для іх лёгічную рэволюцыйную паступовасьць.

У адным уласнажыцьцяпісным артыкуле Бэхэра мы знаходзім наступныя словы: „У каго вочы расплюшчаны, хто ёсьць кроў ад крыві гэтага часу, таму прыдзецца разьвязаць пытаньні сёнешняга дня. Раптам відна, як чалавецтва разрэзана па сярэдзіне напалам. Ня гэтак быццам гэты разрэз гладкі і быццам няма ніякага пераходу—але ўсё-ж такі гэта разрэз, бяздоньне... І вось калі разглядаеш сам сябе, заўважаеш, што балянсуеш, абважаны страшэннымі комплексамі, на ўскраі двох сьвятоў хістаешся сярод сусьветнай бітвы“.

Тыповы лёс большасьці Бэхэравых равесьнікаў; тыповы лёс вялікай большасьці разумовых (інтэлігенцкіх) пластоў наагул; балянсаваньне па ўскраі паміж двох сьвятоў,—„мёртвы пункт“.

Пазнаньне свайго „ўскрайнага“ становішча вядзе ў Бэхэра да правільных рэволюцыйных вынікаў (вывадаў): перамогі гэтага становішча, перамогі „мёртвага пункту“: рух у будучыну.

> Гэта было маё найлепшае:
> што я плячо з плячом шоў маршам
> разам з войскам адважных заваёўнікаў,
> Што маё сэрца білася ў адзін тахт
> з мільёнамі сэрцаў...
> ...
> што я зьняў свой асьлеплены
> аблудай твар,
> ...
> што я вырваў сабе вока,

якое мне апрыкла,
І разьбіў яго на чарапкі—
Што я у глыбіні сна
запаліў згубны вечар сьвятаў,
сам стаў полымем ад полымя,
бурнае зьзяньне вялікага пачатку сьвятаў.

Гэта, а не літаратурна-гістарычныя даты і анэкдоты, гэта і толькі гэта—рашучы канец.

Вось чаму зракаемся мы ў далейшым ад усялякай літаратурна-гістарычнай дакладнасьці і дробязі жыцьцяпісных паведамленьняў „з майстэрні пісьменьніка“.

Толькі нямногімі скупымі словамі трэба абрысаваць асяродзішча адкуль Бэхэр быў родам; час, на які падаюць найважнейшыя этапы хода яго разьвіцьця; пакаленьне, да якога ён належаў.

Вырасшы сярод стопроцантнай буржуазнай сям'і (у „ячэйцы парадку“ Баварыі), малады Бэхэр прызначаецца сваім бацькай, бюрократам-правазнаўцай, да афіцэрскай службы. Але плян гэты будуе бацька бяз сына: сьцягі юнкерскай будучыні доўгай дугой ляцяць у кучу сьмяцьця, малады Бэхэр, поўны веручымі ільлюзыямі, зварочваецца да прыродазнаўства, бо ад яго ён спадзяецца атрымаць адказ на вялікае пытаньне, якое ўздымаецца перад ім і яго равесьнікамі:

„Мы тагочасныя маладыя людзі, мы былі перапоўнены да адвалу голадам жыцьця і смагай праўды. Мы былі пытальнікамі: палкімі, палаючымі!“

Але апрабаваная навука ня ведае адказу на пытаньні:

„Што адказалі вы нам на пытаньне, што нам рабіць?!

Што за зацяганыя, зацёртыя фразы выпырсківалі вы; вы, бязглуздыя, жорсткія аўтоматы!

У найлепшым выпадку яшчэ—і гэтая рада была найгастрэйшая найтанейшая—„будзьце карыснымі сябрамі грамадзтва. Амінь“.

Ня дзіва. Адданы былі мы самім сабе, сярод тупога, азьвярэлага грамадзтва:—адвага жыцьця адыйшла, прышла роспач, захапленьне ўцёкі з часу“.

Уцёкі, якія і ў Бэхэра—як урэшце ў шмат яго тагочасных равесьнікаў—скончыліся-б самагубствам, калі-б Бэхэр ня належыў якраз да тых мацнейшых, больш ясных і рэволюцыйных натур, для якіх пазнаньне нясутрыманага спаду таго грамадзтва, дзе яны жылі, адначасова было і патрабаваньнем—парваць з гэтым якраз грамадзтвам, выступіць проці яго, а не ўцякаць ад яго.

Разрыў з грамадой атрымлівае форму і вобраз:—у 1914 годзе зьяўляецца першы вялікі твор Бэхэра—„Заняпад і трыумф“ (вершы і проза, напісаныя ў 1912—1913 г. г.).

У вершах і прозаічных вопытах гэтага твору ёсьць,—як вельмі трапна назваў Франц Гэлэрынг—„здымка сутнасьці сьвету“. Бэхэр бярэ цалком увесь „інвэнтар“ сьвету: нарадзіны і сьмерць; любоў і нянавісьць, двудушнасьць, распад, гніцьцё; містыку і паўстаньне; кіно і „горад пакуты“; анёлаў і прастытутак; Нямеччыну і сьвет...

І па сьпісу далей: клясы; протэст; протэст проці хлусьлівасьці, драбязьлівасьці, чульлівасьці, крыўды гэтага сьвету. Палкі, бурны, з пенай злосьці, выбуховы протэст.

Вось „ванітуе на дахі крывая морда месяца“,
Вось відна, як мочыцца на зямлю п'янае неба,
Вось сцэна сямейнага шчасьця:
Яны сядзяць прытульна ля стала,
Дзеці лістуюць абэцэду.
Навокал дабрабытныя цішыня.
Матка падае на стол суп,
Бацька рэжа зараз курку.

Нямеччыне ён прысьвячае (у 1913 г.) наступныя строфы:

З Рыхардам Вагнэрам раве шалёна сволач.
Мяжджулыя аўто паўзуць—ледзь відна.
Сьпіць варта. Галадуюць людзі.
Блёндын-міністар памёр ад нуды.

Кніга гэта—протэст.

І дзеля таго: „Уздымайце шкандалы! Сьвет становіцца за надта цесны!“

І: „Буджу цябе, ты, выціснутая сіла, о, анархія!“

Протэст і тамленьне. Не дысцыплінаваны равучы протэст. Усё зноў заклік да „апошніх прыгод“, да „апошняй мэты“. Усё зноў заклік да „дасканалага чалавека“.

Вайна вырывае песьняра з яго сноў:

„Гэта было агіднае абуджэньне ад п'янага шалу.

Я меў сяброў, якія ішлі на вайну не таму, што яны былі ваяўнічанастроеныя, не:—яны абралі вайну як спосаб самагубства. Іншыя палеглі. Адны так, другія гэтак. Наша пакаленьне душылі і забівалі.“

Ня гледзячы на гэта Бэхэр застаецца верным сваім марам аб „дакладным чалавеку“. Трымае высока „сьцяг чалавецтва“: у 1916—1917 г.г. сярод шалёнага забойства зьяўляюцца яго кнігі: „Да Эўропы“, „Братэрства“, „Сын“, „Пэан (гімн) проці часу“, якія ўжо сваімі загалоўкамі паказваюць свой зьмест—протэсты проці вайны.

Пры чытаньні гэтых кніг з зьдзіўленьнем пытаемся ў сябе, як гэта здарылася, што ваенная цэнзура іх прапусьціла. Адказ ясны і блізкі: для цэнзарскіх мазгоў быў (зусім) ніяк не зразумелы ўпяршыню ўжыты ў гэтых кнігах новы сынтакс—экспрэсыйны стыль. „Бязладзіца“ паказвалася імпэратарскім цэнзарам таксама шалёнай, як і бясьпечнай—а тым часам, якраз у руйнаваньні старой мовы, у стварэньні новай, як протэст

проці старога сынтаксу паведамленьняў генэральнага штабу і загадаў мобілізацыйнага аддзелу, найлепш праявіўся яго рэволюцыйны напрамак думак.

Канец вайны—рэволюцыя. Раптоўна ўзьляцела і хутка пагасла рэволюцыйнае адушаўленьне амаль што ўсяго Бэхэрава пакаленьня. Нават Франц Вэрфэль „кідаецца проці часу"; нават В. Газэнклэвэр піша рэволюцыйныя маніфэсты...

Але гэта агонь ад запаленай саломы! Мізэрны агонь! Напалоханыя ўласнай адвагай, паўзуць большасьць літаратурных рэволюцыянэраў 1918-20 г. г. на крыж, уцякаюць у вышэйшыя краіны „чыстага пясьнярства", зварочваюцца да варты чыстай пакоры... адкуль не далёкі і мясны гаршчок мяшчанскай дабрапрыстойнасьці.

У кожным выпадку Бэхэр не належыць да тых, якія, як „блудныя сыны" зварочваюцца з каяньнем. У яго падзяленьня на „я і сьвет" бярэ зусім другі выходны пункт. Змаганьне з запытаньняў „я і бог", „я і Эрос (любоў)", „я і нацыя", вопадзь якога знаходзім у яго кнігах „Сьвяты лік", „Вершы аб Лёцэ", „Народ", „Бог" і „Гімны" вынікае з вялікага пазнаньня сапраўднага становішча сьвету.

> „І той шлях, якім я жадаў ісьці ў маіх марах аб дакладным чалавеку і які тады ўжо ў самым выходным пункце сплываўся ў туманнай далі, раптам стаў мне відны на далёкім працягу.
> Шлях гэты ня ёсьць у звычайным сэнсе.
> Чалавечыя масы—гэты шлях. Напрамак яго—пролетарыят.
> Чалавечыя целы ўтвараюць памост.
> Колёны бастуючых рабочых ёсьць шлях. Колёны паўстаўшых сялян. Зброя ў кулаках рабочых—ёсьць шлях..."

Гэтым уласна ўсё сказана аб далейшым шляху Бэхэра: „пролетарыят ёсьць напрамак шляху". Прадметам Бэхэравай поэзіі ўперад ёсьць—змаганьне працоўнага чалавецтва за сьвет.

Томы вершаў „Да ўсіх", „Рытмы машын", „Наперад, ты, чырвоны, фронт!" „Каля магілы Леніна", „Труп на троне", „Галодны горад", вопыт драмы „Рабочыя, сяляне, салдаты!" і прозаічныя творы „Банкір едзе верхам па полю бітвы" і „Люізыта"—відавочныя праважатыя на гэтым шляху.

Пры шпаркім параўнаньні мотываў гэтых твораў і ранейшых здаецца быццам кола мотываў замкнулася:

Зноў знаходзім мы сон і рачавістасьць, любоў і нянавісьць, проститутак, забойцаў і вар'ятаў. Толькі паняцьці атрымалі новае значэньне. Мэтай тамленьня ўжо больш не „Парыж, ружовы дзіцячы сон", але „трактары, каб уперад цягнуць краіну, электрычнасьць, якая ўсе вёскі корміць". Лёзунгам зараз не „апошняя прыгода", а „заклік да апошняй бітвы". А на месца „сна аб дакладным чалавеку" выступае прызнаньне—„час бяз сноў, гора таму, хто бачыць сны..."

Ідэолёгічны працэс—шлях да поэты пролетарскай клясы—скончаны, пачынаецца формальны працэс. Вершы апошняга тома Бэхэравых вершаў („Галодны горад“) зусім іншыя, чымсі ў ранейшых папярэдніх кнігах: выбуховая (пафос) напышлівасьць, лішак захапленьня, якія наклалі пячатку распушчанасьці і анархіі на творы мінулых гадоў, уступілі месца строгаму рытму. І ўжо з чыста формальнага боку паўстаньне перайшло рэволюцыю, хаос паўстаньня ў організаваную сілу. Бэхэр знаходзіць і новыя формы. І гэтае асазнаньне новых форм ёсьць нішто іншае, як пачатак новага пэрыяду ў мастацкай творчасьці Бэхэра, адзнакі якога ўжо выразна прыметны ў вершах другога выданьня кнігі „Галодны горад“.

Што яшчэ трэ' было сказаць?

Ня многа. Бо не задача гэтага артыкулу гаварыць аб Бэхэры—чалавеку, аб гэтым сьціплым, ня ведаючым компромісаў, адважным таварышу, які ўжо на вайне быў сябром незалежнай соцыял-дэмократыі, а пазьней і саюзу спартакаўцаў; чый рэволюцыйны вобраз думак ня вычэрпваўся адным толькі ўладаньнем партыйным білетам і фабрыкацыяй некаторых вершаў; які ёсьць якраз тое, што з поўным правам можа назвацца салдатам рэволюцыі.

У нашу задачу не ўваходзіць таксама пісаць аб тым ганебным судовым працэсе, які пачаў проці яго да мазгоў згніўшы грамадзкі лад толькі з-за таго, што ён эпіграфам свайго твору паставіў словы Золя:

„Не магу маўчаць, бо не хачу ўдзельнікам быць“.

# АЎТОБІОГРАФІЯ

## Ф. Вайскопф

Каб палегчыць працу шкаляром, якія, мабыць, некалі пазьней будуць вывучаць мае жыцьцяпісныя даты (за што я ўжо цяпер прашу прабачэньня), я выбраў сабе такі год нараджэньня, які лёгка прыпамінаецца—1900 год.

Радзіны мае адбыліся пры зусім нормальных абставінах: ніводная комэта на небе не паказалася, і нічога больш выдатнага ня здарылася.

Першыя шаснаццаць гадоў пасьля нараджэньня прайшлі пад знакам добрабуржуазнай прыстойнасьці, ідыёцкага патрыётызму і нормальнага школьнага дурненьня. Толькі з законам божым справа ўжо з народнай школы пакіравалася ня так, як павінна было быць, так, што мой дбайны настаўнік закону божага сур'ёзна занепакоіўся наконт вызваленьня маёй душы. („Хлопча, цябе чакае яшчэ шыбеніца, калі гэта так далей пойдзе...")

Шаснаццаці гадоў я пачаў няясна ўсьведамляць ужо, што вайна, якая цягнулася ўжо два гады, служыла, пэўна, ня тым вышэйшым мэтам, услаўленьню якіх былі „прысьвечаны" ўсе лекцыі гісторыі і школьныя творы.

На семнаццатым годзе мяне ўшанавалі тым, што забралі на вайсковую службу. Казарма і вучэбны пляц вельмі спрыялі ўзмацненьню патрыётызму і гатовасьці памерці сьмерцю героя, асабліва, калі я папаў у кампанію вэнгерскіх соцыял-радыкалаў, якія з посьпехам клапаціліся аб маёй соцыяльнай асьвеце.

У апошні момант наш год рыхтаваліся перакінуць на італійскі фронт, але мы выбавіліся ад ганаровай геройчнай сьмерці дзякуючы непрадбачаным у програме акалічнасьцям—з прычыны краху Аўстрыі.

Дэмобілізацыя. Бязладзіца. Абвяшчэньне чэха-славацкай рэспублікі... І нам, нядаўна яшчэ быўшым салдатамі і стварыўшым салдацкія саветы—трэба было зноў назад у школу. Тым часам—яшчэ вушы нашы былі поўны заклікамі „да ўсіх!", ад нас патрабавалі перакладаў ex abrupto (бяз падрыхтоўкі) нуднай лацінскай старызны! І як невялічкая компэнсацыя—організацыя вучнёўскіх саветаў і соцыялістычных студэнцкіх саюзаў... і ўваход у соцыял-дэмократычную партыю.

У 1919 годзе паступленьне ва унівэрсытэт (літаратура і гісторыя). Але нашу невялічкую соцыялістычную групу можна бачыць у аўдыторыях

толькі тады, калі ў іх адбываюцца студэнцкія сходы, што здаралася ня рэдка, бо студэнцтва ўвесь час хвалявалася: нацыянальны шовінізм дасягнуў свайго найвышэйшага пункту, чэхі проці немцаў, вэнгры проці чэхаў, немцы проці яўрэяў... і ўсе разам проці чырвоных, якія адважваюцца зьняважаць сьвятыя пачуцьці нацыяналізму.

Крыха па-крысе зацікаўленасьць політыкай вышэйшай школы падае: на першы плян выступае зацікаўленасьць барацьбой унутры соцыял-дэмократычнай партыі. У Празе нямецкія соцыялістычныя студэнты складаюць левае крыло (што зусім зразумела, бо нямецкая соцыял-дэмократыя ў чэскай Празе абапіралася не на пролетарскія масы, а на пласты чыноўнікаў і інтэлігенцыі).

У 1920 годзе рэформіцкія правадыры выкідаюць галоўную масу левых з партыі. У 1921 г. выключаныя левыя—і мы з імі—прыступаюць да складаньня комуністычнай партыі, перш за ўсё нямецкай сэкцыі. Увосень таго-ж году нацыянальныя комуністычныя сэкцыі яднаюцца ў адну адзіную партыю. Гэты конгрэс аб'яднаньня (прадстаўнікі сямёх нацыянальнасьцяй пяюць натхненна інтэрнацыянал) уразіў мяне найглыбей за ўсё.

З 1922 г. пачаў я працаваць у бюро друку ЦК партыі. Да 1924 году кіраваў я нямецкім аддзелам бюро друку.

Потым зноў сем месяцаў вайсковай службы—на гэты раз у рэспубліканскай арміі. І гэта не абудзіла ў мяне любошчы да казарменай муштры і мілітарызму.

Па сканчэньні ваеннай службы—праца ў якасьці праскага корэспондэнта агенцтва ТАС'а.

У 1926 і 1927 гадох дзьве падарожы ў Савецкі Саюз, другая як дэлегат на конфэрэнцыю рэволюцыйных пісьменьнікаў.

І вось усё.

Калі хочаце, можна яшчэ адзначыць, што шасьцімесячнае ўвязьненьне (злачынства проці закону аб абароне рэспублікі) дапамагло вырасьці з шпаркасьцю скорага цягніка маім дзяржаўна-грамадзкім дабрачыннасьцям.

---

Аб маёй „літаратурнай кар'еры“ нечага многа размаўляць.

Першыя крокі і спробы былі зроблены ў 1919 годзе: афорызмы, вершы і іншыя „ліманады“.

Затым адрыўкі романаў. Кожны ня менш двох старонак. Кожны разьлічаны ня менш як на тры томы.

Далей дррамы.

У 1921 годзе вялікае выдавецтва—чорт ведае чаму, бярэ маю п'есу. Жудасная гісторыя аб адной цётцы, якая нешта мае з сваім пляменьнікам, з-за чаго матку амаль што не забіваюць і г. д. Твор ставіцца ў Гарцбурзе на курортнай сцэне. Астматычны скандал нямецка-

нацыянальных настаўнікаў-скандалістых ратуе п'есу тым, што іншая публіка (з чыстага духу супярэчнасьці і таму, што за білеты ўжо заплочана) схіляецца да рэдкіх воплескаў.

У 1923 годзе зьяўляецца першая кніга: том рэволюцыйных вершаў пад загалоўкам: „Б'е барабан".

У 1925—утопічная драма „Краіна на другім беразе", якая атрымлівае прэмію праскага пролеткульта.

У 1925 далей—антолёгія мною перакладзенай чэскай соцыялістычнай поэзіі „Чэскія песьні".

У 1926—том апавяданьняў „Уцёкі ў Францыю".

У 1927—„Праводнік", „Перасядка ў XXI стагодзьдзе" (эпізоды з падарожжа па Савецкім Саюзе).

Увосень 1928 годзе зьявіцца новы том апавяданьняў з жыцьця чэскіх рабочых (тры апавяданьні: „Скок цераз горб", „Амаль што парадны конь" і „Не з-за белых лебядзей").

Большы роман з жыцьця карпата-рускіх пролетараў і дробных сялян яшчэ ў працы.

Ура... Канец.

## СЬЦЕЖКІ-ДАРОЖКІ [1])

*(Адносна роману М. Зарэцкага)*

**Л. Вароніч**

„Сьцежкі-дарожкі“ — гэта назва роману. Напісаў яго малады беларускі пісьменьнік Міхась Зарэцкі. Роман Зарэцкага — выдатнае зьявішча ў БССР. Думаецца, што гэты твор, які малюе этапы рэволюцыйных падзей на Беларусі, можа быць цікавым і для нашых рэспублік Саюзу.

Сюжэт „Сьцежак-Дарожак“ такі:

Пачатак роману застае яго галоўнага героя Васіля Лясьніцкага ў Магілеве (Дняпроўскім). Час дзеі пачатак 1917 г., пачатак Лютаўскае рэволюцыі. Першыя старонкі малююць уражаньне ад гэтае гістарычнае падзеі ў гэтым горадзе. Становішча тут ускладнялася тым, што гэта было месца царскае стаўкі і штабу. Васіль Лясьніцкі—вучань апошняе клясы гімназіі. Таварышамі ў яго па школе зьяўляюцца Халіма і Славін, жыве ён на кватэры Андрэя, які жыве разам з сястрою Нінаю.

Сялянскі сын Лясьніцкі спачатку ня ведае, што яму рабіць у часе рэволюцыйных падзей. Ён часова пападае пад уплыў свайго таварышабунтара па натуры—Халіма і прымае ўдзел у організацыі антысэмітаўпагромшчыкаў. Далей з другім сваім сябром Славіным яму давялося чуць гутарку старога рэволюцыянэра Матруніна, які толькі што вярнуўся з ссылкі.

Прапаведніцкія размовы народніка Матруніна пра волю, пра барацьбу за лепшую долю народу накіроўваюць Лясьніцкага ўжо больш на шлях успрыйманьня рэволюцыі. Першая частка роману канчаецца ад'ездам Лясьніцкага ў вёску.

Дзеючыя асобы другое часткі „Сьцежак-Дарожак“, якая адбываецца ўжо ў роднай вёсцы Лясьніцкага на Магілеўшчыне, такія: Макрына—старое каханьне Лясьніцкага,—сялянка, муж якое на вайне, Раіса—дачка мясцовага пана, якая сваёю прыгожасьцю робіць вялікае ўражаньне, і далей сялянская маса. З гэтае масы аўтар асобна вылучае бунтара-бальшавіка Рыгора. Сяляне думаюць аб тым, як-бы вярнуць сенажаць, што адсудзіў мясцовы пан. Лясьніцкі даводзіць незаконнасьць

---

[1]) Рэдакцыя друкуе артыкул Л. Вароніча як першы водгук на вялікі роман Міхася Зарэцкага, зьмешчаны ў украінскай часопісі „Чырвоны Шлях“ за 1928 г.

іхнага жаданьня і, такім чынам, між ім і большаю часткаю вёскі, а таксама з групаю Рыгора, пачаліся дрэнныя адносіны.

У вёску прыяжджае Андрэй, у якога Лясьніцкі кватаруе ў Магілеве. Ён, член комуністычнае (тады бальшавіцкае) партыі, праводзіць сярод сялянства агітацыю супроць пана. Ён раіць сялянам сілком захапіць сенажаці і скасіць іх. Агітацыя яго і Рыгора мае посьпехі і, як Лясьніцкі ні стараецца перашкодзіць, сяляне сенажаць скошваюць. А тут Караль—дзядзька Раісы, які кіруе маёнткам яе бацькі, прыводзіць салдат часовага ўраду, і сена звозяць не сяляне, а ён. Затое праз некалькі дзён гараць панскія адрыны. Падпаліў іх Андрэй. Сялянства адмовілася тушыць пажар. Адзін Лясьніцкі намагаўся дапамагчы пану, а галоўнае Раісе, якую цяпер моцна кахае, забываючы Макрыну.

Частка чацьвертая. Лясьніцкі ў горадзе Магілеве. Тут якраз адбываюцца падзеі карнілаўшчыны. Магілеў у руках карнілаўцаў. Яны арыштоўваюць за бальшавіцкую пропаганду Халіма, які крута зьмяніў сваю позыцыю. Андрэй, які вярнуўся разам з Лясьніцкім у Магілеў, праводзіць у горадзе рэволюцыйную работу. Лясьніцкі са Славіным заходзіць да Матруніна. Але гурток старога народніка ўжо раскідаўся, і сам ён ужо спалохаўся буры рэволюцыі, стаў за Карнілава, за прыдушэньне рэволюцыі. З часам разбурэньня карнілаўшчыны Халіма з-пад арышту вызваляюць. Ён жыве з сястрою Андрэя—Нінаю, таксама бальшавічкаю, якую безнадзейна кахае Славін. Малююцца падзеі Кастрычнікавае рэволюцыі, а галоўнае, водгук іх у г. Магілеве. Лясьніцкі некалькі разоў сустракаецца з паненкаю Раісаю, якая кокетліва грае на яго пачуцьці. Яна просіць Лясьніцкага праехаць з ёю ў вёску. Там арыштаваны яе дзядзька Караль. Лясьніцкі ідзе ў воласьць, клапоціцца там за яго, але ён ужо выпушчаны, і, калі Лясьніцкі варочаецца ў вёску, дык дазнаецца, што ўся сям'я пана ўжо выехала з маёнтку.

Частка пятая рoману застае Лясьніцкага на шляху ў горад. Не даходзячы Магілеву, у лесе ён сустракаецца з бальшавікамі-партызанамі, якія яго прыхільна прымаюць. У горадзе пануюць палякі (польскія легіёны Доўбар-Мусьніцкага) і часткі дзікае каўкаскае дывізіі—карнілаўцаў.

З адным паўстанцам і з адным „басяком“ з калішняе кампаніі пагромшчыкаў Лясьніцкі ідзе ў Магілеў. Але ім не шанцуе. Іх арыштоўвае тэхнорук з „дзікае дывізіі“. У партызан знойдзены сакрэтныя паперы да Магілеўскае комуністычнае організацыі. Лясьніцкаму пагражае расстрэл, але яго выпадкова ратуе Халіма, які ўжо цяпер пакінуў рэволюцыйную работу і, у шуканьні бунту і барацьбы, паступіў у дзікую дывізію. Ніна, з якою сустракаецца Лясьніцкі, цяжарна ад Халімы, але, адданая рэволюцыйнай ідэі, яна ненавідзіць Халіма.

Раіса спачатку Лясьніцкага ня прымае, а на другі дзень сустракае яго халодна: зьмяніліся часы, горад пад уладаю палякаў, і сялянскі сын Лясьніцкі ўжо ёй непатрэбны.

Лясьніцкі ідзе з Халімам у вёску да сваякоў апошняга (Халіму ўжо абрыдала і дзікая дывізія, і ён пакідае яе). У вёсцы яны распачынаюць сутычку з польскімі легіянэрамі, якія прыехалі браць контрыбуцыю з сялян.

Лясьніцкага, Халіма і ўсю моладзь вёскі арыштоўваюць. Катуюць хлопцаў, а Лясьніцкага і Халіма, прымаючы за правадыроў, агітатараў выступленьня, адпраўляюць у горад. Але жаўнеры, якія вядуць іх, у лесе адпушчаюць на волю. Канчаецца гэта частка спатканьнем у лесе з адным селянінам, які ўцёк з вёскі і хаваецца тут, які расказвае Халіму і Лясьніцкаму пра зьдзекі паноў і палякаў над сялянствам Беларусі.

Лясьніцкі ў Магілеве. Андрэй уцягвае яго ў бальшавіцкую арганізацыю і ён вядзе рэволюцыйную падпольную работу.

У горадзе пануюць польскія легіёны, а пасьля окупацыйная нямецкая армія. У Магілеў прыяжджае з занятае савецкім войскам часткі Беларусі Славін. Ён кахае Ніну.

Лясьніцкі мае даручэньне наладзіць пераправу бальшавіцкае групы цераз Дняпро. Гэты пераход павінен адбыцца каля яго вёскі. Тут ён сустракаецца з Макрынаю, якая цяпер зьяўляецца членам бальшавіцкае організацыі і жонкаю Андрэя. Лясьніцкага тут арыштоўваюць немцы. Зноў яму пагражае сьмерць, але за партыйныя сродкі яго выкупляе (хабар) у немцаў Ніна. Ніна паехала ў горад вызваляць таварышоў, заставіўшы дома хворае дзіця. Дзіця памірае. Караль, сваяк Раісы, кіруе контр-рэволюцыйным атрадам у савецкай частцы Беларусі. Нарэшце бальшавікі займаюць Магілеў. З імі і Халіма, які, між іншым, незадаволен тым, што канчаецца бунт і пачынаецца час сталае ўлады.

Апошняя частка, эпілёг, у якім Лясьніцкі працуе політкомам. Ён перакінуты ўвосень 1920 г. на ўсход Беларусі для барацьбы з бандытызмам. У Магілеве Лясьніцкі сустракае Андрэя, Макрыну і Ніну, якія вядуць тут рэволюцыйную работу, Матруніна, які цяпер ручною работаю зарабляе кусок хлеба і ўсё таксама ненавідзіць рэволюцыю, Раісу, якая працуе ў канцэлярыі выканкому, Лясьніцкі яе ўжо не кахае. Яго батальён разьбіў атрад „атамана Воліча“ (Караля). Атаман зьнік, застаўся яго памоцнік палоны Хомка Жгут—Халіма, яго расстрэльваюць. Перад сьмерцю з ім мае спатканьне Ніна і кажа пра сваю ненавісьць да яго, як да ворага рэволюцыйнае справы. Караль і Раіса атручваюцца. З ліста Раісы да бацькі відаць, што яна кахала Караля і захварэла ад яго на пранцы. Лясьніцкі на некалькі дзён выяжджае ў адпачынак у сваю вёску і адтуль піша ліст да „таварыша Ніны“, прапануючы ёй сумесна жыць з ім.

Такі ў кароткіх словах, у схэматычнай протокольнай форме, зьмест роману М. Зарэцкага.

Бяз сумненьня, тэма, якую характарызуе гэты твор, вельмі цікавая. Звычайнаму грамадзяніну саюзу нашых Савецкіх рэспублік мала вядома

Беларусь. Мала вядомы і падзеі ў ёй у часе рэволюцыі. Гэтыя падзеі ў сувязі з сваяродным становішчам Беларусі набылі некаторыя асаблівасьці. Праз Беларусь праходзіў Заходні фронт царскае арміі, тут была (у Магілеве) царская стаўка і галоўны штаб; тут бачым далей карнілаўшчыну, а яшчэ далей дзейнасьць польскіх легіёнаў Доўбар-Мусьніцкага. Беларусь окупуюць немцы. Мясцовага ўраду—Беларускае Рады (нацыяналістычнай) немцы не прызнаюць. Яшчэ далей, Беларусь заліваюць кроўю рэгулярныя часьці войска Пілсудзкага. Апавяданьне ў форме мастацкага твору пра гэтыя падзеі трэба вельмі вітаць.

У агульнай характарыстыцы „Сьцежак-дарожак" скажам перш за ўсё аб галоўных пэрсонажах твору. Агулам іх можна падзяліць на дзьве групы—постаці нэгатыўныя і позытыўныя. Да першых адносяцца паны. Караль і Раіса, Халіма, Матрунін і мажліва Славін. Караль—каханак Раісы (аб гэтым чытач дазнаецца ў эпілёзе) і пазьней камандзір паўстанцкага супроць-савецкага атраду—бледна ахарактарызаваны ў романе. Ён у аўтара амаль нідзе не сустракаецца з Лясьніцкім. Гаворыцца аб ім рэдка. Часьцей чуем імя яго з пераказаў іншых асоб твору. Наўрад ці можна прызнаць яго за характэрны тып.

Ён мажлівы ў першай частцы роману, калі Караль змагаецца з сялянамі за дабро маёнтку. Але ён не характэрны, як паўстанцкі правадыр. Такія людзі бывалі і на Украіне. Яны ў большасьці паходзілі з кулацкіх слаёў вёскі. Каралям ня было патрэбы пэрсанальна змагацца з чырвонымі, а калі і ваявалі, дык ужо ў складзе белых армій. Вось ужо больш праўдзівы ў ролі кіраўніка банд дэклясаваны інтэлігент Халіма.

Усё гэта, а галоўнае пранцы, якімі надарыў яго аўтар, робяць фігуру Караля ня тыповай і ня вельмі праўдзівай. Гэта хутчэй нейкі мэлёдраматычны злачынец, фатальны (для Раісы).

Значна больш ярка падана дачка пана, Раіса. Тут аўтар падаў ня штамп, а жывы, цікавы вобраз, які адначасна не пазбаўлен пэўных тыповых рысак свае клясы. Шкада толькі, што Зарэцкі ў разьвязку ўнёс хваробу на пранцы. Адносіны Раісы да Лясьніцкага зразумелы і бяз гэтага, заўсёды паміж імі мела стаць рознае клясавае паходжаньне. Шляхетныя панначкі тыпу Раісы і не маглі пайсьці далей кокецтва, выкарыстоўваньня сялянскага сына з вёскі, якая калісьці, у часе паншчыны, ім належала.

Цікавы тып Халіма. Тып бунтара, анархістага, які вядзе барацьбу ў імя самое барацьбы. Аўтар прымушае быць Халіма і сярод пагромшчыкаў, і сярод бальшавікоў. Ён змагаецца з часовым урадам, ён і ў карнілаўскай дывізіі, ён і ў шэрагах чырвоных партызан, і ў бандыцкіх шайках. Халіму ўсё роўна з кім і за што змагацца. Абы было толькі само змаганьне. Вось як у апошняй частцы ўзяты ў плен Халіма размаўляе з Лясьніцкім: „Чырвоная армія,—кажа ён,—нясе парадак, можа

і новы, мне ўсё роўна. Дзе парадак—там гнёт, ціск, там жыцьцё пад мерку, вагу, там няма волі, няма натуры... Кожны парадак—гэта падман, на які зьлятаюцца ўсе, хто баіцца жыцьця. Сьмерці трэба пужацца, а ня жыцьця. Вось я-б забіў цябе, каб было як, і выскачыў у гэта вакно,—я зрабіў-бы таму, што баюся сьмерці, а вы мяне заб'цё, таму, што баіцеся жыцьця... Вам парадак трэба, а ня жыцьцё"... і далей. „Ваш парадак ня вечны... Ён сустрэне сваю супярэчнасьць. Гэта супярэчнасьць яго—бунт. Бунт вызваляе і ачышчае... Бунт—уваскрасеньне жывога чалавека, зварот да волі і жыцьця... Ён (Халіма) распаліўся і закрычаў: Я—асоба! Я—чалавек! Разумееш? Які вам клопат да мяне! Хто даў вам права ціснуць мяне ў цесны мундзір, калі я ў сарочцы хачу... голы хачу хадзіць.. га? Хто даў вам права лезьці ў маё жыцьцё, дыктаваць законы і правілы. У мяне ёсьць закон—мая воля... Я вольным хачу быць... Я чалавек і хачу быць чалавекам... чаго вам трэба, чаго вы лезеце?.."

Гэта цікавыя словы анархіста-інтэлігента, чалавека, адарванага ад пэўнае клясы. Асалода рэволюцыі ў Халіма ў руйнаваньні і толькі ў руйнаваньні. Пра яго праўдзіва кажа аўтар словамі аднае з героінь роману—Ніны: на яго ня можна пакласьціся—ня наш ён. Халім прыняў толькі адзін бок рэволюцыі—руйнаваньне і паставіў яго як самамэту. А гэты яго бунт, абнаўленьне—глупства гэта, няўдалася спроба апраўдаць сваё буянства... Мажліва, што вельмі ўжо бяспрынцыпныя прыгоды Халіма не характэрны ў нашай рэволюцыі. Але настроі яго, і гэта галоўнае, характэрны для пэўнае (хоць і невялікае) групы інтэлігенцыі ў рэволюцыі.

Стары народнік Матрунін таксама нэгатыўны пэрсонаж „Сьцежак-дарожак". А ўласна кажучы, галоўны герой роману Лясьніцкі і аўтар роману Зарэцкі неаднакава глядзяць на Матруніна.

Вось як кажа аўтар пра Матруніна спачатку роману: Матрунін быў стары рэволюцыянэр-народнік. Значную частку жыцьця ён правёў па турмах, у ссылцы. Мусіць там ён і выхаваў у сабе надзвычайна добры ідэал свабоды і шчасьця, які мог узрасьці толькі на грунце пэрсональнага гора, зьлітага з горам мільёнаў і вечнаю народнаю бядою. Гэта ідэал, якім цалкам было прасякнута ўсё жыцьцё Матруніна, яго ажыўляў, рабіў маладым, даваў яму здольнасьць мець уплыў на другіх і асабліва на моладзь.

Так кажа пра Матруніна сам аўтар.

Але ў дні рэволюцыі Матрунін зьмяніўся і вельмі хутка. Вось што Матрунін кажа Лясьніцкаму і Славіну ў дні карнілаўскага паўстаньня.

„Добра было ў першыя дні рэволюцыі! Успамінаеш гэта, як якое сьвята, як нейкую вялікую ўрачыстасьць! Якое было дружнае адзінства, якое палкае захапленьне! Усе заадно, усе гатовы ісьці рука ў руку да аднэй мэты. Наперадзе—сьветлыя прасторы—воля, шчасьце, роўнасьць... Спаскудзілі ўсё, усё ў гразь затапталі. Вялікае імя „соцыялісты" зрабілі

нечым задрыпаным, як хвартух у бруднае гандляркі з рынку. Цяпер—кожны соцыялісты“ і інш., і інш. У канцы роману Матрунін выглядае ў вачох аўтара яшчэ інакшым. Вось як сустракаецца з ім Лясьніцкі: „раптам пабачыў Лясьніцкі гострыя хітравата-ільсьлівыя, старэчыя вусны, якія нэрвова ўздрыгвалі...

Матрунін—жывы, сапраўдны Матрунін—углядаецца на яго зусім сур'ёзна і сьмела, ківаў галавою і казаў з нейкаю нотаю пакорнасьці: „Не пазналі, таварыш. Выбачайце, гэта я і ёсьць так, так... Матрунін, таварыш Матрунін... А вы сталі такім паважным, га...“ Гэта да некаторай ступені праўдзіва. Ці мала Матруніных спужалася рэволюцыі. Але, з другога боку, псыхолёгічна не апраўдана надта-ж раньняя зьмена настрою Матруніна, якога спачатку так добра ахарактарызаваў аўтар. Думаецца яшчэ, што псыхолёгічна не апраўдана надта ўжо ўпартая ненавісьць яго да рэволюцыі. Многія з Матруніных у першыя часы варожа аднесьліся да Кастрычніка, але з часам прышлі да нашых вывадаў, рэволюцыю прынялі. Магілеўскі Матрунін Зарэцкага ў гэтых адносінах тып не характэрны. І, нарэшце, мусіць, яшчэ Славіна аўтар лічыць тыпам негатыўным. Ён не паважае яго. Слабавольны інтэлігент Славін хаваецца ад жыцьця. Ён вынайшоў уласную філёзофскую тэорыю—гэта, што на ўсё трэба глядзець, так, здалёку, з пэўнага пункту. Адтуль і ўсё жыцьцё прыгожае. Нічога няма дрэннага ў жыцьці—усё добра. Справа толькі ў адлегласьці. Кожнае зьявішча ў жыцьці можа быць прыгожым, калі толькі знайсьці для яго патрэбную адлегласьць. Лясьніцкі вельмі ўдала зразумеў практычную каштоўнасьць гэтае тэорыі для Славіна. Гэта адлегласьць—аддаленьне ад жыцьця, ад рэволюцыі. „Стравус ты палахлівы, казаў ён. Думаеш, схаваўся, уцёк? Галаву толькі схаваў, ды і то ня ўсю, ха-ха...“ І хоць Славін у сваю чаргу нібы-та разьбівае Лясьніцкага, кажучы: „Я ня стравус, не хаваюся... Я хачу, каб было прыгожа і добра... вось сам ты казаў,—што пужаешся гэтай завірухі, што сяляне паляць, руйнуюць маёнткі, што дзікасьць, зьвярынства страшэннае. А можа гэта прыгожа? Можа гэта не зьвярынства, а сьвяты, справядлівы гнеў? Вось ты ад вёскі ўцёк, табе гэта здалося агідным, страшным, ты супроць гэтага паўстаў... А можа ты паўстаў супроць хараства?... Гледзячы—як адкуль паглядзець“. Славін яшчэ ў ролі нэйтральнага наглядача, ня больш. Рэволюцыя ведала і Славіных, гэты тып нярэдкі, і падае яго Зарэцкі цікава і ярка, хоць значнае ролі ў романе Славін ня грае.

Далей ўжо ідуць позытыўныя. На першым месцы, бясспрэчна, стаіць Андрэй, брат Ніны. Гэта ўзор цьвёрдага бальшавіка, організатара рэволюцыі з яе першых часоў. Гэтаму тыпу ў літаратуры, як вядома, не шанцавала. Раз за разам з яго рабілі пэўны штамп, пазбаўлены яркае індывідуальнасьці.

Да некаторае ступені такі і Андрэй Зарэцкага, Андрэй, які ня ведае памылак, ня мае хвілін хістаньня, заўсёды ў драбніцах не памы-

ляецца... Але ў Зарэцкага тып Андрэя паданы ў пэўным абкружэньні, у сьвятле рэволюцыйных падзей і змаганьняў, удзельнікам якіх зьяўляецца ён. І тут гэты тып мае сваё псыхолёгічнае апраўданьне.

Некалькімі рыскамі абкрэсьлен цікавы тып бунтара-селяніна Рыгора. Рыгоры мелі пэўнае сваё месца ў ходзе рэволюцыі на вёсцы, яны мелі тут вялікую ролю. Рыгор „Сьцежак-дарожак"—характэрны дэмобілізаваны салдат, пазьней бальшавік часоў пачатку рэволюцыі.

Макрына. Гэты тып няўдаўся аўтару. Чытачу няясны тыя прычыны, якія прывялі яе да рэволюцыйнае работы. Ці тут каханьне Лясьніцкага, ці Андрэя, ці яшчэ што-небудзь і чаму іменна пакахаў яе цьвёрды бальшавік Андрэй. Адказаў у „Сьцежках-дарожках" мы не знаходзім.

Ніна. Дзяўчына, а пасьля сталая жанчына з шэрымі вачыма. Ціхая, спакойная, але цьвёрдая. І тып Ніны невыстарчальна ахарактарызаваны ў романе. Мала ахарактарызаваныя ў пачатку роману яе душэўныя якасьці, сіла пачуцьця і сіла абавязку, толькі пасьля яскрава праяўляюцца. У даволі значнай частцы твору Ніна зьяўляецца сапраўднай героіняй рэволюцыі.

Старонкі, з апісаньнем таго, як яна вызваляе Лясьніцкага, сьмерць дзіцяці... адны з прыгажэйшых старонак роману.

І нарэшце галоўны герой роману—Лясьніцкі. Характарыстыка Лясьніцкага мае быць вельмі складанаю. Шлях, які праходзіць Лясьніцкі—ад ролі пагромшчыка, потым абаронцы панскага маёнтку і пасьля комуністага—шлях вельмі складаны. Рэволюцыйнае жыцьцё і дзейнасьць велі (і ведаюць) такіх тыпаў. Лясьніцкі—сялянскі сын, Лясьніцкі—інтэлігент.

Ён ня можа спачатку орыентавацца ў рэволюцыі, ён спачатку за парадак і законнасьць, за іх ён змагаецца з сялянамі роднае вёскі. Але вёска пайшла за бальшавікамі. Далей Лясьніцкі сутыкаецца з палякамі і немцамі. Клясавыя супярэчнасьці выяўляюцца выразна і для яго. І ён, нарэшце, ідзе ў компартыю.

Шлях гэты мажлівы. Але аўтар мусіў паказаць нам ня толькі розныя моманты на гэтым шляху Лясьніцкага, ён павінен быў вызначыць унутраную эволюцыю Лясьніцкага, эволюцыю яго поглядаў, пераконаньняў, думак. Паколькі гэтага амаль што няма, для чытача ня ясна, чаму так крута мяняе свой сьветагляд Лясьніцкі і невядома, ці добры, пасьлядоўчы вышаў з яго комуністы.

Ёсьць яшчэ чынныя асобы. Гэта немцы, палякі з легіёнаў Доўбар-Мусьніцкага, салдаты з дзікае дывізіі, партызаны контр-рэволюцыйныя і чырвоныя, сяляне з роднае вёскі Лясьніцкага. Як першыя, так і другія партызаны, а таксама сяляне, паданы ў романе цікава і ярка.

Хацелася-б толькі, каб у адабражэньне вёскі ўведзен быў мясцовы колёрыт. Дзея-ж адбываецца на Беларусі. Беларускі сялянскі тып мае свае асабістасьці. Ён настолькі адрозьніваецца ад украінскага селяніна,

наколькі украінскі не падобны на расійскага. Розная экономіка, розныя гістарычныя ўмовы надалі гэтаму тыпу асабістых рысак. У романе Зарэцкага іх няма. Тут сяляне выглядаюць „как таковые“,—вёску Лясьніцкага з Магілеўшчыны можна перанесьці на украінскую Кіеўшчыну, альбо ў расійскую Яраслаўшчыну і чытач напэўна гэтага не заўважыць.

Ёсьць яшчэ адна хіба. Думаецца, што гэтай хібай зьяўляецца: поўнае ігнараваньне нацыянальнага пытаньня. Гэтае пытаньне востра стаяла на Беларусі і ў першыя часы да Кастрычніка і ў першыя часы Кастрычніка. Вакол гэтага пытаньня змагаліся групы і партыі, змагаліся цэлыя клясы. Пэрсонажы Зарэцкага, якія дзейнічаюць у часе пастаноўкі гэтага пытаньня, гострае барацьбы за яго—яны гэтага пытаньня не заўважаюць. Ніколі яно не паўстае перад імі, ніколі не вядуць яны гутаркі аб ім... А ці-ж маглі de facto прайсьці паўз яго жывыя людзі і жывыя рэволюцыянэры, каб не заўважыць яго, ды так ці інакш не рэагаваць?

Прыходзіцца сумнявацца.

Гэта пра „Сьцежкі-дарожкі“.

Хто такі іх аўтар? Гэта Міхась Зарэцкі, які нарадзіўся ў 1901 г. ў Сеньнінскім павеце на Магілеўшчыне. Бацька яго вясковы дзяк з сялян, а маці—сялянка. Вучыўся Зарэцкі па духоўнай лініі,—у Аршанскім духоўным вучылішчы і Магілеўскай духоўнай сэмінарыі, якое ня скончыў. Ня скончыў, мусіць, затым, што пачалася рэволюцыя. З гэтага часу рэволюцыя кідае Зарэцкага на розныя работы, розныя профэсіі.

Ен то канторшчык, то настаўнік, то загадчык валасным аддзелам асьветы, то профработнік. З 1920 году Зарэцкі ў Чырвонай арміі. Цяпер ён член компартыі, член рэдакцыйнае колегіі лепшае Беларускае часопісі „Полымя“... Пісаць пачаў з 1921 году. З гэтага часу выпусьціў зборнік апавяданьняў: „Под сонцам“ 1925 г., аповесьць „Голы Зьвер“. Гэтыя зборнікі прыхільна сустрэла беларуская крытыка. З 1924 г. Зарэцкі член аб'яднаньня „Маладняк“, а з гэтага году перайшоў у аб'яднаньне „Полымя“. Гэта аб'яднаньне, якое гуртуецца наўкола аднаіменнае часопісі, мае ў сваім складзе некалькі быўшых членаў „Маладняка“ і якраз найбольш вядомых і самых таленавітых, як, вось, Зарэцкі, Чарот, Александровіч, а таксама групу старых беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў, якія гуртаваліся яшчэ ў царскія часы вакол першага органу беларускага адраджэньня „Нашай Нівы“—Янку Купалу, Якуба Коласа, Цішку Гартнага і інш. Гэтае аб'яднаньне мае ў сваім складзе наймацнейшыя сілы Беларусі. Сярод іх віднае месца займае Зарэцкі.

Якое месца „Сьцежак-дарожак“ у беларускай літаратуры? Для гэтага трэба пару слоў сказаць пра беларускую літаратуру. Толькі пасьля 1905 году можна казаць пра шырокае разьвіцьцё яе. Гэта не заўсёды былі апавяданьні з сялянскага быту. Па форме сваёй протокольна апісаўчыя з пэўным налётам народніцкага сантымэнталізму. Рэволюцыя 1917 г. прынесла сюды новыя сілы і новыя тэмы. На сучасныя

тэмы пачынае пісаць галоўны прозаік „нашаніўскае“ пары Тарас Гушча (Якуб Колас).

Вялікае палатно займае выдатны роман, першы на беларускай мове роман (яшчэ ня скончаны) „Сокі цаліны“ Цішкі Гартнага (Жылуновіча). „Сьцежкі-дарожкі“ — другі роман у беларускай літаратуры. Гэта, бязумоўна, крок наперад: яго тэматыка, жанр, стыль, пэрсонаж, усё гэта новае, усё гэта яшчэ ня мела месца ў папярэдняй бэлетрыстыцы. Твор Зарэцкага выводзіць яе на шыршае поле, закранае шыршыя проблемы. І як актуальны гэтыя проблемы, як глыбака цікава гэта эпоха на Беларусі, якую адбівае роман „Сьцежкі-дарожкі“, ёсьць выдатнае зьявішча ў беларускай літаратуры.

Ці-ж толькі ў беларускай літаратуры?

Думаецца, што зусім ня так. Апавяданьне пра рэволюцыю на Беларусі, пра тое, як з прыгнечанага „Западного Края“ стала роўнапраўная рэспубліка Саюзу—БССР, апавяданьне ў жывой і цікавай форме мае цікавасьць і для іншых рэспублік. Асабліва для Украіны, гістарычны процэс якое многа ў чым зьвязан з Беларусьсю.

І Украіна таксама ведала і немцаў, і палякаў, і партызаншчыну.

Трэба спадзявацца, што украінскія выдавецтвы, якія выпускаюць вялікі лік перакладное літаратуры—літаратуры не заўсёды ўдалае,—дадуць украінскаму чытачу беларускі роман Зарэцкага. Гэта будзе карысна для большага азнаямленьня са станам беларускае літаратуры і з адным з яе таленавітых прадстаўнікоў—Зарэцкім.

# КНІГАПІС

**А. Дудар. „Вежа“.** *Вершы. Выданьне БДВ. Менск—1928 г., ст. 59. Цана 65 кап.*

„Вежа“,—ужо пяты па ліку зборнік вершаў Алеся Дудара. У сэнсе тэматыкі, як і ў папярэдніх зборніках, у „Вежы“ лёгка заўважыць шчырую любоў аўтара да роднага краю. Нават пішучы пра далёкі Сібір ён і там шукае свайго роднага, беларускага, і ў першую чаргу сваіх зямлякоў-беларусоў:

„І працы будзе тут багата!..
Ну стане сіл, сасмагне кроў.
Беларусы збудуюць хаты
На цаліне другіх краёў...“ (ст. 49).

Нават суровы пэйзаж Сібіру і той наводзіць яго на думку аб родным, далёкім, пакінутым:

„І над тайгой, як стужка сталі,
Небеларуская зара.
Чамусьці моўкне сьмех і гоман:
Штось прымушае разважаць—
Страх перад будучыняй цёмнай
Ці па пакінутаму жаль...“ (ст. 48).

У той-жа час у зборніку зусім выразна выступае і клясавая лінія Алеся Дудара, яскрава выступае ўся нянавісьць яго да паноў, да абшарнікаў, да буржуазіі, якая яшчэ дагэтуль трымае ў сваіх кіпцюрох амаль не палову нашае бацькаўшчыны. І братом сваім, якія стогнуць у белапанскай няволі, прысьвечаны не адзін з радкоў „Вежы“.

Праўда, часам у старых яго вершах, перадрукованых у гэтым зборніку, сустракаюцца ня зусім здаровыя ноткі. Узяць хаця-ж бы для прыкладу верш „Полацак“ (ст. 7).

„Чужынцы з ніў тваіх зьбіралі зерне,
Каралі гневам і вайной.
Цябе рэспублікі, цябе імпэрыі
Таптаялі кованай пятой“.

Аднак трэба заўважыць, што Дудар дужа добра разумее і ў большасьці сваіх вершаў, прысьвечаных гэтай тэме, тлумачыць дужа ясна, што справа ў канцы канцоў ня ў „чужынцах“, а ў клясавай існасьці ўлады окупантаў, якія апаноўвалі наш край цалкам або паасобныя яго часткі ў той ці іншы пэрыяд нашае гісторыі. Замаўчваньне клясавае існасьці гэтых „чужынцаў“ носіць у Дудара выпадковы характар, сустракаецца толькі ў старых яго вершах, і ні ў якім разе не зьяўляецца характэрным для творчасьці гэтага пісьменьніка. Увесь зборнік „Вежа“—вельмі суцэльны і паказвае, што такія памылкі ў Дудара ўжо ў мінулым, як у мінулым у яго і тыя пэсымістычныя настроі, што так выразна выступалі ў некаторых вершах з папярэдняга яго зборніку „І залацісьцей і сталёвей“.

Большасьць вершаў, зьмешчаных Дударом у „Вежы“, прасякнуты бадзёрасьцю. Дудар верыць, што прыдуць сьветлыя „палаючыя“ дні:

„Яны прыдуць—ў вагнях і іскрах,
Іх строй—хто здолее разьбіць“ (ст. 25).

Дудар з надзеяй глядзіць на будучыню, бо ён ведае, што:

„На сьценах Варшаўскіх вакзалаў
Рахункі напішам мы стальлю штыхоў
Пад водблеск сусьветных пажараў“ (ст. 23).

Ён верыць, што:

„Я веру: прыгажэйшы ў сьвеце край
Для будучыны дарам не загіне—
І сотні Рафаэляў і Чэліні
У фарбах бацькаўшчыны нашай дагараць“
(ст. 12).

Таму-та так і рвецца Дудар у бой з ворагамі, таму-та не лякаюць яго ўдары ворагаў у сучаснасьці. Няхай

забіваюць яны зараз нашых прадстаўнікоў за мяжою, няхай зьдзекваюцца над нашымі братамі ў Заходняй Беларусі, няхай катуюць нашых тарарышоў у „дзікім“ Кітаі і ў „культурнай“ Амэрыцы:

„Хай лёрды сьмяюцца, хай цешыцца пан,
Хай подласьці сьвята сьвяткуюць..
Мы зможам таксама паноў прывітаць
Сумленнай савецкаю куляй“ (ст. 23).

Таго, для каго—

„Шлях рэволюцыі—
То молата удары
Для надыходзячых вякоў“ (ст. 31).

Той не баіцца ворагаў, той сьмела і спакойна чакае на астатні бой, які надыходзіць, той заўсёды гатоў як належыць сустрэць ворагаў свае клясы. Вось чаму Дудар, у існасьці—такі пачуцьцёвы, такі гарачы, так спакойна разважае.

„Няхай ідуць,
Няхай нажы гатуюць.
Наш шлях адзін:
Заводы і палі“ (ст. 19).

Вогуле вершы Дудара ў пераважнай сваёй большасьці эмоцыянальна моцна насычаныя, дынамічныя, ня толькі паводле формы, але і паводле зьместу, паводле агульнае свае пабудоўкі.

Характэрна, што нават вершы, пісаныя „по поводу“ розных офіцыйных урачыстасьцяй, юбілеяў ці сьвят—не схэматычныя, наадварот, нейкія надзвычайна цёплыя. Нават у іх Дудар умее даць запраўдныя перажываньні, паказаць жывых людзей з іх горам і з іх радасьцямі, нават у іх адчуваецца душа аўтара.

На вялікі жаль, эмоцыянальнасьць натуры Дудара мае і дрэнныя бакі: Ён захапляецца ня толькі тым, што бачыць навакол сябе, ён захопліваецца і літаратурай, якую ён чытае, яе тэматыкай, яе настроямі. Адгэтуль часам (хаця, трэба сказаць, рэдка) некаторыя яго вершы выходзяць ня зусім самастойнымі. Так, напр., у „Вежы“ на ст. 54 зьмешчана быліца „Песьня пра Сінь-Вэя“, паводле матываў і настрояў сваіх даволі блізкая да поэмы Асеева „Двадцать шесть“ (гл. Н. Асеев. Поэмы. ГИЗ, Москва—Ленинград, 1925 г., ст. 79—88). У вершы „На захадзе“ („Вежа“ ст. 16—18) адчуваецца моцны ўплыў Сяргея Есеніна,—менавіта яго поэмы „36“. Тут ужо гэтае падабенства выяўляецца не ў агульнай пабудове, не ў мотывах, а ў стылю і ў пабудове пасобных вобразаў і сказаў. Для ілюстрацыі даем урыўкі з вершу „На захадзе“ паралельна з адпаведнымі ўрыўкамі з Есеніна:

„Шмат на зямлі рубяжоў—
Колькі-ж у іх крыжоў...
Але, каб усе крыжы
Крыжам адным злажыць,—
Будзе цяжэй за ўсе
Той, што наш край нясе“.

„Много в России
троп.
Что ни тропа—
то гроб,
Что ни тропа—
то крест
До Енисейских
мест
Сто тысяч один
сугроб“

„Пяць непавінных, пяць
Усіх на крыжы не расьпяць“.

„Двадцать шесть их было
След их снегом не заместь“...[1])

Мы зусім ня хочам сказаць, што такія выпадкі ў творчасьці Дудара зьяўляюцца вынікам злоўмысьленьня з яго боку. Не, мы далёкія ад такой думкі. І мы лічым, што сіла таленту Дудара бязумоўна ў дастатковай ступені высокая, каб гарантаваць яго ад патрэбы каму-кольвек насьледаваць. Але акурат таму, што талент Дудара такі высокі, мы змушаны вымагаць ад яго больш крытычных адносін да свае творчасьці.

Ня гледзячы на ўсе свае хібы, ня гледзячы нават на тыя нежаданыя ўхілы, якія ў мінулым прасочваліся ў яго творчасьць, усё-ж такі чытач адчувае, што Дудар—наш пролетар-

---

[1]) Першая цытата з „36“, а другая з „Баллады о 26“—Есенін. І тую і другую даем з памяці.

скі поэта. Так яно і ёсьць. І гэта толькі накладае на Дудара абавязак змагацца з такімі ўхіламі, старанна зьнішчаць усе хібы ў сваёй творчасьці, каб даваць шматмільённай масе працоўных Беларусі той матэрыял да чытаньня, які ёй сапраўды патрэбны. А мы, чытачы, маем права ад яго вымагаць і вымагаем больш старанных адносін да сваіх абавязкаў. Дудар—наш пролетарскі пісьменьнік. Мы маем права і мы хочам ім ганарыцца.

**А. Падбярэзкі.**

### Тры монографіі па вывучэньню эрголёгіі Беларусі

1. **Н. И. Лебедева.** *Народный быт в верховьях Десны и в верховьях Оки.* Москва. 1927. Стар. 164.

2. **K. Moszyński.** Polesie wschodnie Materjały etnograficzne z wschodniej części b. powiatu Mozyrskiego oraz z powiatu Rzeczyckiego. Warszawa. 1928. Стар. 328+XIV.

3. **Cz. Pietkiewicz.** Polesie Rzeczyckie. Materjały etnograficzne, cz. I. Kultura materjalna. Стар. 318.

Замёршая было ў гады імпэрыялістычнай вайны і ў гады рэволюцый сур'ёзная літаратура этнографічнага вывучэньня Беларусі, у апошнія гады пачынае ізноў ажываць. У межах Савецкай Беларусі гэтае вывучэньне концэнтруецца навакол Інстытуту Беларускае Культуры, які ўжо выдаў некалькі этнографічных прац (Сержпутоўскага, Шлюбскага, Ягорава), але ўсе яны групуюцца каля беларускага фольклёру, захапляючы часткова грамадзкую культуру і зусім не датыкаюцца да эрголёгіі. А калі ў дадатках да гэтага ўспомнім, што пераважаючая большасьць папярэдніх дарэволюцыйных прац па вывучэньні Беларусі ў мовах беларускай, вялікарасійскай і польскай закранае зьявы і пытаньні амаль што выключна фольклёру і грамадзкай культуры, удзяляючы дужа мала ўвагі эрголёгіі, то зьяўленьне ў сьвет трох вышэйназваных монографій, прысьвечаных вывучэньню проблем матэрыяльнай культуры, трэба лічыць сваячасовым.

Праца Лебедзевай, выданая ў Маскве „Обществом любителей Естествознания, Антропологии и Этнографии", зьяўляецца вынікам этнографічных экспэдыцый аўтара 1925—1926 гадоў і закранае тую частку этнографічнай Беларусі, раёну вярхоўяў ракі Дзясны, якая мяжуе з вялікарускімі часткамі сучасных Бранскае і Калускае губэрняў. Раён вярхоўяў ракі Дзясны дужа цікавы для этнографічных вывучэньняў, бо ён аддзяляе беларускае насельніцтва ад вялікарускага і з гэтай прычыны вывучэньне эрголёгіі на рубяжы двух пляменьняў зьяўляецца вельмі важным, бо мяжа паміж беларусамі і вялікарусамі да гэтага часу праводзілася выключна на моўных даных і неадкладным заданьнем этнографіі зьяўляецца сьцьвердзіць гэтую мяжу данымі культуры матэрыяльнай.

Разгледзеўшы даныя папярэдняй літаратуры адносна гэтага раёну, Лебедзева піша:

„Итак, все имеющиеся материалы исторические, археологические и лингвистические — ставят ряд еще далеко не разрешенных вопросов: во-первых, является ли население изученной территории (г. зн. і вярхоўяў р. Акі) южно-великоруссами или белоруссами; во-вторых — где проходят границы между этими двумя группами восточных славян; в-третьих, есть ли возможность выделить отдельные группы населения, связанные с отдельными группами славянской колонизации, с отдельными политическими судьбами отдельных районов и с отдельными культурными влияниями".

Кніга Лебедзевай разглядае *выключна народную вопратку* і мэтоды яе вырабу; здабыты матэрыял падаецца ў об'ектыўным выкладаньні, да якога далучаюцца паралелі з эрголёгіі іншых народаў і даецца

шэраг тлумачэньняў у кірунку: 1) вылучэньне асноўнай формы разгледжанага віду, 2) вылучэньня як архаічных элемэнтаў, так і больш пазьнейшых, 3) выяўленьня межаў распаўсюджаньня тых ці іншых форм і зьявішч быту.

Зьмест гэтага досьледу наступны: 1) Кашуля і зьвязаныя з ёю працэсы прадзеньня, тканьня, пакрою і вышываньня. 2) „Панева“: матэрыял, тканьне, пакрой і тыпы. 3) „Сарафан“. 4) „Нагруднік“. 5) Хвартух: назовы, пакрой і тыпы. 6) Галоўныя ўбёры дзяўчыны і жанчыны і іх тыпы і роля ў абрадзе і быце. 7) Убраньне: нагруднае, сьпінное, вушное. 8) Абуткі. 9) Мужчынская рубаха, штаны і галаўныя ўбёры. 10) Мужчынскія і жаночыя паясы. 11) Верхняя вопратка — мужчынская і жаночая. 12) Раёны вопраткі, устаноўленыя самім насельніцтвам. 13) Вывады.

Ня гледзячы на тое, што ў некаторых пытаньнях Лебедзева стаіць не на правільным шляху, як, напр., разглядаючы час, калі гэтая тэрыторыя ўваходзіла ў склад „Літоўскае“ дзяржавы, яна шукае ў насельніцтва сьлядоў літоўскае культуры, тымчасам як час беларуска-літоўскай дзяржаўнасьці вядомы ўплывамі беларускімі, а ня літоўскімі, але гэтыя некаторыя іншыя дробныя недахопы не зьмяншаюць каштоўнасьці досьледу і значнасьці яго абагульненьняў.

І ня гледзячы на тое, што аўтар з прычыны недахопу некаторых даных адмаўляецца конкрэтна вызначыць межы паміж беларусамі, украінцамі і вялікарусамі раёну вярхоўяў рэк Дзясны і Акі (стар. 133), тыя шматлікія і дасканалыя даныя, якія знаходзім у досьледзе Лебедзевай, ня толькі сьцьвярджаюць на грунце вывучэньня вопраткі этнографічную мяжу паміж беларусамі і вялікарусамі, вызначаную моўнымі данымі, але нават вызначаюць шэраг уплываў беларускай народнай культуры далёка на ўсход — у глыб Калускае і Бранскае губэрняў.

Монографія Машынскага, выданая ў Варшаве касай імя Мяноўскага, прадметам свайго вывучэньня мае ўсходнюю частку былога Мазырскага павету Менскае губэрні. Матэрыял для кнігі зьбіраўся ў прадрэволюцыйныя гады і, як адзначана ў прадмове, кніга гэтая была ўжо напісана ў 1918 г.

Зьмест монографіі вельмі рознастайны, апрача эрголёгіі, яна аддае шмат месца грамадзкай культуры і фольклёру. Кніга дае вялікую колькасьць матэрыялу аб наступных пытаньнях этнографіі: У галіне *эрголёгіі* аўтар вывучае збор дзікіх расьлінных пладоў, усе віды паляваньня на розных зьвяроў і птушак, рыбацтва, пчалярства, зямляробства, гародніцтва, усё гэта разглядаецца з этнографічнага пункту погляду. Далей ідзе апісаньне ежы, вопраткі, будынкаў, спосабу перасоўнаньня па зямлі і вадзе, музычныя прылады і некаторыя саматужныя заняткі, як напр., бандарства, ганчарства, гарбарства і г. д. У галіне *грамадзкай культуры* аўтар дасьледуе розныя віды народных лекаў пры дапамозе траў і замоў, а таксама дае шэраг апісаньняў наступных звычаяў: веснавых, русальных, купальскіх, хрэсьбінскіх, вясельных, памінальных і жніўных. Вывучаючы *фольклёр*, аўтар разглядае праявы народнай рэлігійнасьці, вераньні, зьвязаныя з чалавекам, стыхіямі, зямлёй, расьлінамі, і ўсялякія забабоны. А таксама дае значную колькасьць тэкстаў беларускіх народных песень, з іх — найбольш вясельных.

Дадатным бокам кнігі зьяўляецца значная колькасьць параўнаўчага матэрыялу, узятага аўтарам з беларускай і польскай этнографічнай навукі. Да ліку недахопаў кнігі трэба, папершае, аднесьці ня зусім удалую клясыфікацыю матэрыялу, а таксама і парадак яго разьмеркаваньня ў кнізе. А падругое — буйным недахопам

зьяўляецца нявытрыманасьць фонэтычнага прынцыпу ў запісах народных тэкстаў, напр.:

Pryjechało dadwa braciejki z Podólja.
Da poprosili swoje siestricy sniedańja.—

Паводле гэтага запісу выходзіць, што ў Мазыршчыне адсутнічае аканьне, цьвёрдае р, падваеньне зычных і зьмякчэньне зычных. А такім чынам запісаны ўсе тэксты, якія падаюцца ў кнізе Машынскага.

Толькі што вышаўшая ў сьвет праца Петкевіча, выданая Кракаўскай Акадэміяй Навук, прысьвячаецца выключна пытаньням эрголёгіі. Аўтар ураджэнец б. Рэчыцкага павету Менскае губ., дзе ён на працягу шэрагу гадоў меў магчымасьць наглядаць народны быт.

Матэрыялы, якія падаюцца ў вышэйназванай монографіі Петкевіча, адбіваюць матэрыяльную культуру, якая бытавала ў кругабегу паміж 1863—1888 гадамі; час цікавы для этнографічных назіраньняў, бо этнографія лічыць гэты час пераломным у кірунку зьнішчэньня архаічных народных умоў быту.

Монографія разглядае наступныя зьявы эрголёгіі: збор дзікіх пладоў і іх прыгатаваньне; народнае паляўніцтва з апісаньнем патрэбных прылад; пчалярства; жывёлагадоўля; зямляробства з дэтальным разглядам усіх патрэбных прылад і зьвязаных з зямляробствам народных вераваньняў, прычым прыказкі і іншы слоўны матэрыял падаюцца ў беларускай мове; дэтальнае апісаньне прыгатаваньня ежы і піцьця; будаўніцтва, пачынаючы з першабытнага „кураня" і канчаючы гаспадарчымі пабудовамі і хатамі. Вялікі разьдзел кнігі аўтарам прысьвечан апісаньню апрацоўкі дрэва на розныя гаспадарчыя і гандлёвыя патрэбы; прычым вырабу кол і панарадаў прысьвечан асобны разьдзел. Далей, у монографіі знайшло месца апісаньне апрацоўкі валакна, скуры, воску; разгледжаны ўсе віды кавальства, і нарэшце кніга заканчваецца апісаньнем дарог і мастоў.

Значнасьць монографіі павялічваецца дзякуючы таму, што да яго тэксту даданы 291 малюнак, якія ў значнай меры дапамагаюць уясьненьню тэксту монографіі.

Ужо гэткая кароткая інформацыя аб зьмесьце вышаўшых у сьвет трох монографій паказвае, які каштоўны і вялікі матэрыял сабраны трыма названымі дасьледчыкамі, які для беларускай этнографічнай навукі набывае асаблівае значэньне, дзякуючы адсутнасьці ў яе літаратуры падобных падрабязных апісаньняў зьявішч матэрыяльнай культуры.

Некалькі толькі дзівіць у апошніх двух монографіях Машынскага і Петкевіча адсутнасьць назвы таго народу, які яны вывучалі. Пісаць аб этнографіі беларускага насельніцтва Мазырскага і Рэчыцкага паветаў на працягу 646 старонак і ні разу не ўпамянуць самых беларусоў—неяк надта дзіўна. Ужываць у сур'ёзных этнографічных працах адцягненыя ўяўленьні: „lud", „paleski lud" і г. д., замест конкрэтных нацыянальна-этнічных назваў, ня зусім удобна; тым больш, што працы гэтыя выданы ў польскай мове і польскімі організацыямі, у якіх умовах адсутнасьць паказаньняў на нацыянальную прыналежнасьць неяк мяжуе з польскай тэндэнцыйнасьцю, накіраванай да зьнішчэньня беларусаў, чаго, здавалася-б, не павінна было-б быць у грунтоўных навуковых працах.

**Ал. Шлюбскі.**

**Л. Родзевіч. Рэволюцыйным шляхам.** Адпавяданьні з жыцьця Заходняй Беларусі. *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск—1928 г. 94 ст.*

Невялічкі зборнічак апавяданьняў заходня-беларускага бэлетрыста Л. Родзевіча, выдадзены Бел. Дзяржаўным Выдавецтвам, мае сваім прадметам факты, што дзеюцца ў гвал-

тоўна адарванай часьці этнографічнай Беларусі.

Сапраўды жудасныя факты!

Вось адрывак з першага апавяданьня зборнічка:

„Паблядnелая і струхлелая вёска ад перадрогі і трывогі высыпала, як ёсьць, уся на вуліцу.

Першая з канца вёскі хата была бацькоў Агаты.

Паліцыянты так і пачалі папарадку. Давай патрашыць, ператрасаць усю дамову—справа прывычная...“

Сапраўды, справа прывычная...

Такія факты, як ператраска, шпегаўства, зьдзекі з беларускага селяніна, трапляюцца амаль у кожным апавяданьні зборніка.

Адпаведна гэтаму колёрытныя пэрсонажы апавяданьняў: пшэводнік, абшарнік, паліцыянт, шпег, ксёндз, провокатар. Фігуруе і поп, які прабраўся ў Заходнюю Беларусь з-пад бальшавікоў і разам з паліцыянтам наступае адзіным фронтам. Супроць іх стаіць шматлікая маса прыгнечанага матэрыяльна і духоўна беларускага сялянства,

Цяперашняе пакуль-што належыць нязначнай групцы эксплёататараўгвалтаўнікоў. „Ім добра... Яны поўныя ўладары ўсяго вакольнага, у іх руках пружына ўлады... Усё і ўсюды адчувае ўправу, неабмежаванае панаваньне ўладароў „крэсаў“... Паны і ксяндзы банкетуюць, бо праца „быдла“ дае ім магчымасьць жыць, ня думаючы аб працы, жыць, карыстаючыся з працы сялянскіх мазольных рук“.

Ня так жывецца сялянам у Заходняй Беларусі. „Селянін Заходняй Беларусі добра ведае, дзе знаходзіцца вастрог і паліцэйскі пастарунак і іх ніколі не забудзе... Кожны сумленны чалавек прагібеў год-два ў вастрозе. А калі не сядзеў ніколі, значыць, грош яму цана, значыць—гне ў панскі бок, вось такая ўмацавалася ў нас памоўка“.

Зразумела, што сялянства жыве надзеяй на вызваленьне ад такога прыціску. „Помста ходзіць па палёх Заходняй Беларусі“. Ня дзіва, што нават адно імя „Мухі“ можа навесьці страх на неспакойную душу пана, аб чым у гумарыстычнай форме апавядаецца ў адным расказе Л. Родзевіча.

За паўстаньнямі сялян, якія часам набываюць неорганізованую форму, адчуваецца глыбокі організоўны ўплыў з боку Компартыі Зах. Беларусі. Гэта партыя загнана ў падпольле, але яе аўторытэт сярод працоўных—вялікі. Яна імкнецца да таго, каб пачуцьцё сьляпой помсты замяніць сьвядомай ідэяй клясавай барацьбы. Ігэта ідэя ўсё больш і больш захапляе працоўныя масы Заходняй Беларусі. Пад яе ўплывам парабак маёнтку Паняверышча замест таго, каб помсьціць пану з сякерай у руках, кідае сякеру на лаву і аддае свой заработак на падтрыманьне забастоўкі ангельскіх вуглякопаў. І наогул у вёсках Заходняй Беларусі вялікую організоўную ролю йграюць асобы, якія адчулі на сабе ўплыў з боку Компартыі. Яны ідуць правільным і няўхільным „рэволюцыйным шляхам“.

Як адбітак бяспраўнага палажэньня працоўнай масы Заходняй Беларусі і паасобных момантаў рэволюцыйнага захапленьня, якое там насьпявае, кніжка апавяданьняў Л. Родзевіча бязумоўна знойдзе сабе чытача ў нашай Савецкай Беларусі.

**М. Кр.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

## Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў

* *Якуб Колас* зараз падрыхтаваў і ў хуткім часе здае ў друк Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву другі том збору сваіх твораў. У гэты том уваходзяць усе ранейшыя дробныя поэмы поэты, шмат якіх перапрацована нанова.

* *Цішка Гартны* назначаны СНК БССР старшынёю Галоўмастацтва пры Народным Камісарыяце Асьветы. У галоўмастацтва ўваходзяць: тэатры, літаратура, кіно, музычныя і мастацкія ўстановы, музыкальныя, мастацкія і драматычныя аб'яднаньні і г. д.

* *М. Чарот* піша апавяданьне пад назваю „Горад, сачы каго?“

* *А. Дудар* зараз рэдагуе літаратурны дадатак да „Савецкае Беларусі“.

* *А. Александровіч* пералажыў на беларускую мову поэму В. Полішчука „Адыгэйскі сьпявак“, поэма друкуецца ў „Полымі“.

* *Алесь Ляжневіч* зараз працуе над новым кіно-сцэнарыем пад назвай „На пераломе“ з эпохі грамадзянскай вайны на Беларусі.

* *Васіль Каваль* у хуткім часе здае Бел. Дзярж. Выдавецтву да друку новы зборнік апавяданьняў „Зарунела“.

* *М. Грамыка* назначаны інспэктарам Галоўмастацтва пры Народным Камісарыяце Асьветы.

* *Я. Дыла* ўведзены ў управу Белдзяржкіно ў якасьці кіраўніка мастацка-вытворчай часткай.

* *В. Маракоў* напісаў нізку вершаў „Мая поэма“.

* У Колегію Наркамасьветы БССР унесена тав. Жылуновічам ад аб'яднаньня пісьменьнікаў „Полымя“ прапанова аб наданьні годнасьці народнага артыстага організатару і кіраўніку вандроўнага тэатру Ул. Галубку. Колегія Наркамасьветы запрапанавала Галоўмастацтву прадставіць падрабязны даклад аб літаратурнай і тэатральнай дзейнасьці тав. Галубка.

* ЦБ „Маладняка“ ў канцы кастрычніка м-ца мае намер склікаць усебеларускі зьезд „Малядняка“ разам з сэкцыямі (польскай, яўрэйскай і літоўскай), дзе будуць вырашаны організацыйныя і літаратурна-творчыя пытаньні.

* Вядомы дзеяч нашаніўскай эпохі, Лявон Гвозд, які зараз знаходзіцца ва Ўладывастоку, прыслаў у „Маладняк“ сваю драму ў 4-х частках, абгрунтаваную на гістарычных матэрыялах. Гэты твор выдатны сваім социяльна-рэволюцыйным зьместам; пераданы ў ІБК.

## Тэатр, мастацтва, музыка

* Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр рыхтуе да дзесяцігодзьдзя беларускага тэатру пастаноўку музычнай драмы Міхася Чарота „На купальле“. У гэтай п'есе будуць выступаць дзьве запрошаныя сьпявачкі-солісткі — Александроўская (сопрано) і Васільчэнка з Ленінграду (мэцо-сопрано).

* Менскі мастак Т. Грубэ, які на 2 усебеларускай мастацкай выстаўцы

даў цікавую скульптуру з дрэва—„беларускі лірнік“, цяпер выканаў новую работу пад назвай „Праца“. Статуя выканана з вялікага пня асіны і выяўляе рабочага ў надзвычайна напружаным руху. Статуя знаходзіцца ў Беларускім Дзяржаўным Музэі.

* БДТ-2, які пераехаў у Гомель, зараз рыхтуе да пастаноўкі п'есу Ільлінскага „На прадвесьні“, якая малюе беларускую вёску з нядаўнага мінулага. Тэатральны сэзон БДТ-2 адчыніць пастаноўкай „Разлому“. У наступным сэзоне будуць ставіцца п'есы: „Калі сьпяваюць пеўні“, „Цар Максімільян“, „У мінулы час“, „Каля тэрасы“, „Астап“ і інш.

* Белдзяржкіно распачало здымку новай карціны „Атаман Аса“ па сцэнарыю А. Вольнага. Карціна адбівае героічную барацьбу беларускіх рабочых і сялян з белапалякамі. Натуральныя здымкі для карціны будуць зроблены ў Гомлі ў парку імя Луначарскага.

* 1-га жніўня трупа БДТ-1 пачала рыхтавацца да надыходзячага сэзону.

Рыхтуюцца да пастаноўкі дзьве новыя п'есы: адна—напісана заслужаным артыстым Міровічам (назва яшчэ невядома), другая—„Броняцягнік“, спэцыяльна пераапрацаваная для беларускага тэатру аўтарам Усеваладам Івановым.

Усевалад Іваноў спэцыяльна прыяжджаў у Беларусь для азнаямленьня з БДТ-1 і яго артыстымі. П'еса перараблялася ў такім напрамку, каб у ёй даць сцэны з жыцця польскай окупацыі ў Беларусі. Мяркуецца конструкцыйнае афармленьне пастаноўкі. Некаторыя сцэны, якія паказаны былі ў Маскве, у нас заменены іншымі. Напрыклад, замест званіцы ўводзіцца сцэна на чыгуначным насыпе.

У жніўні або ў верасьні аўтар „Броняцягніка“— Усевалад Іваноў прыяжджае ў Менск і прачытае п'есу артыстым.

Для пастаноўкі „Броняцягніка“ запрошаны вядомы рэжысэр Вінэр з маскоўскага тэатру МГСПС і мастак Воўкаў, якія афармлялі пастаноўку „Рельсы гудят“.

На дапамогу рэжысэру БДТ-1 т. Міровічу дырэкцыяй запрошан малады рэжысэр Сэмілянаў — вучань Таірава з Асоцыяцыі Маладых Мастакоў. Мастакі Воўкаў і Сэмілянаў пачнуць работу з 3-га жніўня, а рэжысэр Вінэр—з 15-га жніўня.

Дырэкцыяй адноўлен таксама і склад трупы. Вядуцца перамаўленьні з балетмайстрамі Кірхгэймам і Багданавым (былы Мар'інскі тэатр) аб рабоце іх у БДТ-1. Запрошана новая балетная пара вядомых балетмайстраў Сямёнавай і Брэві.

Акрамя вышэйпаказаных дзьвёх п'ес, у рэпэртуар тэатру ўваходзіць пастаноўка яшчэ наступных 5-ці новых п'ес: камэдыя з жыцьця беларускага студэнцтва „Віно бушуе“— Грамыкі, п'еса Дзяржавіна „Шлак“ (проблема каханьня і маладосьці), дзіцячая п'еса „Мушка-Зелянушка“, якая напісана артыстым БДТ-2 Міцкевічам, п'еса артыстага БДТ-1 Зорава—„Сьвітаньне“.

Атрымана згода ад Усевалада Іванова аб перапробцы спэцыяльна для БДТ-1 яго новай п'есы „Вернасьць“.

Мяркуецца таксама паставіць у бягучым тэатральным сэзоне клясычную п'есу Гальдоні „Бабскі сьмех“. Для пастаноўкі гэтай п'есы запрошан і даў сваю згоду вядомы рэжысэр і пэдагог Пятроўскі.

У сучасны момант дырэкцыя тэатру вядзе работы па перапробцы сцэны ў рухавую.

Сваю работу тэатр мае намер весьці, як і ў мінулым годзе, грунтуючыся на організаванага гледача. Кожнай організацыі будзе адведзен пэўны дзень у тыдні.

Праз тэатр мяркуецца прапусьціць усё працоўнае насельніцтва Менску. Акрамя таго, будзе дан рад

спэктакляў для вучнёўства і Чырвонай арміі.

Адкрыцьцё сэзону адбудзецца 1-га кастрычніка. Пойдзе новая п'еса Міровіча.

* Белдзяржкіно заканчвае работу па здымцы кіно-фільму „Пеўні пераклікаюцца". Здымкі гэтага кіно-фільму праводзяцца каля м. Бачэйкава, Віцебскай акругі.

У сучасны момант прыступлена да здымку кіно-фільму „Песьня вясны" па апавяданьні Якуба Коласа „На прасторах жыцьця". Ставіць гэту карціну Гардзін, асыстэнтам яго зьяўляецца Ляжневіч—аўтар кіносцэнарыя. Тав. Ляжневіч ужо выехаў у Мазыршчыну для правядзеньня падрыхтоўчых работ. Карціна гэта ставіцца пры ўдзеле артыстаў беларускіх дзяржаўных тэатраў.

* У Менску зараз разьвівае сваю працу новы беларускі тэатральны колектыў—„Наш Тэатр". Колектыў гэты з'організаваўся з драматычнага гуртка Менскіх бухгальтарскіх курсаў.

Для працы з гэтым колектывам упярод былі запрошаны артыстыя БДТ-2 Саньнікаў і Малчанаў, які паставіў п'есу—„Пашыліся ў дурні", т. Стэльмах распрацаваў для колектыву інсцэніроўку „Босыя на вогнішчы" М. Чарота, што складае фактычна колектыўную дэклямацыю з інсцэніроўкай у рухах пэўных месц. Апроч гэтага, Стэльмах паставіў п'есу „Гірд з воўчага логу" (латыскага пісьменьніка Райніса).

Зараз на працу ў колектыў запрошаны артыстыя БДТ-1 т. т. Ждановіч і Ільлінскі. Першаму даручана пастаноўка п'есы „На стыку" Цішкі Гартнага, другому—п'есы Гурскага „Будні". У бліжэйшыя часы колектыў рыхтуе п'есу Бірукова „Лекерт з гэто", у перакладзе Красінскага, „Шляхамі рознымі"—Стэльмаха—з жыцьця сучаснай беларускай вясковай моладзі, „Танная забава" Галіята—з жыцьця кітайскага пролетарыяту і інш.

* Гэтымі днямі на фабрыцы Белдзяржкіно ў Ленінградзе заканчваецца монтаж карціны „Пуцяводныя агні". Тэма фільму—апошнія рэволюцыйныя падзеі ў Кітаі. Для масавых сцэн была скарыстана кітайская колёнія ў Ленінградзе. Карціна будзе дэмонстравацца ў Менску ў пачатку восені.

* Белдзяржкіно запрасіла маладога рэжысэра-опэратара т. Мушкова для пастаноўкі культурфільму на тэму—„Колектывізацыя сельскай гаспадаркі". Здымкі гэтага фільму распачнуцца ў бліжэйшым часе.

* Белдзяржкіно ў хуткім часе рэорганізоўвае трафарэтную кіно-хроніку і будзе выпускаць „Кіно-часопісь", у якой будуць ахоплены ўсе галіны савецкага жыцьця і будаўніцтва. У кіно-часопісі будуць аддзелы прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, культуры, крытыкі і шэраг іншых.

* З. Азгур кончыў лепкаю бюст Цішкі Гартнага. Ім-жа вылеплены бюсты Якуба Коласа і Янкі Купалы, якія ўстановяцца ў нішах пярэдняе стараны тэатру.

* Два гады таму назад па ініцыятыве Інбелкульту ў г. Менску быў організован „Студыйны беларускі хор". Організацыяй памянёнага хору Інбелкульт меў на ўвазе ідэю адбіць быт нашага беларускага сялянства ў мастацкім выкананьні студ. хорам нацыянальных, рэволюцыйных і бытавых песень.

З часам рэпэртуар песень папаўняўся новымі, бо хору пачалі памагаць нашы беларускія композытары—Аладаў, Шнытман, Анцаў і інш., якія пісалі песьні, бяручы сюжэт з тых-жа беларускіх напеваў.

Пасьля першага году працы студыйны хор рызыкнуў падрыхтаваць концэрт, прысьвечаны сьвяткаваньню „Гадавіны Бэтговэна", і, па тых рэцэнзіях і водгуках, якія зьявіліся ў друку,

„9 сімфонія“ прайшла з вялікім посьпехам, ня гледзячы на нязвычайна цяжкую композыцыю і на кароткі тэрмін падрыхтоўкі. Гэтым концэртным выступленьнем „Студыйны хор“, так сказаць, „перайшоў рубікон“. Пачалі ўзмоцнена рыхтавацца да пастаноўкі опэры „Русалка“. Выступленьні-ж хору на зьездах яшчэ больш умацавалі яго популярнасьць сярод мас г. Менску. Шэраг дасканалых концэртаў у клюбах паказаў, што хор дасканала справіўся з ускладзенымі на яго Інбелкультам і ГПА задачамі, што і было адзначана Наркамасьветы, які камандыраваў студыйны хор у Маскву (у лістападзе 1927 г.) для ўдзелу на „Мастацкай выстаўцы народнасьцяй СССР“. У Маскве студыйны хор прабыў каля 2 тыдняў і за гэты пэрыод даў цэлы шэраг концэртаў на заводах і фабрыках Масквы. Атрыманыя водгукі і граматы на імя СНК Беларусі і Наркамасьветы ад імя Маскоўскае Акадэміі Мастацкіх Навук, а таксама атэстаты, яскрава падкрэсьліваюць дасягненьні нацыянальнае культуры Беларусі, адбітай у мастацкім выкананьні нац. песьняў студыйным хорам.

За два гады працы Капэля дала 134 концэрты, з якіх—47 концэртаў платных і 94 дармовых.

### Хроніка друку

* Аршанская, Полацкая, Бабруйская філіі „Маладняка“ падрыхтавалі да друку новыя альманахі сваёй творчасьці.

* З ліпня г. г. Цэнтральным Праўленьнем саюзу сельгасрабочых Беларусі выдаецца два разы ў месяц масавая батрацкая газэта „Беларускі Батрак“. Першы нумар гэтай газэты вышаў у канцы ліпня 1928 г.

* Вышаў з друку 8 нумар часопісі „Маладняк“.

* У хуткім часе канчаюцца друкаваньнем „Навуковыя запіскі“ Гуманітарнага Аддзелу Інбелкульту. Запіскі зьяўляюцца навуковаю цэннасьцю ня толькі для Савецкага Саюзу, але і для замежных вучоных.

* Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам перавыдаюцца кніжкі: Тарас Гушча—„На рубяжы“, апавяданьні, трэцяе выданьне, Янка Купала—„Безназоўнае“—вершы, другое выданьне.

* БДВ мае ўстанавіць у будынку Бел. Дз. Тэатру і ў будынках кінематографаў вітрынкі з беларускаю літаратураю. Там-жа будзе адбывацца і продаж літаратуры.

* Маладнякоўцы здалі Белдзяржвыдавецтву да друку новыя зборнікі сваёй творчасьці: Хведаровіч—„Настрої“ (вершы); М. Нікановіч—Апавяданьні; А. Звонак—„Буры ў граніце“ (вершы).

* Друкуецца Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам пераклад з украінскае на беларускую мову апавяданьняў Арк. Любчэнка „Ціхі хутар“, „Пастух“ і „№ 2002“.

* Малады поэта А. Салагуб здаў Бел. Дзярж. Выдавецтву для друку зборнік сваёй творчасьці пад назвай „На хвалях змаганьня“.

* Канчаецца друкавацца і ў хуткім часе выходзіць з друку „Молодая Белоруссия“, нарыс сучаснай беларускай літаратуры М. Клейнборта.

* БДВ мае выдаваць зборнікамі творы маладых пролетарскіх пісьменьнікаў Нямеччыны, Чэха-Славакіі, Латвіі і інш. Ужо падрыхтаваны да друку зборнікі апавяданьняў Гергарта Поля і Ф. Вайскопфа. Да зборнікаў будуць даданы портрэты аўтараў і іх аўтобіографіі.

* БДВ здало ў друк роман вядомага нямецкага пролетарскага пісьменьніка Іоганэса Бехэра „Адзіная справядлівая вайна“.

* У Ленінградзкім выдавецтве „Прыбой“ выпушчаны зборнік апавяданьняў Цішкі Гартнага на расійскай мове „Щепки на волнах“ у перакладзе доцэнта славянскай літа-

ратуры Ленінградзкага унівэрсытэту К. Пушкарэвіча. Вокладку да зборніка намаляваў вядомы мастак-акадэмік Замірайла. Перакладчыкам дадаены да кніжкі кароткі біографічны нарыс Ц. Гартнага.

* Беларускае таварыства культурнае сувязі з-замежжам" падрыхтоўвае да друку другі зборнік „Беларуская культура" на нямецкай мове. У зборнік увойдуць артыкулы пра Інбелкульт, Унівэрсытэт, Белдзяркіно, Сельска-Гаспадарчую Акадэмію, Комвуз і інш.

* Інбелкульт выдаў паасобнай кніжкай адбітак з археолёгічных матэрыялаў ІБК аб археолёгічных досьледах старажытнага Заслаўя пад загалоўкам: „Заслаўе на Меншчыне". Зроблены нарыс старога Заслаўя на падставе раскопак і інш. матэрыялаў сьведчыць аб тым, што Заслаўе зьяўляецца самым старажытным паселішчам на Беларусі з чыста славянскімі адзнакамі.

Кніжка багата ілюстравана здымкамі знойдзеных пры раскопках рэчаў. Складзена яна т. т. Ляўданскім, Даўгялам і Сьмірновым.

**Хроніка з навуковага жыцьця**

* Усе аддзелы ІБК сёлета організавалі цэлы шэраг экспэдыцый па вывучэньні розных галін гаспадаркі і культуры БССР.

Гуманітарны аддзел організаваў наступныя экспэдыцыі: дыялекталёгічную па Бабруйскай, Магілеўскай і Полацкай акругах у складзе профэсароў Дурнаво і Бузука, экспэдыцыі па вывучэньні народнай музыкі, этнографічную—на Мазыршчыну, і па вывучэньні народнага мастацтва.

Археолёгічная камісія наладзіла экспэдыцыю па Менскай акрузе, па Сярэднім Сожы і Дняпры, у в. Бэрдыж Чачэрскага раёну, Гомельскай акругі, па верхнім Дняпры і па Заходняй Дзьвіне.

Аддзел прыроды і гаспадаркі наладзіў экспэдыцыі геолёгічнага Інстытуту на Асінабуд, Мсьціслаў, Парадзіна, р. Васьцёр, Крычаўскі раён і інш.

Географічная экспэдыцыя накіравалася ў Воршу, Дуброўну, Асінабуд, Высачаны, Бабінавічы, Лёзну, Багушэўскае, Сянно, Талочын.

Апроч гэтага, будуць працаваць экспэдыцыі: зоолёгічная ў Мазырскай і Гомельскай акругах, па вывучэньні прамысловасьці, курортнай справы—у Полаччыне і Віцебшчыне, антрополёгічная—у раёне ракі Ухлесьці, і будуць зроблены 40 геомагнэсавых здымкаў у Магілеўскай акрузе.

Яўрэйскі аддзел організаваў экспэдыцыю ў Мазырскую акругу і ў Дуброўну.

* ЦБ Краязнаўства атрымала ад аднаго краязнаўца Нэвельскага павету т. Шавельскага цэлы шэраг матэрыялаў, што насельніцтва Нэвельскага павету зьяўляецца беларускім: т. Шавельскі абгрунтоўвае свае довады гістарычнымі, мовазнаўчымі, этнографічнымі, фольклёрнымі спасылкамі. Ня гледзячы на русіфікатарскі ўплыў, насельніцтва і да гэтага часу захавала асаблівасьць беларусоў.

* Настаўнік Асьвейскага раёну, Полацкай акругі, т. Гняздоўскі зьяўляецца сапраўдным мастаком па назіраньні і зьбіраньні колекцый розных кузурак. Т. Гняздоўскі да гэтага часу сабраў 20 скрынак розных жукоў, матылькоў і інш. кузурак Асьвейскага раёну.

ІБК устанаўлівае сувязь з т. Гняздоўскім, каб апошні працаваў па заданьні зоолёгічнага музэю ІБК.

* Тры экспэдыцыі археолёгічнае камісіі Інбелькульту закончылі досьледы ў ваколіцах Менску.

У Койданаве зроблены досьледы замку. Пры раскопках высьветлена, што гэты замак быў пабудаваны на вельмі старажытным гарадзішчы. У ніжэйшых пластох яго захаваліся

рэштки даславянскай „літоўскай" культуры першых стагодзьдзяў нашай эры, а вышэй ляжаць рэштки культуры славянскай—X—XIII стагодзьдзяў. Будоўля замку адносіцца да XVI—XVII стагодзьдзя. Раскопаныя там-жа курганы далі знаходкі ўжо выключна славянскай культуры. Знойдзены рэштки вядра, пражкі і г. д.

Зроблены досьледы двух гарадзішчаў каля мяст. Смалявічы, з якіх адно цікавае па сваёй пабудове: мае навакол сябе 3 валы і роў. Гарадзішчы па сваёй культуры адносяцца выключна да даславянскай, так зв. літоўскай эпохі.

Такія-ж досьледы былі зроблены каля вёсак Слабада, Ірылаўшчына па Койданаўскім шляху, дзе раскідана шмат курганных груп. У экспэдыцыях прымалі ўдзел археолёгі Ляўданскі, Дубінскі і Каваленя.

* Пад кіраўніцтвам горнага аддзелу ВСНГ БССР у сучасны момант працуюць 2 дасьледчыя партыі з сцэцыялістаў. Першая партыя, так званая керамічная, вядзе працу ў 3-х раёнах: паўночная група вядзе досьледы ў Віцебскай, Аршанскай і Полацкай акругах; паўднёвая група—у Гомельшчыне ў вадазборах рэк Дняпра і Сожу; цэнтральная група—у Менскім, Барысаўскім і Койданаўскім раёнах Меншчыны і ў Магілеўскай акрузе да г. Прапойску.

Другая дасьледчая партыя працягвае работу па досьледу фосфорытных залежаў у Мсьціслаўскім і Крычаўскім раёнах, а таксама ў некаторых раёнах прымежных з БССР. Гэта партыя правяла вялікую працу ў Мсьціслаўскім раёне і ў выніках пацьвярджаюцца значныя запасы фосфорытнай руды ў гэтым раёне.

* БДМ набыў у м. Узьлянах вельмі рэдкі ківот (скрынка, дзе трымаюць дзесяньцёры). Ківот гэты зроблен у XVIII стагодзьдзі і аздоблен цікавай ажурнай разьбою па дрэву.

Гэты ківот упамінаецца ў нямецкай і польскай літаратуры.

* Гэтымі днямі навуковая экспэдыцыя ІБК на чале з т. т. Смолічам і Азбукіным накіроўваецца ў Аршаншчыну дзеля вывучэньня географічных уласьцівасьцяй Асінастрою. Экспэдыцыя мае таксама праводзіць сваю працу і ў Дубровенскім раёне.

* У палове жніўня ЦБ Краязнаўства ладзіць экспэдыцыю ў Дубровенскі раён, Аршанскае акругі, дзеля вывучэньня прыроды, экономікі, быту, географіі і этнографіі раёну. У экспэдыцыі прымаюць удзел: т. Касьпяровіч (ЦБ Краязнаўства), проф. Люгэрсгаузэн (С.-Г. Акадэмія) і т. Грынблят (Этнограф, Ленінград).

* Інбелкульт зараз праводзіць вывучэньне асаблівасьцяй польскай мовы на Беларусі.

Праца гэта праводзіцца краязнаўчымі гурткамі на мясцох.

### Рознае

* Нар. Кам. Асьветы БССР узьняў пытаньне аб перадачы Полацкім Акрвыканкомам Белдзяржмузэю, згодна пастановы Саўнаркому БССР, помніка старасьветчыны (Ефрасіньеўскага крыжу). Зараз пытаньне аб перадачы гэтага помніка вырашана канчаткова, і ў хуткім часе ён будзе атрыман Белдзяржмузэем. Цікавы гэты помнік, як рэдкі ўзор старажытнага мастацтва на Беларусі; зроблен крыж у 1161 г.

* Беларуская Дзярж. Бібліотэка паслала Кёнігсбэрскай Дзяржаўнай Бібліотэцы партыю беларускіх выданьняў. Бібліотэка асабліва прад'явіла запатрабаваньні на беларускую мастацкую літаратуру беларускіх клясыкаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і Цішкі Гартнага.

* Наркамасьветы БССР распрацаваў проект палажэньня аб Галоўмастацтве. У хуткім часе гэты проект будзе пераданы ў Саўнарком БССР на канчатковае зацьверджаньне.

* Інбелкульт робіць захады да вывучэньня эканомічнага становішча і культурнага абслугоўваньня беларускіх паселішчаў у Сібіры і на Далёкім Усходзе.

* На днях Белдзяржбібліотэка адправіла значную партыю беларускіх выданьняў для Латвійскай дзяржаўнай бібліотэкі. Пры гэтай бібліотэцы организуецца пры дапамозе Белдзяржбібліотэкі спэцыяльны беларускі аддзел для абслугоўваньня беларускага насельніцтва Рыгі.

* У другой палове жніўня ў Осло (Норвэгія) адбыўся сусьветны конгрэс гісторыкаў. Ад БССР на гэтым конгрэсе былі—проф. Ігнатоўскі і проф. Пічэта.

* Беларускі Дзяржаўны Музэй набыў у аднэй Слуцкай царкве два старэнькіх куфры, знадворку размаляваныя ўзорамі, якія ўжываліся пры ткацтве слуцкіх паясоў. Гэта сьведчыць аб тым, што ў Беларусі ўжо з даўніх часоў існавала свая ўласная мастацкая орнамэнтура.

* Багаты орнамэнт беларускіх народных паясоў да гэтага часу ня ўжываўся ў прыкладным мастацтве.

Ідучы насустрач патрэбам жыцьця, СНК БССР вясною сёлетняга году перавӗў БДМ 500 руб. на мастацкія зарысоўкі беларускіх народных паясоў. У сувязі з гэтым быў заключан дагавор з мастаком Тодарам Гальмаж'янам на выкананьне альбому зарысовак беларускіх паясоў. Альбом будзе складацца з 35 табліц, на якіх будзе зьмешчана каля 120 паясоў.

Пробная работа т. Гальмаж'яна сьведчыць аб тым, што альбом будзе складаць вялікую каштоўнасьць як у галіне мастацтва, так і ў практычным значэньні.

* СНК БССР зацьвердзіў пастанову Менскага Гарсавету аб перадачы Інбелкульту старога памяшканьня Дому Селяніна.

Па меркаваньню ІБК у гэта памяшканьне будзе зьмешчан увесь аддзел прыроды і гаспадаркі.

**Замежныя краіны аб Беларусі**

* Хутка выходзіць з друку ў выданьні SAT брошура аб Заходняй Беларусі і Б. Р.-С. Грамадзе на мове эспэранто. Тыраж 1.000 экз. Брошура будзе разаслана па культурных установах усіх краін сьвету.

* У украінскай часопісі „Чырвоны Шлях" № 7 (64) надрукаваны верш В. Сасюры „Білорусь", верш М. Багдановіча „Варажба", у перакладзе М. Драй-Хмары, верш А. Александровіча „Заусёды казалі нам" у перакладзе В. Сасюры.

Зьмешчаны ў гэтым-жа нумары вялікія артыкулы аб Беларусі: Аркадзь Любчэнка—„Сінявокая сястра Украіны", проф. К. Харлампові̇ч—„Становішча украінцаў і беларусаў у Польшчы", М. Касьпяровіч—„Беларускае краязнаўства".

* Вядомы украінскі поэта А. Панів зьмясьціў у часопісі „Плуг" № 5—6 „Із циклю Білорусь".

* Латыская газета „Vârds", орган партыі незалежных, у апошнія часы шмат піша аб беларусах і беларускім культурна-эканомічным жыцьці ў Латвіі і па-замежамі.

## ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Композытар Ул. Ёрыш закончыў опэру „Разбойнік Кармелюк“. Опэра складае 4 дзеі і адну карціну.

* Камісія гістарычнага слоўніка пры ВУАН падрыхтавала да друку першы том украінскага гістарычнага слоўніка, разьмерам 40 аркушоў, пад рэдакцыяй проф. Тымчэнка.

* У Парыжы вышаў першы нумар двухтыднёвай газэты L'Ukraine Nouvelle („Новая Украіна“). Газэта высьвятляе культурнае, экономічнае жыцьцё.

* У Швэцыі выданы зборнік апавяданьняў Міхайлы Кацюбінскага швэдзкаю моваю.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны склала ўмову з П. Тычынам на выданьне поўнага збору твораў. Рыхтуецца і ў гэтым годзе выйдзе з друку першы том.

* Наркамасьветы УССР аб'вясьціў конкурс на проект помніка украінскаму поэту Тарасу Шэўчэнка.

* Украінскі композытар Б. Яноўскі напісаў новую украінскую опэру „Самійло Кішка“.

* ВУНАС—Усеукраінская Навуковая Асоцыяцыя Сходазнаўства існуе на Украіне, як шырокая разгорнутая організацыя. Асоцыяцыя мае аддзелы політыка-экономічны і гістарычна-этнолёгічны.

Першы падзяляецца на сэкцыі савецкага сходу і сходу замежнага.

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, Я. Купала, А. Баліцкі, І. Васілевіч, М. Чарот.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ

